# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 4

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 4

1926

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК



# „КОЛЕКТЫЎ“ ПАНА ТАРБЕЦКАГА

**Тарас Гушча**

## I

„Дзядзька Тарас шукаў люлькі. Злосьці набраўся шукаючы, а люлькі ніяк знайсьці ня можа. Тады сказаў яму пляменьнік: „Дзядзька, плюнь!“ Дзядзька Тарас плюнуў, і з зубоў выпала люлька“.
*(З расказаў нябожчыка „Дзынгалы“).*

Некалькі слоў наконта загалоўку майго расказу.

У нас паны не ў пашане. Але калі хто назаве пана Тарбецкага грамадзянінам, то Тарбецкі крывіцца, а скажаш „таварыш Тарбецкі“,—адварочваецца і гаварыць з табою ня стане. А назавеш „пан Тарбецкі“, тады вочы яго пазіраюць лагодна, і ён робіцца другім чалавекам. Адгэтуль і выходзіць, што яго трэба называць—„пан Тарбецкі“, як гэта і зрабіў я. Чалавек ён стары, а старасьць вымагае пашаны.

Сам дзень падняў заслону, бо падышоў той час, калі зямля, па абавязку свае профэсіі, павінна прыступаць да пастановак на сцэне жыцьця. Першым, хто выступіў у гэты дзень на сцэне, быў сам пан Тарбецкі. Ён толькі што адамкнуў калодзеж і стаяў у двух кроках ад яго, залажыўшы рукі ў рукавы чырвонага кажуха. У губох дымілася досыць паважная, запраўленая ў тоўсты муштук цыгара, уласная продукцыя пана Тарбецкага з яго-ж уласнай плянтацыі. Непадалёку ад калодзежа на сьцяне аднаго з трох дамоў пана Тарбецкага было напісана мелам і ўласнаю-ж рукою: „Не заплаціўшым грошы браць воду забараняецца“. Гэты напіс сьведчыў, з аднаго боку, што справа беларусізацыі пасунулася наперад, а з другога—што гаспадарскае вока пана Тарбецкага не драмала. У варотах мільгатнулася жаночая постаць з вёдрамі. Згледзеўшы пана Тарбецкага, гэтая постаць спынілася на момант, а потым павярнула назад, не заходзячы ў двор.

— Заплаціш грошы, тады будзеш браць воду,—строга сказаў пан Тарбецкі і не парушыўся з месца. Стаяў і разважаў. Разважаў пан Тарбецкі аб тым, чаму цяпер людзі такія заразы. У сваім двары многа такога дабра, а тут з чужых двароў яшчэ суне нос, не заплаціўшы за воду. І вочы пана Тарбецкага самі падняліся на вокны кватэры, дзе жыве вось гэты самы санітар, каб яго боль узяў. Што зрабіў ён з кватэры? Хлеў, сьвінушнік! Куры ў пакоі трымае, кватэры не апальвае. У кахлянай печы бульбу сьвіньні парыць. І грошай ня толькі за воду—за кватэру ня пла-

ціць! І горш усяго тое, што нічым не дапячэш гаду. Гэта-ж каб даўней— ці-ж трымаў-бы такога сьвінтуха?

З кватэры санітара вочы пана Тарбецкага зірнулі на вокны другога кватаранта, суседа санітара, электрафікатара. Гэта ён упусьціў сюды заваду гэтага, грубіна-сьвінтуха. А цяпер цацкайся з ім. Да і сам электрафікатар плаціць, колькі сам хоча. Профсаюзны, каб ён запаветрыўся.

У гэты час, калі пан Тарбецкі пазіраў на кватэры санітара і электрафікатара, з кватэры процілежнага дому, з самай галубятні,—называецца яна салькаю,—стаяла швачка Алена Мастоўская, жонка камуністага. Сам ён невядома дзе, а яна тут адна і за кватэру ўжо тры месяцы не плаціла.

— Стаіць, слуп стары, каб яму вочы калом пасталі!—гаворыць у сальцы швачка. Ёй якраз трэба вады, а гэты „слуп стары“ ад калодзежа не адходзіць.

— Давай я табе прынясу!—сама выклікаецца Мальвіна Грында.

Мальвіна Грында—адна з выдатнейшых асоб у колектыве пана Тарбецкага. Злыя языкі распусьцілі аб ёй пагалоску, што яна мае дваістую прыроду: часамі яна—баба, часамі—мужчына. Касьцістая, шырокая фігура, размашыстыя рухі, рэзкая хада, грамавы голас, вялізарныя боты,—усім гэтым яна зразу зварачае на сябе ўвагу і выклікае да сябе пэўны страх і паслушанства.

Алена Мастоўская, пачуўшы грубы голас, раптам паварочваецца ў бок Грынды, лагодна ўсьміхнуўшыся.

— А, калі ласка! Я ўжо потым аднашу вам.

— Добра, добра—адносіш!.. Дзе тваё вядро?

Грында парывіста бярэ вядро і з грукам спускаецца па ўсходах, выходзіць на двор, ідзе да калодзежа, вітае пана Тарбецкага скупым „дзеньдобры!“, вешае на калодзеж вядро і тарахціць помпаю. Пампуе так энэргічна, што пан Тарбецкі падаецца назад.

Занёсшы адно вядро, Грында ідзе з другім, з трэцім.

Пан Тарбецкі ківае галавою, дагадваючыся, што Грында цягае ваду камусь другому. Некаторы час стаіць, паглядае, потым кашляе і ўрэшце адважваецца.

— Куды гэта столькі вады цягаеш?

Грында стаўляе на зямлю вядро, становіцца процій пана Тарбецкага. Пан Тарбецкі зноў падаецца назад, азіраецца, ці чуюць людзі.

— На ўвесь горад нашу!—злосна адказвае Грында. Злосьць яе расьце, маршчыністы твар нейк зразу мяняецца, вочы бліскаюць маланкамі.

— Дамоў я ня маю, няма каму на мяне рабіць, буржуі праклятыя! Абмываю вас! Ня ты-ж, дармаед, будзеш за мяне бялізну мыць... Куды ваду цягаеш! А, каб з цябе кішкі павыцягалі! Ты—што-ж? З чэрава свайго вады ў зямлю напусьціў? Ты калодзеж рабіў, каб табе ў грудзях рабіла? Хто на цябе робіць? На чые грошы калодзеж паставіў? Вады яму шкода!..

Зьбянтэжаны і зьняважаны пан Тарбецкі задам накіроўваецца на поле адступленьня, палахліва аглядаецца, пазірае на кватэры свайго колектыву і, калі апынецца па-за межамі беспасярэдняй небясьпекі, гаворыць сам сабе:

— Тфу, паскудзтва! Во, зараза! А бадай табе язык адсох! І адкуль яны такія бяруцца? Вось, халера!

Бясслаўнае адступленьне пана Тарбецкага ад калодзежа наддае Грындзе яшчэ больш пыху і прыводзіць яе ў поўны стан натхненнай лаянкі. Сячэ словамі, як шрапнэльлю, і голас яе разьлягаецца па ўсёй аколіцы, заглушаючы брэх сабачай акадэміі каля трэцяе часьці. А ў той час, калі пан Тарбецкі гатовы ўжо зызнуць у дом свае кватэры, яна высока падымае свой здаравецкі кулак і грозна трасе ім у паветры.

— Я табе выведу гэтую моду стаяць каля калодзежа, буржуй ты, кравапівец, храпавідла сьвіное!

Колектыў пана Тарбецкага заварушыўся. З усіх вуглоў выпоўзваюць члены гэтага колектыву, бо ўсім цікава даведацца прычыны заядлага літаньня і паслухаць мастацкую лаянку. Другія, больш далікатныя, прынікаюць да акон сваіх кватэр або чуць-чуць прыадчыняюць дзьверы. Вясёлы сьмех блукае на іх тварах.

На ганак выходзіць электрафікатар, чмыша перш у вадну, потым у другую ноздру, праводзіць рукою па вусох і слухае. Жонка санітара зьяўляецца на другім ганку. Сьвінабой з сваёю жонкаю, наваліўшы сьвінінаю ручную цялежку, гатовыя зрушыць у дарогу на рынак, запыняюцца, і хоць яны і не спачуваюць такой лаянцы, але азнаёміцца з яе зьместам вельмі цікава. Усе стаяць моўчкі і толькі тады, калі Грында з вядром хаваецца за вугал дома, пераглядаюцца з усьмешкамі і перакідваюцца кароткімі ўвагамі.

— Вот дык баба! — голасам адабрэньня аклікаецца санітарыха.

— А ўсячаскі няпрыятна папасьці пад такі язык, — заўважае электрафікатар.

З-за вугла паказваецца Марыся Шпала, аглядае ўсіх і заліваецца вясёлым, высокім сьмехам.

— Хэ-хэ-хэ-хэ! але-ж і дала рэзолюцыі!

## II

Насяленьне двара пана Тарбецкага складаецца з дзьвюх часьцей: з „працоўнага элеметну“ і „элемэнту непрацоўнага“, або, іначай — з людзей працы і з дармаедаў. Да дармаедаў адносіўся сам пан Тарбецкі, прачка Грында, прачка Варакса і яе напалавіну замужняя дачка Анэта, Марыся Шпала, сьвінабой Вадап‘ян і поп Лагода, а рэшта: кравец Самабыль, швачка Самабыліха, шавец Сякач, доцэнт, асыстэнт, электрафікатар, проста тэхнік, хлебапёк і яшчэ іншыя людзі з двара пана Тарбецкага належалі да людзей працы.

Праўда, людзкое жыцьцё і чалавечую істоту вельмі цяжка ўлажыць у пэўны рэестар, адгэтуль і выходзяць часамі няўхільныя шурпатасьці і недарэчнасьці. Вось хоць-бы і сьвінабой Вадап'ян, які значыцца ў сьпіску непрацоўных. На праўду-ж ён працуе найболей з усіх членаў двара пана Тарбецкага. Апошнім кладзецца спаць і першым падымаецца. У той час, калі сам ён увіхаецца каля дзялянак сала, яго жонка запраўляе сьвіныя кішкі рознаю сьвіною-ж дрэньню на патрэбу чалавека і ў першую-ж чаргу на патрэбу колектыву, у склад якога ўваходзіць і сьвінабоева сям'я. У кірмашныя дні, наваліўшы ручную цялежку сьвінінаю, сьвінабой і яго жонка цягнуць яе на рынак, чуць толькі разднее. Завёзшы сьвініну, ён варочаецца назад, пакінуўшы там жонку, а па дарозе прыхваціць пару бітых ці жывых япрукоў, парадкуе іх, калі яны ўжо старгаваны і куплены бітымі. Калі-ж япрукі жывыя, то іх трэба яшчэ ўзважыць, таргаваць і разоў дваццаць пляснуць далоньню аб далонь прадаўца. У гэты час двор пана Тарбецкага дрыжыць ад сьвінога піску, асабліва тады, калі япрука зьнімаюць з воза і кладуць на вагу. Доцэнт, пад вокнамі якога адбываецца гэта сьвіная справа, сярдзіта зрываецца з пасьцелі і нэрвова бегае па сваіх пакоях, праклінаючы Вадап'яна і яго профэсію. А часамі ня ўтрывае, падбяжыць да акна і праз фортку крыкне сьвінабою:

— Ці ў цябе іншага месца няма, што ты пад маімі вокнамі сьвіней душыш? Ты мне спаць не даеш, работу рабіць перашкаджаеш!

Вадап'ян часамі і не расчуе гэтых слоў, а пачуе, то моцна пакрыўдзіцца.

— Паны ўсё, трасца вашай галаве, і хваробы ў вас панскія. Нябось, папрацуй, як трэба, то будзеш спаць, хоць шыла ўваткні.

Доцэнту нічога болей не застаецца, як толькі сказаць „кулак" і на гэтым заспакоіцца. У Вадап'яна ёсьць пэўная жыцьцёвая задача: яму трэба перш за ўсё вырвацца з двара пана Тарбецкага, бо гэты двор паганы, сварлівы і няма дзе тут разгарнуцца. А пану Тарбецкаму плаці кожны месяц дваццаць пяць рублёў за кватэру, а згрызот тых не абабрацца. І Вадап'ян працуе, як чорны вол, каб барджджэй прыблізіць тую часіну, калі ён паставіць свой дом на гэтым вось пляцы, што стыкаецца з пляцам пана Тарбецкага. Вадап'ян гандлюе, зьбірае капейку. Ад зоркага вока колектыву пана Тарбецкага нічога ня можа схавацца. А хтось нават распусьціў такую чутку, што сальнік купляе залатыя дзесяткі і складае іх—дзе? Трудна дадумацца: пад сучкаю Знайдаю, што прывязана каля хлява, дзе стаіць сьвінабоева карова.

Ну, хіба-ж гэта жыцьцё? А тут яшчэ—сусед-асыстэнт! Жыць з ім на адным двары—трэба мець цярпеньне. Бяда з гэтым чалавекам ды годзі!

Як тая хвоя—зімою і летам усё адным цьветам, так і гэты асыстэнт: зімою і летам ходзіць усё ў аднэй і той-жа шапцы. Цяпер такіх шапак ужо ня знойдзеш. Хіба можа яшчэ ў якога старога лясьнічага захавалася

такая. Шырокі верх, як добры скавароднік, машэставы аколыш, сапраўдны колер якога вызначыць вельмі цяжка, бо шапка зьявілася на сьвет яшчэ тады, калі склікалася першая Дзяржаўная Дума. Але самае важнае, што было ў гэтай шапцы, дык гэта—засалены плех у тым месцы верху, дзе ён стыкаецца з круглым выступам галавы асыстэнта. Плех быў ёмкі, бліскучы, а па яго краёх ішлі вельмі замыславатыя лініі-стрэлы, як тыя праменьні ад сонца. Гэты плех ня проста плех, а мядаль, падараваная галавою шапцы за яе верную службу.

Як чалавек адукаваны, асыстэнт ня можа спакойна глядзець на тую някультурнасьць і неахайнасьць, што б'е ў вочы на кожным кроку. Ён прабаваў зварачаць увагу гэтых някультурных людзей на іх някультурнасьць. Але, апрача няпрыемнасьці, нічога ня выходзіла. Найбольшы-ж вораг яго ў гэтым сэнсе—грамадзянін Вадап'ян. З таго часу, як пасяліўся тут сьвінабой, адразу нейк горш стала жыць. Куды ні павернешся, усюды так ці іначай натыкаешся на гэтыя Вадап'янавы карэньні. То дзеці блутаюцца пад нагамі, то гэты праразьлівы, траскучы голас сьвінабоевай цешчы ці жонкі рэжа вушы, то самі шнуруюць каля яго кватэры, ходзячы ў хлеў да каровы. Каля хлява пачала расьці куча гною і ўсякага бруду, і на гэты бруд прыходзіцца пазіраць разоў шэсьцьдзесят на дзень. Некалькі разоў зварачаў асыстэнт увагу сьвінабоя на тое, што гной ня ёсьць украса двара пана Тарбецкага, што гной ёсьць расаднік усякай заразы і ліха.

— Калі бог не папусьціць, то нічога благога і ня здарыцца,—адказвала на гэта Вадап'янава жонка. У такіх разох асыстэнт пазіраў на яе, як на заразьлівую бактэрыю. І злосьць брала яго. Гэтая някультурнасьць і цемра калыхала яго душу да самага дна.

„Някультурнасьць—найбольшае зло на сьвеце".

Вось тая тэза, што запаўняла цяпер усю яго істоту. З гэтаю тэзаю ён падыходзіў, як з меркаю, да зьяў жыцьця і ёю расцэньваў і тлумачыў усе яго хібы.

І горш за ўсё вось гэтая сьлепата, глухата, нячуласьць людзкая да пытаньняў навукі і культуры, бо калі асыстэнт папрабаваў давесьці, што ў кучы гною гнязьдзяцца шкодныя бактэрыі, ад якіх можна захварэць і памерці, то з яго проста пасьмяяліся. А кравец Самабыль засьмяяўся сваім глыбокім добрым сьмехам і сказаў:

— Я гэтыя бактэрыі зьем, і мне нічагутка ня будзе. А як загну яшчэ добрага ёршыка, то ўсе яны ў жываце павыдыхаюць.

Калі хто ня ведае, што такое „ёршык", то няхай нальле поўшклянкі піва і поўшклянкі самагону і вып'е. Гэта і будзе „ёршык".

Асыстэнт пачуў сваё адзіноцтва ў колектыве пана Тарбецкага, сваё акружэньне морам някультурнасьці і бруду. Аб гэтым брудзе гаварыла тая-ж куча гною. Яшчэ з большаю сілаю паднялося ў ім абурэньне, і гэ-

тае абурэньне ў першую-ж чаргу накіравалася на сьвінабоя, бо сьвінабой—першапрычына ўсяе гэтае гісторыі.

— Не! пакідаць гэта так нельга!—казаў сам сабе асыстэнт:—я навучу вас культурнасьці!

Якім спосабам навучыць культурнасьці, асыстэнт спачатку і сам ня ведаў. Але ва ўсякім разе аб гэтым ён думаў. А покі што, ідучы ад пана Тарбецкага са збаном малака і з папяросаю ў зубох, або нясучы вядро вады, ён казаў таму-сяму з суседзяў, што кішкі або каўбасы, сфабрыкаваныя Вадап'янам, чорт ведае з чаго, ні ў якім разе ня можна ўжываць, калі ты хочаш жыць на сьвеце. Такія гутаркі даходзілі да вушэй Вадап'яна. Усё гэта толькі спрыяла той варожасьці, што лягла між асыстэнтам і сьвінабоем. Урэшце асыстэнт надумаў ужыць procyiў сьвінабоя цьвёрдыя меры, бо мала таго, што тут ляжала куча гною,—Вадап'ян яшчэ наклаў каля кватэры асыстэнта і кучу дошак. Між тым на двор пана Тарбецкага занеслася шкарлятына і якраз захварэлі дзеці Вадап'яна.

— Вот вам рэзультаты нечыстаты і някультурнасьці!—гаварыў асыстэнт.

У яго ў самога былі дзеці. Трэба было бараніцца ад заразы. Зачыніў асыстэнт сваю сям'ю ў кватэры. Цэлую зіму ні жонка, ні дзеці на дварэ не паказаліся. Але гэтага мала. Каб адрэзаць хваробам усякія дарогі ў кватэру, асыстэнт прынёс формалінавыя ляпёшкі і стаў акурываць імі ўсе ходы-выхады і парогі. Нарабіў такога смуроду, што прачка Грында,—а яна жыла ў суседзтве з асыстэнтам,—падняла цэлы гвалт.

— Чорт яго ведае, што ён робіць! Падушыць хоча нейкаю атрутаю, газы пускаць пачаў, каб з дому ўсіх павыкурваць і самому заняць цэлы дом! Вось яшчэ скулу бог наслаў!

Грында чакала толькі здарэньня, каб прабраць асыстэнта, як трэба, і вывесьці яго на чыстую воду.

У выніку цьвёрдых мер, прынятых асыстэнтам, сюды завітаў міліцыянэр. Двор пана Тарбецкага, і без таго шумны і гучны, ажывіўся яшчэ больш. Сабраўся чуць ня цэлы мітынг. У той час, калі асыстэнт выкладаў стан і сутнасьць справы міліцыянэру, надышоў і сам пан Тарбецкі, і ўся працэсія пад кіраўніцтвам асыстэнта пашла да кучы гною. Каля гэтае кучы асыстэнт прачытаў цэлую лекцыю па хіміі і з некаторых аддзелаў гігіены. Опонэнтам выступіла Вадап'яніха. Яна давяла, што гной—факт звычайны, што на холадзе ён нават і смуроду ня мае, а прыдзе вясна, яго з ахвотаю людзі купяць. А цяпер дзе-ж яго падзець? Не палажыць-жа яго на галаву асыстэнту. Уся грамада, асабліва прачка Грында, выразна сталі на сторану опонэнткі.

— Вялікія паны завяліся, на гной пазіраць ня могуць! Куды-ж гной цяпер падзець? Ён-жа—мёрзлы!—прачка Грында ўзяла зразу высокі тон:—Вучоныя! калі ён табе ня міл, дык не пазірай на яго, а калі ён табе сьмярдзіць—заткні свой вучоны нос!.. А сам ты ня робіш смуроду?

Якою ты атрутаю карыдор абкурваў і абкурваеш? Людзей труціш, прайці нельга, а яму гной тут сьмярдзіць!.. Ведаем цябе! Годзі ўжо! Досыць нас буржуі мучылі! Не для таго іх скінулі, каб пасадзіць сабе на шыю новых!

Націск на асыстэнта быў такі энэргічны і напорны, што міліцыянэр толькі сказаў:

— Гной трэба прыбраць.

— Ня будзе яго, вядома, прыбярэцца, т. міліцыянэр!

Што-ж датыча дошак, то цяпер гэта быў такі нікчэмны козыр у руках асыстэнта, што аб іх ня варта было і губы расчыняць. Міліцыянэр вышаў з двара, а асыстэнт змушан быў прызнаць сваё паражэньне, але ён усё-ж такі астаўся пры сваёй думцы, што найбольшае зло на сьвеце— някультурнасьць. І асыстэнт зачыніўся ў сваёй кватэры і акурваў яе формалінавымі ляпёшкамі, каб засьцерагчыся ад заразы.

III

Калі ня больш, то ва ўсякім разе і ня менш ад Вадап'яна, была занята работаю і сама пані Тарбецкая. Гэта добрая, ціхая жанчына, здаецца, на тое толькі і створаная, каб працаваць. Яна галоўным чынам назірае за парадкам на дварэ, падмятае яго, скрабе, чысьціць, ходзіць за каровай, выконвае самую брудную работу па ачыстцы самых гіблых закуткаў свайго двара. Яе-ж рукамі робіцца работа і ў садзе, і ў агародзе. І робіць сваю работу ціха, бяз шуму і крыку. Яна-ж першаю адгукнецца на ўсякае няшчаснае здарэньне на дварэ. А на дварэ бывалі ўсякія здарэньні.

Салюта, жонка электрафікатара, прачнулася рана і ніяк не магла ўжо заснуць. Звычайна яна ў такія мінуты думала аб амбуляторыях. А сёньня якраз і Ганна яе штось кашлянула нядобра. Трэба павесьці яе паказаць дактаром, але ці ня лепей запісаць яго на дом? Ва ўсякім разе справу гэтую яна разьвязала, і тым ня меней у яе на сэрцы чамусь ня было спакою. Нешта як-бы карцела, але што—ніяк не магла сьцяміць. Перабірала ў памяці і тое, і гэтае,—не, чагось не хватае. І раптам яе асьвятліла: ляжак на гары праваліўся! Праўда, ня іх ляжак, а ляжак іх суседа-кватаранта, санітара. Ня гледзячы на тое, што правал у лежаку пагражаў пажарам, санітар і вухам ня вёў: ёсьць гаспадар, пан Тарбецкі,— няхай ён яго і правіць. А калі загарыцца дом, дык чорт яго бяры!

Салюта цяпер думае, як быць з гэтым лежаком. Прадумала яна з гадзіну, покі не прачнуўся электрафікатар.

— А ўсячаскі няпрыятна з ім,—сказаў пасьля некаторага разважаньня электрафікатар.

— Воченна дажа нават няпрыятна,—пацьвердзіла і жонка.

Устаўшы, электрафікатар пашоў да санітара, блага жыў ён блізка— праз дзьверы. Павёўшы рукою па вусох, электрафікатар сказаў:



— Ну, што рабіць з лежаком? Трэба даваць якую раду: дым, іскры і агонь на гору валяць. Пажар можа быць. І дзе ты потым дзенешся?.. Нядобра, брат.

— А чорт яго бяры: няхай гарыць!—панура адказаў санітар і ў вочы суседу не глядзіць. Ён нагатаваў дробных паленцаў, зьбіраючыся раскладаць агонь на прыпеку.

— Гаспадар ёсьць—няхай правіць,—уставіла слова санітарыха.

— Гаспадар кажа, што вы самі вінаваты: неакуратна ў печы паліце, раскладаеце на прыпеку агонь. Дый гаспадару што? Згарыць дом, страхоўку возьме. А даходу з дому яму няма...

— Калі гаспадар не клапоціцца, то якое дзела мне? Няхай гарыць,— адказвае санітар і кладзе на прыпек паленцы.

— Давай удвух самі заложым: многа тае работы!

— Чорт яго будзе закладаць!—заладзіў сваё санітар.

Так ні да чаго і не дагаварыліся.

Электрафікатар на службу пашоў, а Салюта на гору палезла і прастаяла ўвесь час каля лежака, покі санітарыха на прыпеку паліла. З-за гэтага праклятага лежака і амбуляторыю прышлося прапусьціць, што з Салютаю здаралася вельмі рэдка.

„Вось-жа людзі, каб на іх упадкі!“—злавалася на гары Салюта: „пільнуй іх, каб пажару не нарабілі!“

Санітарыха скончыла паліць. Салюта зьлезла з гары і пашла да суседкі, доцэнтавай жонкі, і расказала аб здарэньні з лежаком. Санітар, электрафікатар і доцэнт жылі пад адною страхою. Пажар у ваднакай ступені пагражаў і электрафікатару, і доцэнту. Пачуўшы такую навіну, доцэнт спалохаўся і закіпеў злосьцю на санітара: пажар ды яшчэ зімою нікому на сьвеце, апроч хіба санітара, ня мілы. І ў доцэнта ёсьць навуковыя працы, а ў пажары яны лёгка могуць прапасьці. Злосьць доцэнта пашла па двух лініях: па лініі санітара і на лініі пана Тарбецкага. Але з санітара нічога ня возьмеш. Пашоў доцэнт да пана Тарбецкага.

Пан Тарбецкі яшчэ быў у пасьцелі.

— Пане Тарбецкі! трэба меры прымаць якія: у санітара ляжак праваліўся. Гэта-ж ня жарты!.. Калі вы ня прымеце мер, то ня гневайцеся: у міліцыю заяўлю.

Пан Тарбецкі закрахтаў і пачухаў патыліцу.

— А няхай яго халера возьме! Паліць сырымі дрывамі, агонь раскладае на прыпеку. Ну, дзіва, што ляжак разваліцца! Ды яшчэ бульбу ў кахлянай печы сьвіньні варыць... Што з кватэры зрабіў? Хлеў, сьвінушнік.

І пашоў і пашоў скардзіцца пан Тарбецкі. Доцэнт слухаў, слухаў, і злосьць яго астываць пачала. Але ўрэшце ён усё-ж такі напомніў пану Тарбецкаму аб міліцыі яшчэ раз.

— Дык трэба даваць нейкую раду,—сказаў пан Тарбецкі. А гэтым часам па ўсяму двару стала вядома аб здарэньні з лежаком. Калі загарыцца адзін дом, тэ могуць пагарэць і другія. З гэтае прычыны ў лежаку быў зацікаўлен увесь колектыў пана Тарбецкага. Пры гэтым выявілася, што санітар найболей вінаваты, і агульнае нездаволеньне было накіравана на яго.

Увесь гэты дзень прашоў пад знакам санітаравага лежака. Вечарам доцэнт настроіў радыо, асядлаў галаву пружынаю і наладзіўся слухаць концэрт, каб трохі адпачыць і забыць усе гэтыя згрызоты, зьвязаныя з лежаком і санітарам.

— Айро! Айро! т. т. радыослухачы! Зараз доктар Розенталь прачытае лекцыю аб санітарнай асьвеце.

— Тфу!—плюнуў доцэнт і зьняў пружыну:—ад санітара зьбегчы хацеў, а тут—санітарная асьвета!

І на другі дзень ляжак заставаўся ў тым-жа стане. Але санітар пачаў варушыць мазгом, бо з усіх бакоў на яго напірала опозыцыя. Выходзіла, што ён вінаваты, і нават Грында яго не падтрымала. Але ня хочацца яму за ляжак гэты брацца. У яго ёсьць такое праконаньне, што ляжак павінен паправіць хто-небудзь другі. Калі ня пан Тарбецкі, то электрафікатар. Дачуўшыся, што справа можа дайці да міліцыі, санітар надумаўся сам зьвярнуцца да яе. Папершае, гэтым ён зьніме з сябе адказнасьць і, падругое, напэўна дазнаецца юрыдычную падставу гэтага самага лежака, і адпаведна з гэтым ён возьме належную лінію захаваньня.

Але покі што гарачкі ён не пароў: дайці да міліцыі ён пасьпее. А тымчасам электрафікатар, падбіваны жонкаю,—а ёй к таму-ж прышлося патраціць адну амбуляторыю,—замысьляў процiў санітара нядобрую справу: палезе на гору і заб'е ў лежаку дзірку. Тады пабачым, як ён разложыць агонь на прыпеку. Электрафікатар быў палез на гору, загатаваўшы патрэбны матэрыял. Але ён схамянуўся, што дым з кватэры санітара можа найці і ў яго кватэру. Дый колькі крыўды будзе і злосьці! Няхай яго лепш халера задушыць. І электрафікатар зьлез з гары. Санітарысе строга сказаў:

— Ну, як сабе хочаце: заб'ю ў коміне дзірку, душэцеся ў дыме.

І гэтая опозыцыя, і пагроза, і адказнасьць перад суседзямі змусілі такі санітара зьвярнуцца да міліцыі. Зьвярцеў папяросу, закурыў і пашоў. Спыніўшыся на парозе канцылярыі, санітар кінуў вокам на адзін, на другі і на трэці стол, да каго тут лепш зьвярнуцца. Спыніўся на стараватым пісцу. Падыходзіць, пытаецца, расказвае пра ляжак.

Пісец быў яшчэ старое школы, і старая закваска выбівалася з-пад сівых броў і нават у самым яго поглядзе.

— Дык што-ж твой ляжак—самагону напіўся?—запытаў пісец санітара. А гэтае пытаньне трэба разумець так, што праступленьне лежака

не такога роду, каб справу аб ім разьбіраць у міліцыі, што і выявілася з далейшых слоў:

— Калі ляжак не ў парадку, то трэба зьвярнуцца ў пажарную каманду.

Раз зрушыўшыся з месца, санітар наш раскалыхаўся і пашоў да пажарнікаў. У яго зьявілася ахвота давесьці справу да канца.

Праз поўгадзіны санітар быў у пажарнікаў. І там расказаў справу аб лежаку. І ўрэшце паставіў пытаньне рубам:

— Хто-ж павінен паправіць ляжак?

— Гэта ня наша дзела разьбіраць, хто павінен папраўляць вам коміны. Наша дзела—тушыць пажары, і калі ты будзеш гарэць, то мы прыедзем тушыць цябе.

Санітар астаўся незадаволеным такім адказам. Ён нават пачаў у сваіх думках выказваць абурэньне на непарадкі ў савецкіх установах і чуць-чуць не дашоў да контр-рэволюцыі. Пры гэтым яму ніяк ня прышло ў голаву, што ўся гэтая ляжачная справа ня варта цьвілога гроша, і што варт яму патраціць толькі поўгадзіны часу, каб ліквідаваць непарадкі і не замінаць савецкім установам рабіць сваю справу. Праўда, санітар—чалавек бедны, а беднасьць часта робіць чалавека злым, дурным і неўспагадным.

У той час, калі санітар уваходзіў у двор пана Тарбецкага, пані Тарбецкая якраз злазіла з гары, прычым рукі яе былі ў гліне. Покі санітар даходзіў праўды, яна замазала ляжак і гэтым самым зьліквідавала пытаньне аб ім. А санітар і да гэтага часу напэўна ня ведае, хто-ж павінен папраўляць нам лежакі!?

## IV

Кравец Самабыль—шчыры сын зямлі. Радзіўся і вырас у вёсцы. Профэсіі свае ня любіць: горкая бядота, безьзямельле змусілі яго шукаць іншага спосабу да жыцьця. Вынікам гэтага шуканьня і зьявілася краўцоўства. Але і тут у ім выказваецца дух зямлі: Самабыль на гарадзкіх ня шые, ён спэцыяльна абслугоўвае вёску, адкуль і мае заказы. Сярод вясковага люду аўторытэт Самабыля, як краўца і слаўнага чалавека, стаіць надзвычайна высока. Яго бяруць чуць ня з бою, каб завербаваць у сваю вёску або на свой хутар. З вёскі яму трудна вырвацца—так завальваюць работаю. Кормяць яго скваркамі, яечняю, частуюць лепшым гатункам самагону. З далёкіх вёсак прыяжджаюць да яго людзі і ня з пустымі рукамі, а з бутэліцаю самагону, каб мець прыемнасьць выпіць яго ў кампаніі з Самабылем. Гэтую сялянскую продукцыю Самабыль ставіць вышэй саракаградуснай. Быць можа, і тут яго густ падпарадкуецца таму-ж вясковаму патрыотызму, а можа гэтая любасьць да самагону выходзіць з асаблівасьці яго натуры.

— Ямчэй, брат, выпіць самагону: ён табе і ў горле дзярэ, і ў жываце пячэ, і такім душком адрыгаецца!

І ня дарма-ж ён прымаў самы дзейны, самы гарачы ўдзел, калі быў зроблен строгі экзамен самагону і саракаградуснай. Яго прыяцель Баўтрук Шкель прывёз самагону. Было гэта тады, калі саракаградусная ў продаж вышла. Устрывожаны Шкель вынуў пляшку свае продукцыі.

— Падсякуць, брат, заработкі мне,—казаў ён. І цікавасьць узяла чалавека, у якой меры саракаградусная будзе конкурэнткаю самагону. Дасталі ачышчанай. Налілі ў чарапок, сталі падпальваць—пшыкае, а не гарыць. Павесялеў Шкель. Паднёс запалку да самагону—сінім агнём заняўся!

Самабыль і Шкель у вочы адзін аднаму паглядзелі і дружна зарагаталі—наша бярэ!

— Таней толькі прадаваць прыдзецца,—сказаў Шкель.

З радасьці выпілі гарадзкой і вясковай. Выпіў, разьвесяліўся Самабыль, жартамі сыпле.

— Смычка вёскі з горадам! Ха-ха-ха-ха!

Ня любіць Самабыль жыць у горадзе. І тут ён стараецца завясьці сялянскі быт. У яго ёсьць малюсенькі кусочак зямлі напроціў кватэры, дзе жыве. Як толькі згоніць сьнег, ён зараз-жа выходзіць у свой гародчык, дзе стаіць сьліва, груша і дзьве яблыні, і тут расчынае работу. Падбярэ чысьценька кожную цэглінку, кожную сьмяцінку, засьцеле гноем зямлю, капае яе рыдлёўкаю, разьбівае на градкі. Насадзіць цыбулі, буракоў, моркві. Ня так гэта ўсё патрэбна яму для жыцьця, як для прыемнасьці працаваць на зямлі, хоць ён і апраўдваецца тым, што ў яго жывёла ёсьць. І праўда, у Самабыля ёсьць розная жыўнасьць: куры, трое парасят, дзьве казы і трусы. Дзівяцца людзі, як разьмяшчае Самабыль сваю жывёлу ў такім маленечкім хлявушку. Хлеў яго называюць яшчэ Ноевым коўчэгам. І сапраўды, колькі ў ім клятушак, катушкоў, перагародачак! Мяркуе Самабыль, як тут латвей жывёлу разьмясьціць. Надумаўся другі паверх пастроіць. Два дні майстраваў там. На гэты паверх саломы наслаў і пачаў туды сваіх япрукоў перасяляць. Ня ўсё-ж сьвіньні ў гразі качацца: няхай і сьвіньня хоць закаштуе панскага жыцьця! Але панскія палацы не па нутру прышліся япручком. Пішчаць там пачалі, непакоіцца, галадоўку аб‘явілі і сьвіначых прысмакаў не захацелі есьці.

— Не, брат,—казаў тады Самабыль:—сьвіньня—такая жывёла, што ня можа ад зямлі адрывацца, ёй патрэбна зямля, як рыбе вада.

І пазьнімаў сваіх япрукоў з другога паверху.

— На другім паверсе лепей козам жыць, бо козы любяць лазіць па вярхох, гэта іх спэцыяльнасьць. Можа там і нічога сабе было-б козам, але ад сьвіней ішоў цяжкі дух, а козы—жывёлы далікатныя. Прышлося і коз адтуль забраць і ліквідаваць другі паверх. Але-ж чалавек павінен вучыцца, каб на ўсё мець практыку.

— Няма мне, брат, дзе разгарнуцца. А я гэтую гаспадарку так люблю, што проста здаравею каля яе.

Уходжваючыся каля свае „гаспадаркі“, Самабыль часта зьяўляецца сьведкаю цікавых падзей, што маюць месца на двары пана Тарбецкага. Двор-жа пана Тарбецкага яшчэ мае тую асаблівасьць, што на ім надзвычайна многа дзяцей. Пан Тарбецкі ў сваім часе зьвярнуў на гэта ўвагу, нават ганарыцца гэтым, бо яго колектыў множыцца, а бязьдзетным людзям часамі параіць перабрацца ў яго двор, бо ў яго няма ніводнае такое жанчыны, каб яна тут не прывяла дзіця. На гэты раз пан Тарбецкі нездаволены толькі тым, што сярод дзевяці новых членаў яго колектыву папаўся ўсяго адзін хлопец, а то ўсё дзяўчаты.

— Зганьбілі мне двор,—казаў пан Тарбецкі:—якая з дзевак карысьць?

У цёплыя дні двор аж кішыць дзяцьмі. Няма тае гадзіны, каб яны не пабіліся. Пакрыўджаныя з плачам бягуць да сваіх бацькоў. Якому-ж бацьку або матцы ня шкода свайго дзіцяці, і заўважце—найлепшага дзіцяці? Бацька або маці, гледзячы на іх натуры ці па ступені пакрыўджанасьці іх дзіцяці, бураю ўрываюцца ў кватэру бацькоў крыўдзіцеля. Вынікі ад гэтага бываюць розныя: часамі вінаватага бацькі пакараюць, а часамі заступяцца за яго і самі пасварацца. Сварка выносіцца на двор і часамі прымае зацяжны характар, а часамі пераходзіць у новую фазу свайго разьвіцьця, канчаючыся бойкаю. Самабыль толькі тады зварачае ўвагу на сварку, калі яна вядзецца энэргічна, з належнаю доляю запалу.

Тады ён адводзіць вочы ад град і кажа:

— Во, гэтыя пачалі добра!

На звычайную-ж сварку адзываецца:

— Глупства: абы языком мяньціць—рабіць людзям няма чаго.

З прычыны таго, што сварка—бытавая зьява шырокага размаху, на яе трэба было-б зьвярнуць належную ўвагу, чаго, на жаль, ня робіцца дагэтуль. Літаратура таксама займаецца ёю мала, а калі і займаецца, то ня так, як трэба, разглядаючы яе з надворнага боку, адзначаючы пэўныя факты. Істота-ж гэтае сваркі, яе, так сказаць, дынамічнасьць, яе мэтодычны бок астаюцца ў цені. Скажам, ня высьветлены такія пытаньні: у якой паступовасьці трэба разьмяркоўваць самы матэрыял сваркі? Што трэба казаць наўперад, а што потым? Куды трэба пазіраць, калі лаешся з чалавекам? Якую ногу трэба выставіць наперад? Якое выражэньне трэба даць твару? Як трымаць рукі? У які момант трэба згарнуць хвігу? Калі пераходзіць ад слоў да дзела, або, другімі словамі, калі кідацца ў атаку?

Да гэтага часу сваркі вяліся і вядуцца саматужным спосабам, а трэба было-б злажыць простую, усім даступную, схэму для практычнага карыстаньня ў інтарэсах экономіі часу і фізкультурнага выхаваньня. Тут, здаецца, зацікаўлен і сам НОТ, павінен быць зацікаўлен.

На гэты раз мяцеж падняў Сьцёпка, брат Анэты і сын прачкі Вараксы. Сьцёпку восем гадоў, ходзіць ён у чырвонаармейскай шапцы.

Шапка дасталася яму ад Анэцінага мужа. Гэты муж, павялічыўшы колектыў пана Тарбецкага на аднаго чалавека, зараз-жа зьнік. Ад яго засталася тут адна шапка да вось гэты „алімэнт". З віду Сьцёпка ціхі хлопчык, але ваяцкага запалу ў ім досыць многа. Можа ў гэтым трохі вінавата чырвонаармейская шапка, якая па сваёй ужо профэсіі абавязвае да ваяцкасьці. Ваяцкасьць малога Сьцёпкі выявілася ў тым, што ён даў у зубы санітарысінай дочцы і засыпаў пяском вочы Вадап'янаваму сыну— дубальтовае праступленьне! На Сьцёпку напалі санітарыха і Пронька, сястра Вадап'яніхі, дзяўчына гадоў пад сорак. Варакса і Анэта кінуліся ратаваць Сьцёпку. Падняўся гармідар. Сварка зараз-жа адхілілася ад сваіх об'ектаў і пашла па другому кірунку. Пронька счапілася з Анэтаю, а санітарыха з Вараксаю. Але ў процэсе сваркі пары мяняліся, як часамі гэта робіцца ў некаторых танцах.

— Пагналася за комуністым, а ён табе во што паказаў!—забалабаніла Пронька, згарнула хвігу і сунула яе ў бок Анэты ды сыпала далей:—на чорта-ж ты яму здалася! Ці ён сабе ня знойдзе? Сьвісьне— дваццаць прыбяжыць такіх, як ты.

— А ты сама сьвістала, ды нічога ня высьвістала,—асеклася Анэта

А Пронька сваё гнула.

— Замуж вышла, дзіця маеш! Тваё дзіця трэба клікаць—цю-цюцю-цю! бо яго ня хрысьціў ні поп, ні ксёндз, ні рабін... Жонка комуністага!.. Думаеш—дзіця не ахрысьціла, дык да цябе вернецца? Трасцу!

Балючыя гэта словы для Анэты.

— Заві сабе маё дзіця, як хочаш: ад сукі сучкіна і пачуеш, але я сваё дзіця гадую. А ты дзе сваё дзела? Куды яго ўкінула? Думаеш, ніхто ня ведае, на якую хваробу ты хварэла?

Пронька раптам зьбялела, а потым агнём загарэлася.

— Што ты брэшаш, сякая такая?! Дайце нож, я яе зарэжу!—крыкнула Пронька і кінулася на Анэту. Анэта—наўцёкі. Потым раптам спынілася і сама рынулася на Проньку. Пронька ў сваю чаргу задала драла. Так яны ганяліся адна за другою разоў восем: то да калодзежа, то ад калодзежа.

— Бі сьмярдзюху гэтую!—крычала санітарыха.

— А ты йдзі прытулкі абкрадаць!—кінула ёй Анэта набягу.

Пронька асьмелілася і зноў наскочыла на Анэту. Тут і счапіліся і за валасы паўпляталіся. Санітарыха на дапамогу падскочыла, Варакса таксама рынулася ў атаку. Рвануўшы па разу за чубы, жанчыны, як-бы папалохаўшыся, адскочылі адны ад адных. Малыя дзеці лемант паднялі. Але бойка на гэтым ня скончылася. Тут зброя патрэбна. Анэце першай падвярнуўся пад рукі аскабалак. Шпурнула попускам у Проньку. Аскабалак загуў каля яе ног, адскочыў і папаў у санітарыху. Санітарыха паваліліся на зямлю каля калодзежа.

— Ой, забіла мяне, забіла! Ратуйце, людзі, забіла!—ляжыць санітарыха і галосіць.

Прачка Грында ўвесь час стаіць у вакне свае галубятні і наглядае гэтую бойку. Яна там робіць сама сабе ўвагі, як генэрал-стратэг нэўтральнай дзяржавы, стоячы збоку ад вайны і сочачы за яе разьвіцьцём і за памылкамі генэральных штабаў.

Убачыўшы санітарыху на зямлі і пачуўшы, як яна галосіць, Грында ня можа болей маўчаць.

— Калі цябе забілі, то чаго-ж ты крычыш?—пытае яна з гары:— раз забітая, дык трэба маўчаць... Тфу!—плюе яна ў акно.

Прыпыніў сваю работу і Самабыль. Уткнуў рыдлёўку ў зямлю і пазірае. Часамі ён заліваецца сьмехам уголас, а часамі проста сьмяецца моўчкі. Урэшце зазначае:

— Разышліся бабы!.. Але-ж, падлы, і біцца ня ўмеюць... Ну, якраз, як курыцы!.. А бадай вы пагарэлі!.. Сьмех і бяда!

Потым ён бярэ рыдлёўку і капае.

Калі праз некаторы час усё аціхла, хлапчукі з двара пана Тарбецкага сьпявалі песьню:

Ой, тут здарылася драка,
Ака-ака-ака!
Гусь пабілася з сьвіньнёй!
Ёй-ёй-ёй!
Куры рынулі ў атаку,
Таку-таку-таку!
Закіпеў крывавы бой!
Бой-бой-бой!

## V

Самы ціхі, самы забіты, загнаны і малапрыметны член колектыву пана Тарбецкага гэта—поп Лагода. Жыве ён дзесь па суседзтву з прачкаю Грындаю. Ходзіць ціхенька, апусьціўшы ў зямлю вочы, і стараецца як мага меней пападацца людзям на вочы, як-бы ён зрабіў нейкае цяжкое праступленьне. Акуратна перад кожным сьвятам у паложны час ціха выходзіць ён з двара, пануры, замкнуты, посны.

Што ён думае, ідучы на набажэнства? Напэўна аб тым, колькі перападзе на яго долю медзякоў, каб купіць на іх самае патрэбнае, без чаго так цяжка жыць. А можа папракае сябе, што памыліўся і пашоў у папы і што памылку сваю трудна паправіць, бо ў яго няма жыцьцёвага спрыту. Часамі яго думкі рассунуць вузкія межы горкай праўды і разгорнуць перад яго вачамі траячку або нават і цэлы чырвонец з сярпом і молатам у прыгожым вяночку. Тады вочы яго засьвецяцца радасьцю і надзеямі, і ногі цьвярдзей ступаюць па гэтай грэшнай зямлі, дзе ні папу, ні богу цяпер няма разгону. Другіх думак амаль і ня бывае ў Лагоды.

Але скупы сталі людзі, адпала іх шчырасьць да царквы, і ў пустых яе сьценах разносіцца глуха і вяла голас профэсыянала, страціўшага грунт пад нагамі. І вера бяз грошай, як і лампадка бяз масла, чэзьне і гасьне.

Зацягвае Лагода „мірам господу памолімся“: халодныя муры падхопліваюць яго дзервяны голас і нейкім жудасным чудам кідаюць яго ад сьцяны да сьцяны, покі ён не прападзе ўгары. Пуста ў цэркві. Мала народу. Некалькі стоптаных бабулек ды мужчын прышло сюды, каб падбаць аб сваёй душы, бо іх дарогі падыходзяць да дзьвярэй „таго сьвету“. Маркотна Лагодзе. І думак аб богу няма. На зьдзек, на пакуту пакінуў ён сваіх служак... А можа і праўду кажуць бальшавікі, што бога няма? Розум у Лагоды няшырокі і няглыбокі. І вера яго ня мае ніякага грунту, ніякай апоры. Ён толькі ведае, што яму цяжка, што з гэтых бабулек карысьць малая, і гэтае набажэнства нічога ня дасьць яму. Скончыўшы службу і падлічыўшы заработак, Лагода яшчэ больш пануры варочаецца ў двор пана Тарбецкага, дзе яго чакае жонка... Нявесела ўсё-ж такі ў іх кватэрцы!

Марыся Шпала, звычайна вясёлая жанчына, прыходзіць да жонкі доцэнта. Засмучана кабета. І кажа яна:

— Вы не пашкадуеце даць на ахвяру?

І сьлёзы паказаліся на Марысіных вачох.

— На якую ахвяру?—затрывожылася доцэнтава жонка.

— Ня пытайцеся. Можаце даць, то дайце!

— Што здарылася?

Марыся азірнулася і прыдушаным голасам сказала:

— Ой, мая мілая!.. Поп!.. Бяз хлеба сядзіць! Няма за што дзіцяці малака купіць... Ой, як-жа яны, бедныя, гаруюць! Ну, як-жа ім на сьвеце жыць? Шэсьцьдзесят капеек у тыдзень з цэрквы мае!

Марыся заплакала.

Узяўшы „ахвяру“, яна таямнічна і ціха прамовіла:

— Толькі-ж нікому нічога—ні мур-мур! ані шэп!

Марыся абышла ўсе кватэры, зьбіраючы „ахвяры“ для папа Лагоды.

Марыся Шпала нідзе ня служыць, заработкаў ня мае, а нейк жыве сама і дзяцей гадуе. На якія сродкі жыве, колектыў пана Тарбецкага ня ведае. А калі хто ведае, то маўчыць. І наагул у колектыве ёсьць такія асобы, якіх лічым зусім не такімі, як яны ёсьць.

Вось хоць-бы і прачка Грында. З віду яна простая, жорсткая жанчына, з распусным языком. А прыглядзецца да яе бліжэй, у яе знойдзеш многа самых такіх неспадзяваных рыс. У яе надзвычайна многа мяккасьці і ласкі. Сваіх парасятак яна ніколі не кране пальцам. Выганяе іх пасьвіць і называе іх „дзетачкі“. Калі хто крыкне на яе сьвіньню, яна зьверне ўвагу, што гэтым крыкам можна перапалохаць бедную жывёлу, супакойвае яе, чухае пад чэравам і за вушамі.

— Дзёдзечка мая, дзёдзечка! Не палохайся, мілая! Спалохалі маю залатую, маю любую! Ня бойся, ня бойся!

Нікому ў крыўду ня дасьць свае жывёлы. А як яна даглядае яе! У хляве заўсёды суха. Радам з сьвіньнямі Грынды стаіць доцэнтава каза, адгароджаная тонкаю перагародкаю. Дзівіцца доцэнтава дзяўчына, чаму гэта ў казы мокра, а ў сьвіней суха. І саломы-ж яна падсьцілае. Куды дзяецца гэтая салома? Няўжо яе каза зьядае? Потым заўважыла дзяўчына, што ў казы шпарка гною прыбывае, а ў Грындзіных сьвіней усё ў аднэй меры. І яшчэ заўважыла яна, што яе каза пачала настойваць сьвіны гной. І пачалося новае змаганьне ў колектыве пана Тарбецкага. Зацятая і дацэнтава дзяўчына, хоць многа крычаць і гаварыць ня любіць. Кожную раніцу сьвіны гной у казіным хляве перакідаецца туды, адкуль ён і вышаў. Доўгі час перакідаўся гэты гной з аднае загарадкі ў другую, перакідаўся моўчкі. Словам—вайна вялася на „истощение“, як казалі ў нямецкую вайну. І пераможцам павінен аказацца той, у каго нэрвы крапчэйшыя, як казаў Гіндэнбург.

Больш крэпкія нэрвы аказаліся ў дзяўчыны.

Бачыць Грында, што іх вайне канца ня відаць. Прыходзіць яна ў той час, калі Вольга корму казе давала.

— На што ты гной перакідаеш у маю загарадку?

— Калі вы яшчэ хоць раз перакінеце сьвіны гной сюды, то гэты гной я перакіну ня ў вашу загарадку, а вашым сьвіньням у карыта,— заўзята адказала Вольга.

— Глядзі, каб я табе за каўнер не накідала!—пагразіла Грында.

— Папробуй!—дзёрзка адказала Вольга і стала ў позу. Гэтая дзёрзкасьць і малады задор, а таксама і карчавітасьць складу дзяўчыны зрабілі сваё. Напэўна тут мела значэньне яшчэ і тое, што вінавата была яна, Грында. І конфлікт на гэтым і скончыўся, а гной ужо выкідаўся на двор у тую кучу, што прывяла ў абурэньне асыстэнта.

Дзівіліся людзі, даведаўшыся аб гэтым конфлікце, чаму Грында Вольцы ўступіла. Ніяк гэта не ўкладалася ў прадстаўленьне аб Грындзе. За некалькі дзён да конфлікту і пасьля яго Грында хадзіла аціхшая і як-бы чымся засмучаная. У яе была нейкая трывожная, затоеная думка. І голасу яе на дварэ ня чуваць стала.

Раз нейк ранічкаю заходзіць Грында да жонкі доцэнта. Завяла наўперад гутарку, што Вольга слаба казу даглядае, што казе трэба рознастайны корм. Ну, але гэта гутарка вялася так сабе, між іншым. Урэшце, Грында запыталася:

— Вы ня чулі... дэкрэт такі быў, каб высяляць паноў з Беларусі, што жывуць каля граніцы. Што гэта за дэкрэт такі?

— Быў такі дэкрэт...

Грында кашлянула і ціха сказала:

— Баюся, каб і мяне ня выслалі...

Доцэнтава жонка шырока раскрыла вочы.

— Вас?!

— Вы-ж ня ведаеце: я з роду графоў!.. Вы не глядзеце, мой бацька—самы настаяшчы граф. У Менску цэлы квартал дамоў у яго быў. Ды сьпіўся, сукін сын, папрапіваў усе дамы. А я бялізну мыю. І цяпер баюся, каб мяне ня выслалі.

— А хіба вы зарэгістраваны, як графіня?

— Ніхто ня ведае, што мой бацька граф, але-ж могуць даведацца.

Пазірала доцэнтава жонка на „графіню“ Грынду і душылася сьмехам. А Грында, як-бы хочучы давесьці, што яна зусім савецкі чалавек, расказвала, як у 1905 годзе яна служыла на вінным складзе і прыймала ўдзел у рэволюцыі і ў забастоўках, як за ёю ганяліся казакі, каб арыштаваць, і як яна хавалася ад іх і дзе? у Сьвіслачы!

Вось якія людзі ў колектыве пана Тарбецкага.

Тут паказан іх толькі надворны бок, але за гэтаю надворнасьцю, што выклікае наш сьмех, часта хаваецца глыбокі трагізм людзкога жыцьця.



# ДЗЬВЕ ПУЦІНЫ *)

**Я. Ліманоўскі**

— Старшыня цяпер заняты, дык ужо позна.

— Мне вельмі трэба да яго.

— Прыходзьце заўтра.

— Я сёньня хачу пабачыць старшыню і пажаліцца яму. А то ніколі не даб'юся нічога. Усюды ўжо хадзіў. Адзін да другога пасылае, а справа ні з месца.

Такую гутарку сакратара выканкому з кімсьці пачуў Янка каля дзьвярэй свайго габінэту. Ён мо' і не зьвярнуў-бы ўвагі, будучы занятым разглядам усялякіх папер, але той, хто гаварыў з сакратаром, быў, як можна было пазнаць па голасе, абураны і стаяў на сваім. Янка ўстаў, падышоў да дзьвярэй, расчыніў іх.

— У чым справа,—папытаўся спакойна, зьвяртаючыся быццам да абодвух.

— Я да вас, таварыш старшыня, хачу пагаварыць аб маёй справе, а ён мяне ня пушчае,—адазваўся прасіцель, гадоў каля 40, селянін, апрануты ў лапці і намотаныя саматканыя нагавіцы ды такую-ж сьвітку.

— Ну, заходзьце і кажэце, якая там у вас справа.

— Справа мая наконт зямлі. Быў каля нашай вёскі маёнтак, цяпер яго дзеляць. Вясной гэтага году зямлю падзялілі часова. Я таксама атрымаў кавалак, не абмераны яшчэ,—будзе каля 8 дзесяцін. Сям'я 9 душ, а сваёй зямлі дзесяціны паўтары. Вось калі прышло да канчатковага разьдзелу, дык ад мяне адбіраюць зямлю; маёнтак адышоў да другой вёскі, а з нашай вёскі я адзін толькі і атрымаў, рэшта маюць сваёй досыць. Хочуць, каб увесь маёнтак адышоў да тэй вёскі. Частка ў мяне нават засеяна, тую быццам да восені мне пакідаюць. Чым я горшы ад тых,—толькі што з іншай вёскі?

— Да загадчыка павятовага зямельнага аддзелу вы хадзілі?

— Хадзіў, пару разоў нават.

— Ну, што ён адказаў?

— Пасылае мяне ў воласьць, а там я не магу нічога дабіцца. Старшыні я чамусьці не падабаюся. Называе мяне контр-рэволюцыянэрам.

*) Глядзі „Полымя" № 1 і № 3 за 1926 г.

А які я контр-рэволюцыянэр, калі я кажу на сходах, што старшыня валвыканкому няправільна зямлю дзеліць? Каму захоча даць, дык дасьць, а каму не захоча, дык не. Вось і мне ня хоча даць, што я не маўчу, а выступаю на сходах проці яго. Напрыклад, у гэтым самым маёнтку мне не дае таму, быццам, што я ня з тэй вёскі, якой маёнтак будуць дзяліць. А сваім тром сваяком дае зямлю ў гэтым маёнтку, хоць жылі яны за 15 вёрст. Кажуць яшчэ ў нас, быццам і хабары бярэ за надзелы зямлёй. Ці-ж гэта справядліва? Усю вясну хадзіў і нічога ў воласьці ня мог дабіцца. Цяпер прышоў да вас шукаць ратунку.

— Як прозьвішча і адкуль вы?—запытаўся Янка, выслухаўшы скаргу.

— Маргонак Павал, з вёскі Крукі Ямпольскай воласьці.

— Добра, я зараз дам загад, каб разабралі вашу справу.

— А ўжо калі ласка, таварыш старшыня, хіба толькі ваш загад дапаможа.

Янка напісаў паперу загадчыку павятовага зямельнага аддзелу гэткага зьместу: „Загадваю пад вашу асабістую адказнасьць, вырашыць у тыднёвы тэрмін справу т. Маргонка і надзяліць яго зямлёй паводлуг належнай нормы. Апрача таго, зрабіць рэвізію зямельных спраў у Ямпольскім Валвыканкамітэце з мэтай прыцягнуць да судовай адказнасьці, калі будуць заўважаны злоўжываньні“.

Прачытаў паперку і аддаў селяніну.

— З гэтай паперкай схадзеце да загадчыка павятовага зямельнага аддзелу, а праз тыдзень зайдзеце да мяне і паведаміце, як яна выканана.

— Вось дзякую вам, таварыш старшыня,—адказаў селянін, палажыў паперку ў шапку, надзеў шапку на галаву і хуткім крокам вышаў. Янка яшчэ каля двух гадзін сядзеў, прачытваў паперы, пісаў на іх рэзолюцыі, пакуль не перагледзеў усё. Паклаў іх у папку і панёс сакратару.

— Таварыш Кронка, заўтра раніцой напішы патрэбныя адносіны, а як атрымаеш пошту, дык дай мне на перагляд толькі тэрміновыя. Рэшту я буду праглядаць, як і сягоньня, пасьля палудня, бо ў часе заняткаў так многа прыходзіць па розных справах, што перашкаджаюць разглядаць. Прымусіць пачакаць прасіцеляў нельга. Дык калі і пасьля палудня прыходзіць хто з далёкіх, абавязкова трэба прыймаць, як сёньня, напрыклад.

— Калі-ж яны, як прыедуць у горад, дык часам раней на рынак ідуць і спозьніваюцца да ўстановы.

— Усё?

— Па інструктарскіх справаздачах трэба зрабіць выпіскі і пасланць у належныя аддзелы.

— Добра, зраблю ўсё.

Аддаўшы паперы, Янка вышаў на вуліцу і накіраваўся дадому. Прашоў два кварталы і павярнуў на вуліцу, якая пралягала побач

з гарадзкім садам, і пашоў праз сад. Час ужо падбліжаўся да вечару, сонца зьнізілася і не пякло так моцна, як днём. У засені дрэў не адчувалася гарадзкога курава, і паветра было насычана пахам сьвежай, яшчэ летняй зеляніны, пахам сокаў зямлі, перарobленых сонечным сьвятлом у маладыя галінкі, лісты, краскі, траўку. Асабліва прыемна ласкатаў Янка ноздры пасьля таго, як амаль цэлы летні доўгі дзень прасядзеў скуплены над працай у нагрэтым сонцам з сухім паветрам пакоі. Захацелася пасядзець з поўгадзінкі, адпачыць. У садзе ўжо было шмат людзей. Мо' таму іх здавалася больш, што сад быў невялікі. Спацыравалі пераважна моладзь, хадзілі па дарожках па двох і больш, сядзелі на лаўках. Янка пашоў па больш ціхай і пустой дарожцы і ўжо хацеў сесьці на лаўку, як да яго падышла маладая дзяўчына, ніжэй сярэдняга ўзросту, з ценкім „задорным" носікам, у белай з кароценькімі рукавамі, шырокім дэкольтэ, сукенцы, прышпіленай на грудзёх кветкай. Спачатку Янку здалося, што гэта асоба „лёгкага выхаваньня", потым, як глянуў бліжэй, падумаў, што тая памылілася і прызнала яго за знаёмага.

— Прабачце мне, ці ня вы—старшыня павятовага выканкому,—спыталася яна неяк нерашуча, баязьліва, перамагаючы сваю нясьмеласьць, што зьвяртаецца па сваёй справе ў неадпаведным месцы, ці то саромяючыся.

— Так—я. Навошта вы хочаце аб гэтым даведацца?

— Вы загадалі арыштаваць т. Юргіса—студэнта, што прыехаў з Кацярынаслава і працаваў у юрыдычным бюро,—прамовіла дзяўчына, напамінаючы Янку аб гэтым выпадку.

— Памятаю. Арыштавалі яго за падрабленьне ордэру ў коопэратыве.

— Дык скажэце, калі ласка, што яму за гэта будзе?

— Я ня ведаю добра. Мо' засудзяць у Допр, а мо' расстраляюць.

— Ай, ай!—дзіка ўскрыкнула дзяўчына, і схапіла абедзьвюма рукамі галаву, закрываючы вушы і нэрвова ўздрыгваючы.

— Няўжо і гэта можа стацца?—спыталася ўпаўшым, з ноткамі болю, голасам і ў сполаху ды з надзеяй глядзела на Янку.

— Я-ж вам сказаў, што ня ведаю, бо ня я буду судзіць. Думаю, што не павінны расстраляць,—адказаў Янка больш лагодна, каб супакоіць яе.

— Вы ня ведаеце, што гэты чалавек для мяне значыць. Я яго маладая і так шчыра і моцна яго кахаю, што не перажыла-б такога ўдару,— прызналася дзяўчына.—Здаецца, няма такой ахвяры, на якую-б я не згадзілася, каб толькі выратаваць яго. Скажэце праўду, я вас вельмі прашу, няўжо яму пагражае расстрэл? Не, не! Лепш не кажэце пра гэта, я не змагу вытрываць, калі гэта здарыцца,—дадала яна ўзварушана.

— Супакойцеся, я проста так прамовіўся. Я і сам ня думаю, каб яго расстралялі. Праступак невялікі. Ён атрымаў ордэр на 6 аршын тканіны, а падрабіў яго на 60 аршын. Ну, у магазыне падробак заўважылі, і трэба было яго арыштаваць. За гэта яго выключаць з партыі, засу-

дзяць на пэўны тэрмін у Допр. Адбудзе ў Допры вызначаны тэрмін і выйдзе. Вось, паводле маёй думкі, як вырашаць яго справу... Вы ўжо павесялелі, супакоіліся? Вось і добра.

— А вы праўдзіва ў гэтым упэўнены, ці кажаце толькі, каб супакоіць мяне?

— Лічу сваім абавязкам заўсёды быць толькі праўдзівым.

— Я вас толькі папрашу, калі можна, дазвольце мне заўтра з ім пабачыцца.

— Гэта можна. Зайдзеце заўтра ў Выканком, і я вам дам пісульку. Бывайце.

„Відаць, дзяўчына моцна кахае,—думаў Янка, седзячы адзін на лаўцы,—як яна перастрашылася! Шкада неяк стала яе. Каб сапраўды расстралялі каханка, быў-бы для яе цяжкі ўдар. А мая Алеся,—успомніў тут Янка,—ня менш хіба перажывала-б, калі-б даведалася, што мне пагражае, напрыклад, такая-ж небясьпека: яна-ж мяне так кахае! Часу, праўда, шмат прашло, як мы ня бачыліся, мо‘ ўжо і зьмянілася. З лістоў яе трудна дагадацца. Чаму яны, аднак, такія халодныя? Няўжо адпавядаюць сапраўды яе цяперашняму пачуцьцю? Трэба будзе як-небудзь знайсьці час, каб пабачыцца. Так моцна яна мяне кахала, так прыемна і шчасьліва я тады праводзіў з ёй час!“

Стомленасьць і зацішны куток, у якім Янка выпадкова так апынуўся, бо амаль ніколі не хадзіў у сад, выклікалі ў ім адны думкі за другімі. Каханьне гэтай незнаёмай дзяўчыны, даверчыва яму адкрытае, панясьлі яго думкі да Алесі, нарысавалі малюнкі з часу пабыўкі ў яе доме. Кожная драбніца цяпер усплыла ў памяць. Потым думкі пераходзілі на больш позныя моманты з яго жыцьця. Больш году, як ня бачыўся з Алесяй. Невялікі, здаецца, тэрмін, а колькі пражыта! Успомніўся халодны і галодны Петраград,—першая тычка на Янавым шляху. Далей ужо—бурная надзеямі рэчка жыцьця нясе яго на сваіх хвалях...

Нямецкі фронт пад Псковам. Доўга ён не існаваў: некалькі дзён, некалькі стычак. Потым падпісваецца з немцамі згода. Пачынае фармавацца Чырвоная армія. Янка са сваімі неразлучнымі таварышамі, Язэпам і Антонам, астаюцца ў Чырвонай арміі. Увесь 1918 год, да восені, іх полк займаецца аховай часовай мяжы—дэмарклініі, барацьбой з контрабандай і бандытызмам. У месцы свайго знаходжаньня дапамагаюць арганізацыі мясцовай улады, яе працы.

Падышла восень 18 году. У Нямеччыне нізрынулі крывавага кайзэра Вільгельма II. Нямецкае войска пачало ачышчаць окупаваныя мясцовасьці. Усьлед за ім, падштурхваючы да больш хуткага адыходу, ішла Чырвоная армія. Янка, з часу ад‘езду з Петраграду, так захапіўся рэволюцыяй, выявіў столькі шчырай энэргіі і адданасьці ў працы, што хутка выперадзіў Язэпа і Антона. Яшчэ да адыходу немцаў Янка быў назначаны ваенным камісарам палка. І калі іх полк уступіў у Віленшчыну,

дзе дагэтуль яшчэ ня было ня толькі Савецкай улады, але нават і рэволюцыі, паўстала пытаньне аб патрэбе хутка організаваць Савецкую ўладу. Янку, як актыўнаму працаўніку, даручылі з цэнтру організаваць Савецкую ўладу ў сваім павеце. Янка дабіўся дазволу разам з сабой забраць Язэпа і Антона. Хоць Антон сам быў родам з Ноўгарадзкай губ., але за часы супольнага жыцьця на фронце ўсе трое так зжыліся, што Антон ахвотна згадзіўся застацца з імі. Організавалі спачатку павятовы і валасныя рэволюцыйныя камітэты, залажылі партыйную організацыю. Потым правялі выбарную кампанію і замянілі рэволюцыйныя камітэты абранымі ўжо выканаўчымі камітэтамі. Янка быў абраны старшынёй павятовага выканаўчага камітэту, Язэп кіраваў Саветам народнай гаспадаркі, а Антон—харчовым аддзелам. Працы было досыць, але яна пасоўвалася шпаркімі крокамі наперад. Потым, як палякі занялі Вільню і фронт падбліжыўся да N-скага павету, стала працаваць цяжэй. Трэба было дбаць аб фронце, здавальняць яго харчамі, фурманкамі і інш.

Янка, як галоўны кіраўнік, працаваў упрост, забываючы на адпачынак. Язэп і Антон былі яго блізкімі і актыўнымі дапаможнікамі.

— Я ўпрост цябе не пазнаю,—казаў часам Янку Язэп,—ты зусім іншы стаў цяпер, чымся тады, як толькі прыехаў у Петраград. Чаму ты тады ня быў такім шчырым працаўніком для рэволюцыі і, памятаеш,—нават спрачаўся са мной?

— Чаму я ня быў такі раней?

— Чаму ты ня стаў рэволюцыянэрам год ці два раней?

— Мне здаецца, так ставіць пытаньне недарэчна. Ведама-ж, рэволюцыянэрам адзін стаў раней, другі пазьней: ведама, чымся раней ім хто стаў, тым лепш для грамады і для яго. Але ў самага старога рэволюцыянэра можна папытацца, чаму ён ня стаў рэволюцыянэрам яшчэ раней. Усяму бываюць спагадныя, або не,—абставіны. Вось і трэба такое пытаньне ставіць не паасобку, а разам з часам, з абставінамі і г. д. Вось і ў мяне былі прычыны. Быццам зусім выпадкова я прыехаў у Петраград, спаткаўся з табою, выпадкова папаў на рабочыя сходы і асабліва на той апошні сход; выпадкова папаў на фронт, потым сюды. З надворнага боку гэта толькі выпадкі, а між тым, як яны самі былі выкліканы пэўнымі прычынамі, дык зьявіліся прычынай, паасобнымі зьвеньнямі ў маёй працы, тычкамі, якія паказвалі паварот на маім шляху. І так з кожным бывае. Усё залежыць ад умоў і абставін жыцьця. Нават і багатыр ня зробіць багатырскага ўчынку, калі да гэтага ня будзе спагадных умоў.

Кіпучая праца не дазваляла адлучацца з павету. Вельмі хацелася пабачыць Алесю, але ён адкладаў гэта да больш спагаднага часу. Як толькі вышлі немцы, напісаў да яе ліст. Праз нейкі час атрымаў адказ, напісаны зусім адменным тонам, як да звычайнага знаёмага. Ня ведаў, ці яна рабіла гэта дзеля таго, што баялася контролю, перагляду лісту, ці мо' зьмяніліся яе настроі, пачуцьцё. Напісаў другі ліст, хацеў даве-

дацца, ці кахае яшчэ яго. Адказу ня было. Паслаў тэлеграму, таксама ня было адказу. Ня ведаў, што там дзеецца. І вось цяпер гэтая незнаёмая дзяўчына сваім пачуцьцём і страхам за лёс каханка выклікала ў ім успаміны мінулага, успаміны перажываньняў і настрояў за ўвесь час ад расстаньня з ёю.

„Няўжо яна цяпер не кахае мяне так, як гэта вось дзяўчына свайго каханка? Аб гэтым можна было-б даведацца толькі тады, каб яна была тут са мною. Дзіўна неяк склалася. Была окупацыя, нельга было паехаць, цяпер затрымлівае абавязак. Яна таксама не прыяжджае і нават ня піша. Ну, з гэтым Юргісам нядобра вышла. Прыехаў сюды з Кацярынаслава, калі яго заняў Дэнікін. Пачаў прасіць, каб мы сьпісаліся з яго організацыяй і атрымалі яму дазвол астацца тут працаваць. Я і ня ведаў, чаму сюды яму так захацелася. Атрымалі згоду на гэта, астаўся. Папрацаваў тыдні чатыры і вось цяпер засыпаўся. Прасіў 6 аршын тканіны нібыта для сястры на сукенку, а ордэр падрабіў на 60 аршын. І ва ўсім гэтым вінна хіба маладая; для яе патрэбны былі сукенкі; яна штурхала на гэта, калі не беспасрэдна, дык міжвольна. Выходзіць, што—„дай сэрцу волю, завядзе ў няволю“. Я не згадзіўся-б на гэта, хоць-бы мяне і штурхала на такі або падобны ўчынак Алеся. Там, дзе ёсьць вымаганьне рабіць дрэнны ўчынак—няма каханьня. Не. Алеся не такая. Толькі, чаму-ж яна ня піша? Мо' зазлавалася на мяне, што я стаў савецкім працаўніком, і не кахае больш? Не павінна гэта стацца. Хіба іншыя прычыны ёсьць?

А з Юргісам дрэнна вышла,—разважаў далей у сваіх думах Янка.— Комуністы можа зыходзіцца для сумеснага жыцьця толькі з такой жанчынай, якая спачувае яго поглядам, ідэям і г. д. Або з такой, якая яшчэ ня мае сталых грамадзкік ідэй, процілеглых яго ідэям. Тады яшчэ можна мець уплыў, і яна будзе кахаць, паважаць яго і яго ідэі. Зусім іншае, калі жанчына мае або ўжо сформаваныя супярэчныя погляды, або калі яе папярэдняе жыцьцё налажыла моцны адбітак і стварыла падатны грунт для разьвіцьця гэтых самых супярэчных поглядаў. Можна пакахаць яе,—такая ўжо чалавечая натура,—і яна можа цябе моцна кахаць. Але потым каханьне будзе памяншацца, астываць, супярэчнасьці—выступаць больш яскрава, аж, нарэшце, каханьне зусім зьнікне, і застануцца адны супярэчнасьці (калі кожны будзе трымацца сваіх поглядаў і ідэй). Падобна да куста ружы: адцьвітуць кветкі, абсыплюцца лісткі і застануцца адны калючыя чалінкі. Або ён пападзе пад яе ўплыў, будзе дагаджаць ёй, адступаючы ад сваіх ідэй, саб'ецца са свайго шляху, як гэта сталася з Юргісам“.

— А я цябе шукаю, тав. Пралеска,—прарваў Янкавы думкі начальнік павятовай міліцыі і крымінальнага розыску, які нечакана падышоў да Янкі.—Заходзіў у выканком, там дзяжурны адказаў, што ты пашоў дадому, пашоў на кватэру,—не, ня прыходзіў яшчэ, кажуць. І вось выпадкам толькі знашоў.

— Мяне звабіла адпачыць у засені і падыхаць сьвежым паветрам, і я ўжо каля двух гадзін прасядзеў. Ну, кажы, навошта ты мяне шукаў?

— Ёсьць пільная справа,—прамовіў, азірнуўшыся навокал, ці ня слухае іх хто-небудзь, і сеў разам з Янкам на лаўку.—У павеце паўстаньне,— раптам дадаў ён ціха.

— Ну, што ты кажаш?—устрывожыўся Янка.

— Сёньня паведамілі мяне агенты, што ў сувязі з набліжэньнем фронту распусьцілі сярод сялян чуткі, быццам пры одступе Чырвонай арміі будуць касіць зялёнае яшчэ жыта, забіраць увесь хлеб і скаціну, каб паляком не засталося жыўнасьці. Вось гэта і ўзбунтавала сялян. А тут яшчэ рэквізыцыі і фурманкі ў бліжэйшых да фронту раёнах, як Ямпольская і Слабадзкая воласьць. Цэнтр руху ў Ямпольскай воласьці. Організуюцца бандыцкія атрады, быццам для паходу нават на павятовы горад. На чале стаіць тутэйшы памешчык Мірскі. Уся фальварковая шляхта і кулакі—з ім. У суседнім павеце таксама ўзьнікае бунт; кіруюць ім, здаецца, з нашага павету.

— Колькі-ж там сформавана атрадаў, які лік іх, колькі і якую маюць зброю?

— Гэта яшчэ невядома.

— Магчыма, што весткі няпраўдзівыя?

— Не, яны толькі ня зусім дакладныя, але факт, што паўстаньне організуецца.

— Вось што, таварыш Пятроўскі, склікай зараз-жа партыйны камітэт, трэба безадкладна абгаварыць пытаньне. Хай зьбяруцца не пазьней, як праз гадзіну. Я зараз прыду.

---

На пасяджэньні партыйнага камітэту выказваліся дзьве думкі. Адна—паслаць у воласьці, ахопленыя паўстаньнем, адказных працаўнікоў і правесьці мітынгі, вытлумачыць сялянству, што яго ашукалі варожыя Савецкай уладзе элемэнты. Другая—паслаць атрады для ліквідацыі процісавецкага руху. Язэп, Антон, Янка і яшчэ пару таварышоў выказваліся за першую думку. Потым з імі згадзілася і рэшта, бо яшчэ ня было пэўных вестак аб характары і велічыні руху, ня было і ўзброеных атрадаў, каб паслаць іх. Вырашылі паслаць 4-5 таваршоў у тры франтовыя воласьці, дзе пачаўся рух. Язэп, Антон, павятовы вайсковы камісар запрапанавалі паслаць іх у Ямпольскую воласьць, дзе паўстаньне прымала шырокі размах. Янка таксама захацеў паехаць з імі, але Язэп запярэчыў:

— Абойдземся без цябе. Горад ня мае амаль ніякай абароны, і табе, як кіраўніку організацыі і савецкага апарату, трэба застацца тут. Трэба організаваць абарону, бо справа можа быць дрэннай, калі наскочыць банда на горад; наробіць такіх спраў, што і за год не паправіш. Ды трэба сформаваць атрады і на той выпадак, калі там бандытызм пусь-

ціць карані. Язэпаву прапанову падтрымалі ўсе, і Янка павінен быў застацца для падрыхтоўкі атраду. У Ямпольскую воласьць вызначылі чацьвертым таварышом загадчыка політасьветы, а ў другія дзьве іншых адказных працаўнікоў.

Янка пасьля пастановы партыйнага камітэту і ад'езду таварышоў у воласьці сформаваў з мобілізаваных партыйцаў атрад, узброіў лепш каравульную роту і міліцыю, сазваніўся з фронтам, каб, калі гэта будзе патрэбна, выслалі адну роту ў падмогу атраду. З армейскай базы патрэбаваў, каб выслалі патронаў і адзін кулямёт. Увечары на акраіне гораду, на дарогах, якія вядуць у горад, і ў самым горадзе стаялі варты. Усялякі рух пасьля 11 гадзін ночы быў спынены.

Так прашло пару дзён. Чакалі вестак ад пасланых таварышоў. Усё было падрыхтавана для ліквідацыі бандытызму. Адсутнасьць вестак дазваляла лічыць, што нічога паважнага няма. Усе супакоіліся.

Раптам нечаканая вестка ўдарыла, як пярун. Пад вечар, калі заходзіла ўжо сонца, прыскакаў на замучаным кані тав. Пятроўскі, які таксама езьдзіў у Ямпольскую воласьць. Янка быў у той час на почце і гаварыў па тэлеграфнаму праваду з фронтам. Пятроўскі ўбег на почту і паведаміў аб страшнай вестцы.

— Усе чатыры таварышы, што паехалі ў Ямпольскую воласьць— забіты.

Янка адчуў, як у яго быццам нешта ўнутры адарвалася, нешта забалела, перад вачыма забегалі цёмныя кругі, ва ўсёй постаці адчулася нязьмерная нейкая ўтомленасьць, цяжка стала ня толькі пасоўвацца з месца, але варочаць языком. Апусьціўся на зэдлік каля тэлеграфнага століка і глядзеў бессансоўным поглядам на Пятроўскага, чакаючы далейшых вестак.

— А што з другімі?—спытаўся, робячы патугі над сабой, заняпаўшым голасам.

— Як гэта здарылася?

— Ехалі яны на двух фурманках. І вось ужо ў Ямпольскай воласьці, калі праяжджалі праз лес, іх затрымалі бандыты. Заскочылі зьнянацку, адвялі ад фурманак і расстралялі. Потым пакалечылі нялюдзка целы і кінулі недзе ў балоце. Адзін з двух фурманшчыкаў таксама забіты, другі ўцёк. Даведаўся я аб гэтым выпадкова.

— З усяго гэтага відаць, што тут была банда прышлая, бо нават фурманшчыка забілі. Як-бы там ні было, а таварышоў не аджывіць,— прамовіў Янка.

— Што цяпер рабіць будзем?

— Трэба будзе зараз, у гэту ноч, паслаць атрад адшукаць целы таварышоў. Займіся гэтай пасылкай, т. Пятроўскі, я вельмі дрэнна сябе адчуваю. А пасьля заўтра раніцой выступім туды з атрадам. Да гэтага

часу атрымаем патроны і кулямёт, павялічым яшчэ дадатковай мобілізацыяй атрад.

— Добра, я зьбяру ўсіх нашых коняй і пашлю туды конны атрад,— будзе хутчэй. За ноч яны будуць там, раніцой зробяць розыск, а каля другой гадзіны дня прыедуць.

---

Усю ноч ня мог Янка заснуць ні на хвілінку. Галава быццам чым наліта, цяжкая, гарачая,—думкі балюча-надаедлівыя. То часам здавалася, што ўсё гэта няпраўда, ня мог паверыць вестцы Пятроўскага—і тады рабілася лягчэй. То ізноў уставалі перад вачыма акрываўленыя пакалечаныя целы. Так нядаўна ўсе былі жывыя, спатыкаліся, працавалі. І раптам усе загінулі. Хоць-бы вайсковы камісар... У мінулую нядзелю паклікаў Янку: „Прыходзь да мяне сёньня на рыбу“. „Адкуль-жа ты яе ўзяў?“ пытаецца Янка. „Сёньня яшчэ ў досьвіткі я паехаў на возера, пазычыў у знаёмага селяніна човен і сетку ды налавіў. Я кожную нядзелю еду лавіць рыбу“. Адзін за другім беглі перад вачыма малюнкі і адрывалі ад сну.

Яшчэ да ўсходу сонца ўстаў Янка, пашоў па аколіцах правяраць варту. Сьвежае паветра дадало крыху бадзёрасьці, але не надоўга. За працай паперы вывальваліся з рук. Чытаў іх і не разумеў, што напісана, забываў, што прачытаў. З трывожным непакоем чакаў звароту атраду. Ужо тры гадзіны, а яго яшчэ ня было.

Пасьля чацьвертай гадзіны паведамілі Янку, што целы забітых таварышоў прывезены і паложаны ў быўшым, цяпер зачыненым і пустым, магазыне, на галоўнай вуліцы. Пашоў туды, каб у вапошні раз глянуць на сваіх лепшых сяброў. Каля магазыну стаялі Пятроўскі і яшчэ некалькі таварышоў. Ва ўсіх сумныя твары, стаяць маўкліва.

— Ведаеце, тав. Пралеска, калі ў вас сэрца слабое, дык я раю—не хадзеце туды глядзець. Малюнак страшэнны, ня вытрымаеце,—параіў адзін з іх.

Янка затрымаўся і пачуў, як моцна застукала сэрца, як ізноў тая самая, што і пры першай вестцы, адчулася нязьмерная слабасьць і ўтомленасьць у нагах.

— Паспрабую, можа вытрымаю,—адказаў, гледзячы на апошнія дзьверы магазыну,—дайце мне толькі цыгарку.—Запаліў цыгарку і пашоў у магазын.

Унутры магазыну было цемнавата. Вітрыны былі заложаны, і сьвет, які ўліваўся праз дзьверы, не асьвятляў усіх куткоў. Нябожчыкі былі паложаны на засланай саломай падлозе. Дзьве санітаркі і санітары рэзалі ножніцамі мокрую аблепленую гразьзю вопратку, адчышчалі гразь і клалі цела на нейкую скрыню. Два дактары аглядалі і запісвалі на паперы ўсё заўважанае. У Язэпа была сарвана вечка галавы, ад вачэй да вушэй; мазгі вываліліся і згубіліся. На грудзях і ў бакох былі шырокія раны, ві-

даць, зробленыя ўжо пасьля сьмерці. Пазнаць яго было немагчыма. Антону прастрэлілі вока, ды так, што на кавалкі разарвала чэрап і вырвала мазгі. Кавалкі чэрапа віселі яшчэ на скуры і хрускалі адзін каля другога, калі паварочвалі. Жывот быў перарэзаны так, што відаць былі вантробы. У вайсковага камісара прастрэлена галава каля вуха, расьсечана шыя і косьць правай рукі вышэй локця. Загадчыка політасьветы твар быў нагэтулькі скалечаны, што можна было адрозьніць хіба па залатых зубох, што сьвяціліся з расьсечанай шчакі. Па заключэньні дактароў усе былі расстрэлены так зблізка, што куля ня толькі прабівала, але і разрывала ад напору паветра. Калі раней былі зроблены агнястрэльныя раны, дык сьмерць павінна была наступіць раптоўна. Калі-ж раней рубілі, дык яны павінны былі страшэнна мучыцца, пакуль іх не дастрэлілі.

Янка ня мог больш вытрымаць і бледны, хістаючыся, як п'яны, вышаў з магазыну. На вуліцы ўжо пачалі зьбірацца на пахаваньне організацыі са сьцягамі і гарадзкія жыхары. Праз гадзіну пад гукі жалобнага маршу вынесьлі на руках чатыры чырвоныя труны. Доўгай стужкай па вуліцах расьцягнулася працэсія. Вянкі з зеляніны і кветак, аплеценыя стужкамі, чырвоныя з чорнымі стужкамі сьцягі і стракатая па колеру рэчка тысяч людзей. Вокны, бальконы парасчыняліся. Тротуары і сярэдак вуліцы запруджаны людзьмі. Неба заслала заслона ценкіх празрыстых хмарак. Солнца блісьне на хвілінку і зноў закрыецца хмаркамі, але так, што яго сьветлы кружок можна заўсёды бачыць праз белыя хмаркі. Жалобна-хаўтурныя гукі оркестру расьсяваюцца, зьнікаюць у паветры. Хоць і не пячэ так моцна сонца, але душна ад паднятай куравы небрукаванай вуліцы.

Вось першыя шэрагі працэсіі дашлі да магілкі. У канцы гарадзкога бульвару, паміж маладых зялёных бярозак, выкапана агульная магілка. Гэтае месца Янка знашоў больш адпаведным для пахаваньня замучаных таварышоў.

Падышлі бліжэй організацыі. Пазносілі да магілкі ўсе вянкі, сьцягі. Пачаліся прамовы. Надышла чарга гаварыць Янку. Плач розных, асабісты жаль,—не дазваляў гаварыць. Балела сэрца, сьціскала, як клешчамі, горла, напрашваліся з даўно нявыплаканых вачэй сьлёзы. Абрываліся думкі, глухлі словы. Ён спыніў пасьля некалькіх слоў прамову. Труны пачалі апушчаць адна за другой у магілку. Прагучэлі ў паветры тры залпы каравульнай роты. Забарабанілі па вершыках трупаў першыя камячкі зямлі, усё больш нявыразна, больш глуха хаваючы ўсё больш тоўстым пластом зямлі труны. Пачалі разыходзіцца організацыі. Некалькі таварышоў парадкавалі градку—насып над магілкай, ускладвалі вянкі, рабілі часовую агарожу.

Янка ня мог прыняць удзелу у іх працы. Сядзеў з пачуцьцём жалю і суму на нявысокай агарожы бульвару і глядзеў, як здавалася звонку, бязудзельнымі вачыма. У вушох яшчэ гудзеў жалобны марш і плач. Антон

пакінуў жонку і двух дзяцей, загадчык політасьветы два месяцы толькі перад тым жаніўся. Павятовы вайсковы камісар асіраціў пяцігадовага сына (жонка яго памерла два гады таму), пакінуў старую маці і сястру. Усіх іх жыцьцё зломана, пакалечана, разьбіта. Усе яны засталіся бяз сродкаў да жыцьця. Колькі слёз, колькі гора. Колькі такіх ахвяр! Як гадка пабудаваны сьвет,—думаў Янка,—людзі аддаліся служыць народу, не дзеля ўласнай карысьці, багацьця, роскашы, і іх пазьвярынаму забіваюць. Мы—за права жыць бяз уціску. Яны—за права ўціскаць нас, за права жыць нашай крыўдай. Іх нямнога, але маюць сілу. Грошы асьляпляюць людзей. За грошы яны ідуць на ўсялякую зьвярынасьць. І больш яшчэ, як зьвярынасьць, бо зьвер сапраўды ня зробіць таго, на што здольны наш вораг. Атрута рэлігіі трымае яшчэ моцна людзей і робіць іх нявольнікамі, застаўляе выконваць подлыя ўчынкі па жаданьні тых, хто мае мяшкі золата.

---

Раніцой наступнага дня было парашано выступіць з атрадам для ліквідацыі бандытызму. Янка асабіста ўзяўся кіраваць опэрацыямі. Калі ўжо ўсё было падрыхтавана да ад'езду, Янка яшчэ зашоў у выканком прагледзець чарговую пошту. Узяў пачку пакетаў, адпячатваў адзін за другім, чытаў больш пільныя і важныя, надпісваў рэзолюцыі. Сярод большых пакетаў папаўся адзін маленькі. Мэханічна, ня чытаючы адрасу, адпячатаў яго. І толькі выняў паперу, як прыкмеціў знаёмы характар напісанага,—аказаўся ліст ад Алесі. З вялікай цікавасьцю і захапленьнем пачаў яго чытаць:

„Любы Яначка.

Толькі што пачынаю ўставаць з ложка; хварэла чатыры тыдні на тыфус. Ня было ўжо надзеі, што папраўлюся. Некалькі дзён сядзеў каля мяне доктар, прывезены з Менску. Цяпер ужо адчуваю сябе лепей, але ня зусім добра,—сяджу ў ложку і пішу табе ліст на падушцы. Кружыцца галава, цёмна робіцца ў вачох, і толькі як успомню, што пішу да свайго Янкі, робіцца лёгка на сэрцы, ажывае душа. Атрымала твой ліст і тэлеграму ў часе хваробы, і мне іх не далі. А потым хоць і пачала папраўляцца, не магла сама яшчэ пісаць. Прасіла малодшую сястру, каб напісала, яна не паслухала. Што-ж я магла зрабіць. Даруй, што ня пісала табе,—ты такі добры і ня будзеш гневацца на мяне. У гарачцы ўсьцяж клікала цябе і ты, здаецца, заўсёды быў са мной. Як мне хочацца хутчэй папраўіцца! Як моцна хочацца пабачыцца з табой! Яначка, даражэнькі, чакае мяне ў жыцьці вялікая перамена. Апісаць усяго не магу, бо адчуваю і баюся, каб ня было контролю... як папраўлюся і сама здолею паехаць на почту, апішу табе аб усім падрабязна. Яначка, прыяжджай як мага хутчэй да сваёй далёкай Алесі, можа ўжо і для сэрца далёкай. Паўтараю, што чакае мяне ў жыцьці вялікая перамена, але толькі ў жыцьці: у сэрцы, у пачуцьцях да цябе—ніколі.

Твая Алеся“.

— Разьбірай, прачытвай як-небудзь, бо пісаць было мне вельмі цяжка.

Прачытаў яшчэ раз. Вялікае задумленьне і непакой выклікаў ліст.

Што рабіць?—падумаў. Ехаць? Цяпер? У гэтую хвіліну, калі сэрца рвецца на кавалкі ад болю? Ратаваць сваё шчасьце, калі ёсьць пагроза для дзесяткаў, сотак людзей?

Пазваніў тэлефон. „Гэта ты, таварыш Пятроўскі? Дрэнна чуваць. Усё гатова і мяне чакаеце? Пачакай хвілінку, спытаюся, ці прыслалі мне з ваенкамату каня. Слухаеш? Выступайце, зараз еду да вас“.

---

У першай спатычцы з атрадам бандыты ня вытрымалі. Спачатку адстрэльваліся, а потым, як атрад падышоў бліжэй і адкрыў кулямётны агонь, бандыты расьсеяліся і схаваліся ў бліжэйшым лесе. У выніку спатычкі ў атрадзе было двое раненых, а з боку бандытаў трое забітых і трое раненых, якіх не пасьпелі забраць. У аднаго з раненых знашлі сьпіс усіх адказных працаўнікоў павету, якіх бандыты намецілі расстраляць. Янка быў першым у сьпісе, у сьпісе знашлі прозьвішчы і забітых ужо чатырох таварышоў. Проці іх прозьвішчаў былі пастаўлены крыжыкі.

Галоўнай базай бандытаў была Ямпольская воласьць. Ачышчаць яе ў першую чаргу ўзяўся Янка. У адну з суседніх валасьцей, больш ахопленых бандытызмам, ён паслаў роту чырвонаармейцаў, прысланую з франтавой часткі. На другі дзень пасьля прыходу атраду Янка склікаў праз самых сялян сход у воласьці. Атрад на гэты раз знаходзіўся ў вярстах пяці ад воласьці і рыхтаваўся да аблавы ў лесе.

На сход выклікаўся паехаць з Янкам Пятроўскі. Калі яны пад'ехалі да воласьці, дык тут ужо было многа сялян. Праз адчыненыя вокны відаць было іх шмат у будынку, рэшта разьмясьцілася на двары. Сядзелі на плоце, на траве каля плоту, стаялі гурткамі па некалькі чалавек, курылі. З надворнага боку ўсё было спакойна, звычайны сялянскі сход дый годзе. Янка пад'ехаў, прывітаўся,—адказалі на прывітаньне. Прывязалі да плота коняй і папрасілі вынесьці з будынку стол, каб было на чым стаяць.

Сярод прысутных Янка знашоў і Маргонка, што прыходзіў да яго жаліцца на старшыню валвыканкому.

— Ну, як ваша справа, т. Маргонак?—запытаўся Янка.

— Дзякую вам, таварыш старшыня, ужо вырашана. Пашоў я да загадчыка павятовага зямельнага аддзелу і паказаў вашу паперку. Ён ад сябе таксама строга напісаў у воласьць і казаў, што сам прыедзе. Прыходжу я да старшыні валвыканкому і пытаюся пра маю справу. Дзе там— і гаварыць ня хоча. „Ня будзе табе зямлі цяпер, зямляўпарадкаваньне як будзем праводзіць, так і дамо дзе-небудзь у іншым месцы“. Я тады яму— паперку. А там і пра суд напісана. Прачытаў, паскроб сабе ў патыліцы. „Заўтра пашлю туды члена валвыканкому, няхай на месцы разьбярэ справу“, кажа. Вось прыехаў той, адвялі мне 8 дзесяцін зямлі, запі-

салі ў акт, і цяпер я ўжо сяджу спакойна. А потым за пару дзён дык і выканком уцёк, як насталі непарадкі.

— Дык хто-ж тут у вас робіць непарадкі?

— Я вам пасьля сходу ўсё раскажу,—сказаў цішэй, каб ніхто не пачуў, Маргонак.—Ёсьць такіх шмат, уся фальварковая і хутарная шляхта. Тут і на сходзе іх ёсьць досыць.

Вынесьлі стол. Усе падышлі бліжэй. Янка стаў на стол і пачаў гаварыць. З першых-жа слоў пачалі яго перабіваць. Большы лік і больш галосна пачалі адзывацца галасы.

— Ведаем самі, ня трэба!

— Рэквізыцыі і фурманкі замучылі!

— Усё толькі абяцаюць!

— І скаціну і хлеб бяруць!

— Куды гэта ўсё йдзе?

Сход гучэў больш галосна і гаварыць было немагчыма. Заклікі да парадку з самага натоўпу не памаглі.

— Прыехаў з карацельным атрадам,—прагучэў нехта, і гэта яшчэ больш узварушыла сход. Відаць было, як некалькі чалавек асабліва старэнна крычалі і падбурвалі другіх.

— Біць іх,—пачалі раздавацца галасы, і натоўп пасунуўся бліжэй да стала. Паднялося некалькі палак і рук са сьціснутымі кулакамі. Настрой прыняў небясьпечны характар і спыніць яго, здаецца, ня было магчымасьці.

Балюча і крыўдна зрабілася Янку. Абурыла яго вельмі, абразіла ў самых лепшых пачуцьцях. Акінуў гнеўным поглядам натоўп і больш галосна, расьцягваючы словы па складах, каб пачулі яго праз агульны гоман, крыкнуў:

— Я прыехаў сюды ня біцца з вамі, а пагаварыць аб справе не як вораг, а як свой чалавек. Калі вы ўсе лічыце мяне сваім ворагам, дык забеце мяне тут. Я на‘т бараніцца ня буду. Чуеце і бачыце?—з гэтымі словамі Янка выхапіў з кабура наган і кінуў яго аб зямлю ды стаў з паднятай галавой, як быццам чагось чакаючы.

Натоўп, відаць, зьдзівіўся такой шчырасьці і супакою Янкі і змоўк. Рэвольвэр падняў з зямлі адзін селянін і палажыў яго на стале каля ног Янкі.

— Але раней, чымся вы гэта зробіце, вы павінны мяне выслухаць,—дадаў праз хвіліну.

— Кажэце, кажэце!—пачуліся галасы.

— Ня трэба! ня трэба!

— Ціха вы, крыкуны, не дасьцё чалавеку слова прамовіць!

Цяпер ужо больш рашуча запротэставалі проці крыкуноў.

— Хто крычыць?—кулакі?

— Вон іх у тры шыі адгэтуль!

Хоць яшчэ крычалі за і проці Янкі, ён пачаў гаварыць зычней, і ўсе змоўклі.

— Мы ня лічым вас усіх ворагамі і не на вас прывялі ўзброены атрад. З вамі, працаўнікамі, хто ня хоча чужога поту, мы заўсёды патрапім дагаварыцца мірна. Вы па несьвядомасьці толькі можаце быць ворагамі Савецкае ўлады. Але ёсьць у нас сьвядомыя ворагі, ёсьць такія, што прадаліся нашым ворагам. Некалькі дзён таму мы паслалі да вас сваіх лепшых таварышоў. Яны ехалі бяз зброі, пагаварыць з вамі, адкрыць праўду, што вас ашукалі і штурхаюць да згубы. Што сталася? Мы атрымалі іх акрываўленыя, пакалечаныя целы. Іх ня пусьцілі да вас, спаткалі на дарозе, забілі. Хто гэта зрабіў? Прысланыя адтуль з-за фронту найміты нашых ворагаў. З імі можна весьці гутарку толькі зброяй. На іх мы прывялі атрад. Яны ня тут, не на сходзе, а ў лесе, ня з палкамі, а з абрэзамі. І вось я шчыра кажу вам: вас ашукалі. Вас пастрашылі тым, чаго і быць ня можа. Незалежна, ці будуць посьпехі ў нас на фронце ці не, ці прыдзецца нам адступіць,—наш вораг будзе адзін. У нас ня можа быць мэты крыўдзіць вас пры адступленьні. Чаму пусьцілі такія чуткі, навошта хацелі бунтаваць вас? Да нашага павету прыблізіўся фронт. Моц Чырвонае арміі на фронце залежыць ад падтрыманьня яе ў тылу. Вось чаму ворагі захацелі скарыстаць цяжкое становішча і аслабіць нам тыл. А становішча цяжкое. Рэквізыцыі і частыя фурманкі выкліканы абставінамі, грамадзянскай вайной. Скончым вайну, будзе лягчэй: за год, за тры, не адразу, лепш будзе. Хто нашы ворагі, чаго яны хочуць? У нашым павеце 45 проц. усёй зямлі належыць да 1.060 памешчыкаў. Цяпер адабралі ад іх маёнткі і дзеляць сялянам. Яны ідуць са сваёй арміяй, яны організуюць бандыцкія атрады, каб адабраць ізноў свае маёнткі, ізноў захапіць уладу. На чале цяперашняга бандыцкага руху стаіць памешчык Мірскі, маёнтак якога падзелены між сялянамі вёсак Броды і Крукі тутэйшай воласьці. Падумайце—няўжо ён ідзе бараніць інтарэсы сялян, якія заўладалі яго маёнткамі? Цяжкое становішча цяпер, але калі ўстановіцца панская ўлада, лягчэй ня будзе. І рэквізыцыі, і фурманкі, і ўсялякія павіннасьці павялічацца, дык і бізун яшчэ панскі будзе хлястаць па нашых сьпінах. Трэба паважна разважаць у справе і дзеля часовага цяжару не пагубіць сваю будучыну, не папасьці яшчэ ў горшую няволю. І я заклінаю вас: ідзеце да дому спакойна, займецеся сваёй працай і парайце іншым пайсьці за вашым прыкладам. Хто несьвядома на заклік ворага ўзяўся за зброю, няхай цяпер сам добраахвотна прыдзе да нас, аддасьць зброю. І нічога з ім ня стане, ніводзін волас не спадзе з яго галавы. Такі заклік, такую адозву мы разашлем па ўсіх вёсках. А з тымі ворагамі, што прышлі сюды з варожага стану, і з тымі, хто сьвядома далучыўся да іх назаўсёды, хто зьвязаў свой лёс з іхным,—мы будзем змагацца са зброяй у руках. Мы павінны гэта рабіць дзеля справы свайго вызва-

леньня і вас заклікаем дапамагаць у гэтай барацьбе, бо справа гэта— ваша справа.

Сход увесь час уважліва слухаў прамову. Настроі зусім перамяніліся. Крыкуны і кулакі, лічачы, што настроі няпрыхільны да іх, не адважыліся больш крычаць, падбухторваць. Пасьля скончэньня прамовы, сход ухваліў запрапанованую рэзолюцыю—падтрымліваць Савецкую ўладу і дапамагаць ліквідацыі бандытызму. Дзеля таго, што быўшы валвыканком уцёк, быў абраны на сходзе часовы валасны камітэт.

Доўга яшчэ сяляне, абкружыўшы Янку, запытваліся пра розныя справы і разыходзіліся купкамі, жыва абмяркоўваючы пачутую на сходзе думку.

— Ну, мы, здаецца, сягоньня былі кандыдатамі ў нябожчыкі,—казаў Пятроўскі, калі ўжо ад'яжджалі са сходу.—Падбухтораны натоўп можа хутка разарваць на кавалкі. А ты яшчэ рэвольвэр кінуў.

— Я моцна веру ў тое, што разумная думка возьме верх і ў натоўпе. Тады толькі нікога нічым не пераканаеш, калі маеш справу з профэсыяналамі, сьвядомымі ворагамі, або калі сваё сумленьне нячыстае. Таму я нават сярод збунтаванага сялянства ніколі не баяўся-б. Ну, двума нават рэвольвэрамі ад натоўпу не абараніліся-б. Дык ужо справа была-б дрэнная, калі-б трэба было бараніцца зброяй. Тут былі і кулакі, і беднякі, таму мы мелі ня толькі ворагаў, але і сяброў. Я загадаю, таварыш Пятроўскі, каб з выканкому прыслалі сьпіс усіх тых, хто штонебудзь атрымаў пры Савецкай уладзе: зямлю, лес на будынак, скаціну, насенную ці грашовую дапамогу і г. д. Гэта самая надзейная бедната. На яе ў першую чаргу трэба апірацца. Ты пашлеш адрасам сваіх агентаў. Шмат хто з гэтых беднякоў дапаможа нам, выдасьць бандытаў, скажа, хто ім спачувае, і г. д. Такая разьведка вельмі патрэбна. Толькі справу патрэбна весьці консьпірацыйна, каб ня было помсты з боку кулакоў і бандытаў да гэтай бедноты.

— Гэта думка добрая. Ня можам мы караць усіх, а адшукаем толькі віноўных.

---

Ліквідацыя бандытызму пасоўвалася пасьпешна. Пасьля таго, як у першай стычцы разьбілі бандытаў, у далейшым яны ўжо не складаліасуцэльнай узброенай сілы. Рассыпаліся дробнымі партыямі і больш хаваліся па лясох, чымся выказвалі актыўнасьць. Лавілі іх аблавамі. Пасьля няпосьпеху бандытаў, арышту шмат з іх, пасьля праведзенай у ачышчаных ад бандытаў раёнах мітынговай кампаніі, бандыты страцілі ўсялякі ўплыў сярод сялян, і толькі кулацкая частка або ўдзельнічала, або дапамагала ці толькі спачувала бандытам. У процэсе ліквідацыі выказалася, што самы асяродак бандытаў, чалавек 20—30, быў прысланы з-за фронту; да яго прысталі некаторыя кулакі і падбухтораныя маласьвядомыя сяляне. Цяпер, калі бандытаў разьбілі і растлумачылі, да чаго

яны імкнуліся, гэтая маласьвядомая частка ўдзельнікаў бандытызму пачала сама адыходзіць. Спачатку ня верылі адозьве выканкому, што тым, якія самі ў вызначаны тэрмін зьявяцца добраахвотна, нічога ня будзе. Прысылалі пасрэднікаў з запытаньнямі, хацелі ўпэўніцца. Потым прышло некалькі чалавек, якія актыўнага ўдзелу ня прымалі, але былі неспакойны на сумленьні за дапамогу бандытам. Калі ўсіх, хто зьяўляўся, адпушчалі, дык тады і рэшта асьмелілася і пачала зьяўляцца. Атрад наладзіў добрую сувязь з беднякамі і наогул актыўнымі прыхільнакамі Савецкае ўлады сярод сялян. Тыя давалі весткі, хто ўдзельнічае ў бандытызьме, паведамлялі атрад, дзе хаваюцца бандыты, і г. д. Па гэтых вестках было лёгка папасьці на сьлед і лавіць якраз вінаватых. Сяляне пачалі ўдзельнічаць нават у аблавах.

Пры такіх абставінах за два тыдні зусім ачысьцілі ад бандытаў дзьве воласьці. У Ямпольскай воласьці іх прыпёрлі амаль да самага фронту.

У канцы кампаніі Янка атрымаў ад сялян паведамленьне, што ў лесе пад назвай „Мядзьвежы лог“ павінен знаходзіцца галоўны штаб бандытаў. Лес гэты цягнуўся на некалькі вёрст між Ямпольскай воласьцю і сумежным паветам. За лесам у пяці-шасьці вярстах быў ужо фронт. Праўда, ён толькі называўся фронтам. Войска было вельмі мала і адзінай цэлай лініі, як гэта бывае на фронце, ня было. Сувязь паміж паасобнымі раскіданымі на значнай адлегласьці часткамі падтрымлівалася або выстаўленай далёка адна ад другой вартамі, або коннымі разьездамі.

У дзень, калі Янка атрымаў такое паведамленьне, атрад быў падзелены на маленькія часткі і раскіданы амаль па ўсёй воласьці для вылаўліваньня паасобных бандытаў. Рота Чырвонай арміі ўжо некалькі дзён як ізноў была адпраўлена на фронт. Янка загадаў да вечара сабраць атрад у пэўнай вёсцы і адначасова паслаў коннымі паведамленьне да франтавой часткі з просьбай, каб яна атачыла ланцугом лес з процілеглага паўднёвага боку. Янка разьлічаў, што гэтай апошняй аблавай будзе закончана ліквідацыя бандытызму.

Увечары, калі ўжо схавалася сонца, пабляднела чырвоная зара і змрок летняе ночы пачаў акутваць зямлю, атрад выступіў з вёскі і разьмясьціўся доўгім ланцугом па ўскрайку лесу. Аблаву рабіць ноччу было немагчыма з-за цемры. Атраду было наказана захоўваць цішыню, не паліць агню і ня спаць.

Янка прашоўся па ўскрайку лесу, каб пераканацца, ці добра разьмясьціўся атрад. Усё было ў парадку. Вярнуўся на сваё месца—сярод ланцуга. Спаць не хацелася, але бязьдзейнасьць жудзіла. Пацягнула ў гушчар. Пашоў. Тут цемра яшчэ больш панавала, хавала ўсё ад вока. Ісьці можна было амаль вобмацкам. Ветру ня было, ня гудзелі дрэвы. Янку адразу абдало вільгацьцю і пахам лясной плесені, гнілых лісьцяў і галінак, грыбоў і зеляніны. Хрускалі пад нагамі сухія галінкі, шарпалі

вопратку і твар кусты арэшніку і маладыя хвойкі. Месцамі яны так густа расьлі, што трэба было лезьці згінаючыся, як праз нейкую расьлінную нору. Не заўважыў Янка, колькі ён ішоў, і як далёка апынуўся. Лясны гушчар быццам зачараваў яго, ішоў ня думаючы ні аб чым, ня чуючы нічога, апрача трэску галінак пад нагамі ці шарпаньня кустоў па вопратцы. Магчыма, што так не раздумліваючы ён зашоў-бы яшчэ далей, каб не зьвярнуў увагі, што лес быццам прасьвятлеў. Перад ім хутка адкрылася вузкая, як шнур, і ня зусім доўгая, роўная, пазбаўленая чамусьці нават кустоў, палянка. Погляд адпачываў на палянцы пасьля цемры гушчару. Надта прыгожай здавалася чыстая, гладкая, зялёная палянка сярод глухога лесу. Быццам знарок яе нехта зрабіў, выгладзіў, засеяў зялёнай траўкай. Янка апынуўся якраз у канцы палянкі. Сеў пад кустом арэшніку і любаваўся палянкай. У гары мільгалі яскравыя зоркі. Часам мэтэор агністай стужкай пакоціцца па небасхіле. У гушчары дзіка-гучна крычала нейкая лясная птушка. Адкульсьці здалёку-далёку даносіўся брэх сабак. У бліжэйшым кусьце заціўкалі, запішчалі ні-то лясныя мышы, ні-то маладыя птушаняты. Цішыня, нявыразнасьць і разьбегласьць Янкавых думак не перашкаджалі яму чуць самы малы шолам. Сядзеў нярухома, і як сам, так і думкамі; а думкі кудысьці адбеглі, адарваныя ад усяго. У гушчары дзесьці трэснула галінка, таксама як і ў Янкі пад нагамі. Ну, пэўна з дрэва звалілася і зламалася на зямлі. Праз хвілінку да вуха Янкі ізноў данёсься гук трэснуўшай галінкі і нявыразны шолам. А шолам рабіўся ўсё больш выразным. Нехта ішоў па лесе. „Пэўна зьвер які",—падумаў Янка, і тут толькі яму на думку ўзьбегла, што на ўскрайку лесу ляжыць ланцугом атрад, што будуць рабіць аблаву на бандытаў, што ён адзін у лясным гушчары і можа далёка ад атраду. Ускочыў на ногі, ня ведаў, што рабіць. Ня думаючы доўга, схаваўся між кустоў арэшніку і пачаў прыслухоўвацца.

Нехта ішоў па лесе з другога канца палянкі і па ўсё больш выразнаму гуку можна было лічыць, што набліжаецца да Янкі. Праз хвіліну на палянцы паказалася нявыразная цёмная постаць, якая накіроўвалася якраз на Янку. „Уцячы хіба? Пачуюць і зловяць, пакуль забяжыш да атраду. Чаму я раней ня ўцёк?"—прабегла думка ў Янкі. „Застрэліць то яго можна, як падойдзе бліжэй. Але ці ён адзін? А мо' папробаваць яго злавіць жывым? Трэба рызыкаваць". Падумаў і пачаў прыглядацца на палянку. Чалавек ужо быў крокаў так сорак. З-за плечаў відна была нейкая палка, пэўна стрэльба. Янка пачаў меркаваць, як ён пойдзе. „Калі ён толькі пойдзе так проста, як цяпер, то павінен прайсьці між гэтых вось кустоў, а потым каля тэй хвойкі і арэшніку". І ціха-ціха, затрымаўшы дух, перашоў пад вызначаную хвойку і стаў за ёй з боку лесу. Вось чалавек перашоў палянку. Затрымаўся, прыслухоўваецца. Цішыня. Янка чуе нават стук свайго сэрца. „Каб хаця не зьмяніў напрамак",—падумаў. Чалавек пастаяў, азірнуўся, разгарнуў рукамі галінкі

арэшніку і палез у гушчар. Яшчэ некалькі крокаў—і ён падойдзе да хвойкі... Павярнуў управа якраз у трох кроках ад Янкі. Два Янкавы скокі. І адначасна, як чалавек пачуў гук скоку, Янка аднэй рукой схапіў за стрэльбу, другой накіраваў да чалавека рэвольвэр.

— Ціха. Ні гуку. Зараз галаву прастрэлю,—прамовіў ня зусім голасна. Той ад нечаканасьці і спалоху аж прысеў да зямлі і мусіць ня мог крыкнуць. Янка без усялякай перашкоды сьцягнуў стрэльбу з плечаў.

— Не забівайце мяне,—прамовіў чалавек дрыжачым спалоханым голасам.

— Ты хто?

— Тутэйшы селянін.

— Куды ішоў?

— У... у вёску.

— Чаго?

Незнаёмы крыху спыніўся з адказам.

— Кажы!

— Ішоў па жыўнасьць.

Янка хацеў яшчэ пытаць, як пачуў адтуль, дзе і раней, больш моцны шолам. Змоўк і пачаў прыслухоўвацца. Чуваць было, што нехта ізноў ішоў, але мусіць не адзін. Чалавек, за якім Янка пільна сачыў, пераступіўся з нагі на ногу.

— Гэта твае ідуць?—запытаўся Янка і, калі незнаёмы не адказаў адразу, прысунуў бліжэй рэвольвэр.

— Так, з нашага атраду,—пасьпяшыўся адказаць.

— Колькі іх?

— Пяць чалавек.

„Ну, цяпер мусіць не ўцячэш, а ўцякаць трэба“,—прабегла думка, і ўжо палец націскаў спуск рэвольвэру, каб застрэліць затрыманага бандыта.

— Чаму ты ня з імі ішоў?—запытаўся Янка, і сам ня ведаючы навошта.

— Мяне паслалі наперад у разьведку.

— А як ты павінен папярэдзіць іх аб небясьпецы?—запытаўся Янка і раптам стварыў плян дзейнічаньня.

— Мы ўмовіліся, што я павінен сьвіснуць.

— Ну, глядзі, кажы праўду, я зараз сьвісну, і калі яны не затрымаюцца, ты ляжаш мёртвым тут на месцы. У такія хвіліны не жартуюць.

— Я праўду сказаў.

Янка сьвіснуў і пачаў прыслухоўвацца. Адазваліся чамусьці, сьвіснуўшы таксама раз. Ізноў цішыня, відаць, затрымаліся.

— А каб рушыць іх з месца, які сыгнал?

— Два разы сьвіснуць.

— Ну цяпер ідзі, але ціха, падымай ногі, бо як я дапамагу падняць, будзе горш.

Асьцярожна і ціха крануліся з месца ў напрамку ўскрайку лесу. Адышоўшы значную адлегласьць, Янка моцна сьвіснуў два разы. Здалёку, быццам адгалосак, пачуліся два сьвісткі. Янка пачакаў і, як пачуў ізноў шолам, пачаў пасоўвацца наперад, трымаючы бандытаў на пэўнай адлегласьці. Убачыўшы, што лес пачынае сьвятлець, сьвіснуў раз, каб затрымаліся. Тыя таксама адказалі сьвістам.

„Каб хоць са сваіх не пачаў страляць, а то сапсуюць усю справу“,— падумаў Янка, як прыпомніў, што пачулі сьвіст і ў сваім атрадзе. Атрад сапраўды пачуў сьвіст. Калі Янка падышоў зусім блізка да ўскрайку лесу, пачуў голасны воклік „хто ідзе?“, ды гучна так, аж рэха пакацілася па лесе. Янка ўздрыгнуў ад такой неасьцярожнасьці сваіх. „Сапсавалі дурні ўсю справу“,—вылаяўся ў думках. Адазваўся ня так голасна. Тыя, відаць, не пазналі па галосе—„стой“—скамандавалі. Што тут рабіць? Бліжэй не дайсьці, пачнуць страляць. Назваў сябе і паклікаў па прозьвішчы двух таварышоў, якія павінны былі тут знаходзіцца. Пасьля некаторых перамоў Янку пазналі. Зышліся.

— Перадайце па ланцугу, па пятнаццаць чалавек справа і зьлева, сабрацца як найхутчэй сюды. Ціха і асьцярожна.

Неўзабаве сабраліся. Янка растлумачыў коратка свой плян, адаслаўшы далей з вартай злоўленага. „Узяць жывымі. Чалавек восем адразу кінуцца і хапаць за стрэльбы. Рэшта сачыць, каб сваіх не паранілі і, калі будзе патрэбна, дзейнічаць штыкамі. Кінуцца тады, як я сьвісну адзін раз“.

Выбраў для засады месца на ўскрайку лесу, дзе было больш кустоў. Рассадзіў хлопцаў у кустох так, каб можна было кінуцца з двух бакоў. Калі ўсё было гатова, а прашло ня больш трох хвілін, Янка падаўся ў лес і сьвіснуў два разы. Пачуўся адказ, і шолам прыбліжаўся і рабіўся больш выразным. Сьвіснуў яшчэ два разы, каб надаць жаданы напрамак, і сам, вышаўшы з лесу, схаваўся ў кустох крыху далей засады, але так, каб бачыць гэтае месца. Хвіліна, якая прашла, здавалася гадзінай, здавалася, што бандыты пашлі ў іншым напрамку, бо і трэск галінак заціх. Нарэшце з лясного гушчару паказаліся цёмныя чалавечыя постаці, якія пасоўваліся наперад. „Каб хоць не заўважылі засаду“,—падумаў Янка, сьвіснуў раз і пабег у кірунку засады. Адначасна са сьвістам Янка бачыў, як цёмныя постаці павялічыліся, зьмяшаліся і парушылі цішыню злоснымі крыкамі. Стрэлаў ня было чуць. Калі Янка падбег, дык убачыў, што некалькі чалавек качаліся яшчэ на зямлі, рэшта змагаліся стоячы, тузалі за стрэльбы, і хутка пяць абязброеных чалавек стаялі акружаныя атрадам.

— Гэтыя шэльмы ішлі якраз асьцярожна, са стрэльбай на руках,— апавядалі Янку таварышы,—дык мы ня лезьлі на стрэльбы, прапусьцілі

іх крыху і накінуліся з бакоў і з тылу. Памяшаліся і ня ведалі, хто свае, а хто чужыя.

— Мне дык нехта штыком абадраў да крыві руку,—казаў адзін.

— Ну, што? папаліся?—жартавалі з бандытаў,—ня ўмееце хадзіць ноччу, а яшчэ бандыты.

— Прывядзеце таго першага,—загадаў Янка,—зараз мы іх пазнаёмім. Адшукайце ў ланцугу тав. Пятроўскага.

У гэты момант якраз вялі да купы і першага бандыта.

— Ах ты, боская сволач! Варона дурная, сам папаўся і нас упёк,—вылаяўся голасна адзін з бандытаў, калі за крокаў дваццаць убачыў пад канвоем свайго разьведчыка.—Баяўся, дык навошта цябе чэрці несьлі ў лес?! Мы твае бакі яшчэ памацаем!

Пасьля гэтай лаянкі першы бандыт і вартаўнікі затрымаліся. Відаць было, што вартаўнікі цягнулі бандыта, а той не хацеў ісьці, упіраўся.

— Таварыш Пралеска, хадзеце сюды,—паклікалі Янку. Той падышоў.

— Ня хоча ісьці да сваіх, і нічога ня можам зрабіць,—скардзіліся вартаўнікі.

— Дык што з ім цырымоніцца! Вас, здаецца, двое і з адным ня ўправіцеся,—адказаў нездаволена Янка.

— Таварыш начальнік!—зьвярнуўся бандыт да Янкі,—не вядзеце мяне да тых і не садзеце разам з імі, бо яны мяне заб'юць.

— Добра мусіць даслужыў ім? Ну, што-ж, я споўню просьбу, але пад умовай, што ты зараз мне скажаш хто, колькі па ліку і ў якім месцы астаўся яшчэ ў гэтым лесе. Дык і наогул, калі скажаш праўду, будзе гэта прынята пад увагу пры вызначэньні кары.

Бандыт маўчаў, мусіць думаў, як лепей паступіць.

— Я скажу вам усё,—прамовіў праз хвілінку ціха, каб не пачулі рэшта бандытаў,—тут у лесе знаходзіцца штаб бандытаў.

— Мы і без цябе гэта ведаем,—перабіў Янка,—называй усіх іх па прозьвішчах і ў якім месцы знаходзяцца.

— Знаходзіцца тут галоўны кіраўнік, сам пан Мірскі, тутэйшай парафіі, воласьці; яшчэ пан Рычкоўскі і Грыміч, таксама з тутэйшых фольваркаў. Трох іншых асоб тутэйшага павету прозьвішча ня ведаю. Рэшта нятутэйшыя. Усяго чалавек дваццаць будзе. Месьцяцца яны ў дзьвёх зямлянках на ўзгорку ў заходняй частцы лесу, недалёка ад месца, дзе лес канчаецца і пачынаецца балота.

— Заўтра будзем ведаць, ці сказаў ты праўду. Пакуль-што адвядзеце яго ў вёску і трымайце паасобку ад рэшты.

Хутка прышоў і Пятроўскі.

— Таварыш Пятроўскі, вазьмі з твайго левага крыла пару конных, адтуль бліжэй будзе, і пашлі зараз-жа да чырвонаармейскай часткі. Заўтра на досьвітках начнем аблаву, каб захапіць штаб. Яны сваё праваe

крыло павінны праз лес зьвязацца з нашым левым і абхапіць ланцугом паўднёвую ўскраінку лесу, аж да балота. Мы яшчэ да аблавы працягнем наша правае крыло паміж балотам і лесам да іх левага крыла. Аб гэтым я зараз падрабязна напішу. Хай толькі, як мага, сьпяшаюцца, бо калі хоць на поўгадзіны спозьнімся, нічога ня выйдзе.

---

Аблава пачалася сваячасна, на досьвітках. Янка перашоў на вучастак, дзе павінен быў знаходзіцца бандыцкі штаб. Як больш пасьвятлела, можна было пасоўвацца хутчэй. З узыходам сонца абодва атрады зышліся, прашоўшы ланцугом лес з двух бакоў, а бандытаў не аказалася. Адшукалі і зямлянкі. Яны былі пустыя. Пакінутыя рэчы і наогул унутраны выгляд зямлянак сьведчыў аб тым, што бандыты былі нечакана спалоханы і ўцякалі, пакінуўшы ўсё. Янка распытваў тых таварышоў, якія йшлі ад балота, распытваў вайсковых камандзіраў, як ішлі іх роты. Усё аказваецца было, як і трэба: усе месцы былі заняты сваячасна, ланцуг быў досыць густы, пачалася аблава з усіх бакоў. А бандытаў няма. Ня мог Янка нічога прыдумаць, дагадацца, якім спосабам уцяклі бандыты. Пусьціцца за імі ў здагон ня было сэнсу, бо яны ўжо пасьпелі ўцячы за фронт. Асталося сабраць атрад і вярнуцца ў вёску на супачынак пасьля праведзенай бяз сну ночы.

Каля 10 гадзіны атрад вярнуўся ў вёску. Усе кінуліся спаць, хто ў сад, хто на салому ў клуню. Янка лёг таксама паспаць у клеці на ложку. Пад вечар яго адшукаў і разбудзіў Пятроўскі.

— Ведаеш што? Я зараз дапытваў гэтых пяцёх бандытаў, што злавілі ноччу. Спачатку нічога не гаварылі. Потым як даведаліся, што аблава не дала ніякіх вынікаў, сказалі, што ўчора за імі йшоў яшчэ адзін бандыт, якога мы не злавілі.

— Ну, так цяпер усё ясна і ён пасьпеў папярэдзіць Мірскага раней, чымся мы зьвязаліся ланцугом з вайсковай часткай. Прывядзі зараз на допыт гэтага прахвоста, што я злавіў. Не сказаў, сволач, нічога пра шостага бандыта.

— Цяпер, як хочаш, дапытвай яго, усё роўна позна.

— Позна то позна, толькі мы высьветлім, чаму тыя яго так ня любяць і ён нават баіцца іх. Гэта цікава. Нешта асаблівае павінна тут быць.

Янка ўстаў, вышаў на двор і сеў на прызьбе. На ганку сядзела некалькі сялян, відаць, з іншых вёсак. З хаты вышлі яшчэ тры-чатыры чалавекі. Сярод іх быў і амаль неразлучны з атрадам Маргонак. Янка яго называў, жартуючы, сваім ад'ютантам. Сяляне заўсёды прыходзілі або паведаміць аб бандытах, або пагутарыць. Вось і цяпер яны сабраліся да „галоўнага штабу“ атраду і чакалі, як толькі ўстануць „старшыя“. Убачыўшы Янку, сабраліся да яго і пачалася размова. З вуліцы падышло яшчэ некалькі чалавек ужо з гэтай вёскі.

— Што вы, таварышы, будзеце рабіць са злоўленымі бандытамі?— запытаўся ў Янкі худы з рыжаватай бародкай селянін.

— Пашлём у Рэвтрыбунал, а той, можа, і расстраляе больш віноўных.

— Няўжо не памілуюць іх?—заўважыў другі селянін.

— Мы-ж абвясьцілі, што хто зьявіцца сам, ня будзе несьці ніякае адказнасьці. Гэтыя злоўленыя рашылі змагацца з намі сьвядома, і трыбунал пакарае іх у залежнасьці ад віны кожнага.

— Так трэба іх пасадзіць у Допр і—хопіць.

— А як вы зловіце злодзея-канакрада, дык не чакаеце, пакуль пасадзяць у Допр, а часам забіваеце самасудам.

— Канакрада і трэба забіваць. Украсьці ад селяніна каня—усё роўна што адсеч яму галаву,—прапаў чалавек.

— Бачыце, вось вы жадаеце, каб забівалі канакрада. Гэта таму, што тут асабістая крыўда, выразная, відавочная. Бандыт больш небясьпечны, чымся канакрад, толькі ён робіць шкоду не паасобнаму чалавеку, а ўсёй грамадзе, ён дапамагае нашым ворагам, буржуазіі вярнуць сваё багацьце, сваю ўладу; і ня дзіва, што агульную грамадзкую шкоду кожны з вас так не адчуе, не заўважыць, як сваю асабістую.

— Гэта-ж праўда, што свая асабістая бяда бліжэй.

Прывялі затрыманага ўчора бандыта. Цяпер толькі Янка мог прыгледзецца да яго бліжэй. Высокага росту, здаровы, з інтэлігентным выглядам твар, барада і вусы раней, відаць, былі гладка выгалены і цяпер вырасьлі жорсткай шчацінай. Добрае яшчэ, хоць і паношанае, паліто. Хромавыя, з высокімі халявамі, боты. Запэцканая, непачышчаная вопратка і агульны скудлачаны выгляд рабілі яго постаць дзікай, сьмешнай і крыху дзівацкай. Глядзеў коса з-пад лобу на Янку і прысутных сялян.

— Чаму ты не сказаў учора, што быў шосты бандыт з тымі пяцьма?— пачаў дапытвацца Янка.

— Вы ў мяне ня пыталі.

— Як-жа я ня пытаў? Я пытаў, колькі і дзе бандытаў, і папераджаў гаварыць толькі праўду. І атрымаў адказ, што іх было пяць, а ў сапраўднасьці—было шэсьць.

Бандыт маўчаў. Відаць, не хацеў адказваць, чаму ілгаў учора.

— Хто ты такі і адкуль?

— Я селянін з...

— Кінь дурака валяць. Я сам за вярсту пазнаю, хто селянін і хто не. Кожная дрэнь цяпер апранаецца ў сялянскую скуру. Але мы ваўка ад авечкі адрозьнім, дарма ён прыкідваецца. Лепш прызнайся, хто ты.

Сяляне, як толькі Янка пачаў дапытваць, змоўклі і прыглядаліся к бандыту. Пры апошніх словах Янкі, усе ўтаропілі вочы на бандыта.

Янка чакаў адказу.

— Таварышы, можа я мылюся,—адазваўся першы селянін з рыжай бародкай,—ці ня будзе гэта ксёндз з Замоскай парафіі, вельмі ўжо падобны на яго.

Бандыт апусьціў вочы і быццам пачырванеў.

— Здымеце шапку і схілеце галаву,—дадаў Янка, незразумелы спачатку для ўсіх, загад.

І калі бандыт схіліў галаву, усе заўважылі малы, як пятак, выпалены на патыліцы кружок.

— Праўду сказаў, не памыліўся. Бачыце, вось „боскае благаславеньне“. Ну, дык цяпер можа вы, пане пробашч, скажаце, чаму вы прамянялі крыж на стрэльбу; аружжа, якое забівае ў чалавека розум і пачуцьцё, на аружжа, якое наогул забівае чалавека?—спытаўся, падышоўшы да бандыта.

— Я пашоў з народам...—адказаў той з панура апушчанаю галавою.

— З якім-жа гэта народам вы пашлі? З тым, што няўзброеным людзям шчэпіць на кавалачкі галовы, разразае грудзі і жывот? З тым, што змагаецца за зварот свайго багацьця? З панам Мірскім проці хама, скажам для прыкладу, Маргонка? Цяпер я, ды і ўсе тут прысутныя зразумелі, з якім вы пашлі народам. Вось учора вы са спакойным сумленьнем аддалі ў нашы рукі пяць „хлопаў“, але ня выдалі шостага, каб ратаваць пана Мірскага з рэшткай паноў. Бо, каб мы злавілі шостага, бандыцкаму штабу не ўцячы. Цяпер я разумею, чаму ўчора гэтыя пяць вас так „далікатна“ спаткалі, што паабяцалі памацаць бакі.

Сяляне слухалі ўпрост з адчыненымі ратамі, некаторыя ўсьміхаліся.

— Ну, больш я ня маю вам нічога сказаць. І вы хіба нічога новага ня скажаце. Ды і навошта вашы словы,—відаць па ўчынках. Адвядзеце і трымайце пад моцнай вартай.

Пасьля допыту Янка рашыў вярнуцца ў горад, пакінуўшы тут яшчэ на некалькі дзён атрад, з Пятроўскім на чале, для вылаўленьня некаторых бандытаў-адзінак. Разам з ім накіраваліся да дому сяляне, якім было па дарозе. Каб пагутарыць з імі, Янка ўзяў каня за повад і пашоў пехатой. Гутарка завязалася на тэму пра папоў, рэлігію, аб веруючых і г. д. Янку ня трэба было спрачацца з сялянамі на гэту тэму, бо Маргонак ня любіў папоў і ксяндзоў і даводзіў цяпер, што яны існуюць толькі для ўласнай карысьці. Былі і такія, што супярэчылі Маргонку, але той заўсёды знаходзіў які-небудзь факт з жыцьця і падмацоўваў ім сваю думку. Дык ужо ня было ахвотнікаў з ім спрачацца, і ён апавядаў адно здарэньне за другім.

— Вы, таварыш старшыня, пэўна праяжджалі праз Слабодзкую воласьць і пэўна бачылі там, недалёка ад вёскі Багунцы на ўзгорку стаяць вянком высокія старыя ліпы. Ім ужо хіба больш сотні гадоў. Выраступь адны, састарацца, зломіць вецер, адрастуць маладыя. Так і мяняюцца. А паміж ліп круглы, як люстэрка, зялёны і стракаты ад красак лужок. Прыгожая такая мясьцінка. Яе кожны, хто праяжджае міма, абавязкова заўважыць.

— Прыпамінаю, бачыў і я гэтае месца.

— Дык вось, я чуў ад свайго бацькі, што на гэтым месцы даўней стаяў касьцёл. Невялічкі, драўняны, стары, з дзюравай гонтавай стрэхай. Недалёка ад касьцёла стаяла такая-ж маленькая старая плябаня. А з другога боку касьцёла быў домік жыдка Шлёмы. Больш ніхто тут і ня жыў. Нуда адна і глуш. У сьвята прыедуць у касьцёл, паставяць фурманкі на пляцы за касьцёлам. Зойдуць на набажэнства, пагутараць перад касьцёлам і разьедуцца дамоў. У буднія дні хіба баба якая прыдзе да споведзі; пуста, нікога няма. Парафія маленькая, бедная, непрыбытковая. Няма за што рамантаваць касьцёл і плябаню. Ксёндз хадзіў у старой палатанай сутане. Няма заробку і Шлёме. Зойдзе хто выпіць поўкварты гарэлкі, купіць хто-небудзь у пост фунт селядца (хоць Шлёма і ня меў нават крамы), перад сьвятам, хто-небудзь з далёкіх часам заначуе. Жыў Шлёма бедна, хадзіў у парваным зашмальцаваным лапсардаку, ня меў на шабас ні халы ні фаршыраванай рыбы.

— Кепска жыць, пане прабошчу,—кажа заўсёды Шлёма, як спаткае свайго адзінага суседа-ксяндза.

— Кепска, пане Шлёма.

Так абодва заўсёды зойдуцца, пабядуюць і нічога параіць адзін аднаму ня могуць.

Вось аднойчы яны таксама спаткаліся.

— Дзень добры, пане прабошчу.

— Дзень добры, пане Шлёма.

— Кепска жыць, пане прабошчу.

— Кепска, пане Шлёма.

— Ну, дык чаму нам не паспрабаваць жыць лепей, пане прабошчу?

— Ня ведаю, як гэта зрабіць, хіба вышэйшы бог дапаможа.

— А чаму-б пану богу не дапамагчы нам! Бывае, напрыклад, то там, то сям які-небудзь цуд, а ў нас нічога. Трэба, каб што-небудзь і ў нас сталася.

Тут нешта Шлёма сказаў на вуха ксяндзу. Потым абодва доўга яшчэ гаварылі, бедавалі і разышліся.

Раніцай заўважылі, што на верхавінцы аднэй высокай ліпы, у густых яе галінках, стаіць абраз. Вестка хутка абляцела ўсю ваколіцу. Сабраўся народ, як на нязвычайнае дзіва. Ксёндз растлумачыў, што зьявіўся цудоўны абраз маткі боскай. Дасталі абраз з ліпы, з вялікай царамоніяй і набажэнствам перанесьлі яго ў касьцёл, паставілі ў асяродку аўтара.

— Ці не пра гэты абраз,—папытаўся жартаўліва адзін з сялян,— ходзіць у народзе і дагэтуль такая прыказка:

Стаўся цуд аднаго разу,
Дзед прамовіў да абразу,
А абраз яму ні слова,
Гэткай была іх размова.

— Ня ведаю, можа і пра гэты, але слухайце далей. Вестка пра цудоўны абраз разышлася далёка-далёка. Ня толькі са сваёй парафіі, але і з іншых парафій і нават з далёкіх гарадоў пачалі прыяжджаць маліцца. Прыяжджалі пераважна больш багатыя і тыя з іх, якім ад бога чаго-небудзь трэба: выздаравець, удатна жаніцца, павялічыць багацьце, дзяцей нажыць. Адным словам, шмат ёсьць патрэб. Ну, і прасілі ў бога не задарма. Прывозілі вялікія ахвяры.

З таго часу жыцьцё вельмі палепшылася. Ксёндз за багатыя ахвяры атрамантаваў касьцёл, пабудаваў новую плябаню, агарадзіў цьвінтар, завёў гаспадарку, кароў, купіў жарабца, наняў некалькі служачых. Зажыў раскошна. У Шлёмы таксама справы пашлі добра. Прыяжджаюць здалёк да цудоўнага абразу. Заяжджаюць да Шлёмы начаваць, купляюць усё, што ім патрэбна. А ўсе такія багатыя плацяць добра. Шлёма з прыбыткаў пабудаваў сабе вялікі заежджы дом з мэбляванымі пакоямі для начлегу, пабудаваў стайню, адкрыў багатую краму, таксама набыў гаспадарку, наняў служачых. Цяпёр ужо Шлёма ў сьвята хадзіў у люстрынавым халаце, аксамітнай ярмолцы, новых з лепшай скуры ботах; жонка апранала ядвабную сукню, дачку Хаю паслалі ў горад вучыцца. Адным словам, і пробашч і Шлёма разбагацелі і ня скардзіліся больш на жыцьцё.

Аднойчы прыехаў з гораду багаты пан. Прыехаў памаліцца перад цудоўным абразам, пакласьці шчодрыя ахвяры, каб выздаравець. Ён усюды езьдзіў маліцца, шмат аб'ехаў і дактароў, а ўсё не памагала. Вось гэты багаты пан заехаў начаваць да Шлёмы. Пачаў з ім гаварыць, далікатны такі, гутарлівы, пачаў у Шлёмы распытваць аб усім і пытае ў яго:

— Вы тут блізка жывіцё, усе да вас заяжджаюць, з усімі гутарыце, і пэўна ўсё, што дзеецца, ведаеце. Скажэце мне, ці памог каму і ці моцна памог тутэйшы цудоўны абраз?

— Ня ведаю, вяльможны пане, як каму, але двум людзям дык ён памог і моцна памог.

— Каму-ж гэта,—пытае пан.

— Ксяндзу і мне,—адказвае з таемнай ухмылкай Шлёма.

Сяляне зарагаталі.

— Вось хітры быў бэстыя, так лоўка адказаў,—заўважыў адзін з іх.

— Ну, а што-ж сталася далей з касьцёлам, прабошчам і Шлёмай?

— Шмат часу прашло, як зьявіўся цудоўны абраз. Быў аднойчы вялікі фэст. Панаехала народу бяз ліку. Касьцёл і цьвінтар перапоўніліся. Увесь пашыраны цяпер пляц за касьцёлам заставілі фурманкамі. Як і ў кожны фэст, многа клалі ахвяр. Чаго тут толькі ня было: масла, кумпякі, яйкі, сала, сыры, каўбасы, дываны, абрусы, кавалкі, а то і цэлыя трубкі кужалю, палатна ўсялякага, чосанага ільну, кудзелі, воўны, ручнікі. Перад аўтаром, дзе стаяў цудоўны абраз, завалілі поўны кут. І вось у час

набажэнства, а яно адбывалася перад другім аўтаром, калі касьцёл быў бітком набіты людзьмі, звалілася з аўтара запаленая сьвечка, ды ў кудзелю. Запаліліся раней ахвяры, потым абрус на аўтары, аўтар, сьцяна столь. Полымя хутка абхапіла ўвесь касьцёл. Стварыўся нязвычайны перапалох і цесната. Усе пасунуліся да дзьвярэй. А дзьверы толькі адны і тыя невялікія. Крык, енкі, плач. З цьвінтару кінуліся ў касьцёл ратаваць сваіх: у каго жонка, у каго матка, сястра, дзеці. Яшчэ больш запячаталі дзьверы—ні туды, ні сюды. А агонь бушаваў. Шмат народу так і загінула, згарэла. Загінуў у вагні і ксёндз. Гэта было даўно. Майму бацьку ўжо 70 год, а ён яшчэ не памятае гэтага. Памятаў аб гэтым здарэньні старшы брат бацькі, які памёр гадоў ужо 15. У часе пажару ён быў невялічкім яшчэ хлапцом-падросткам.

— А куды дзеўся Шлёма?

— Пасьля таго, як згарэў касьцёл і плябаня, якая стаяла бліжэй да касьцёлу, Шлёма прадаў свае будынкі хутаранам, сам выехаў у горад і зрабіўся там купцом. Месца, дзе стаяў дом Шлёмы і плябаня, зааралі і цяпер не пазнаць. Каменьні з-пад касьцёльнага фундаманту паразвозілі сяляне сабе на будову, месца вычысьцілі і зраўналі. У год, калі ў гэтым полі бывае жыта, на лужок сярод ліп зьбіраецца моладзь гуляць у карагоды, скокі. Вельмі прыгожая мясьцінка. А ноччу дык, кажуць, боязна там хадзіць: усялякія страхі паказваюцца,—кончыў Маргонак сваё апавяданьне.

— Ну, таварышы, мне далей, як вам, а сонца ўжо нявысока. Трэба сьпяшацца. Дзякую вам за дапамогу ў нашай працы. Бывайце здаровы!— адвітаўся, сядаючы на каня, і ад'ехаў.

— Трэба будзе хутка правесьці перавыбары ўсіх валвыканкомаў,—раздумваў едучы Янка,—маемасьць бандытаў прыдзецца конфіскаваць, ды яшчэ конфіскаваць частку маемасьці і абкроіць лішак зямлі ў кулакоў, каб ня квапіліся больш бунтаваць. Падзелім усё гэта паміж беднатой, дык будзе больш уладзе карысьці. Каб толькі фронт утрымаўся! Працу наладзім хутка. Шкада згубы таварышоў, асабліва Яэапа і Антона. Няма кім іх замяніць, не хапае добрых працаўнікоў, а працы многа. Цяжка працаваць. Што там дзеецца ў горадзе: амаль ня меў вестак. А ўжо нярана, трэба пасьпяшацца. І пры гэтай думцы пусьціў каня галёпам, пакідаючы за сабой доўгі хвост куравы.

---

Пасьля ліквідацыі бандытызму трэба было замацаваць створаны пералом у настроях сялянства. Праводзіліся перавыбары ўсіх выканкомаў, адабраньне маемасьці і лішку зямлі ад актыўных удзельнікаў бандытызму і кулакоў і падзел яе сярод беднаты.

Аднак, становішча на фронце рабілася ўсё больш небясьпечным. Адарваны ад газэт і вестак у часе ліквідацыі бандытызму, Янка яшчэ ня ведаў добра, што дзеецца на фронце, таму вестка аб тым, што палякі занялі Менск і пасоўваюцца хутка наперад, была для яго неспадзяванай.

Некалькі дзён прашло, як Янка вярнуўся ў горад, а палякі дашлі ўжо да Талькі. Магчымасьць ня толькі паехаць да Алесі, але напісаць ёй была зноў страчана. Гэткае становішча засмуціла Янку. Раней, калі яшчэ было можна пісаць Алесі і паехаць да яе, Янка неяк прызвычаіўся да факту доўгага расстаньня з Алесяй, то цяпер ён больш яскрава адчуў, як моцна яе кахае, якое моцнае было жаданьне пабачыцца з ёю. Гэтае другое расстаньне з Алесяй было неяк інстынктыўна больш цяжкім, чымся першае. Непакоілі яго весткі апошняга Алесінага лісту. Хто ведае, ці ўдасца хутка прагнаць палякоў, ці ня ляжа фронт сьцяной, што разлучыць назаўсёды. Цяпер у Янкі зьявілася моцнае жаданьне паехаць на фронт, прымаць удзел у бойках, у наступленьні, якраз у тым раёне, дзе жыве Алеся. „Вось будзе нечаканае і радаснае спатканьне з Алесяй“,— мільгала ў думцы. І толькі пільнасьць працы, якой стала больш пасьля таго, як падблізіўся фронт, затрымлівала яго. Затрымлівала і тое, што ўсе злоўленыя бандыты ня былі яшчэ адпраўлены ў губэрскі рэволюцыйны трыбунал, бо трэба было закончыць допыты, аформаваць акты абвінавачаньня і г. д. Усім гэтым займаўся загадчык юрыдычнага аддзелу Гурка, назначаны пасьля арышту Юргіса. Аб ходзе допытаў і больш цікавых яго момантах ён дакладваў Янку, раіўся з ім, як далей весьці справу.

Аднойчы, калі ўжо справы былі амаль закончаны, Гурка прыбег да Янкі.

— Таварыш Пралеска, я прышоў да вас параіцца. Прышоў да мяне нейкі чалавек; спачатку сказаў, што хоча даць паказаньне па справе пяці бандытаў, злоўленых пры апошняй аблаве. Потым, як усе вышлі, запрапанаваў мне досыць значную суму грошай, як хабар, каб садзейнічаць як-небудзь вызваленьню гэтых бандытаў. Калі я адмовіўся ўзяць, дык ён пачаў угаварваць і прызнаўся, што мае яшчэ большую суму грошай для вас, як старшыні выканкому. Просіць мяне, каб я наладзіў яму спатканьне з вамі. Што мне рабіць?

Янка пару хвілін думаў і абмяркоўваў. У душы ён быў здаволены шчырасьцю, чэснасьцю і прастатой Гурка.

— Ну, калі яны маюць так многа грошай і няма куды іх дзець, дык трэба ўзяць,—патрэба знойдзецца на іх. Прыдзеце з незнаёмым у выканком, я туды зараз іду. Пазванеце Пятроўскаму, каб паслаў аднаго міліцыянэра.

Гурка пашоў у свой аддзел, а Янка накіраваўся ў выканком. Некалькі хвілін ён хадзіў па пакоі, а як пачуў крокі, сеў за стол. Разам з Гурко ў пакой увашоў высокага росту, з цёмнымі вусамі, гладка выгалены мужчына гадоў 35-ці, апрануты ў шэры крамны гарнітур і такую-ж па колеры кепку.

— Ну, што вы хочаце мне сказаць?—запытаўся спакойна Янка.

— Хачу прасіць вас, каб вы вызвалілі пяць чалавек, затрыманых у Ямпольскай воласьці. Яны нікога не забілі, не абрабавалі і віна іх не-

вялікая. А за такую ласку я вам, як магу, аддзякую,—прамовіў незнаёмы, ўпэўнены ў посьпеху сваёй справы, і палажыў перад Янкам на стол дзьве пачкі грошай: адну мікалаеўскімі, другую керанкамі.

— Колькі тут ёсьць грошай?—запытаўся Янка.

— Мікалаеўскімі 50 тысяч, а керанкамі—300 тысяч.

— А колькі яму далі?—паказаў, кіўнуўшы галавой у бок Гурка.

— 200 тысяч.

— Ну, цяпер пералічэце, ці ёсьць тут столькі.

Незнаёмы і Гурка пачалі пералічваць грошы.

— Цяпер скажэце, хто вам параіў зьвярнуцца да мяне з гэткай просьбай,—запытаў Янка потым, як грошы былі пералічаны.

— Быўшы старшыня Ямпольскага валвыканкому і яшчэ загадчык павятовага аддзелу аховы здароўя.

— А хто вас паслаў і даў грошай?

— Гэта, выбачайце, я не магу сказаць.

Янка, замест пытацца далей, пазваніў. У пакой увашоў міліцыянэр.

— Вы арыштаваны,—сказаў Янка незнаёмаму,—аддайце дакуманты вашы і, апрача таго, раю вам сказаць хто вы, адкуль і хто вас прыслаў.

Незнаёмы, відаць, ніяк не чакаў такога звароту справы. Спалохаўся, пабляднеў і пачаў прасіць, каб яго адпусьцілі.

— Адвядзеце яго, таварыш міліцыянэр, у юрыдычны аддзел. Зараз загадчык пойдзе туды і ў яго яшчэ запытаецца пра што-небудзь.

Незнаёмы ўсё яшчэ лемантаваў, але міліцыянэр адчыніў дзьверы і вывеў яго.

— Цяпер, таварыш Гурко, напішэце акт, грошы здайце ў грашовы аддзел і арыштуйце абодвух дарадчыкаў бандыта. Загад аб арышце я зараз напішу.

— Я яшчэ, тав. Пралеска, чуў, што загадчык аддзелу аховы здароўя распаўсюджваў у горадзе чуткі, быццам вы за хабар адпушчалі бандытаў, калі былі з атрадам на павеце.

— Ад яго можна было і гэтага спадзявацца. Шкадую, што яго ня звольніў з пасады раней; праца па яго аддзелу ўсё кульгала, а як толькі зробіш заўвагі, дык тады незадаволены і ходзіць надуты. Працы многа, а добрых працаўнікоў мала і няма з кім працаваць. Няма Язэпа і Антона: такіх працаўнікоў, як яны, нямнога.

---

На другі дзень пасьля гэтага выпадку заўважылі, што з Допру ўцяклі гэтыя ўсе цяць бандытаў. Сядзелі яны ў асобнай камэры, выпілавалі ноччу жалезную крату, спусьціліся з другога паверху па вяроўцы, прывязанай да краты, і ўцяклі. Зьнікнуў недзе і вартаўнік, што стаяў звонку Допру. Ці ён быў падкуплены і ўцёк разам з бандытамі, ці ўцёк таму, што баяўся кары,—невядома. Адшукаць і затрымаць бандытаў не ўдалося. Відаць, патрапілі ўцячы за фронт. У арыштаванага, які даваў

хабар, дапыталіся, што яго з-за фронту прыслаў пан Мірскі, каб выкупіць ці дапамагчы ўцячы гэтым пяці бандытам. Як ім удалося арганізацыя ўцёку, хто дапамог, так і засталося нявысьветленым.

Фронт усё больш і больш падсоўваўся, і хутка змусіў эвакуавацъ выканком і ўсе грамадзкія ўстановы. Увесь павет быў заняты палякамі.

---

З грукатам, глухім ад вялікага цяжару, праз спаленыя станцыі, зьнішчаныя і часова наладжаныя масты, з доўгімі супынкамі на станцыях, каля сэмафораў, доўгай чырвонай стужкай бяжыць поезд—вайсковы эшалён. Бяжыць у той бок, на захад, куды прыцягваецца ўвага ўсіх. Ліпнёвае сонца нязвычайна паліць, у вагонах палка і душна, асабліва дапякае сонца ў часе супынкаў на станцыях, а ў дарозе ў вагоны забіваецца курава ад сухога пяску на чыгунцы. Праз адчыненыя дзьверы вагонаў мільгаюць малюнкі беларускай зямлі, тыя ці іншыя сьляды вайны: спаленыя вёскі, грамадзкія будынкі, фабрыкі, заводы,—усё, што мела больш значную грамадзкую вартасьць, зьнішчана палякамі. У некаторых мясцох сьляды нядаўнай крывавай бойкі: акопы, аплеценыя калючым дротам, магілкі, ямы ад снарадаў.

Ня вытрымалі польскія легіёны чырвонага штурму, адступілі. Нястрыманым струменем льлюцца чырвоныя палкі на захад, каб вызваліць ад панскай навалы здратаваную, зруйнаваную Беларусь. Першыя атрады Чырвонай арміі ўжо недзе каля брам Варшавы. На падмогу ім з усіх гарадоў, з вёсак бязьмежнай РСФСР ідуць новыя байцы. Янкаву брыгаду з латыскага фронту перакінулі таксама на польскі, і цяпер яна двума эшалёнамі накіроўваецца на Берасьце. Ад Бабруйску да Менску знаёмая Янку чыгунка. Праўда, даўно ўжо, два гады, як ня ехаў ён па гэтай чыгунцы, але так добра яе памятае. Памятае маленькую станцыю Талька, тую самую, дзе ён быў у часе прыезду да Алесі. За гэтыя два гады ня раз думка бегла сюды і не магла адарвацца. Толькі падзеі кожны раз расьсявалі яе, рабілі больш імглістай, выклікалі іншыя думкі; аднак, Янка ўспамінаў пра Алесю, нішто не магло заглушыць гэтых успамінаў, яны захоўваліся ў патаемных кутках душы і час-ад-часу выплывалі навонку. Цяпер, калі эшалён падбліжаўся да памятнай станцыі Талькі, успаміны больш моцна захапілі Янкавы думкі. Як хваля на моры: коціцца доўга на бязьмежных прасторах, дабяжыць да берагу, з шумам хлюсьне па каменьнях, разаб'ецца на тысячы срабрыстых брызгаў, быццам пазбаўленая моцы, адплыве, змываючы пясок у мора, а за ёй другая—потым ізноў падбяжыць хваля-вал. Так і Янкавы ўспаміны выклікалі адзін малюнак за другім, беглі да Талькі, Залужжа, Алесі, ізноў варочаліся, ізноў беглі да эшалёну.

„Што яна цяпер робіць? Ці кахае мяне? Як мы спаткаемся?—запытваў сам сябе.—Чырвоная армія знаходзіцца ўжо пад Варшавай, хутка скончыцца вайна. Усё цяжэйшае засталося за намі. Можна будзе спакойна

зажыць паіншаму, пановаму... Жыць з каханай істотай... Цікава, як выглядае цяпер станцыя Талька—пэўна і яна спалена. Хутка павінна паказацца і яна... Ня відаць нешта... Вось там, за гэтым ляском. Так, так, відаць ужо дрэвы на станцыі"... думаў узварушана Янка.

„Добра было-б цяпер пабачыцца з Алесяй... Другі эшалён падыдзе за дзень або два. Можна будзе паехаць з другім эшалёнам, усё роўна ў Менску будзем стаяць дні тры... А станцыя, мусіць, спалена, ня відаць будынкаў... Залужжа ў тым баку. Вось бярозавыя прысады на шляху, далей горка, а за ёй пад тым вунь лесам і Залужжа... Як яна мяне спаткае? Вось будзе неспадзявана... Паеду конна, хутчэй будзе... Сёньня так палка, утамляе ехаць некалькі дзён. Адпачнем, як скончыцца вайна... Жыць з каханай істотай, пасьля вайны, пасьля боек... Праца для грамады сьвядомая, карысная... Алеся будзе настаўніцай або дзе працаваць на іншай пасадзе. Ці-ж гэта не ўзнагарода за працу і цяжары ў працягу апошніх гадоў?"

Эшалён павольна падыходзіў да станцыі. Абпаленыя дрэвы, поўразваленыя коміны і печы і засыпаны фундамант спаленага будынку выглядаў руінай. „Вось на гэтым ганку я пісаў ліст да Алесі... Было тады зімна, дзьмуў вецер праз разьбітыя шклы, замярзалі рукі... А настрой які быў добры!.. Як прыгожай здавалася тады гэта глухая, забытая, засыпаная сьнегам станцыя!"..

Янка зышоў з поезду, папярэдзіўшы свайго намесьніка, што будзе тут чакаць другога эшалёну і прыедзе з ім. Сеў на каня і з трывожнарадасным настроем аб'яжджаў спаленыя будынкі, каб потым імчацца галопам у Залужжа. На дварэ станцыі стаяла некалькі сялян. Янка акінуў іх поглядам. І нічога не заўважыў-бы, каб адзін з сялян ня стаў уважна прыглядацца на Янку. Янка зьвярнуў на яго ўвагу. Знаёмы твар—дзе я яго толькі бачыў, і пачаў прыпамінаць...

— Зьмітрок Лось, здаецца?—запытаўся ў селяніна.

— Ён сам і ёсьць, толькі вось гляджу на вас—быццам знаёмы, быццам не, ня ведаю і сам.

— Памятаеце, вы мяне ў 1918 годзе везьлі да Лапкоўскіх?

— Цяпер прыпомніў, добра памятаю. Дык вы знаёмы Лапкоўскіх? А цяпер хіба камісар? Як вы тут апынуліся?—сыпаў запытаньні Лось.

Янка зьлез з каня і падышоў да яго пагутарыць. Адышлі ў старонку.

— Едзем пад Варшаву вайну канчаць. Ну, як вам жывецца, таварыш Лось? Як жылося пры палякох? Што тут робіце?

— Ат, жывом і чакаем, калі будзе лепей. Спачатку пры Савецкай уладзе пачало жыцьцё паляпшацца, потым прыблізіўся фронт, стала горш: рэквізыцыі, фурманкі. Ужо чакалі некаторыя палякоў, „лепей пры іх будзе" казалі. Прышлі палякі, дык проста жыць стала немагчыма. Ніколі табе няма супакою, нідзе няма табе пашаны. Бывала, пры таварышах

што-небудзь дрэнна, дык пойдзеш у воласьць, ці прыедуць на сход— хоць палаешся. Вылаеш часам і дарма, і нічога табе няма за гэта. Бо, ведама, свае людзі, і палаяць можна, калі што ня так. А пры паляках—дык кожны пан. І словам дрэнным не адзавіся, і шапку перад кожным здымай. Цяпер так усе рады, што ізноў прышлі таварышы. Адно нядобра: пагналі ўсіх у фурманкі і не адпушчаюць. Некаторыя аж з-пад Берасьця паўцякалі. Майго хлапца таксама пагналі ў фурманкі. Вось я і прышоў паглядзець на станцыю, ці не варочаюцца фурманшчыкі. Вас, таварыш, папрашу: калі спаткаеце дзе-небудзь майго хлапца, пастарайцеся, каб яго адпусьцілі. Вы яго пазнаеце: рыжаваты хлапец на буланай кабыле.

— Абавязкова памагу яму,—адказаў Янка, хоць і не ўяўляў сабе, як ён адшукае пад Берасьцем рыжаватага хлапца на буланай кабыле.

— Што чуваць у Лапкоўскіх?—запытаўся Янка, як толькі Лось скончыў апавядаць пра сваё жыцьцё, каб хутчэй што-небудзь даведацца пра Алесю.

— А нічога сабе, добра жывуць. Усе жывы і здаровы.

— Мікалай Лапкоўскі не ажаніўся часам?

— Не, яшчэ не жаніўся,—сястру толькі старэйшую аддалі замуж.

Янка адчуў, як яму стала млосна, ногі пачалі згінацца, і моцна, быццам ад утомленасьці, застукала сэрца.

— Калі... за каго?

— Летась неяк увосень; у суседнюю парафію вышла, казалі, што за багатага, фольварак свой мае.

Больш не запытваў Янка, не хацеў выдаць Лосю свайго перажываньня.

— Ну, бывайце здаровы, таварыш Лось,—прамовіў і павёў каня ў напрамку да эшалёну.

— Дык як-жа, вы, здаецца, кудысьці ехаць зьбіраліся?

— Не, нікуды не паеду... Мне з гэтым эшалёнам.

— Хіба-ж пакланіцца Лапкоўскім?

— Ага, пакланецеся абавязкова, я нават забыў вас папрасіць, ад посьпеху гэта і эшалён хутка пойдзе.

— Пакланюся, пакланюся. Будуць рады, як успомню. А вы не забудзьце пра майго хлапца,—адазваўся ўздагон Лось,—рыжаваты, на буланай кабыле.

Эшалён крануўся з месца. Загрукалі колы. Лёгкі ветрык халадзіў праменьні нявысокага ўжо сонца. Янка сядзеў, як анямелы. І думкі кудысьці адбеглі, зьніклі, і не ўяўляў, дзе ён знаходзіцца, куды едзе. На павароце поезда, праз дзьверы вагону ўбачыў далёкія ўжо прысады на шляху. Успомніў усё, заварушылася думка абрывістая, супакойна-балючая.

„Усё скончылася. Няма больш сумненьня і надзеі. Ну, што-ж, будзь шчасьліва, дарагая Алеся. Ня маю да цябе ніякай крыўды. Ка-

хала ты мяне ці не, добраахвотна вышла замуж ці пад прымусам, кахала ты яго ці паквапілася на багацьце,—усё роўна, што сталася, ня вернеш. Толькі ты будзь шчасьліва. А я?“... Думку прарваў сьпеў, што даносіўся з суседняга вагону. Сьпявалі хорам чырвонаармейцы „Яблычка“:

Эх, яблычка,
Куды кацішся;
Варожы пан, за грахі
Ты расплацішся.

Сонца ўсё больш зьніжалася, чырванеў захад, памяншалася палкасьць. Цішыня і супакой навакол, толькі поезд грукае. Рэдкія хмаркі на небе ахварбаваліся ў залаціста-чырвоны колер. Супакойна і лагодна ўсё на выгляд, а ў душы Янкавай сум і боль. Прыемнае паветра, а дыхаць цяжка, быццам прывалены грудзі вялізнай камлыгай. Ліпнёвы вечар, чырвоны захад. І ўспомніўся Янку такі самы зачырванелы захад, родная вёска, адвітаньне з сястрой Зосяй у дзень ад‘езду на фронт, дзьве пуціны за вёскай, словы Зосі—„невядома, куды кожная з іх вядзе“.

„Так,—думаў Янка,—разьбегліся нашы пуціны ў розныя бакі і ня зышліся больш. Я, як толькі пазнаў цябе, Алеся, больш захапіўся ўласным шчасьцем, пераважала думка аб табе, аб нашым шчасьці, аб прыватных рэчах. Потым пазнаў бліжэй сьвет, спаткаўся з яго несправядлівасьцю, крыўдай і пераканаўся, што ў гэтак пабудаваным сьвеце ня можа быць шчасьця і супакою для чалавека, для больш чульлівай душы. Тады я адарваўся ад свайго прыватнага, пашоў перабудоўваць лад сьвету на лепшы, аддаўся грамадзкай справе. Перажываў шмат дрэннага, цяжкага, галадаў, мёрз, утамляўся, балеў душой, цярпеў, не шкадаваў сілы, здароўя, жыцьця,—верыў, што збудуем новы лад, што не загіне і маё шчасьце. Гэта была мая цярністая пуціна. Ты засталася дома. Цябе абкружалі тыя, каму якраз і не хацелася нічога мяняць у ладзе жыцьця. Не дачакала мяне, мо‘ сумнявалася ў маім каханьні, мо‘ сама перастала кахаць. А можа і кахала мяне, а толькі паддалася, згадзілася на... лёс.

Багаты... свой фольварк... Брыдка пабудаваны сьвет... Ты адна толькі вырасла кветкай на дрэве і... я не пасьпеў цябе сарваць... Бывай шчасьліва, а я і далей пайду сваёй абранай пуцінай і яшчэ з большым жаданьнем буду разбурваць старое, стары лад, дзе гіне шчасьце тысяч людзей, лад, які хіба загубіў і маё шчасьце. Буду з большай ахвярнасьцю будаваць такі лад, дзе каштоўнасьць чалавека не ў яго багацьці, часам нажытым за кроў і пот другіх людзей“.

Ізноў сьпеў абрывае Янкаву думку:

Хутка-ж будзе ў вас
Улада ня панская,
А рабочая
Ды сялянская.

А поезд бяжыць туды на зачырванелы захад. Грукаюць у такт колы. Рэхам разносіцца грукат іх па палетках, адбіваюцца ў Янкавым сэрцы, як тады ў сьцюдзёную асеньнюю ноч, калі ён адвітваўся з Алесяй на станцыі...

„Дзьве пуціны, у два розныя сьветы. Разьбегліся ў розныя бакі, разлучылі. Будзь шчасьліва, Алеська... А я?.. Мая пуціна далёкая, станцыя няблізка. Супынак, адпачынак хіба тады, як ня будзе адбівацца рэхам у сэрцы вось такі, знаёмы з таго часу, грукат. А ён змоўкне хіба тады, як змоўкне сэрца“...

Зусім нізенька, над лесам, што цямнее ў воддалі, ліпнёвае сонца. Чырвонае, вялікае на зачырванелым небасхіле.

Зьвілістай стужкай, як вялізная чырвоная вужака, цягнецца поезд міма спаленых вёсак і станцый. Цягнецца туды на захад, куды імкнуцца і людзкія думкі з чырвонага ўсходу.

## ДАПРЫЗЫЎНІКІ

**Цішка Гартны**

Сьпеў галосны раньнім ранем
Перагудамі гудзе
Пра паўстаньне, пра паўстаньне
Заняволеных людзей.
Вулкай роўнай шэраг стройны
Акрыляюць сотні рук;
Прыціскае поступ войны
Пад дажджом размыты брук.
На пажары, на ўсходнім
Хібам бочацца штыхі;
Пацінаюцца лагодна
Хвой калматыя вярхі.
Рознастайныя калёры
Сьвітак шэрых, кажухоў
Адбіваюць пераборы
Галасістых галасоў.
Далей-далей, на спатканьне
Ждучым зьявам—іх паход.
Сьпеў галосны раньнім-раньнем
П'е палаючы ўсход.
З шэрых вёсак, з хатак курных
Дапрызыўнікі прашлі.
З палкай верай, з думкай бурнай
Кліч прызыўны пранясьлі.

Урэчча, 1905 г.

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

**Паўлюк Трус**

I

На грэблі вербы гаманілі,
Цьвіла ў зарніцах далячынь.
Ї позна ўвечары далінай
Сьпявалі жнеі, ідучы.

Я адна у полі,
Жыта дажынала,
Снопікі вязала,
Я адна у полі.

Сонейка над гаем,
Ды ўжо вечар блізка...
Бо ўжо нізка, нізка
Сонейка над гаем.

Хіліцца калосьсе
Пад маім сярпочкам.
Сьцелецца ў радочкі
Сьпелае калосьсе.

Напаілі росы
Сьцежку да крыніцы.
Вецьце лазы ніцай
Напаілі росы.

А туман над ярам
Пацеркі губляе,
Кужаль засьцілае
Ды туман над ярам.

Ой, павей ты, вецер,
З поля на пакосы;
Мае русы косы,
Расхвалюй ты, вецер!

Зацалуй павевам
Мае чорны вочы,
Позна—апаўночы,
Зацалуй павевам!

Як павее вецер
Буйны з-за дубровы,
Паліняюць бровы,
Як павее вецер.

Паліняюць вочы,
Русае валосьсе,—
Як таполі ўвосень,
Паліняюць вочы...

. . . . . . . . . . .

Ой, з-за гаю, гаю,
Позна над крыніцай,
Коціцца зарніца
Ды з-за гаю, гаю.

Адпачну, прысяду
На мяжы у полі,
З жытам на прыполе
Адпачну, прысяду.

Хай спачынуць рукі,
Разагнецца сьпіна.
Не дажну—пакіну,
Хай спачынуць рукі.

Выйду я на ўзгорак,
Стану, падзіўлюся.
Песьняю зальлюся,
Выйду я на ўзгорак...

. . . . . . . . . . .

Зацьвіла каліна,
Што садзіла летам.
Ой, чырвоным цьветам
Зацьвіла каліна.

Распусьціла веццце,
Як дзяўчына косы,
Над далінай роснай,
Распусьціла веццце.

Залатыя сьлёзы
Асыпае гольле...
Выплакала ў полі
Маладасьці сьлёзы.

Выплакала радасьць
У красе дзявочай,—
Маладыя вочы
Выплакалі радасьць.

І застаўся смутак,
Як вятры на хвалях...
Ой, заўю каралі,
Што застаўся смутак.

Скончу жыта жаці,
Пабягу ў даліну
Ды нарву каліны,
Толькі скончу жаці.

Назьбіраю кветак
І паўю вяночкі,—
Хоць агорне ночка,
Назьбіраю кветак.

Панясу вяночкі,
Панясу дадому,
Хлопцу маладому,
Панясу вяночкі.

Сядзем з ім на ганку,
Сядзем—пагаворым,
Аж да раньніх зораў
Прасядзім на ганку...

. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .

Сонейка за лесам,
Лес і гай цямнее.
Засьпявалі жнеі,—
Сонейка за лесам.

І глядзіць ў акенца
Родная матуля,—
Есьці мне гатуе,
І глядзіць ў акенца:

Прыдзе яна з поля,
З краскамі ў прыполе;
Тонкаю калінай
Расьцьвіце дзяўчына.

І скажу матулі,
Як мяне спытае,—
Як мяне прытуліць,
І скажу матулі:

— Я адна у полі,
Жыта дажынала,
Снопікі вязала,
Я адна у полі.

II

Акорды песень заміралі,
Танулі ў ветразі далін.
І струны ў сэрцы закраналі,
Журбою кволых журавін.

У палёх лажыліся ўжо цені,
Сачыўся золак між прысад,—
Як ты ў глыбокім задуменьні
Спакойна глянула назад.

І там, над рэчкаю увечар,
Танула ў зелені сяло...
Ты доўга думала аб нечым,
Што ў сэрцы кветкамі цьвіло...

. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

Бывайце, родныя прасторы,
Бывай, сяло, дзе я расла,
Дзе першы раз пазнала гора,
„Сьлязу нядолі праліла!“..

Дзе гай складаў лягенду-долю,
Шумела ў ветрах барава,—
Калі з вянкамі на прыполе,
Ішла я позна са жніва.

Мяне чакала дома маці...
—Матуля, родная мая,
Ужо дагарыць лучына ў хаце,
Як да цябе вярнуся я!..

І мне на зрэбную кашулю
Дзьве пасмы ўкінеш у ніты.
Бывай... О!.. Родная матуля,
Пішы хоць думкамі лісты!

На сэрцы стала горка, горка;
З вачэй скацілася сьляза,—
Як ты за грэбляю, са ўзгорку
Яшчэ раз глянула назад.

Сяло схавалася ў тумане;
Патух на вішнях сонцавей;
І толькі доўга ў разьвітаньні
Над студняй плакаў журавель...

. . . . . . . . . . . . . . .

Зыходзіў месяц на даліну
Ў вянку малінавай журбы,—
Як мы стаялі каля млыну,
Ў цішы пахілае вярбы.

Каціліся хвалі ў шумавіньні
На цёмнай плыні зельле-твань,
І кволы подых ветравіньня
Твае убраньне хваляваў.

Ка мне схілілася ты нішкам
На грудзі, поўныя вясны.
А там над рэчкаю ў зацішку,
Маўчалі ў беразе чаўны.

Маўчалі вёслы ў задуменьні
На хвалях вольнае ракі,
Як нас увечары з адценьня
Віталі крыльлем ветракі.

Стаялі доўга каля млыну.
Гайдала ціха асака.
І потым раптам над раўнінай
Цягнік далёка прагукаў.

І мы пашлі сваёй дарогай,
Сяло схавалася з вачэй.
Драмалі ў цьвецені разлогі,—
Ты доўга думала яшчэ.

Мінулі млын...
Зышлі ў даліну...
Ў даліне сон...
І ў сне раса...
І ты згадала ва ўспамінах
Маёнтак воддаль ад прысад.

Згадала ў просіні Галена,
Стары маёнтак, дзе жыла,—
Дзе адцьвілі гады маленства,
У далі ад роднага сяла.

Служыла наймічкаю ў пана,
Гуляла з панскімі дзяцьмі—
І так жыцьцё сваё ад рана
Гаіла горкімі сьлязьмі.

Стаіць палац...
Маўчаць таполі...
Завялі астры пад акном...
І ўжо ня вернецца ніколі
Краса, адцьвіўшая даўно...

III

У лузе вербы гаманілі,
Маўчала поле за сялом,
І ў сініх зорах небясхілу,
Зарою неба зацьвіло.

І ты хвіліны разьвітаньня
Адчула сэрцам маладым...
А там, над вербамі ў тумане
Зьвінелі глуха правады.

Агні мігцелі на вакзале
Ды ткалі просінь далавам,—
Як ты з вагону мне сказала
Ужо астатняе „бывай“.

Званок... Другі... Званок і ростань...
Замерла водгульле ў палёх.
Я адказаў табе папросту
Пад песьні звонкія калёс.

У гэтых песьнях-пералівах
Я чуў магутнасьць і разгон.
Яны ў разгульнасьці гульлівай,
Жыцьцю сьпяваюць ў унісон...
. . . . . . . . . . . . . .

Цягнік схаваўся за адкосам,
Гукнуў яшчэ раз з-за гары,
І толькі дыму пасмы-косы
Паволі таялі ў гары.

Зьнікалі стужкамі высока...
А я машыне у вадказ:
— Нясі мой погляд ты далёка,
Дзе стэп, Украіна, Каўказ...

Дзе хвалі вольнага прымор'я
Цалуюць скалы. Дзе краса
Саткала дзіўныя узоры,—
Пра вас мне бацька расказаў.

Бывала, сядзе ля камінку
Пад сьпевы гулкія завей...
Плывуць далёкага ўспаміны
Ў старой, пахілай галаве.

Сядзіць так доўга ў задуменьні
У канцы кляновага стала,
А за вакном снуюцца цені,
Рабіны смуглыя стаяць.

Стаяць і ў сьнезе адцьвітаюць,
Сьмяюцца й журацца у сьне.
А бацька думае, гадае
Ды так расказываць пачне.

— Мой родны сын,
Мае дарогі,
Ў адну зышліся за сялом.
Я пражыў... І бачыў многа,
Пазнаў я гора й весялосьць.

Успомню дні...
Падзеі тыя...
Гады... Ці вернуцца калі?
Яны, як вобразы жывыя,
Сягоньня ў памяці ўсплылі...
. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
Было нас трое. Бацька скора
Пакінуў нас. І мы адны
Пашлі шукаць сабе прастору
Ў шырокі сьвет. Тае вясны
Мы трое ў пана й засталіся.
А з намі там яшчэ была
Дзяўчына—наймічка Марыся.
Жылі мы разам. Кожны дзень,
Як толькі раніца настане

Гудок далёка прагудзе
І патане ў начным тумане;
Як сьпяць яшчэ глыбокім сном
Гаі і цёмныя даліны,—
Ўстае заспаная дзяўчына
І ціха стукае ў акно...

. . . . . . . . . . . . . . .

— Марыся, родная Марыся...
Чаму так рана у жыцьці
Дарогі нашы разышліся?..
Аб гэтым толькі шалясьціць,
Марознай шэраньню рабіна,
І дарагія успаміны
Ў душы ня змогуць адцьвісьці.
Семнаццаць год было дзяўчыне...
Прадоньне цёмнае вачэй,
Усьмешкі сьветлага дзяцінства
Парой захоўвала яшчэ.
Журылі твар той загарэлы
Дзьве цёмна-русыя касы,
І колькі дзіўнае красы
Было пад поглядам нясьмелым!
Ішлі гады. Жылі мы разам.
І помню добра, як цяпер,
Пад вечар пан аднаго разу
Зазваў Марысю да сябе.
Пасьля таго... На трэці дзень,
Як бы з пагардасьці нявіннай,
Пан выгнаў наймічку дзяўчыну,
Каб сорам страціць ад людзей.
Пан адчыніў ёй сьвет шырокі
Прасторны сьвет далячыні...
Як нешта блізкае ў далёкім
Я ўспамінаю тыя дні.
— Марыся, родная мая—
Дзіця пакрыўджанай нядолі,
Чаму так рана ў чыстым полі
Краса загінула твая?
Чаму ў пунсовасьці далін
Каліна лісьце асыпае,
І ветры буйныя з-за гаю
Твае дарогі замялі?
Было даўно... Гадаю сёньня,
Куды пашла тады яна,—

З жабрацкай торбай, бяз прытоньня
Бяз маткі роднае—адна?
Чужы парог...
Чужыя хаты...
Дарогі ў песьнях завірух...
І ў тую-ж самую пару
Мяне забралі у салдаты.
Успомню дні... Як сон асеньні.
Гады... Ці вернецца калі?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
І бацька ў ціхім задуменьні,
Да долу галаву схіліў.
Глядзіць... А выцьвіўшыя вочы,
Да краю поўныя журбы,—
Як тыя ў лузе дзьве вярбы,
Сьмяюцца й плачуць апаўночы.
Лучына тлее, дагарае...
Схіліўся бацька ля вакна
І доўга, доўга успамінае,
Што ўжо ня вернецца вясна.
Маўчаць асьнежныя даліны...
Пад сьпевы сумныя завей,
Ў старой, асмуглай галаве
Ўсплываюць новыя ўспаміны.
Гады... Гады... Вас помніць буду,
Заплачу ціха мо' ня раз.
Цябе ніколі не забуду,
Разгул Украіны й Каўказ.
Пакінуў родную краіну,
Прасторы вольных паплавоў,—
Дзе я з дванаццаці гадоў,
З касцамі ішоў праз дзесяціну.
— Паслухай, сын. Мае ўспаміны
Табе адчыняць далягляд,
Ты ўбачыш вольнасьць Украіны,
Пад сьпевы звонкія дзяўчат.
Настане ноч. Па-над крыніцай,
Ў тумане дрэмлюць ветракі,
Заводзяць песьню „парубкі“,
І ў вішнях журацца станіцы.
Маўчаць таполі ў далавах,
А песьня коціцца далёка:
„Реве та стогне Дніпр широкий,
Сердитий вітер завива“...

# ВЕСНАВОЕ

**А. Гурло**

Зацьвілося ў нябесным прасторы
Залацістае сонца вясны...
Эх, зьвіняць маіх струн пераборы
Нясупынна і ўсё аб адным.

Паўтараецца даўняга росквіт,
І пяе, як даўней, салавей;
Распускаюцца ў сэрцы пялёсткі,
Кроў плюскоча у ім агнявей.

Сёньня хочацца выйсьці мне ў поле,
Сёньня хочацца выйсьці мне ў гай,—
Мо' ня вернецца болей ніколі
Учарашняга злая туга.

Буду радасьць хапаць я ў абоймы,
Сам аддамся ў абоймы красе,
І ніхто маіх мар не пяройме—
Яны будуць са мною усе.

Яны ў смутку мяне пакідалі,
Аддавалі пачуцьці другім,
А цяпер мяне радуюць далі,
Стала блізкім мне ўсё, дарагім.

Дзесьці рэчкі чутны пералівы,
Дзесьці песьні чутны дзяўчат...
Сёньня ўсе, як і я, шчасьлівы,
І ня хоча ніхто маўчаць.

## ЯК МІЛЫ МНЕ

**А. Гурло**

Як мілы мне шырокія палеткі,
Як мілы мне зялёныя лясы,
Як мілы ў паплавох мне ласкавыя кветкі,
Бо іх забыты я, а родны сын.

Здаецца, што завуць, ўсьміхаюцца і рады,
Але пазнаць ня могуць аніяк.
Мяне ўпікаюць мо' за час мінулай здрады?
Але, як быў, такім застаўся я.

Я іх люблю пачуцьцяў маіх жарам!
Мне колас—брат, травіца—мне сястра,
Ды што рабіць, калі былыя мары
Цяпер на іх наводзяць сполах-страх?

Ды што рабіць, калі пазнаць ня хочуць
Аратага, сяўца і пастуха?
Але да іх заўсёды прагнуць вочы,
А грудзі хочуць пахам іх ўздыхаць.

1924 г.

# НЕШТА ХІЛІЦЬ

**А. Гурло**

Нешта хіліць і нешта хістае,
Гнуся я, нібы тая лаза.
Эх, пара ты мая залатая,
Ты ня вернешся, мабыць, назад!

Пранясьліся так шпарка, як хмары,
Дні за днямі ў далёкую даль,
Перагнала пачуцьці і мары
Гэтых дзён агнявых чарада.

Што-ж цяперака мне асталося,
Чым усьцешу жаданьняў агонь,
Калі сэрца агортвае восень
І няма спадзявацца чаго?

Але што-ж! Ну, няхай сабе гэтак!
Перашоў я кавалак мяжы.
Мо' затым я і быў поэтам,
Што так шпарка жыцьцё перажыў.

1926 г.

# Я СТАЮ ПАХІЛІЎШЫ ЧАЛО

**Язэп Пушча**

I

Каханьне, залатое каханьне!
Я стаю пахіліўшы чало.
Не спаткаў я цябе пры кургане,
не спаткаў у пунсовых палёх.

Ты само да мяне маладога
прыгарнулася палам сваім.
Сонцавеялі далі, разлогі,
сонцавеяла радасьць у сінь.

А песьні, ветравейныя песьні
заліваліся хохатам хваль.
Яны з сэрца каханьне разьнесьлі,
яны з сэрца памчаліся ў даль.

У той вечар самоты ня песьціў,—
бударажыўся ўсплёскам надзей.
Ціха зоры сьмяяліся ў веџьці,—
я на іх задумённа глядзеў.

Разгадаць мне хацелася ўсьмешку
аднэй зораньні яснай, як дзень.
Ружавела каліна на ўзьмежку,
я прыціснуў яе да грудзей.

Хай яснасьць, сьветлазорая яснасьць
перальлецца ў вачох дарагіх.
Болей вецер рукамі ня сплясьне,
застанемся з табою ўдваіх.

Застанемся, мая ты красуня!
Я ня ведаў уцехі ў жыцьці.
Мне расслухаць хацелася ў шуме,
аб чым ліст да ліста шапаціць.

Яна слоў мне тады не казала,
яе вусны палілі мой твар.
Ня было, ня было ў песьні жалю,
толькі кідала сэрца у жар.

А што далей... у ветра спытайся...
Пакахаў, як ніхто, пакахаў.
Ой, ты Стася, смуглявая Стася,
ўзгадаваў цябе Случчыны гай!

Ты расла там адна сіратою,—
вочы карымі сталі ад рос.
Вось кахаю цябе мо' затое,
што і сам я ў самоце узрос.

II

Срэбны вечар упаў на калені.
Між далін-лугавін сьпіць юнак.
Заіскрыліся зоры з каменьняў,
заіскрыліся хмелем віна,—
каляровасьць сваю на туман,
на туман.

Цяжка шчасьце ў дарозеналучыць,—
да яго скрозь туманаў ідуць.
Ой, бярозы над рэчкаю Случай
калаціліся ў сьне на ваду.
Заглядзеўся я тут на адну,
на адну.

Ціха хвалі крышталілі ў далі,—
ў пераліваx іх чуўся напеў.
Моўчкі лісьце на дол ападала,—
час красе адцьвітаньня насьпеў.
Спляміць смутак яе не пасьмеў,
не пасьмеў.

Чуткі-весьці хадзілі ў дуброве,
хто красуні касу завіе.
Падарыла ты мне чорнабровасьць,
падарыла і песьні свае.
Болей ім у палёх ня зьвінець,
ня зьвінець.

Мары сеялі сны над узвышшам,
мары цёплыя ў даль паплылі.
Ты цьвіла каляровасьцю вішні.
У палёх вецер воўкам ня выў,—
калыхаў з сьмехам ён паплавы,
паплавы.

Змрок схаваўся пад кудзерам клёну.
Мне хацелася ціш цалаваць.
Помню, ах помню хмялёвасьць:
пахілілася ўніз галава,
пахілілася ўніз, бы трава,
бы трава.

Просінь сыпала зор мігаценьне.
Пахіліўся у явара стан.
Я спаткаў у даліне дзьве цені...
а таксама таемнасьці здань...
Сонца жыцьця, па-над кручай устань,
гэй, устань!

Цяжка шчасьце ў дарозе налучыць,—
да яго скрозь туманаў ідуць.
Ой, бярозы над рэчкаю Случай
калаціліся ў сьне на ваду.
Заглядзеўся я тут на адну,
на адну.

19/III—1926 г.

* * *

**Валеры Маракоў**

Зноў прышла, прышла ты
Да сялянскай хаты,
На прастор шырокі радасных дуброў—
Ты сягоньня будзеш
Ў маладыя грудзі
Уліваць жаданьні і юнацтва кроў.

Хай цьвіце Айчына
На прасторах сініх,
Дзе агнём палае прозалаць—зара,—
Ужо ты красуеш
І жыцьцё чаруеш,
Ўжо лясоў кашулі ў зелені гараць.

Ты прышла, і ў нівах
Радасна-шумлівых
Твая радасьць-кветка б'е агнём крыніц;
Толькі я прывольля
Ня сустрэў на полі,
Не адчуў каханьня сваіх родных ніў.

І цяпер пад сонцам
Хочацца бясконца
Абхапіць рукамі гэту даль і шыр,
Каб агнём поэты
Перад новым сьветам
Усё сказаць і—шчыра, што я перажыў!..

Зноў прышла, прышла ты
Да сялянскай хаты,
На прастор шырокі радасных дуброў,—
Вось затым сягоньня
Рвуся я на гоні,
Вось затым сягоньня так шумуе кроў!..

Менск, 1926 г.

# ГАСПАДАРЧАЕ БУДАЎНІЦТВА СССР І БССР *)

**Я. Адамовіч**

Агульныя заданьні па гаспадарчым будаўніцтве Савецкага Саюзу на бліжэйшы час у выстарчаючай поўнасьці вызначаны: пастановай партыйных і савецкіх зьездаў, а таксама апошнім пленумам ЦК УКП і ЦК КПБ(б). У васноўным яны зводзяцца да наступнага: да ўзмацненьня індустрыялізацыі Саюзу ССР, да наладжаньня роўнавагі паміж прамысловасьцю і сялянскай гаспадаркай, да ўрэгуляваньня тавараз вароту гораду з вёскай і да паніжэньня як сельска-гаспадарчых, так і прамысловых розьнічных цэн, да замацаваньня грашовай сыстэмы, да правядзеньня прынцыпу экономії і соцыялістычнага накапленьня запасаў, да ўзмацненьня пляновай дысцыпліны, да ўзмацненьня ролі партыі ў кіраўніцтве будаўніцтвам Саюзу і да ўзмацненьня ўвагі па гаспадарчых пытаньнях усіх органаў Савецкай улады.

Але перш, чымся перайсьці да заданьняў, разгледзім гаспадарчае становішча СССР і БССР, як часткі Саюзу; яно ўяўляецца ў наступным выглядзе:

Гаспадарчае і політычнае разьвіцьцё СССР з часу спакойнага пасьляваеннага будаўніцтва, пры магутных абагульненых сродках дзяржавы, якія знаходзіліся ў асяродзішчы ў руках дзяржавы, і пры паступовым павялічэньні апошніх, прывялі нас у 1926 г. аж да заканчэньня адбудаваньня і дазваляюць ставіць пытаньне аб далейшым замацаваньні позыцый соцыялістычнага будаўніцтва.

У кірунку прамысловай вытворчасьці, якая зьяўляецца стрыжанем нашага гаспадарчага і політычнага будаўніцтва, Саюз ССР мае вялізарныя дасягненьні: валавая выпрацоўка прамысловых тавараў з 5.415 міл. р. у 1923-24 г. дасягае 10.214 міл. р. у 1925-26 г., г. зн. павышаецца за два гады на 88,7 проц.; у стасунку да даваеннага часу цэнзавая прамысловасьць у гэтым годзе дасягае 93,6 проц. па валавой выпрацоўцы; абагульненая дзяржаўная і коопэрацыйная прамысловасьць, якая займала ў 1923-24 г. 69,3 проц. па выпрацоўцы, цяпер ужо займае 77,1 проц.; неабагульненая прыватная цэнзавая, дробная і саматужна-рамесьніцкая пры

*) Гэты артыкул уяўляе сабою перароблены тэзісы т. Адамовіча па гаспадарчым будаўніцтве, зацьверджаныя ў красавіку пленумам ЦК КПБ(б).

агульным росьце вытворчасьці зьніжаецца па ўдзельнай вазе з 31,7 проц. у 1923-24 г. да 23,9 проц., у 1925-26 г. з 1.728.364 чалавек рабочых, занятых ва ўсёй цэнзавай прамысловасьці ў 1925-26 г., на долю дзяржаўнай прыпадае 1.592.750 рабочых, або 92,1 проц.

Гэтыя асноўныя даныя сьведчаць аб тым, што ў справе прамысловай вытворчасьці дзяржава мае рашаючую ролю.

Сельская гаспадарка, якая ў першы пэрыод нэпу разьвівалася асабліва шпарка, калі падтрымлівала дзяржава, як асноўнае зьвяно, за якое партыя і дзяржава павінны былі ўхапіцца, як за асноўныя ўмовы аднаўленьня ўсёй народнай гаспадаркі, стварыла спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця прамысловасьці.

Валавая продукцыя ўсёй сельскай гаспадаркі па СССР дасягнула ў цяперашнім годзе 87 проц. к 1913 г. на сучасныя цэны, або 91 проц. па даваенных цэнах, і выражаецца ў 20.183 міл. чырв. руб. (11.680 міл. руб. па даваенных цэнах), даўшы ўзрост за год 24 проц. Таварная маса сельскае гаспадаркі па СССР выражаецца ў 6,143 міл. руб. чырв. і складае 77 проц. к таварнай масе сельскай гаспадаркі ў даваенны час.

Бюджэт Саюзу ССР, які характарызуе рост экономічных сіл краіны, узрастае надта шпарка (з 2.876 міл. у 1924-25 г. да 3.950 міл. руб. у 1925-26 г.—рост за год 37 проц.) і ў гэтым годзе ўжо складае 74 проц. у стасунку да бюджэту 1913 году па адпаведнай тэрыторыі Саюзу ССР (2.919 міл. руб. у 1913 г. і 2.166 міл. руб. у 1925-26 г., калі перавесьці на даваенны курс).

Гэты рост гаспадаркі Саюзу ССР сьведчыць, што апошняя шчыльна падышла да заканчэньня свайго аднаўленьня, што перад ёй паўстаюць заданьні пераступіць за даваенную лінію і ажыцьцёвіць шырокую рэконструкцыю. Але ўсё-ж такі гэты пераход ідзе поруч з цэлым шэрагам труднасьцяй, да ліку якіх адносяцца (важнейшыя):

а) Неадпаведнасьць паміж продукцыяй прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, якая цягне за сабой ва ўмовах доўгага часу аголенасьці рынку на прамысловыя тавары, так званая таварная галадоўка, удвойчы павялічаная шэрагам памылак і прашчотаў, што было дапушчана органамі, якія плянавалі, пацягнуўшы за сабой пагрозу сталасьці нашай грашовай сыстэмы.

б) Недахват капіталаў і накапленьняў у краіне, а таксама і грашовага запасу ў руках дзяржавы, які не дазваляў вольна манэўраваць у справе гаспадарчага будаўніцтва (паміж тым, уклады ў бягучыя рахункі цяпер складаюць у суме толькі 29 проц. ад 1913 году).

в) Значны ўплыў неабагульненых элемэнтаў гаспадарак (у сялянскай гаспадарцы, прыватнай прамысловасьці і гандлі) ускладняе пляновае кіраўніцтва ўсёй сыстэмай гаспадаркі (труднасьць падліку гэтых элемэнтаў выявілася ўвосень 1925-26 г., калі дакладна ўкладалі пляны).

г) Тэхнічная адсталасьць прамысловасьці і сельска-гаспадарчай вытворчасьці, адсутнасьць у патрэбным ліку кваліфікаванай рабочай сілы і культурная адсталасьць насельніцтва многіх раёнаў Саюзу.

Гэтыя труднасьці, якія рэзка адчуваюцца ў цяперашні час, прымаюцца пад увагу нашымі кіраўнічымі як партыйнымі, так і савецкімі органамі і пастаўлены ўва ўсю шырыню перад краінай.

Труднасьці павінны быць пераможаны, а дзеля гэтага патрэбна ажыцьцёвіць намечаныя партыяй мерапрыемствы для разьвязаньня асноўных задач у справе далейшага будаўніцтва соцыялізму.

Разьвіцьцё беларускае народнае гаспадаркі адбываецца ў тым-жа прыблізна тэмпе і кірунку, як і гаспадаркі ўсяго Саюзу ў цэлым.

Уздым гаспадаркі БССР, які адбываўся ва ўмовах вялікага разбураньня пасьля вайны, у цяперашні час мае значныя вынікі, якія дазваляюць сказаць, што БССР падходзіць да канца свайго пэрыоду аднаўленьня ў гаспадарчым будаўніцтве. Апошняе заканчэньне адбудаваньня ў БССР затрымліваецца з прычыны разбурэньня асноўнага капіталу цэлага шэрагу галін народнай гаспадаркі.

Сельская гаспадарка БССР за апошнія тры гады мае значныя дасягненьні на шляху свайго разьвіцьця. Разбураная войнамі, якія адбываліся на тэрыторыі Рэспублікі, яна ў 1920-21 г., у сэнсе сваёй вытворчасьці, скарацілася на 30—35 проц. параўнаўча з даваенным часам. У гэты-ж час стан яе ўяўляецца з наступных даных:

а) Засеўная плошча ў 1924-25 г. перасягнула даваенную на 13 проц., даўшы прыбытку з 2.287,3 тыс. дзес. у 1923-24 г. да 2.493 тыс. дзес. у 1924-25 г. (+9 проц.).

б) Ураджайнасьць хлеба абагнала сярэднюю даваенную; збор у пудох з дзесяціны быў гэткі:

| | Сярэдні за 1905-13 г. | у 1923-24 г. | у 1924-25 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта азімае . . . | 42,4 | 46,0 | 48,1 |
| Ячмень . . . . . | 47,1 | 45,0 | 51,2 |
| Авёс . . . . . | 48,3 | 51,0 | 55,7 |
| Льняное семя . . | 29,2 | 22,4 | 26,5 |
| Бульба . . . . . | 432,2 | 432,2 | 548,2 |

в) Агульны збор хлебнага зярна з году ў год павышаецца: сабрана было хлебнага зярна ў 1923 годзе 84.735,7 тыс. пуд., у 1924 г. 92.703,2 тыс. пуд., у 1925 г. 100.982 тыс. пуд.

г) Тэхнічныя культуры і пасеўныя травы ўсё больш і больш ужываюцца ў сельскай гаспадарцы, паступова адваёўваючы засеўную плошчу ад зернавых культур; у складзе пасеўных плошчаў удзельная вага культур была:

| | 1916 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|---|
| Зернавыя культуры | 82,15 проц. | 83,05 проц. | 82,53 проц. | 79,88 проц. |
| Лён і каноплі . . | 4,16 „ | 3,04 „ | 3,41 „ | 4,66 „ |
| Бульба [1]) . . . . | 8,67 „ | 11,46 „ | 10,36 „ | 11,31 „ |
| Пасеўныя травы . | 5,02 „ | 2,33 „ | 3,84 „ | 4,64 „ |

д) Організацыя зямельнай плошчы шляхам зямляўпарадкаваньня і мэліорацыі што раз большыя крокі робіць з адначасовым пераходам да шматпольных севазваротаў (зямляўпарадкаваньне да 1925 г. 1.830.020 дзес., за 1925 г.—182.000 дзес.); мэліорацыйнай працай ахоплена была плошча, што знаходзілася пад балотам у 31,5 тыс. дзес., шматпольныя севазвароты організаваны ў 1926 г. на плошчы ў 100.088 дзес., з іх 73,4 проц. на вёсках і выселках.

е) Жывёлагадоўля шпарка папраўляўецца і крэпне, рост статку за леташні год даў: у конях—9,7 проц., у буйнай рагатай жывёле—10,6 проц., авечках—13,6 проц. і сьвіньнях—20,5 проц.; у вагульным, з параўнаньнем даваеннага часу, на 100 дзес. засеву прыходзіцца жывёлы:

| | у 1913 г. | у 1925 г. |
|---|---|---|
| Рабочых коняй . . . . . . | 29,6 | 27,4 |
| Буйнай рагатай жывёлы (дарослай) . . . . . . . . | 58,6 | 47,1 |
| Авец (без ягнят) . . . . . | 54,5 | 55,2 |
| Сьвіней (без парасят) . . . | 44,3 | 43,3 |

ж) Сельска-гаспадарчыя машыны, інвэнтар, насеньне і штучнае ўгнаеньне ўсё глыбей пранікае ў вёску:

За 1924-25 г. вёска атрымала ўсяго гэтага на 3.240 тыс. руб., на 162 проц. больш, чымся ў 1923-24 г.

з) Усялякія с.-г. коопэрацыйныя аб'яднаньні растуць як па ліку свайму, гэтак і асабліва па ліку сяброў: на 1-е кастрычніка 1924 г. было 849 аб'яднаньняў пры ліку 48.074 сяброў, а на 1-е кастрычніка 1925 г.—904 аб'яднаньні на 122.230 сяброў.

І, аднак, такі ўздым коопэрацыі яшчэ ня сьведчыць аб рашаючым значэньні коопэрацыі ў экономіцы вёскі дзеля таго, што коопэравана толькі 20 проц. сялянскай гаспадаркі.

Прамысловасьць БССР, цесна зьвязаная ў сваёй чыннасьці з мясцовымі рэсурсамі сырцу, як перарабляючая пераважна продукты сельскае і лясное гаспадаркі, аднаўлялася таксама досыць хутка, хаця-ж і знаходзілася ў пачатку нэпу ў вельмі разбураным становішчы. Рост прамысловай вытворчасьці харктарызуецца:

а) уздымам валавой выпрацоўкі цэнзавай прамысловасьці з 33.167,3 тыс. руб. у 1923-24 г. да 51.311,2 тыс. руб. у 1924-25 г. (+59,5%);

[1]) Увага. Даныя 1916 г. аб бульбе няпоўныя з прычыны спыненьня бравароў у часе вайны.

б) павялічэньнем ліку занятых у прамысловай вытворчасьці рабочых з 11.552 чал. у 1923-24 г. да 14. 738 чал. у 1924-25 г. (27,6%);

в) павышэньнем выпрацоўкі ў адзін чалавека-дзень з 4,8 даваенных рублёў у 1923-24 г. да 5,86 даваенных рублёў у 1924-25 г. (22%);

г) ростам зарплаты прамысловых рабочых, якая дасягнула ў 1924-25 г. 22,8 бюдж. руб. у сярэднім, узьняўшыся на 21,3% параўнаўча з зарплатай у 1923-24 г.;

д) зьніжэньнем удзельнай вагі ў цэнзавай прамысловасьці неабагульненай (прыватнай) вытворчасьці: у 1923-24 г. прыватная цэнзавая прамысловасьць мела рабочых 6,7% і агульную продукцыю 8,3%, а ў 1924-25 г. ўжо 4,2% рабочых і 5,6 продукцыі адносна да ўсіх рабочых і ўсёй агульнай продукцыі цэнзавай прамысловасьці.

Тавараварот у БССР у сваім разьвіцьці амаль што быў падобны ў тэмпе да разьвіцьця прамысловай вытворчасьці: у працягу 1924-25 г. аб'ём пасрэдніцкага звароту павялічыўся на 31%. Пашырэньне тавара-звароту ішло шляхам дзяржаўнага і коопэрацыйнага гандлю, а прыватны гандаль застаўся амаль што ў стабільным становішчы; гэтак тавараварот быў:

| | 1923/24 г. у тыс. руб | % | 1924/25 г. у тыс. руб. | % | 1924/25 г. у %% да 1923/24 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўная . . . | 43.790,3 | 29,5 | 54.548,0 | 28,0 | 124,5 |
| Коопэрацыйная . . | 36.695,2 | 24,9 | 67.755,8 | 35,0 | 183,3 |
| Прыватная . . . . | 67.645,5 | 45,6 | 71.395,1 | 36,8 | 105,5 |

Выдаткі па дзяржаўным і мясцовым бюджэце БССР, якія выражаліся ў 1924-25 г. ў 13.272 тыс. руб. па дзяржаўным і 19.593 тыс. руб. па мясцовым бюджэце, узрасьлі ў 1925 г. да 26.177 тыс. руб. па дзяржаўным і 24.703 тыс. руб. па мясцовым, даўшы рост адпаведна на 90 проц. і на 26 проц.

Такім чынам, параўнаўшы азнакі гаспадарчай дзеяльнасьці БССР за апошнія два гады, выкрываецца значны тэмп разьвіцьця гаспадаркі і прыбліжэньне яе да даваеннага ўзроўню. У народнай гаспадарцы Беларусі, як і ў агульнасаюзнай, заканчваецца адбудаваўчы пэрыод.

У сучасны момант наша народная гаспадарка знаходзіцца на пераломе, і ад умелага пакіраваньня асноўных мерапрыемстваў будзе залежаць посьпех нашага гаспадарчага разьвіцьця на той бок даваеннай лініі і посьпех замацаваньня соцыялістычных элемэнтаў.

Значнае зьніжэньне тэмпу гаспадарчага разьвіцьця па сканчэньні адбудаваўчага пэрыоду адбілася-б самым адмоўным чынам на ўсім нашым соцыялістычным будаўніцтве, паніжанай прыбытковасьці нашай гаспадаркі, якую мы маем цяпер. Рэспубліка ня можа ажыцьцёвіць задачы экономічнага, культурнага і політычнага будаўніцтва. Дзеля гэтага максымальнае разьвіцьцё вытворчых сіл краіны зьяўляецца задачай усёй

нашай палітыкі. Ставячы сабе гэту асноўную задачу, мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу пры нямоцнай нашай прамысловасьці і неадпаведнасьці паміж продукцыяй прамысловасьці і сельскаю гаспадаркаю, якая выяўляецца ў тым, што частка продукцыі, складаючая народны прыбытак у прамысловасьці ў 8 раз менш, чымся ў сельскай гаспадарцы. (Народны прыбытак прамысловасьці БССР, уключаючы і дробную, раўняецца 39.497,8 тыс. руб., а сельскай гаспадаркі—318.320,5 тыс. руб.). Вышэйпаказанае не характарызуе ў асноўным таварнасьці БССР у цэлым, бо ў БССР ужываецца прывозная продукцыя, а таксама некаторыя продукты беларускай вытворчасьці вывозяцца за межы Рэспублікі.

Пры гэткім становішчы і суадносінах асноўных галін народнай гаспадаркі зьяўляецца неадкладнай задачай, на грунце агульнага лёзунгу індустрыялізацыі саюзу, больш ускораны тэмп адбудаваньня і разьвіцьця прамысловасьці Беларусі на падставе вялікага скарыстаньня мясцовых сырцовых рэсурсаў і пераапрацоўкі продуктаў сел.-гасп. як шляхам пабудаваньня новых фабрык і заводаў, так і шляхамператварэньня і ўдасканаленьня тэхнікі і рацыяналізацыі існуючых цяпер прадпрыемстваў. Без разьвязваньня гэтай задачы немагчымы экономічны ўздым краіны ў цэлым, нямысьліма далейшая шырокая інтэнсыфікацыя сел.-гасп., нямысьліма зьніштажэньне аграрнай перанаселенасьці і скарыстаньне вольнай рабочай сілы ў вёсцы і ў горадзе, а таксама нельга дасягнуць нормальнага тавараабмену гораду з вёскай.

Але пытаньні далейшага новага прамысловага будаўніцтва БССР упіраюцца ў патрэбу поўнага скарыстаньня мясцовых значных энэргетычных рэсурсаў (торфавадзяная энэргія і г. д.). Толькі на падставе электрыфікацыі будзе створана магчымасьць да шырокай рэконструкцыі народнае гаспадаркі БССР, а дзеля гэтага аднэй з галоўнейшых задач па гаспадарчым будаўніцтве Рэспублікі зьяўляецца ўключэньне БССР у вагульнасаюзны плян электрыфікацыі.

Пры разьвіцьці нашай прамысловасьці і коопэрацыі патрэбна перш за ўсё ўзмацніць існуючыя гатункі вытворчасьці, якія апіраюцца на мясцовы сырэц у вадпаведнай для гэтага ўстанове пераапрацоўкі і апрацоўкі продуктаў сельскай і лясной гаспадаркі (лясная, харчовая, скураная, шкляная, папяровая і г. д.). Абавязкова патрэбна паставіць задачу організацыі пераапрацоўкі і апрацоўкі другарадных продуктаў нашай лясной і сельскай гаспадаркі (смаляна-шпігінарная прамысловасьць, апрацоўка продуктаў жывёлагадоўлі, разьвіцьцё масларобства, сыраварэньня і г. д. прамысловая пераапрацоўка садавіны і гародніны—адчыненьне заводаў для вырабкі патакі, павідла, мармалялы і г. д.; пабудова фабрык і заводаў льнянаткацкіх і для апрацаваньня ільну). Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць організацыі прымысловых прадпрыемстваў, якія вырабляюць матэрыялы для будоўлі (керамічная прамысловасьць—цэгла, кафлі і г. д.) і с.-г. інвэнтар і машыны.

Прыстасоўна да паказаных вышэй заданьняў у кірунку разьвіцьця прамысловасьці патрэбна, каб у бліжэйшы час Дзяржплян і ВСНГ апрацавалі пэрспэктыўны плян разьвіцьця прамысловасьці пад адзначаным вышэй пунктам пагляду. У гэтым-жа пляне павінна быць прадугледжана магчымасьць ня толькі разьвіцьця і замацаваньня прамысловасьці, якая працуе на мясцовым сырцы, але і магчымасьць організацыі прамысловых прадпрыемстваў, працуючых на прывозным сырцы, разьлічаючы пры гэтым на поўнае скарыстаньне мясцовых энэргетычных рэсурсаў (торф, вадзяная энэргія і інш.); у той-жа самы час занадта вялікі вольны збытак працоўных рук як у горадзе, мястэчку, так і на вёсцы.

Ажыцьцяўленьне задач па пляновым накіраваньні і кіраўніцтву гаспадарчым разьвіцьцём БССР і неабходнасьць унікненьня складаньня роўналежных плянаў аб прамысловым будаўніцтве, лясной гаспадарцы, электрыфікацыі, мэліорацыі Палесься і г. д. патрабуюць найхутчэйшага заканчэньня раёнаваньня Заходняй часткі Савецкага Саюзу і далейшага замацаваньня БССР на кошт суседніх аднолькавых з ёй у экономічных, нацыянальных і бытавых азнаках раёнаў (Гомельская і частка Пскоўскай губэрні).

Сёлета на вытворчасьць існуючых прадпрыемстваў і будоўлі новых прамысловых прадпрыемстваў растрачана асноўнага капіталу больш, чымся 5.000.000 руб. па распрацаванай програме, і стварыўся спэцыяльны фонд з сродкаў мясцовага дзяржаўнага бюджэту дзеля пашырэньня і замацаваньня мясцовай прамысловасьці, якая знаходзіцца ў руках акруг і раёнаў.

Разьвіцьцё народнай гаспадаркі, аграрная перанаселенасьць, беспрацоўе ў гарадох і мястэчках ставіць перад краінай асаблівую задачу па замацаваньні рамесьніцка-саматужнай коопэрацыі, дзеля таго што ва ўмовах БССР саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць мае вялізарнае значэньне ў справе забясьпечаньня часткі бяднейшага насельніцтва працай (асабліва местачковага насельніцтва), як і пры правільным рэгуляваньні праз саюз рамесьніцка-саматужнай прамысловай коопэрацыі і Наркамунутгандлю можна значна павялічыць таварную суму, якая выкідаецца на рынак—асабліва вясковы рынак, і тут павінны быць створаны спрыяльныя ўмовы для далейшага разьвіцьця і коопэраваньня саматужнікаў. На грунце вытворчасьці і працавытворчай і працоўнай арцелі, на грунце дастаўкі і збыту закупачна-збытавых таварыстваў і крэдыту (пазычкова-ашчадныя таварыствы), а таксама ў далейшым патрэбна ўзмацніць работу, кіраўніцтва і падмогу з боку дзяржавы ў аднаўленьні мясцовай прамысловасьці, што знаходзіцца пад веданьнем акруг і раёнаў. У той-жа самы час неаслабна павінны праводзіцца ўсе мерапрыемствы, адзначаныя ўрадам да гэтага часу ў замацаваньні продукцыйнасьці працы ў вытворчасьці як мясцовай, так і дзяржаўнай прамысловасьці.

Але разьвіцьцё прамысловасьці ў БССР як і ва ўсім Саюзе ССР, будзе мець посьпех толькі ў тым выпадку, калі сельскай гаспадарцы

будзе забясьпечаны рост у далейшым. Дзеля гэтага ажыцьцяўленьне замераў, накірованых на арганізацыю зямельнай плошчы, інтэнсыфікацыю сельскай гаспадаркі, коопэраваньне сялянства павінна быць энэргічным і неаслабленым. Асабліва-ж сёлетка абавязкова патрэбна ўзмоцніць мерапрыемствы па замацаваньні агрономічных пунктаў у вёсцы і абслугоўваньні агрономічнымі мерапрыемствамі сялянскай гаспадаркі, якая шырака практыкуе закладаньне практычных паказальных вучасткаў пад кіраўніцтвам агрономаў у самой сялянскай гаспадарцы. Патрэбна ўзмоцніць і паглыбіць працу зямляўпарадкаваньня і ажыцьцёвіць цэлы шэраг агрономічных мерапрыемстваў як шляхам большых, чымся ў цяперашнім годзе выдаткаў, так і пашырэньнем зямляўпарадкавальнай сеткі, дамагаючыся разам з гэтым як мага хутчэйшага пераходу сялянства на шматпольле, шырокім ужываньнем засеваў кармовай травы, якая служыць для ўгнаеньня, і караньплодаў, як асновы разьвіцьця жывёлагадоўлі на Беларусі.

Адсутнасьць корму для жывёлы ў гэтым годзе прымушае нас дамагацца такога становішча, каб недахопам яго не затрымлівалася разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў вёсцы. Для гэтай мэты лёзунг: „Разьвіцьцё караньплодаў і засеўнай травы ёсьць аснова разьвіцьця жывёлагадоўлі“, павінен быць усвоены ўсёй арганізацыяй і популярызаваным сярод сялянства.

Беднасьць нашай глебы (пяскі, балоты, каменьні) патрабуе ў сельскай гаспадарцы пашырэньня мерапрыемстваў у насычаньні і абагачаньні яе абавязкова патрэбным угнаеньнем, што асабліва важна для шырокага разьвіцьця тэхнічных культур і кармовых траў. Пры недахопе ў самай гаспадарцы гною і пры труднасьці атрымаць мінэральныя ўгнаеньні ўнутры СССР, мы прымушаны затрачваць вялікія сродкі на прывозку яго з заграніцы. Дзеля гэтага вялізарнае значэньне ў справе абагачэньня нашай глебы павінна мець карыстаньне торфу ў якасьці ўгнаеньня, што дужа даступна беларускаму селяніну пры прысутнасьці ў нас багатых запасаў торфу, а таксама трэба прыняць мерапрыемствы ў дабыцьці мясцовага мінэральнага ўгнаеньня.

Гэтая думка павінна быць шырока распаўсюджана сярод сялянскай масы і павінна праводзіцца ў жыцьцё.

Толькі-ж гэтыя мерапрыемствы,—таксама растрата на сельскую гаспадарку грошай на іншыя яе патрэбы,—могуць падняць яе інтэнсыўнасьць на вышэйшую ступень, павялічыць яе таварны бок і бюджэт селяніна. Усе сродкі сыстэмы сельска-гасп. крэдыту, усе зьбераганьні самога сялянства павінны быць мобілізаваны для ажыцьцяўленьня гэтых мэт. Ва ўсім гэтым патрэбна продукцыйная дапамога беднаце. Поўмільённы фонд, утвораны ўрадам з мэтай крэдытаваньня гаспадарак беднаты, павінен быць скарыстаны выключна на вытворчыя мэты гаспадарак беднякоў.

Але тут патрэбна распрацаваць яшчэ цэлы шэраг мерапрыемстваў у павялічэньні фонду беднаты на мясцох, а таксама па організацыі контролю і падліку ўсіх прывілей, якімі Савецкая ўлада дае магчымасьць карыстацца беднаце.

Урадам дзеля замацаваньня становішча беднаты прымаліся меры для стварэньня зямельнага фонду, каб надзяліць зямлёй незаможных гаспадароў. Гэтыя мерапрыемствы ў выніку далі 700.000 дзес. зямлі, але канчаткова ўнікнуць ад зямельнай цеснаты мы зможам праз разьвіцьцё прамысловасьці, шляхам уздыму інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі і шляхам напружнасьці работы ў разьвіцьці мэліорацыйных таварыстваў, у пашырэньні мэліорацыйных работ. Але тут патрэбна большая самадзейнасьць мас да таго, што дае дзяржава, а яна, апрача іншых матэрыяльных затрат, нават падняла сёлета пытаньне перад саюзнымі органамі аб прызнаньні мэліорацыйных работ па БССР мерапрыемствамі саюзнага характару.

У далейшым патрэбна гарантаваць цэлы шэраг ільгот тым сялянскім гаспадаркам, якія выстарчаюча скарыстоўваюць на сваіх землях дзяржаўныя і грамадзкія мэліорацыйныя работы, дзеля чаго патрэбна на бліжэйшай сэсіі ЦВК правесьці Мэліорацыйны Кодэкс (Наркамземам ужо праводзіцца гэта распрацоўка закону).

Але мы церпім у рабоце мэліорацыі ня столькі адсутнасьцю сродкаў, як недахопам спэцыялістых і тэхнікаў—мэліоратараў. Гэты недахоп тэхнічных сіл па мэліорацыі патрэбна ўраду зжыць шляхам шэрагу мерапрыемстваў.

Усе мерапрыемствы ў кірунку адбудаваньня сельскай гаспадаркі, у прыватнасьці ў справе ўздыму саматужна-рамесьніцкіх промыслаў у вёсцы, і разьвіцьцё дробнай прамысловасьці могуць быць з вялікім посьпехам распаўсюджаны па ўсёй Беларусі толькі ў тым выпадку, калі, у дадатак да агульных плянаў адбудаваньня і разьвіцьця народнае гаспадаркі ў БССР, мы ў цэнтры нашых асноўных экономічных раёнаў адзначым і ўдасканалім больш дробныя экономічныя адзінкі, дабіўшыся пры гэтым такога парадку, каб кожнай раённай партыйнай організацыі, кожнаму члену партыі, Раён. Вык. Кам. і сельсавету і кожнаму асобнаму рабочаму і селяніну былі зразумелымі пэрспэктывы адраджэньня і разьвіцьця гаспадаркі ў даным раёне, каб было зразумела, пад якім пунктам погляду і што патрэбна прадпрыняць у даным раёне, каб агульнымі сіламі і сродкамі як самага насельніцтва, так і дзяржавы ствараць і ўзамацняць народную гаспадарку.

Задачы ў галіне індустрыялізацыі і далейшага агульнага гаспадарчага разьвіцьця патрабуюць замацаваньня культуры і ўздыму тэхнічных навыкаў сярод насельніцтва, а таксама патрабуюць ад нашых навуковых і вучэбных устаноў, ВУЗ'аў, школ і народнае асьветы ў цэлым стражэйшае ўвязкі ў іх разьвіцьці з патрэбамі народнае гаспадаркі. У той-жа

самы час высоўваецца, як чарговая неадкладная задача, падрыхтоўка і аднолькава перападрыхтоўка кваліфікаванай рабочай сілы.

У галіне недзяржаўнага гандлю патрэбна рашучая барацьба за паніжэньне розьнічных цэн шляхам суровага скарачэньня накладных выдаткаў і лепшай організацыі тавараправодзячай сеткі. У мэтах аздараўленьня тавараздвароту гораду з вёскай і ўстанаўленьня нормальных цэн патрэбна ўзмацніць організацыю збыту пераапрацоўкі с.-г. сырцу, асабліва продуктаў жывёлагадоўлі, а таксама праводзіць організаваную загатоўку зернавых культур, не дапускаючы ўзаемнай конкурэнцыі паміж дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі загатоўшчыкамі.

Далейшае ўзмацненьне коопэраваньня асноўнай масы сялянскіх гаспадарак застаецца чарговай задачай у справе замацаваньня соцыялістычных элемэнтаў у краіне.

У той-жа самы час Беларусь павінна адзначыць згодна сваім прыродным экономічным умовам конкрэтныя шляхі коопэраваньня сялянскіх гаспадарак. У бліжэйшы пэрыод коопэраваньне БССР павінна накіравацца шляхам аб'яднаньня сялян. гасп. па лініі вытворчасьці (наўкола малатарні, трыера, сартавальні—праз машынныя таварыствы, па лініі пераапрацоўкі—праз лёнаводзкія, масларобныя, маслабойныя і апрацавальні бульбы, сушыльні агароднін і г. п. таварыствы); такое-ж аб'яднаньне павінна ісьці па лініі збыту і дастаўкі (сельска-гасп. крэдытныя коопэратывы). Ва ўмовах БССР лепшы грунт знойдуць і павінны быць узмоцнены аб'яднаньні і таварысты ў мэліорацыі і ў дабыцьці торфу. Асноўная ўвага павінна быць зьвернута аб'яднаньнем у галіне вытворчасьці пераапрацоўкі.

На лясную гаспадарку, якая грае валікую ролю ў экономіцы БССР, апрача вышэйпералічаных задач народнай гаспадаркі, мы павінны зьвярнуць цяпер увагу больш, чымся да гэтага часу, і патрэбна адзначыць шэраг мерапрыемстваў з мэтай правільнага кіраваньня гэтай гаспадаркай: спыненьне і недапушчэньне надалей зладзейскага зьнішчэньня лесу, правядзеньне лесаўпарадкаваньня і аднаўленьня лясоў, а таксама патрэбна ў далейшым упарадкаваць пытаньне даставы лесу сельскага насельніцтва Рэспублікі, імкнуцца ў малалесных і бязьлесных раёнах організаваць здабываньне торфу і шырока організаваць паказальныя вопыты па ўжываньні торфу ў якасьці топліва.

Разьвязваючы асноўныя проблемы нашага гаспадарчага будаўніцтва, мы павінны мець на ўвазе адну, хаця-ж і другарадную, але дужа важную задачу: гэтай задачай зьяўляецца наша мясцовае будаўніцтва (прадпрыемства агульнага карыстаньня, мяшкальнае будаўніцтва і дабрабыт), а таксама будаўніцтва местачковае і сельскае.

Узмоцненае правядзеньне гэтых мерапрыемстваў залежыць у значнай ступені ад ініцыятывы і актыўнасьці мясцовых, местачковых і сель-

скіх саветаў і грамадзкіх організацый (жылкоопэрацыі і г. д.), а таксама ад замацаваньня і пашырэньня комунальнага крэдыту.

Патрэба ў грунтоўнай зьмене і гаспадарчай структуры БССР, якая выклікаецца задачамі далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуе растраты на гаспадарку досыць буйных капіталаў, і БССР сваімі ўласнымі сіламі і сродкамі ня зможа хутка падняць сваю гаспадарку.

З гэтай мэтай неабходна паставіць наступныя задачы:

а) Прывабіць да суполкі будаўніцтва капіталы і зьбераганьні насельніцтва як шляхам прыцягненьня ў організацыю прамысловых прадпрыемстваў, так і шляхам коопэрацыйнага накапленьня.

б) Дзеля таго, што процэс набліжэньня да соцыялізму будзе праходзіць не аднолькавым тэмпам ва ўсім Саюзе ССР з прычыны надзвычайнай рознастайнасьці ў экономічным і культурным становішчы асобных яго частак, а таксама дзеля таго, што БССР зьяўляецца заходняй акраінай Саюзу ССР, дык—у зьвязку з прыгранічнасьцю і суседзтвам з больш разьвітымі ў тэхнічных і экономічных адносінах краінамі—асабліва неабходна замацаваць соцыялістычныя элемэнты ў БССР.

Дзеля гэтага патрэбна паставіць прад Саюзным урадам пытаньне аб правядзеньні шэрагу мерапрыемстваў экономічнага ўзмацненьня БССР.

в) Весьці соцыялістычнае грашовае накапленьне шляхам найстражэйшай экономіі ў выдатках бюджэту і ва ўсіх гаспадарчых, гандлёвых і коопэрацыйных органах, і ў гэты самы час імкнуцца да стварэньня рэзэрваў з адначасным ужываньнем усіх спосабаў, каб у бюджэце 1926-27 г. скараціць і прынамсі стабілізаваць адміністрацыйныя выдаткі; узяць пэўны грунт для ўтрыманьня і магчымага скарачэньня штату адначасна з рацыоналізацыяй структуры і забясьпечаньнем строгай справаздачнасьці ў расходваньні сродкаў дзяржаўных установ.

Па пытаньні-ж заработнай платы трэба адзначыць, што заработная плата ў гэтым годзе можа быць павышана ў нязначнай ступені толькі для падцягваньня ніжэйшых груп рабочых і служачых да груп вышэйшых.

Але ў той-жа час трэба ажыцьцёвіць да пачатку бюджэтнага году правядзеньне рэформы для ўстанаўленьня нормы заработнай платы.

Што-ж датычыць пашырэньня бюджэту за кошт натуральнага росту гаспадаркі, дык яно павінна пайсьці на пашырэньне і ўзмацненьне існуючай цяпер культурнай і вытворчай сеткі ў гаспадарцы і на патрэбы разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, але ні ў якім выпадку павялічэньне бюджэту не павінна пайсьці на пашырэньне спажывецкіх выдаткаў.

Адначасна з гэтым высоўваецца асаблівая задача ў справе стварэньня бюджэту на 1926-27 год: гэта—замацаваньне мясцовага бюджэту шляхам перадачы яму цэлага шэрагу новых даходных спосабаў. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на замацаваньне раённага бюджэту.

Пры стварэньні даходнай часткі мясцовага і дзяржаўнага бюджэту неабходна імкнуцца да ўзмацненьня непадатковых прыбыткаў.

Рост нашага дзяржаўнага і мясцовага бюджэту павінен, прынамсі, не адставаць ад росту народнае гаспадаркі БССР, а таксама ад росту саюзнага бюджэту і бюджэтаў саюзных рэспублік.

г) Рацыянальна арганізаваць дзяржаўныя крэдыты, зьвярнуўшы ўвагу на стварэньне сталага доўгатэрміновага крэдыту.

д) Павесьці суровую барацьбу з растратамі, пакражамі і задоўжанасьцю ва ўсіх гаспадарчых, коопэрацыйных і дзяржаўных органах, замацоўваючы гэтым аўторытэт гэтых органаў і прыцягваючы ўсё к большаму ўдзелу ў гаспадарчым будаўніцтве працоўныя масы.

Усе гэтыя задачы, якія стаяць перад намі ў справе рэконструкцыі ўсяе гаспадаркі, патрабуюць для свайго разьвязаньня поўнага разьмеркаваньня сіл і сродкаў, якія маюцца і занова ствараюцца ў краіне; дзеля гэтага прынцып пляновасьці ў працы павінен быць узмоцнены, завострany, павінен быць пастаўлены ў аснову ўсіх нашых грунтоўных мерапрыемстваў і аддаць асаблівую ўвагу ўзаемнаму зьліцьцю асобных плянаў.

Плянавы пачатак павінен быць ажыцьцёўлены ў працы ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый зьверху да нізу. У гаспадарчай працы, якая зьяўляецца аднэй з асноўных для будаўніцтва соцыялізму, патрэбна, как прымалі ўдзел усе органы партыі і Савецкай улады ўключна да сельсаветаў і сельячэек.

Да апошняга часу можна заўважыць яшчэ такія зьявы, што ня толькі сельсаветы, РВК, як гэта выкрыла абсьледваньне (Шклоўскі і Петрыкаўскі раён), але і некаторыя акруг. вык. кам. больш занятыя чыста адміністрацыйнай працай, гаспадарчыя-ж пытаньні разглядаюцца імі часта толькі формальна, ня ўнікаючы ў справу па сутнасьці.

Дзякуючы такім адносінам да экономічных пытаньняў, разьвіваецца безадказнасьць у гаспадарчай працы і абцяжарваньне дробнымі адміністрацыйнымі пытаньнямі.

Губляецца асноўная пэрспэктыва ў працы па кіраўніцтву гаспадаркай, і зачастую дробная ведамственная адасобленасьць адрывае нашы дзяржаўныя органы, у тым ліку і Наркаматы ад кіруючай працы па ўзмацаваньні гаспадаркі і гэтым самым ад работы соцыялістычнага будаўніцтва.

Усе адзначаныя вышэй мерапрыемствы могуць быць ужыты толькі ў тым выпадку, калі адрачыся ад старых абабітых шляхоў і ўнесьці ў соцыялістычнае наватарства наша будаўніцтва, якое выказваецца ў тым, што неабходна павысіць адказнасьць гаспадарчых працаўнікоў, зьвярнуць больш увагі на экономічныя выдаткі. Ня варта ганьбаваць такімі пытаньнямі, якія пры павярхоўным поглядзе паказваюцца другараднымі, але пры належнай пераапрацоўцы, арганізаванасьці могуць мець вялізарнае

значэньне, а таксама павялічыць увагу ў цэлым шэрагу практычных мерапрыемстваў у нашай працы:

1) моцнае ўтварэньне рэжыму экономіі ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва;

2) мобілізацыя ўсіх унутраных рэсурсаў, сіл і сродкаў для ўздыму вытворчасьці краіны;

3) узмацненьне спэцыяльных гатункаў коопэрацыі і прадпрыемстваў па перааправоўцы і апрацоўцы сельска-гаспадарчых продуктаў;

4) узмацненьне організацыі мас наўкола прасьцейшых і даступных для сялянства агрономічных мерапрыемстваў;

5) ускарэньне працы па зямляўпарадкаваньні шляхам пашырэньня дзяржаўных мерапрыемстваў, а таксама прыцягненьне сродкаў і сіл самаго сялянства;

6) пашырэньне засеваў караньплодаў і ўгнойных кармовых траў, як асноўнае разьвіцьцё жывёлагадоўлі;

7) шырокае распаўсюджаньне торфу ў якасьці ўгнаеньня;

8) ашчаднасьць лесу і ўжываньне торфу ў якасьці апалу;

9) шырокае разьвіцьцё прамысловага будаўніцтва ўсіх гатункаў;

10) разьвіцьцё прамысловага будаўніцтва забясьпечвае ўзмацненьне інтэнсыфікацыі сялянскае гаспадаркі і большага коопэраваньня яе.

Задачы разьвіцьця нашага будаўніцтва павінны быць усвоены ўсімі органамі дзяржавы, кожным асобным членам партыі з тым разрахаваньнем, каб практычная праца па соцыялістычнаму будаўніцтву была ўсвоена і зразумела кожнаму партыйцу, рабочаму, селяніну. Толькі тады мы зможам існці хутчэй па шляху гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў краіне да соцыялізму.

# БЭРЛІНСКАЯ КОНФЭРЭНЦЫЯ *)

**А. Цьвікевіч**

12—16 кастрычніка м/г ў Бэрліне адбылася 2-я беларуская конфэрэнцыя за кордонам [1]). Вынікам гэтае конфэрэнцыі зьявілася ліквідацыя ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаньне Менску адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі. Дзеля таго, што з гэтай конфэрэнцыяй закончыўся даволі значны пэрыод жыцьця беларускае палітычнае эміграцыі і што ў зьвязку з гэтым яна мецьме сваё акрэсьленае значэньне ў беларускім руху,—варта пазнаёміцца як з прычынамі, якімі яна была выклікана, так і з тымі вынікамі, якія яна мае.

Беларуская эміграцыя зьявілася ў выніку барацьбы дзьвёх груп на Беларусі: групы так зв. „незалежнікаў“, зьвязанай беспасрэдна з Усебеларускім Зьездам 1917 году, якая імкнулася зьдзейсьніць „Беларускую Народную Рэспубліку“, і групы, зьвязанай з Комуністычнай партыяй, якая імкнулася збудаваць Беларускую Савецкую Рэспубліку. Калі ў 1918-19 годзе Кастрычнікавая рэволюцыя на Беларусі перамагла, і група беларускіх комуністых канчаткова ўмацавалася ў Менску, стварыўшы Савецкую Беларусь,—група абаронцаў „Народнае Рэспублікі“ расьцярушылася і апынулася па-за межамі бацькаўшчыны.

Шэсьць-сем год беларуская палітычная эміграцыя цягне лямку бадзяньня па чужых краёх, часам набываючы добрае становішча і, як кажуць, „варштат працы“, а часам трацячы апошні грунт пад нагамі і трымаючыся ўпрост за паветра. Гісторыя руху калі-небудзь раскажа аб гэтым больш дэтальна.

Часам найбольшае організаванасьці беларускае эміграцыі і яе значэньня ў сэнсе ідэолёгічным трэба лічыць 1919—1922 гады. У 1919 годзе

---

[1]) Аўтар паданага артыкулу—адзін з дзейных удзельнікаў беларускае эміграцкае апіні; адзін з заснавацеляў так званае Беларускае Народнае Рэспублікі і сябра яе правіцельства. Артыкул прадстаўляе сабою асаблівы інтарэс з пункту гледжаньня настрою, думак і імкненьняў беларускае эміграцыі. Аўтар адкрывае ўсе заслоны над тэй здрадніцкай працай, якую эміграцыя беларуская вяла супроціў Савецкае ўлады, рабочых сялян Савецкай Беларусі. Многія моманты, панашаму, акрэсьліваюцца аўтарам у зьмякчаным тоне, затуманьваючы праўдзівасьць асобных напрамкаў і думак у працы беларускай эміграцыі. *Рэдакцыя.*

---

[1]) Першая беларуская конфэрэнцыя за кордонам адбылася ў Празе Чэскай увосень 1921 году.

„незалежніцкая група“ яшчэ часам перабывала і дзеяла на Беларусі (скліканьне сэсіі Рады БНР пры польскай окупацыі), мела цесную сувязь з Вільняй і дзеля гэтага не адчувала спэцыфічна эмігранцкай адарванасьці ад жыцьця. У тыя часы яшчэ рычэла вогнішча вайсковых пажараў на беларускіх абшарах, у Эўропе йшла жвавая „дыплёматычная гульня“, а з ёю мода на ўсялякага роду „прадстаўніцтвы“, усюды была мешаніна граніц, улад і прэтэнзій,—і беларуская эміграцыя гэта пільна выкарыстоўвала. У гэты пэрыод нацыянальна-незалежніцкая акцыя была моцна падтрымана Украінскай Народнай Рэспублікай (дырэкторыя пад старшынствам В. Віньнічэнкі); у гэты пэрыод рэалізаваліся ўмовы віленскага нацыянальнага камітэту з Літоўскай Тарыбай у форме міністэрства па беларускіх справах і асобных беларускіх частак у складзе літоўскай арміі; у гэты пэрыод місія БНР прысутнічала ў Парыжы на Вэрсальскай конфэрэнцыі і г. д. Побач са сьціслым контактам з Заходняй Беларусьсю, беларуская эміграцыя разьвівала значную энэргію сярод эўропэйскіх урадаў, і асабліва пры ўрадах новапаўстаўшых пасьля вайны дзяржаў (Польшчы, Латвіі, Літвы, Эстоніі і Фінляндыі). Цэнтрам усяе працы быў Бэрлін, дзе прабываў урад БНР і дзе месьцілася галоўная місія, да рэчы сказаць, прызнаная нямецкім урадам.

У 1920 годзе беларуская эміграцкая акцыя моцна padупала, і калі-б не падасьпеўшая ў час дзяржаўная ўмова з Літвой, дык яна магла-б зусім сплыць у пясок. Умова з Літвой, зробленая на аснове прызнаньня Літвой de jure ўраду БНР і быўшая вынікам захвату Вільні ген. Жэлігоўскім, зьяўляецца і па форме сваёй, і па зьместу цікавым дакумантам. Пакуль для нашай мэты выстарчыць каротка зазначыць, што яна выратавала беларускую эміграцкую акцыю ад поўнага заняпаду і што першы і другі год пасьля гэтае ўмовы былі кульмінацыйным уздымам у яе разьвіцьці. Гэтая ўмова дала ўраду БНР ня толькі матэрыяльную магчымасьць існаваньня, але патрэбную палітычную базу і пэўную сфэру ўплываў.

1921—22 год зьяўляецца разам з тым часам найбольш дасканалай апрацоўкі палітычнай пляцформы эміграцкіх груп і іх унутраной арганізацыі. Галоўнай праявай гэтай арганізацыі была праская конфэрэнцыя, на якой, побач з закордоннымі групоўкамі, былі багата прадстаўлены рэволюцыйныя арганізацыі Заходняй Беларусі; затым—сьведчаньнем гэтай арганізаванасьці быў правал віленскага сойму, скліканага для апробацыі далучэньня Віленшчыны да Польшчы; чынная сувязь з Лігай Нацый, цэльны шэраг прадстаўніцтваў і прэс-бюро ў Эўропе, даволі багатая літаратура і інш.

Уся гэтая дзейнасьць адбывалася пад лёзунгам барацьбы за „незалежную сялянскую Беларусь“ супроць рыскага падзелу і захвату палякамі Заходняй Беларусі, а таксама супроць паўстаўшай у тыя часы Савецкай Беларусі. Гэтыя лёзунгі былі тады пашыраны ня толькі ў рэзо-

люцыях і агітацыйных лістоўках, але былі разгляданы ў больш паважных выданьнях („Беларускі Сьцяг“ і інш.). Стваралася, а часткова і стварылася—*ідэолёгія дэмократычнае незалежнасьці Беларусі,* якую незалежнасьць, як вядома, абвясьціў акт 25 сакавіка.

Аднак, нават і ў тыя „мядовыя месяцы“ беларускай эміграцыі, побач з гутаркамі аб незалежніцкай ідэолёгіі, часта прыходзілася чуць думку аб тым, наколькі правільны быў абраны ёй шлях. І не таму закрадвалася гэтая думка ў галаву, што абаронцы ідэі незалежнасьці Беларусі былі прыціснуты жыцьцём да плоту і мусілі бадзяцца па чужых краёх; не таму, што програма незалежнасьці зьяўлялася ў той момант політычна нерэальнай; і не таму, урэшце, што народныя масы, захопленыя клясавым пачуцьцём, трудна паддаваліся на нацыянальна-незалежніцкую пропаганду. А таму, што ў стасунку соцыялістычна-народніцкіх элемэнтаў да комуністычнага Менску была якаясь няяснасьць і недарэчнасьць. Гэтая няяснасьць і недарэчнасьць пачала асабліва біць у вочы пасьля таго, як на XI партыйным зьезьдзе РКП былі прыняты вядомыя тэзісы т. Сталіна па нацыянальным пытаньні.

Выходзіла, што беларускую „мужыцкую праўду“, аб якой пісаў яшчэ Кастусь Каліноўскі, адначасова шукалі і тут і там: шукала яе незалежніцкая думка за кордонам, выяўляемая ў постаці ўраду БНР, але таксама, і з ня меншым посьпехам, шукала яе і змагалася за яе беларуская комуністычная думка на абшары Савецкай Беларусі. Праўда, Савецкай Беларусі, складзенай у тыя часы з пяцёх паветаў і падпісаўшай рыскі трактат, трудна было ў тэй дыскусіі, якая адбывалася тады абодвымі лягерамі. Але цэнтр вагі ляжаў ня ў ліку паветаў, як і наогул ня ў вузка-дзяржаўным разуменьні беларускага адраджэньня. Кожны з беларускіх эмігрантаў дасканала ведаў, што і рыскі падзел, супроць якога было асабліва латва весьці атаку „незалежнікам“, і „адраджоная Беларусь з пяцёх паветаў“ і няўстройствы адміністрацыйна-гаспадарчага характару,—што ўсё гэта—рэчы часовыя, пераходныя. Цэнтр вагі ляжаў у тым—ці зможа наогул Савецкая Беларусь прымірыць беларускае адраджэньне з комуністычнай програмай, ці зможа яна наогул у адпаведным маштабе рэалізаваць заданьні соцыяльнага і асабліва нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі. Я кажу *асабліва* нацыянальна-культурнага, бо трэба згадзіцца, што ўвага большасьці беларускае эміграцыі, пасьля правядзеньня „чорнага перадзелу“ на Савецкай Беларусі, была зьвернута бліжэй за ўсё якраз на гэты момант.

І вось выходзіла, што савецкі Менск, разам з радыкальным зьнішчэньнем старога соцыяльнага ладу, разам з ліквідацыяй памешчыцкага стану на Беларусі і перадачай усяе зямлі бяз выкупу сялянству, шпаркім і шырокім крокам будуе беларускую культуру: адчыняе сотнямі і тысячамі школы на роднай мове, організуе масавы беларускі друк, актыўна пасабляе разьвіцьцю беларускае навукі, мастацтва і тэатру, право-

дзіць беларусізацыю ня толькі ўрадовых інстытуцый, але, што асабліва важна, профэсыянальных і партыйных устаноў. Такім чынам выходзіла, што ні ў галіне соцыяльна-экономічнай, ні ў галіне нацыянальна-культурнай абаронцы БНР не маглі нічога закінуць абаронцам і будаўнікам БССР.

Каб апраўдаць сваё існаваньне, беларускай эміграцыі трэба было перанесьці спрэчку з плошчы практычнай у плошчу тэорытычную і давадзіць абавязковасьць незалежнасьці Беларусі шляхам аналізу гэткіх пытаньняў, як роля сялянства на Беларусі, немагчымасьць залежнасьці яго ад пролетарыяту і немагчымасьць залежнасьці Менску ад Масквы ў якой-бы то ні было форме.

Пытаньне аб ролі сялянства пры будаваньні незалежнасьці, таксама як шмат іншых пытаньняў, датычных гэтага будаўніцтва, былі слаба апрацаваны сярод беларускае эміграцыі. Для патрэбнай тэорытычнай апрацоўкі перш за ўсё не знаходзілася адпаведных людзей. Асобы, якія, здавалася, былі прызваны да гэткай апрацоўкі, у зьвязку са сваім партыйным становішчам, аказваліся часьцей за ўсё звычайнымі дэмагогамі без усялякага навуковага „багажу“. Усе іх аргументы ў гэтых пытаньнях складаліся з паказаньня голых процантаў сялянства і пролетарыяту на Беларусі, і з гэтага арытмэтычнага падрахунку рабіўся ідэолёгічны вывад. Іншы раз да яго далучалі аргумант аб нацыянальным твары вёскі і антыбеларускім выглядзе гораду, іншы раз успаміналі аб розьніцы экономічных інтарэсаў рабочага і селяніна—і ўсё.

Аб тым, што павінна была ўяўляць сабой гэтая „сялянская дзяржава“, які павінен быў быць яе палітычны і соцыяльны зьмест—аб гэтым глыбака і да канца мала хто думаў. Без далейшага акрэсьленьня ўсе паўтаралі расійскую эсэраўскую шпаргалу аб „дэмократычным парлямантарызьме“ і „народнай уладзе“. А калі ўсё-ж такі ў сяброўскіх гутарках і дыскусіях прыходзілася ў гэтых пытаньнях разьбірацца сумленна, не для агітлістоўкі, а „для сябе“, дык пры параўнаньні вывадаў з тым, што дзеялася ў Савецкай Беларусі, паўставаў цэлы шэраг непаразуменьняў і супярэчнасьцяй.

Перш за ўсё, паўставала пытаньне, ці магчымы на Беларусі дэмократычны парлямантарызм пры адсутнасьці нацыянальнай буржуазіі і ці не патрэбна ў зьвязку з гэтым „штучнае“ ўзгадаваньне гэтай буржуазіі. Затым паўставала пытаньне—ці ня лепш для сярмяжнае Беларусі, ідучы ў сувязі з рабочай клясай, будаваць сабе соцыялістычную гаспадарку, замест таго кабісьці старым шляхам капіталістычнага рэжыму; паўставала пытаньне—чым лепш заходня-эўропэйскі купецкі парлямантарызм ад усходня-эўропэйскай сыстэмы рад-саветаў; прыпаміналася адзіная працоўная прырода рабочага і селяніна, іх натуральны саюз супроць фабрыкантаў і багацеяў, прыпаміналася аграмадная роля пролетарыяту ва ўсялякай вызвольнай барацьбе, у тым ліку ў барацьбе Беларусі за сваю волю і г. д.

Ва ўсіх гэтых пякучых пытаньнях беларуская эміграцкая думка адчувала сабе няпэўна. Ніхто ня мог з пераконаньнем адказаць, якому ідэалу ён служыць—буржуазнаму ці соцыялістычнаму, і ніхто ня меў дзеля гэтага ўнутраной сілы, каб узяць у рукі бомбу і пайсьці рваць Савецкую Беларусь. Наадварот—усе як-бы адчувалі, што там, на ўсходзе, у тым ліку на Савецкай Беларусі, побач з аграмадным разбурэньнем, у тумане крывавай барацьбы—ёсьць якаясь вялікая праўда, блішчыць якаясь сапраўдная ісьціна. Усе ўнутрана згаджаліся з тым, што, сапраўды, сярмяжнай Беларусі не па дарозе з буржуазіяй і панствам; што беларускаму селяніну бліжэй маскоўскі рабочы, чым ангельскі колёнізатар; што калі ягомасьць у крахмальных манжэтах з Варшавы ці профэсар парыскай Сорбоны ня вызнаюць мужыцкай беларускай культуры,—дык вось бедны местачковы яўрэй з-пад Магілеву яе вызнае.

Каб уратаваць сябе ад падобнай няпэўнасьці, эміграцкая думка яшчэ больш адыходзіла ад жыцьця і баранілася абстрактнай проблемай дзяржавы як гэткай. Тут, здавалася, было лягчэй таму, што прыходзілася опэраваць чыста тэорытычнымі аргумантамі і добра апрацаванымі навуковымі катэгорыямі. „Беларускі народ—ёсьць самастойны народ; кожны народ мае права на незалежную дзяржаву; значыць, беларускі народ мае права на незалежную дзяржаву". Вось які быў незалежніцкі сылёгізм, з якога выцякалі ўсе далейшыя меркаваньні. Зразумела, што ні пытаньне аб „дасьпеласьці" ці „недасьпеласьці" беларускага народу да дзяржавы, ні пытаньне аб якіхсьці „гістарычных правох" на дзяржаву, ні пытаньне аб спагаднай ці неспагаднай у сучаснасьці міжнароднай сытуацыі для дзяржаўнай самастойнасьці Беларусі,—усё гэта ня мела ніякага значэньня для незалежніцкіх разважаньняў. Прынцыповы характар незалежніцкіх позыцый ад іх не зьмяняўся. Калі, думала беларуская эміграцыя, нельга зьдзейсьніць „незалежную Беларусь" сёньня, дык гэта ня значыць, што яна ня зьдзейсьніцца заўтра; калі нельга правесьці сваю програму „ўдарам у лоб", дык трэба праводзіць яе стараной. Важна, каб правільны быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык рэшта становіць толькі пытаньне часу, дасьціпнай тактыкі і натугі змаганьня. А для гэтага трэба быць толькі цярплівым, разважна спакойным і ўпартым.

Аднак, і ў гэтай, трэцяй па чарзе галіне, абапертай, здавалася, на непарушным тэорытычна-прынцыповым фундаманце, хутка азначыліся сумненьні і шчыліны. Азначыліся яны дзякуючы дзьвём прычынам. Папершае, пад уплывам тых органічна-негатыўных зьявішчаў, якія несла з сабою сучасная буржуазная дзяржава; і, падругое, пад уплывам тых бесстаронных вывадаў, да якіх прыходзіла эміграцкая думка пасьля грунтоўнага аналізу істоты Савецкае ўлады і савецкага будаваньня.

Беларуская эміграцыя даволі блізка стаяла да справы дзяржаўнага абасабленьня ўсіх новапаўстаўшых пасьля вайны рэспублік. За сем год азнаямленьня з процэсам узьнікненьня і росту Польшчы і рэспублік Пры-

бальтыкі, яна ўбачыла і зразумела, што шлях іх разьвіцьця, шлях буржуазнай дзяржавы,—не вырашае проблемы нацыянальнага адраджэньня народаў у тым выглядзе, як аб гэтым марылі пачынальнікі нацыянальна-рэволюцыйных рухаў. Яна бачыла, што нацыянальнае адраджэньне раней прыгнечаных народаў, пачынаючы протэстам і барацьбой супроць гвалтаў і насільстваў мацнейшага, у варунках буржуазнага будаўніцтва няўнікненаканчаецца новым гвалтам і новым насільствам, на гэты раз ужо з боку самага адрадзіўшагася народу.

Найлепшым прыкладам гэткай мэтаморфозы зьяўлялася „паўстаўшая з мёртвых“ Польшча. На польскім прыкладзе беларуская эміграцыя асабліва глыбака пераканалася, што паўстаньне новай буржуазнай дзяржавы, якімі-б пекнымі словамі яна не закрывалася-б, у варунках капіталістычнага ладу зьяўляецца—няўнікнена! самым фактам свайго існаваньня—новым lupus'ам у стасунку да сябе падобных. Яна бачыла, што як толькі нараджаецца новая дзяржава—законная дачка сучаснай Эўропы, дык у тую самую мінуту закручваецца новы вузел інтарэсаў капіталу і ўзьнікае новы повад да вайны. Стварыўшы сабе буржуазную дзяржаву, ці то рэспубліку, ці то монархію—усё роўна,—кожны народ пападае ў валавяныя лапы мілітарызму, ставіць пад зброю мільёны працоўных людзей, нішчыць на гэтую зброю мільёны грошай і цэннасьцяй, зробленых мазольнай рукой рабочага і селяніна, разьдзьмухвае сярод сябе самога атрутны шовіністычны чад і ў сьвядомасьці кожнага грамадзяніна стварае якісь непераходны, вышэй за ўсё стаячы, дзяржаўны фэтыш. Беларуская эміграцыя хутка ўбачыла, што гэтак важны для адраджэньня краіны чырвоны, рэволюцыйны нацыяналізм, з моманту асягненьня ўласнай буржуазна-незалежнай дзяржавы, абяртаецца ў нацыяналізм белы, рэакцыйны, трыумфуючы, што ён абяртаецца ў якогась двулікага Януса, адзін бок твару якога ветліва ўсьміхаецца разьвіцьцём культурнага генія народу, а другі—шчырыць зубы пячэрнага зьвера—мілітарызму.

Яшчэ хутчэй эміграцыя пераканалася ў тым, што рэклямаваная эўропэйскай прэсай Ліга Нацый зьяўляецца не забясьпечаньнем ад гэтага мілітарызму, ня „форумам міжнароднай справядлівасьці“, як кваціста казалі яе заснавацелі, а засабам міжнародных інтрыг і замаскаванай кантора́й эўропэйскага капіталу. Урад БНР мог лёгка гэта прасачыць і ў гутарках з сябрамі Лігі Нацый, і ў спробах сваіх правесьці беларускае пытаньне ў яе камісіях [1]), і асабліва па тых выніках, якія атрымліваліся ў Жэнэве, Парыжы і інш. мясцох пасяджэньня Лігі, ад яго мэморандумаў і лямантаў. Адносіны, якія сустрачаў тут эміграцкі беларускі ўрад, былі тыя самыя, як і з боку эўропэйскіх урадаў. Як шчырае падабенства сваіх тварцоў, Ліга Нацый цікавала тыя-ж самыя мэты: апраўданьне сілы і тамаваньня

[1]) Ураду БНР так і не давялося дабіцца пастаноўкі беларускага пытаньня на пленуме Лігі Нацый.

права, апраўданьне панаваньня дужэйшага над слабейшым і барацьбу за самыя грубыя інтарэсы ўсясьветных фінансыстых.

Дазнаўшы істоту Лігі Нацый і спавядаючы прынцыпы буржуазнай дзяржавы, беларуская эміграцыя прыходзіла да сумнага для сябе вываду, што інакш быць і ня можа,—што Ліга Нацый зусім слушна робіць, калі не зьвяртае ўвагі на ляманты ўраду БНР аб зьдзеках польскай окупацыі ў заходняй Беларусі. Польшча ёсьць „законнае дзіцянё“ Эўропы; як-жа яна, Ліга Нацый, можа йсьці супроць яе ў інтарэсах невядомай ёй сучаснай няпрызнанай, мужыцкай Беларусі. „Уеа victis“—гора пераможаным!—вось які дэвіз як-бы напісан на дзьверах Лігі Нацый у Жэнэве. Гэты дэвіз гаворыць сам за сябе.

Адкідаючы ўсялікі сэнтымэнталізм, беларуская эміграцыя мусіла прызнаць, што калі Беларусь хоча быць незалежнай, дык яна павінна быць годнай свайго часу і сваіх вучыцеляў, а гэта значыць, што яна таксама мусіць быць гатовай зьявіцца ня сёньня, дык заўтра тым „броняваным кулаком“, якім адзіна магчыма адбіць сабе месца пад сонцам. „С волками жить—по волчьи выть“,—вось якую „мораль“ мусіла спавядаць беларуская эміграцыя ў выніку сямігадовага прабываньня свайго на Захадзе.

Ва ўсім гэтым была якаясь унутраная хлусьня, якоесь чортава кола. Выходзіла, што Беларусь *наперад* павінна была гатавацца да ролі сучаснай Польшчы, супроць якой яна гэтак змагалася. Выходзіла, што, змагаючыся з гвалтамі Польшчы над Заходняй Беларусьсю, ідэолёгі БНР тым самым змагаліся з самай ідэяй буржуазнага гаспадарства, г. зн. з уласнай ідэолёгіяй. Бо заблытанасьць этнографічнай граніцы Беларусі з суседнімі народамі—расійцамі, украінцамі, палякамі, літвінамі, а нават латышамі, аж занадта абяцала ёй і справу „нацыянальных меншасьцяй“, і барацьбу за свой „прэсьціж“, і за сваю культурную экспанзію, і ўсе іншыя „прелести“, якімі сёньня гэтак багата Польшча. Выхаду ня было: концэпцыя незалежнай Беларусі, як буржуазнай дзяржавы сярод буржуазнага акружэньня, прымушала прызнаць да канца ўсе яе лёгічныя якасьці.

І вось мімаволі мысьль беларускае эміграцыі зварачвалася на Ўсход; мімаволі прад ёй паўставала антытэза буржуазнай Эўропы—Савецкі Саюз.

Тое, што знаходзіла яна тут, было зусім асаблівым, нячуваным, ня меўшым сабе прыкладу ў гісторыі. Гэта было сапраўды „новае слова“, якога баялася старая Эўропа, але якога баяцца ня мела ніякай прычыны беларускае адраджэньне.

Перш за ўсё, аналізуючы стан рэчы на ўсходзе, беларуская эміграцкая думка натыкалася на нябывалы прыклад узьнікненьня дзяржаў ня шляхам сілы і крывавай барацьбы, але шляхам паразуменьня і згоды. Яна ўглядала, прыкладам, што Савецкая Беларусь зьявілася ў складзе Саюзу не таму, што яна змагалася за сваю асобнасьць,—і нават ня гледзячы на тое змаганьне, якое падгатаўлівала і якое пераводзіла

група БНР. Эміграцыя бачыла, што Савецкая Беларусь узьнікла ў складзе Саюзу абсолютна мірным шляхам—можна сказаць „лябораторным“ спосабам, як узьнікае крышталь у саляной рошчыне. Комуністычная партыя бальшавікоў—масавы розум мільёнаў—бяз бойкі зьдзейсьніла той сілёгізм аб народзе і дзяржаве, які буржуазія стварыла толькі на паперы і каторы трэба было кожнаму народу здабываць сваімі грудзямі. Комуністычная партыя сказала: Беларусь ёсьць асобны край; кожны асобны край мае патрэбу парадкаваць сваё жыцьцё пасвойму; значыць, Беларусь павінна быць асобнай Рэспублікай. А калі „павінна“, дык пакомуністычнаму—„ужо ёсьць“. Пытаньне „сілы“ Беларусі пры гэтым зусім адпала; засталося толькі адно „права“,—і нават ня права ў старым разуменьні, а проста натуральная патрэба ў тэхнічным разьмежаваньні народаў па лініі адміністрацыйнага ўпарадкаваньня.

Напоўмістычная, напоўбоская прырода дзяржавы абярнулася тут, у Савецкім Саюзе, у простую тэхніку. Гэта было менш поэтычна і з пункту гледжаньня органічных концэпцый можа нават і штучна,—але гэта было не ў параўнаньні больш справядліва. Бяздушны, па прызнаньні народнікаў, марксызм, выявіў тут на практыцы Леніна сваю глыбока-чалавечую істоту.

Аб тым, што для Комуністычнай партыі і Савецкай улады пры будаваньні дзяржавы ня йгралі ніякай ролі аргуманты сілы, беларуская эміграцыя бачыла з прыкладу Башкірыі, Кіргізіі, Якутыі, Узбэкістана і г. д. Калі ў стасунку да Беларусі, Украіны ці Грузіі магла яшчэ быць аб гэтым якая-небудзь спрэчка, дык тут было ўсё бясспрэчна.

Гэтыя ўсе староны ня толькі не вялі ніякай барацьбы за сваю самастойнасьць, але часта-густа нават ня ведалі аб тым, што яны, як нацыянальна-асобныя народы, маюць права на разьвіцьцё сваёй культуры і дзяржавы.

Дзяржаўная „тэхніка“ Савецкае ўлады прымушала беларускую эміграцыю разьбірацца ў некаторых далейшых момантах справы. Беларуская эміграцкая думка мусіла адказаць—ці годзіцца гэткае „упрощение“ справы дзяржаўнага адраджэньня Беларусі з яе нацыянальным „я“, і як трэба разумець яе стасунак да Масквы, як асяродку савецкае сыстэмы.

Адказаць на гэта не рабіла вялікай труднасьці. Эміграцкай мысьлі было занадта ясна, што ўсялякія мэтафізычныя акрэсьленьні дзяржавы, што рабіліся ў навуцы ад Плятона і Гуго Гроцыя да нашых дзён, маюць занадта малую практычную вартасьць і што на іх нічога, апрача паветранага замку, ня збудуеш. Яна пазнала на ўласнай скуры, што тэорыя, як-бы тонка яна ні была вылажана, застаецца тэорыяй,—а будаваньне дзяржавы—рэч зусім іншая і пры гэтым вельмі грубая. Не вызнаваць Савецкую Беларусь *толькі* таму, што яна зьявілася нязгодна з традыцыйнай тэорыяй і ня ў тым выглядзе, як гэта прынята на „культурным“ Захадзе,—было сьмешна. Да гэтага пытаньня трэба было пады-

ходзіць ня з пункту гледжаньня якогась мэтафізычнага нацыянальнага „я“, існаваньне якога ніводнаму селяніну ці рабочаму на Беларусі ня было вядомым і якога яму ня ўцяміць, але з пункту гледжаньня практычных карысьцяй для народу, патрэбы ўратаваць яго ад таго гаспадарчага і культурнага заняпаду, у які кінулі яго мінулыя стагодзьдзі польскага і расійскага ўціску.

З гэтага-ж пункту гледжаньня мусіла падыйсьці беларуская эміграцыя і да пытаньня аб адносінах Менску да Масквы. Бліжэйшае знаёмства з гэтай стараной справы прывяло яе да зусім нечаканых вывадаў.

Галоўней за ўсё—справа фэдэрацыі [1]). Істота яе, як вядома, тоіцца ў тым, што кожны народ, уваходзячы ў склад фэдэрацыйнага Саюзу, побач з магчымасьцю разьвіваць сваю культуру, сваю экономіку і свой быт сваімі сіламі, побач з магчымасьцю бараніцца ад нападу імпэрыялістычнага суседа сваёй арміяй,—карыстаецца з сілы і магчымасьцяй усяго Саюзу. Гэта дае максімум дасягненьняў ва ўсіх галінах, а асабліва ў галіне экономікі, тэхнікі, абароны і інш. практычных заваёў. Савецкая Беларусь, зьяўляючыся складанай часткай фэдэральнага Саюзу, мусіла перанесьці частку свайго сувэрэнітэту на самы Саюз. Гэткія важныя дзяржаўныя функцыі, як грошы, армія, почта і транспорт, засталіся ў руках саюзнага цэнтру—значыць, у руках Масквы.

Ці магла незалежніцкая думка згадзіцца з гэткім станам рэчы? Яе raison d'être, яе сымболь веры—быў протэст супроць якой-бы то ні было „фэдэрацыі“, супроць якога-б то ні было абмежаваньня нацыянальнага сувэрэнітэту Беларусі. Падобная фэдэрацыя абсолютна супярэчыла ідэі незалежнасьці,—і таму супроць гэтых формаў дзяржаўнага існаваньня Беларусі незалежніцкая думка вяла асабліва ўпартую барацьбу.

Трэба згадзіцца, што па лініі спэцыфічна-дзяржаўнай, па лініі формальна-юрыдычнай ніякай згоды прыдумаць было нельга. Аднак, прымірэньне знаходзілася па другой лініі—па тэй лініі, якая ў Савецкім Саюзе праходзіць *на-над* дзяржавай, якая ня толькі перакрыжае, але ўзыходзіць далёка ўгару над ёй—па лініі клясавай. Аналізуючы істоту савецкае дзяржавы, беларуская эміграцыя ўбачыла, што ў варунках пролетарскай дыктатуры, у варунках будаваньня рабоча-сялянскага і соцыялістычнага саюзу народаў,—пытаньне дзяржавы ёсьць пытаньне другараднае; што дзяржава, як пэўная юрыдычна-фізычная організацыя, ня ёсьць сама па сабе той фэтыш, што стаіць у варунках капіталістычнага ладу вышэй за ўсё, нават часам вышэй за сам народ,—але што гэта ёсьць організацыя падначальная, організацыя, стаячая пад загадам пэўнай клясы і інтарэсам гэтае клясы ў першы чарод служачая. Паколькі ў Савецкім Саюзе акрэсьлілася адзінства клясы працоўных, пастолькі галавой яго зьяўляецца не

[1]) Мы ўжываем тэрмін „фэдэрацыя“ ня ў вузкім значэньні, прынятым у навуцы дзяржаўнага права дзеля акрэсьленьня пэўнага дзяржаўнага ладу, але як тэрмін шырокі, азначаючы наогул Саюз (лат.—foedus).

Масква і не расійскі народ,—але кляса рабочых і сялян усіх тых народаў, якія ўваходзяць у склад гэтага Саюзу. Рабоча-сялянская кляса зьяўляецца сілай, стаячай *над* Савецкім Саюзам,—і ў гэтай сіле кожны народ Савецкага Саюзу знаходзіць самога сябе.

У звычайнай буржуазнай фэдэрацыі гэткага *над-фэдэрацыйнага* моманту няма, і гэта фактычна зьяўляецца галоўнай перашкодай таму, што ў Эўропе, нават пры самых спагадных і, здавалася, абавязковых варунках прынцып фэдэрацыі не праводзіцца. Гэткім над-дзяржаўным, над-нацыянальным элемэнтам у Эўропе мог-бы быць толькі капітал і кляса капіталістых. Але, як вядома, дэструкцыйныя тэндэнцыі капіталу прэвалююць над якасьцямі яднаючымі,—выражэньнем чаго зьяўляецца сучасная нацыянальна-дзяржаўная фізыономія сьвету.

Беларуская эміграцыя бачыла, што ў варунках буржуазна-капіталістычнага ладу прыгнечаная нацыянальнасьць можа адрадзіцца *толькі* ў формах поўнай дзяржаўнай незалежнасьці,—бо паміж ёю і суседняй нацыяй няма і ня можа быць сілы іх прыміраючай. У варунках соцыялістычнага ладу гэтае адраджэньне *можа* адбыцца ў форме Саюзу дзяржаў, бо вышэйшым судзьдзёй, вышэйшым контролем паміж усімі аб'яднанымі ў Саюз нацыянальнасьцямі зьяўляецца адзіны ў сваёй істоце кляс працоўных. І паколькі пазволіць тэхніка дзяржаўнага будаўніцтва,—а яна a priori гэта безварункова дазваляе,—Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, на паказанай аснове, можа зьявіцца формай міжнароднай організацыі і яднаньня ня толькі нацый Эўропы, але і ўсяго сьвету. Дзякуючы гэткай новай, нячуванай у гісторыі, конструкцыі Савецкага Саюзу, народы могуць быць з другога боку забясьпечаны ад агіднейшых (але няўнікнёных!) праяў буржуазнай незалежнасьці—шовінізму, узаемнай нянавісьці, барацьбы за свой „прэсьціж", за свае рынкі і, як апошняга завяршэньня ўсіх гэтых „прысад",—ад праклятага молоху мілітарызму.

Аб якім „прыгнечаньні" Беларусі з боку Масквы магла быць пасьля гэтага гутарка? Прынцып Савецкай дзяржавы ня ведаў слабых ці моцных,—ён ведаў адзіна-працоўных.

Да яго нельга было прыстасаваць таго папроку, які справядліва робіцца ў стасунку да жоўтага рабочага руху ў Англіі, дзе несумленныя правадыры вядуць сваю працу ў паразуменьні з ангельскім капіталам у эгоістычных мэтах экономічнай эксплёатацыі і палітычнага ўціску Індыі, Ірляндыі, афрыканскіх і іншых колёній. Сувэрэнітэт у Савецкім Саюзе належыць не маскоўскаму ці, шырэй кажучы, расійскаму пролетарыяту, але працоўным усіх народаў. У канцы канцоў, нават і ня ў гэтай формальна-праўнай плошчы, мусіла беларуская эміграцыя шукаць забясьпечаньня праў Беларусі, а ў самай прыродзе рабочае клясы і яго правадыра—Комуністычнае партыі. Прырода-ж гэтае клясы і партыі зьяўлялася гэткай, што ня толькі не дапушчала якой-небудзь няроўнасьці паміж паасобнымі народамі, але сьвядома йшла на роўнасьці іх нават

тады, калі об'ектыўна, у жыцьці гэтай роўнасьці ня было: у тых выпадках, калі Комуністычная партыя бачыла культурна і экономічна разьвітыя нацыянальнасьці побач з нацыянальнасьцямі адсталымі,—яна ўсёй моцай свайго аўторытэту ішла на дапамогу гэтым адсталым сябром. Апошняе ў значнай меры датычыць і Беларусі,—і калі Беларусь па сваім культурным узросьце і экономічных магчымасьцях пакуль што не магла йсьці ўзровень з Масквой, дык у гэтым няма віны ні Масквы, ні Беларусі, але тых гістарычных варункаў, у якіх беларускі народ жыў у мінулым.

У тым, што гэта так ласьне і ёсьць, што рабочая кляса Савецкага Саюзу і Комуністычная партыя ня толькі зьдзейсьніла поўную роўнасьць народаў быўшай імпэрыі на паперы, у канстытуцыі, але праводзіць яе ў жыцьці і пры гэтым з надзвычайна важным корэктывам актыўнага падтрыманьня слабых, раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, беларуская эміграцыя магла пераканацца чытаючы, за немагчымасьцю дастаць савецкую прэсу, закордонныя белагвардзейскія газэты.

Чытаючы ўсялякія „Рулі", „Дні" і інш., беларуская эміграцыя са зьдзіўленьнем даведвалася, што небясьпечная для Беларусі вялікаруская вялікадзяржаўнасьць устрымліваецца ня столькі Менскам, ня столькі мясцовымі беларускімі сіламі, колькі самой Масквой, у постаці расійскага пролетарыяту і яго вышэйшага органу—РКП. Выходзіла, што не слабыя кадры беларускай інтэлігенцыі і ня нізкая нацыянальная сьвядомасьць беларускіх сялянскіх мас зьяўляюцца гарантыяй пасьпешнага адраджэньня Беларусі, а жалезная рука пролетарыяту, пад якой паслухмяна гнецца варожае беларускаму руху мяшчанства, рэакцыйнае чыноўніцтва, а часам і кваліфікаваная інтэлігенцыя „белай косьці" і расійскай культуры. Эміграцыя са смакам чытала гістарычныя выкрыкі гэтае прэсы аб тым, як „погибает великая русская культура" на Беларусі, на Украіне, на Каўказе і г. д.; як бальшавікі цьвёрда і пасьлядоўна праводзяць усялякія „зацыі"—у тым ліку беларусізацыю, і як корчыцца ад гэтай „беларусізацыі" ўсё чорнае, усё контр-рэволюцыйнае на Беларусі; як у зьвязку са ўсім гэтым з кожным днём пазбываюцца „Рулі", „Дні", мілюкоўскія „Новости" і г. д. сваёй вялікадзяржаўнай пыхі і спэцыфічна-маскоўскай упэўненасьці. Беларуская эміграцыя чытала ўсё гэта, у душы захаплівалася і дзівілася ўсяму гэтаму і думала: яны, бальшавікі, ня супроць беларускага нацыянальнага адраджэньня, але наколькі гэта шчыра, наколькі сур'ёзна, ці ня зьменіцца гэта назаўтра?.. Аднак, чым далей, тым больш аказвалася, што і нацыянальная політыка Комуністычнай партыі і Савецкая Беларусь, як рэальны выраз гэтай політыкі,—не прыпадковасьць, што гэта „всерьез и надолго".

Пералічаныя вышэй этапы эмігранцкай мысьлі датычылі, як лёгка можна заўважыць, прынцыповага, ідэолёгічнага боку справы. Гэты бок меў, зразумела, першараднае, рашаючае значэньне. Апрача яго, быў і

другі бок—шэраг пытаньняў тактычных, што акрасьлялі заданьні беларускага руху ў даны момант ці, бліжэй кажучы, тых, што складалі беларускую нацыянальную політыку. Галоўным пытаньнем у гэтым шэрагу зьяўлялася пытаньне аб вызваленьні Заходняй Беларусі з-пад польскага захвату і аб'яднаньне ўсяго этнографічна-беларускага абшару пад уладай адзінага цэнтру. Тут усё было прасьцей,—і таму ня дзіва, што калі ў пытаньнях ідэолёгічнага характару сярод эміграцыі ўздымаліся часта вялікія спрэчкі, дык тут, у пытаньнях бягучай політычнай практыкі, гэткіх спрэчак ня было: амаль усе згаджаліся, што пры сучасных гістарычных варунках, пры існаваньні „ўваскросшай" Польшчы, падпертай ня толькі Францыяй, але і ўсёй Антантай, уратаваньне Заходняй Беларусі ад канчатковай заглады з боку Польшчы павінна быць абаперта ня толькі на сілах самога беларускага народу, але роўна з тым на чымсьці больш фізычна моцным. Кожнаму было ясным, што пры сучасных трагічных абставінах беларускаму адраджэньню трэба мець саюзьніка нагэтулькі-ж соліднага, як і тая „культурная" Эўропа, на якую абапіраецца польскі захват.

Хто-ж мог быць гэткім саюзьнікам? Быў час, калі эміграцкая думка шукала яго ў постаці Літвы, як дзяржавы, варожа настроенай супроць Польшчы ў зьвязку з захватам Вільні. Аднак, хутка ў гэтым прышлося расчаравацца. Ні базай беларускага вызваленчага руху, ні тым болей рашучай сілай, саюз з якой мог-бы даць Беларусі перамогу над панаваньнем Польшчы, Літва быць не магла. Гэтаму было шмат прычын, спыняцца на якіх тут ня месца. Не магла быць гэткім саюзьнікам і ўся Прыбальтыка ў цэлым, паколькі яна была ня менш Польшчы зьвязана Антантай і трымала з Польшчай самы сардэчны альянс. Знаёмства з політычнай сытуацыяй у Эўропе не давала надзеі беларускай эміграцыі знайсьці патрэбнага саюзьніка далей на Захадзе, бо тут было не да Беларусі; аб гэткіх quantité negligable ніхто не ламаў там сабе галавы, а тым больш ня меў ахвоты актыўна ў іх справы ўмешвацца. Хоць кожная з эўропэйскіх дзяржаў уважна цікавала за разьвіцьцём беларускага руху, але гэты інтарэс быў чыста інформацыйны, выкліканы патрэбай ведаць наогул усё, што дзеецца навакол, для грунтоўнай орыентацыі, і быў вельмі далёк ад якой-небудзь зацікаўленасьці ў Беларусі, як самастойнай дзяржаўнай адзінкі. Акрэсьлена зацікаўленым заставаўся толькі Савецкі Саюз.

Тут да рэчы трэба зазначыць і асабліва цьвёрда падкрэсьліць, што вызнаньне Савецкае ўлады, як адзінага магчымага саюзьніка ў барацьбе беларускага народу за сваё адраджэньне, зьявілася сярод беларускай эміграцыі не як тактычны вывад, але як сьледзтва вызнаньня ідэолёгічнага. У гэтым паміж ёй і так зв. „зьменавехаўскім" настроем расійскай эміграцыі—вялікая і прынцыповая розьніца. *Не меркаваньні тактычнага характару, не сьвядомасьць цяжкага політычнага становішча Беларусі, выма-*

*гайшага зрабіць „стаўку на Маскву“, прывялі беларускую эміграцыю да прызнаньня Савецкага Менску, а, наадварот—сьвядомасьць праўды, якую несла з сабой ідэя Савецкае ўлады, дазваляла абаперці справу вызваленьня Заходняй Беларусі і будучыну вызвиленчага руху наогул аб Саветы, а г. зн. у далейшым—аб Маскву.* Гісторыя Беларусі давала занадта яскравыя прыклады таго гіблага значэньня, якое мела прабываньне Беларусі пад панаваньнем расійскага прыгону. Уся мінуўшчына Беларусі не давала ніводнаму сьвядомаму чалавеку веры ў тое, каб сувязь Беларусі з цэнтрам расійскага вялікадзяржаўя—Масквой, давала ці магла даць на будучыну якія-небудзь карысьці беларускаму народу. І толькі пасьля таго, як эміграцкая думка ўбачыла і ўразумела, што гэта ёсьць *савецкая і комуністычная Масква*,—толькі тады яна магла пазбавіцца гэтага гістарычнага недавер'я і вызнаць ня толькі магчымым, але патрэбным і абавязковым сучасную сувязь Менску з Масквой.

Грунтоўнае вывучэньне, разважаньні і дыскусіі над усімі гэтымі проблемамі, істотна-крытычнае процістаўленьне ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі і ідэі Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі адбываліся сярод эміграцыі ці мала часу. Гэтыя пытаньні тварылі для яе пытаньне ўласнага жыцьця ці сьмерці, яны акрасьлялі сабой усю яе будучыну—і таму няма нічога дзіўнага, калі „перагляд цэннасьцяй“ цягнуўся ня месяц і нават ня год. Аднак, чым далей, тым усё больш патрэба таго ці іншага адказу на гэтыя пытаньні рабілася абавязковай. Акрэсьлена паўстала альтэрнатыва: каму верыць і з кім ісьці? Ці верыць пролетарыяту і ісьці разам з рабоча-сялянскім саюзам супроць капіталістычнага Захаду, ці верыць гэтаму капіталістычнаму Захаду, раўняцца па ім, вязаць свой лёс з ім і йсьці супроць рэспублікі рабочых і сялян? Ужо ўлетку 1925 году стала ясным, што ў большасьці эміграцкіх організацый адпаведнае рашэньне дасьпела канчаткова. Бэрлінская конфэрэнцыя засьведчыла гэтае рашэньне адкрыта, аб'яднаўшы вакол сябе найбольш чулыя і найбольш дзейныя элемэнты эміграцыі. Урад БНР быў зьліквідаваны. Менск быў прызнаны адзіным цэнтрам беларускага адраджэньня ў сучаснасьці, а барацьба супроць яго была кваліфікавана як нацыянальная здрада.

Як-жа адбілася Бэрлінская Конфэрэнцыя на далейшых лёсах беларускай справы за кордонам, якія аргуманты і захады супроць яе высунула тая частка эміграцыі, якая засталася варожай Менску?

*(Працяг будзе).*

# АЛЖЫР, МАРОКО, ТУНІС

*(З цыклю па нацыянальна-вызваленчым руху ў краінах Усходу)*

**Л. Каган**

I

Да гэтага часу мы разглядалі такія краіны Бліжняга Ўсходу, дзе мясцовая буржуазія або зусім ужо амаль скінула і ўціск фэўдалізму і ўціск замежнага капіталу (Пэрсія Рэза-хана, Турцыя Кемаля-пашы), або ўпарта і героічна, але яшчэ пакуль што без асабліва ґадчувальных вынікаў, гэту падвойную барацьбу вядзе (Эгіпэт, Індыя, Кітай).

Але поруч з гэтымі дзяржавамі ёсьць і такія, дзе патрыярхальна-фэўдальны жыцьцёвы ўклад толькі пачынае раскладацца, дзе мясцовая дваранская арыстократыя і часткова духавенства яшчэ не адарваліся ад сваіх бадзяжных і поўбадзяжных родзічаў і выступаюць пачынальнікамі ў іх барацьбе з колёнізатарска-імпэрыялістычнай палітыкай эўропэйцаў. Такія дзяржавы-колёніі паўночнай Афрыкі—Алжыр, Туніс, Мароко, Трыполітанія, Кірэнаіка. З іх у даны момант зьвяртае на сябе найбольшую ўвагу героічнаю барацьбою за нацыянальнае вызваленьне Мароко, і мы дзеля гэтага на лёсе апошняга і спынімся найбольш падрабязна.

Аднак, перш-на-перш, некалькі слоў аб Паўночнай Афрыцы наогул. Пад назваю „Паўн. Афрыка“ звычайна разумеюць вялізарную тэрыторыю ў два мільёны квадратовых кілёмэтраў, да таго-ж тэрыторыю самую ўраджайную і самую спрыяючую па кліматычных адносінах на ўсім „чорным сухазем‘і“. Гэта вялізарная плошча мае форму плято, верхняя прыступка якога занята спадручнымі для бадзяжнікаў стэпамі, а ўзгоркаватыя схілы багаты лясамі і рэчнаю вадою—найлепшыя ўмовы для аселага жыцьця.

Вось чаму з даўніх-давён Паўночная Афрыка была прыцягваючым цэнтрам для народаў-колёністых. Так, у цяперашнім Тунісе красавала выдатная фінікійская колёнія Картаген. Дзеля аўладаньня ім і наогул паўночна-афрыканскімі землямі цераз некалькі сталецьцяў пазьней рымляне вялі свае славутыя пунічныя войны.

Такім чынам, барацьба за ўладаньне Паўночнай Афрыкай лічыцца тысячалецьцямі.

Як адбыўся падзел гэтае тэрыторыі ў навейшыя часы? Якія антагонізмы ўнутранога і знадворнага характару тут змагаюцца? Экономіка

краю? Нацыянальна-вызваленчы рух, яго характар, дасягненьні, пэрспэктывы? Пастараемся ніжэй даць адказ на ўсе гэтыя найцікавейшыя пытаньні.

II

Пачнем з Алжыру.

Францускі гандлёвы капітал стаў віць сабе гнёзды на тэрыторыі Алжыру яшчэ з XVI сталецьця. Ён атрымаў тады ў шэрыфскіх султанаў права на здабычу караляў і пабудаваў тут шэраг факторый—Бастыён-дэ-Франс, Кап-дэ-Роза, Кап-Нэгер. Паступова ўплыў гэтага капіталу расьце і ў ІІ-й палове XVIII веку; адна толькі „Компані д'Афрык“ пачынае рабіць страшэнна вялікія звароты—у 4-ы, $4^1/_2$ мільёны ліўраў у год.

XVIII век—пэрыод моцнага супрацоўніцтва паміж францускім капіталам і „сіяцельнымі і пышнымі сеньёрамі“ Алжыру. Псуюцца адносіны паміж тымі й другімі толькі з пачатку XIX сталецьця—моманту экспэдыцыі Наполеона ў Эгіпэт. Рвуцца, дзякуючы гэтай злашчаснай экспэдыцыі, гандлёвыя і дыплёматычныя адносіны, „Ля Компані дэ Франс“ зусім выганяецца з краіны. Але канчаецца гэтае непаразуменьне сумна для Алжыру: у 1830 годзе французы, як быццам-бы для абароны хрысьціянскіх меншасьцяй у краіне, окупавалі яе ўсю. З дня заняцьця Алжыру Францыя марыла зрабіць яго „бесьперарыўным працягам“ свае тэрыторыі. Дасягнуць гэтага яна спадзявалася перасяленьнем у Алжыр значных мас сваіх сялян і рабочых. На дасягненьне паказанае мэты францускі ўрад грошай не шкадаваў—на перасяленцкую справу ў агульнай суме было патрачана каля 8 мільярдаў. Чакаемых вынікаў, аднак, не атрымалася, што можна бачыць з ніжэй паданых лічбаў: у момант окупацыі французамі насяленьня ў Алжыры было 1 міл. 700 тысяч. Прырост ішоў наступным чынам: 1877 г.—2 міл. 796 тыс., 1911 г.—5 міл. 492 тыс., 1920 г.—5 міл. 800 тыс., 1924 г.—5 міл. 806 тыс.

Агульны перапіс 1910 г. дае такія этнографічныя разьмеркаваньні:

| | |
|---|---|
| арабаў і кабілаў . . | 5.014.662 |
| французаў . . . . | 405.203 |
| яўрэяў . . . . . | 73 967 |
| гішпанцаў . . . . | 144.223 |
| італьянцаў . . . . | 36.795 |
| іншых . . . . . . | 10.261 |

Гэта значыць—агульная лічба чужынцаў у 1910 г. складала 15,2% усяго насяленьня, а „ўласьнікаў“ французаў было толькі 6,25% агульнае масы жыхарства. Калі прыняць пад увагу малы натуральны прырост французаў—4,1 чал. на 1.000 чал. (прырост іншых эўропэйцаў у Алжыры—18,8 чал. на 1.000), атрымаецца на кожнага француза ў Алжыры 5 чужынцаў, 1 яўрэй і 55 тубыльцаў. Дарма, значыць, патрачана 8 мільярдаў народных грошай на справу колёнізацыі Алжыру ва ўласным сэнсе

слова; трэба яшчэ дадаць, што і нешматлікія дробныя француская зямляўласьнікі-колёны ня ўжываюцца на зямлі і бягуць у гарады або ў мэтраполію.

Быць можа—усё-ж такі ідэя „бесьперарыўнага працягу“ жыцьцёва, але мае другую падставу—базу ўздыму матэрыяльнага дабрабыту тубыльцаў з моманту окупацыі і заснаваных на гэтым сымпатый карэнных алжырцаў к ураду мэтраполіі?

Зразумела, не. Становішча тубыльцаў, экспропрыяваных окупантамі, нагэтулькі цяжкае, што гэта адзначаецца нават францускім лібэральна-буржуазным грамадзкім поглядам. Некі Бюрдо, які выдаў брошуру аб Алжыры яшчэ ў 1892 годзе, піша наступнае: „Зьвернем увагу на няшчаснага араба, які ходзіць у лахманох, сьпіць у хаце без страхі, цераз якую льлецца дождж, і жывіцца мізэрнаю ежай, якое чуць выстарчае для падтрыманьня поўгалоднага існаваньня. Гэтае мізэрнае марнаваньне зьяўляецца лёсам ня толькі дэклясаванага араба, але і ўсіх бедных насельнікаў, пазбаўленых зямельнай уласнасьці“ [1]). Буржуазная „Matin“ крывадушна заяўляе ў адным з сваіх нумароў напярэдадні вайны (зразумела, не таму, што гэта бульварная газэтка спагадае пакутам алжырцаў, а таму, што стаіць за далейшае іх палітычнае бяспраўе): „Раней, як надзяляць тубыльца палітычнымі правамі, трэба яму забясьпечыць minimum матэрыяльнага існаваньня; што тубыльцу ў выбарчым бюлетэні, калі ён паміраё з голаду і хвароб“. Нарэшце, комуністы Вальян Кутюрье, што пабываў у Алжыры ў 1922 годзе, піша ў „Humanitè“: „Вельмі цяжкае становішча арабаў да таго нястрыманае, што можна часта бачыць няшчасных тубыльцаў, якія адбіраюць у сабак адкіды ежы ў сьметнікавых скрынках. Тубыльцы па большай часьці жывяцца сапсутымі зернятамі, абвугленым сарчо і карэньнямі шкодных дзікіх расьлін“.

Усе, стала быць, што пабывалі ў Алжыры—і крайнія правыя, і крайнія левыя,—констатуюць нявыказна цяжкае становішча „облагодетельствованных цивилизацией“ тубыльцаў.

Як „дашлі яны да жыцьця такога“?

Тут справа перш-на-перш у аграрнай палітыцы окупантаў. За час окупацыі ўсяго захоплена зямлі ў тубыльцаў: ворнай—2 мільёны гэктараў, лесу—2 міл. 700 тыс. гэктараў. І тая акалічнасьць, што эўропэйцы ў сваіх лятыфундыях ужываюць удасканаленыя спосабы апрацоўкі зямлі, у той час, як у тубыльцаў гэтыя спосабы надзвычайна прымітыўны, яшчэ больш дапамагае абядненьню тубыльцаў, пролетарызуе іх і гоніць у якасьці амаль што дармовае рабочае сілы ў лятыфундыі француз аў.

На грунце зямельнае цясноты і бясьсільля конкураваць з окупантамі ідзе на зьмяншэньне важнейшая крыніца існаваньня алжырцаў—жывёлагадоўля. Так, авец у 1882—1888 г.г. было ў Алжыры 11 міл. галоў,

[1]) Цытавана па кніжцы Кітайгародзкага і Пурэцкага: „Англия, Марокко, Тунис—в борьбе за независимость“, стар. 22.

у 1904—05 г.г. толькі 7 міл. Такое-ж самае скорае памяншэньне назіраецца і рагатае жывёлы. Паступова зьнікае культура тубыльцамі аліўных дрэў: у 1910 г. іх было 6.655.316 штук, у 1911 г.—6.118.912 шт., за адзін толькі год памяншэньне на поўмільёна дрэў!

Падае, зразумела, і здабыча аліўнага алею: у 1907 г. яго выраблена было 549.918 гэктолітраў, у 1911 г.—усяго 261.124 гэктолітраў. У 1911 г. ў Алжыр, краіну найлепшых аліўных дрэў, ужо прыходзіцца ўвезьці 129.832 гэктолітры аліўнага алею, каб задаволіць унутраныя патрэбы краіны[1]). Няма чаго, зразумела, і гаварыць аб нявытрымным зямельным голадзе тубыльцаў: у 1911 годзе 23 тыс. колёністых уладалі паўтара мільёнамі гэктараў зямлі, а мільёны тубыльцаў (гл. таб. на стар. 2) двума з лішкам мільёнамі гэктараў, што дае $^1/_4$ гэктара на душу! А за час, што аддзяляе нас ад 1911 г., становішча гэтае зьмянілася ў сторану, горшую для тубыльцаў. І трэба пры гэтым адзначыць—у Алжыры надзвычайна мала эўропэйцаў—дробных зямляўласьнікаў, зямля там пераважна ў руках буйных „зямельных фабрыкантаў“.

Цяпер некалькі слоў аб алжырскай індустрыі. Больш буйная, зразумела, у руках замежнага капіталу і таксама б‘е па тубыльцу, таксама як і аграрная палітыка заваявацеляў: адбірае ў тубыльцаў зямлю, скарыстоўвае іх у якасьці амаль што дармнае рабочае сілы. Праўда, апрацоўваючая прамысловасьць тут яшчэ ў зародкавым стане: з 32.000 прадпрыемстваў, што налічваліся ў Алжыры ў 1905 г., было 19.000 такіх, дзе працавалі толькі гаспадары, без наёмных рабочых, а на рэшту ў сярэднім прыходзілася па 3 рабочых. Але сярод іх было і некалькі дзесяткаў буйных капіталістычных прадпрыемстваў: хэмічныя заводы, цэмэнтавыя фабрыкі, цагляныя заводы, мылаварныя. Затое здабываючая прамысловасьць, пераважна па распрацоўцы багатых жалезных залежаў, пастаўлена шырока і знаходзіцца ў руках ня столькі французаў, колькі ангельскіх, бэльгійскіх і нямецкіх капіталістых: штогодняя здабыча жалеза дае прыкладам мільён і больш тон (у 1911 г.—1.102.143 тоны).

Каб лепш эксплёатаваць прыродныя багацьці краіны, окупанты зьдзяйсьнялі пашыраную праграму чыгуначнага будаўніцтва і ў цяперашні час маюць сетку даўжынёю ў 4.658 кілёмэтраў, з якое 2.902 кілёмэтры дзяржаўнае чыгункі. Агульная сума ўложаных у чыгуначнае будаўніцтва капіталаў ужо ў 1910 годзе складала 650 міл. франкаў, і ў цяперашні час, бязумоўна, значна больш.

Яшчэ аб тубыльцах Алжыру. Тут ужываюцца дзьве этнічныя групы: кабілы, даўнейшыя насельнікі краіны, якіх загналі ў горы заваявацелі-арабы, і арабы, што занялі па пераважнасьці мясцовасьці раўніны і складаюць каля $^2/_3$ усяго алжырскага насяленьня. Арабскае заваяваньне адбылося ў VII веку. Зямля паміж тымі і другімі разьмяркоўваецца наступным чынам: 3 міл. гэктараў у руках кабілаў (бэрбэраў), 11—у руках

[1]) Лічбы ўзяты з артыкулу „Сев. Африка“, „Н. Восток“ № 4.

арабаў. Кабілы зямлёю карыстаюцца паасобна або родамі (фаміліямі), у арабаў-жа больш пашырана грамадзкая форма зямлякарыстаньня. Гэта форма носіць тут назву „арк“ у вадзнаку ад „мульк“ альбо „арбабі“—прыватнае ўласнасьці на зямлю з правам адабраньня і продажу.

Французы гэтыя зямельныя адносіны значна зьмянілі ў сэнсе ператварэньня „арк“ у „мульк“ і пад выглядам пераўтварэньня алжырскага селяніна ва „ўласьніка“ заўсёды яго рабавалі.

Рабуе алжырца-селяніна ня толькі эўропэец-колёнізатар. Яго агалечвае асаблівы выгляд зямельнае кабалы—„рапія“, закладаньне зямлі пад пазыку, якую ён атрымлівае ў ліхвяра. Зямля застаецца цалкам у карыстаньні ліхвяра, пакуль ня будзе выплачана пазыка з непамернымі „складанымі“ процантамі, а гэтага амаль што ніколі не ўдаецца дамагчыся ўблытанаму беднаму селяніну. Страціўшы надзею стаць зноў на ногі, ён абарачаецца ў „комэз“—поўпрыгоннага. Яму даецца буйным зямляўласьнікам зямля, насеньне, прылады для апрацоўкі зямлі і жывёла, але затое за арэнду „комэз“ аддае зямляўласьніку 80 проц. валавога ўраджаю.

Палітыка барацьбы французаў з грамадзкім зямляўладаньнем дапамагае абагачваньню кучкі арабскіх кулакоў і фэўдалаў, але масу дробных зямляўласьнікаў руйнуе нашчэнт: за апошнія 4 гады з Алжыру ў адну толькі Францыю эмігравала 200.000 арабаў.

Кіраваньне краінай? Яно ў руках генэрал-губарнатара, формальна абмежаванага ў справе кіраваньня двума прадстаўнічымі ўстановамі—адным ад францускага насяленьня, другім—ад тубыльнага. Але было-б памылкаю думаць, што гэтае другое прадстаўніцкае сабраньне—„Фінансавая Дэлегацыя“ складаецца з тубыльцаў. Яно дзеліцца на тры сэктары: колёністых, не-колёністых і тубыльцаў. І ў сэктар тубыльцаў гэтага куцага дарадчага органу выбірацца могуць толькі „натуралізаваныя“ алжырцы, якіх у краіне налічваецца ўсяго некалькі тысяч. Законам 4 лютага 1919 году ўрад ласкава „натураляваў“ алжырцаў-уласьнікаў, што ўмеюць чытаць і пісаць пафранцуску і пабывалі на вайне. Але „натуралізацыя“ гэта выключна формальная, і толькі што сьпечаныя францускія грамадзяне па існасьці такія-ж бяспраўныя і цяпер, як раней. Школы існуюць у Алжыры толькі для французаў, кабілы зусім ня вучаць сваіх дзяцей, дзеці арабаў вучацца ў мэдрэсе, дзе сьвецкія навукі зусім не выкладаюцца.

Такія, у кароткіх рысах, тыя ўмовы, пры якіх даводзіцца жыць сямімільённаму алжырскаму насяленьню пад уціскам францускага капіталу.

Для „культурных“ заваявацеляў Алжыр—толькі рынак, адкуль карысна экспортуецца жалеза, аліўны алей, фосфат, продукты землуробства і куды на карысных таксама ўмовах можна ўвозіць вырабы сваіх фабрык. Насяленьне-ж—рэзэрвуар таннай, амаль што дарэмнай рабочай сілы, „шэрая жывёлінка“, патрэбная для работы на вялізарнейшых латыфундыях эўропэйцаў. Няма чаго, зразумела, і даводзіць, што тубыльцы

Алжыру ня маюць асабліва таварыскіх пачуцьцяў да францускіх заваявацеляў. Алжыр налічвае ў сваёй гісторыі цэлую сэрыю паўстаньняў і бунтаў супроць захопнікаў, але ўсе яны былі невыстарчаюча з'арганізаваныя і шырокія, каб даць станоўчыя вынікі, і нацыянальна-вызваленчы рух у Алжыры перажывае яшчэ пакуль што свой партызанскі пэрыод разьвіцьця. Мы ведаем толькі адно масавае паўстаньне супроць французаў у Алжыры—Абд-эль-Кодэраўскае паўстаньне 1842 году, якое скончылася перамогаю над паўстанцамі і палонам іх правадыра. Усе паўстаньні, што адбываліся пазьней, маюць выключна мясцовы характар і былі арганізаваны слаба, што давала магчымасьць французам прыдушваць іх без асаблівага напружаньня.

Толькі ў самыя апошнія часы пачынаюць больш ці менш азначана абрысоўвацца контуры ўсеалжырскага нацыянальна-вызваленчага руху, які концэнтруецца вакол эміра Колэда, унука Абд-эль-Кодэра. Пасьля вайны ў гэтым апошнім адбываецца пералом, ён зьнявервaецца ў „цывілізатарскай місіі“ французаў, што давяла да выміраньня яго народ. Колэд варочае Эрыё свае мэдалі і адзнакі, атрыманыя ім у часе імпэрыялістычнай вайны, і становіцца на чале ўсяго таго, што ёсьць сярод алжырцаў нацыянальна-здаровага і здольнага змагацца за незалежнасьць і вызваленьне. Адносіны да Савецкага Саюзу сярод гэтае перадавое часткі алжырцаў, у прыватнасьці самога Колэда, самае дабрачыннае. Увесь гэты рух яшчэ пакуль што ў стадыі арганізацыйнай, і ў бой з французамі колэдаўцы яшчэ ня ўступалі.

Партыя як француская комуністычная, так і меншавіцкая француская—падсобніцы імпэрыялістычнай політыкі ўраду, ня маюць пакуль што значнага ўплыву на тубыльнае насяленьне Алжыру і вядуць працу пераважна сярод эўропэйскіх рабочых. Гэту памылку францускае кампартыі прыкмеціў і падкрэсьліў IV Конгрэс Комінтэрну, і цяпер у сваёй працы РКП лічыцца і з момантам агітацыі сярод тубыльцаў. Гэтак—алжырская комуністычная газэта „La lutte sociale“ дае цяпер артыкульны матэрыял і на арабскай мове.

Вывад? У Алжыры досыць назьбіралася палкага—аб гэтым амаль што за сто год свайго кіраваньня краінаю паклапаціўся француcкі капіталізм. Калі імпэрыялістым ня ўдасца патушыць мароканскі пажар, ён лёгка можа перакінуцца ў Алжыр.

Калі ўдасца—пажар паўстаньня прыгнечаных народнасьцяй Паўночнай Афрыкі супроць эўропэйскага імпэрыялізму таксама ня прымусіць сябе чакаць асабліва доўга.

## III

Цяпер аб Мароко.

Паводле слоў аднаго з прадстаўнікоў брытанскага імпэрыялізму, Гары Джонстона, „Мароко—гэта аснова для сусьветнага панаваньня“. Сапраўды, у гэтай краіны надзвычайна спадручнае геаграфічнае пала-

жэньне—яна займае паўночна-заходні вугал Афрыкі і ўрэзваецца клінам паміж Атлянтычным акіянам і Міжземным морам, знаходзячыся, такім чынам, на вялікіх сусьветных шляхох у Паўднёвую Афрыку і Індыю. Апрача таго, Мароко ўладае найбагацейшымі залежамі розных каштоўных выкапняў. Апрача таго, Мароко недалёка знаходзіцца ад Эўропы. Здавалася-б, што ўсё спрыяе для скорага капіталістычнага разьвіцьця краіны, захопу яе якою-небудзь капіталістычнаю дзяржаваю Эўропы.

А між тым яшчэ амаль што ня крануты вялікія натуральныя багацьці краіны, яе насяленьне жыве ў рамках натуральнае гаспадаркі і колектыўнай уласнасьці.

Тлумачыцца гэта, зразумела, не адсутнасьцю ў асобных капіталістычных дзяржаў Эўропы жаданьня загарнуць гэты ласы кавалачак да сваіх рук, а, наадварот,наліччам гэтага жаданьня ў вельмі значнага ліку дзяржаў, што прымушала гэтыя дзяржавы на міжнародных конфэрэнцыях адстойваць ідэю недатыкальнасьці Мароко.

Сапраўды, дапусьцім, што Мароко пад уладаю Англіі. Гэта аддае Гібральтар у яе ўладаньне цалком і без абмежаваньня, што стварае нежаданыя для Францыі і Германіі (былое, даваеннае) межы павялічэньня моцы Англіі. Дапусьцім цяпер—Мароко заўладала ня Англія, а якаянебудзь іншая дзяржава. Гэта азначала-б, што ад волі дзяржавы-ўласьніцы Мароко залежыць адрэзаць Англію ад яе колёній—становішча, з якім, бязумоўна, пагадзіцца Англія ня можа.

Натуральныя багацьці Мароко надзвычайна вялікія. Папершае, з яе плошчы ў 600.000 квадр. кілёмэтраў (некалькі перавышаючай па велічыні Францыю) прыкладам трэцяя частка—вялікія ўраджайныя мясцовасьці, нават з большаю ўраджайнасьцю, чым у Алжыры. Падругое, тут найбагацейшыя лясныя пушчы: на верхавінах ракі Мулупа, у раёне Касба-Кеніфра і Дум-Мэрбіа, на паўдня ад Мэкнеса, а таксама ў краіне Рыф, дзе спатыкаюцца кедры, якія маюць вышынёю 30—35 мэтраў і 5—6 мэтр. таўшчынёю. Бесьперарыўныя лясы цягнуцца ад Бакі—Уарайі, займаючы плошчу больш 300.000 гэктараў. У лясох ёсьць і коркавае дрэва. Гэтак, весь з коркавага дрэва складаецца славуты Маморскі лес к захаду ад Рабату. Патрэцяе, у Мароко багацейшыя залежы жалеза (паводле аднае справаздачы—20.27 месцараджэньняў), золата (у краінах Рыф, Рыата і Сус), срэбра (Рыф, раён Тэтуана і інш.), медзі (у горах Агеці-Атласа). Ёсьць у Мароко і залежы серкі, солі, салетры, мармуру, гіпсу. У раёне Алкасара вынайдзены нядаўна нафтавыя крыніцы. Усе гэтыя багацьці распрацоўваюцца пакуль што ў нязначных памерах.

Жывуць у Мароко бэрбэры (карэннае насяленьне краіны), арабы (заваявалі краіну ў VII веку), яўрэі, маўры (апошнія ў XI—XVI в. в. перасяліліся ў Мароко выключна з Гішпаніі). Большасьць мароканскага насяленьня складаюць бэрбэры—75 проц. усёй масы жыхарства,—і дзеляцца яны на тры групы: паўночную, цэнтральную і паўднёвую, якія гаво-

рацы на гаворках „зэната“, „тамазіфт“ і „ташэльхіт“. Апрача таго, значная частка бэрбэраў гаворыць паарабску. Быт бэрбэрскіх пляменьняў—гомэраўскі. Яны не прызнаюць мусульманскага права, не прызнаюць султана і прадстаўнікоў яго юстыцыі—кадзіяў. Вышэйшаю ўладаю ў племя лічыцца народная сходка—„джэмаа“. Яно абірае шэйхаў, уладу якіх тое-ж „джэмаа“ абмяжоўвае, вырашае пытаньні вайны і міру, пытаньні „леффа“ (злучэньне некалькіх пляменьняў для абароны ад агульнага ворага) і г. д. Такое кіраўніцтва маюць „біляд-ус-сіба“, г. ё. дзікія краіны. Краіны-ж, якія падуладны цэнтральнаму ўраду, называюцца „біляд-уль-махзэл“—„казённыя землі“ і тут „джэмаа“ хоць і існуюць у паасобных пляменьняў, але аўторытэту амаль што жаднага ня маюць. Уся паўната ўлады згуртавана на гэтых „казённых землях“, г. зн. землях, насяленьне якіх плаціць падаткі, у руках „каіда“—фэўдальнага сеньёра, да драбніц які падобен на свайго эўропэйскага сярэднявяковага цёзку. Гэтыя „каіды“ служаць пасярэднікамі паміж галоўным мароканскім фэўдалам-султанам і тубыльным насяленьнем. Вось чаму французы стараюцца сыстэмаю подкупу „каідаў“ папулярызаваць у масах ідэі свайго протэктарату над краінай. Сярод „каідаў“ шмат такіх, якія амаль што ня трымаюць ніякай сувязі з султанам і лічаць сябе самастойнымі царкамі.

Арабы ў Мароко адыгрываюць свайго роду казакоў: іх пляменьні належаць да так званай катэгорыі „гіш“, г. зн. яны павінны дастаўляць салдат у армію султана і за гэта звальняюцца ад падаткаў і жывуць на землях, якія знарок выдзелены для іх.

Маўры і яўрэі ў Мароко—гэта ў пераважнасьці тубыльная буржуазія, галоўным чынам гандлёвая, і інтэлігенцыя. Колькасьць чужынцаў у Мароко расьце надзвычайна шпарка. Так у 1907 г. ў так званай французскай зоне было 250—300 чалавек, і ўсе яны жылі ў Казабланцы. Паводле-ж перапісу 1921 г. іх ужо налічваецца 35.283 асобы ў аднэй толькі Казабланцы, ва ўсім-жа Мароко, паводле даных за 1914 г.—каля 50 тысяч. Усяго-ж насяленьня ў Мароко—6 міл. чалавек.

Займаюцца тубыльцы ў Мароко па пераважнасьці земляробствам—у Мароко для зямляапрацоўкі годнай плошчы 8.800 тыс. гэктараў зямлі;

| | | |
|---|---|---|
| з яе: | пад збожжам . . . . . | 2 міл. гэктараў, |
| „ | фруктовымі садамі і вінаграднікамі . | 50 тыс. „ |
| „ | пашаю . . . . . . | 4 міл. 700 т. гэкт. |
| | могуць быць скарыстаны як ворнае поле | 2 „ „ „ |

Спосабы апрацоўкі зямлі самыя прымітыўныя: месцамі няма нават сахі і яна заменьваецца драўляным сукам.

Досыць бачную ролю ў сельска-гаспадарчым жыцьці Мароко займае жывёлагадоўля; даныя 1921 г. адзначаюць налічча ў краіне абкладзеных падаткам

| | |
|---|---|
| авец . . . . . . . | 6.733.022 штук |
| коз . . . . . . . | 2.040.304 „ |

| | | |
|---|---|---|
| буйнае рагатае жывёлы . . | 1.517.117 | штук. |
| сьвіней . . . . . . | 115.036 | „ |
| мулаў. . . . . . . | 201.006 | „ |
| вярблюдаў . . . . . . | 98.252 | „ |

Падаткавы ціск на насяленьні абедзьвюх зон Мароко—як францускай, так і гішпанскай, асабліва з моманту ўстаноўленьня францускага протэкторату—ляжыць надзвычайна цяжкі. Так, выкалачана падаткаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У францускай зоне ў | 1913—14 г. г. | 3 міл. 340 | тыс. фр. |
| „ „ | 1914—15 „ | 6 „ 937 | „ „ |
| „ „ | 1915—16 „ | 13 „ 941 | „ „ |
| „ „ | 1916—17 „ | 19 „ 134 | „ „ |
| „ за 8 мес. | 1919 „ | 21 „ 223 | „ „ |
| „ у | 1922 „ | 67 „ 600 | „ „ |

У наступныя гады, у сувязі з увядзеньнем новых ускосных падаткаў, гэта лічба вырасла ў тры разы.

Што тычыцца гішпанскае зоны, налогаў тут выкалачана было ў 1922 г. 5 міл. 739 тыс. пэзэт і ад монополі яшчэ каля мільёну пэзэт (пэзэта—каля франку; у фунце стэрлінгаў 27—28 пэзэт). А між тым бюджэт ураду, дзякуючы „тарарыскім“ пазыкам францускага капіталу, нязьменна зводзіцца з дэфіцытам, што можна бачыць з табліцы, што дадаецца:

| | 1919 год. | 1920 год. | 1921 год. | 1922 год. | 1923 год. |
|---|---|---|---|---|---|
| Прыбыткі . . . | 137.436.418 | 271.953.517 | 264.004.243 | 188.012.000 | 229.960.700 |
| Выдаткі . . . . | 113.567.139 | 218.977.900 | 268.998.811 | 287.588.810 | 249.812.665 |

Што тычыцца замежнага гандлю Мароко, то ён азначаўся ў апошнія гады (у міл франкаў):

| | імпорт | экспорт | разам |
|---|---|---|---|
| 1921 г. | 909 | 306 | 1,215 |
| 1922 „ | 707 | 213 | 920 |
| 1923 „ | 778 | 272 | 1,050 |

І ў імпорце і ў экспорце першае месца ў Мароко належыць Францыі (з 778 міл. імпорту ў 1923—на долю Францыі прыходзіцца 521 міл., з 272 міл. экспорту—144 міл.).

Цяпер, калі ў асноўных рысах высьнілі, што з сябе ўяўляе Мароко, дазволім сабе сьціслы экскурс у гісторыю пранікненьня ў яго эўропэйцаў.

Барацьба за Мароко пачынаецца паміж эўропэйскімі дзяржавамі яшчэ ў пачатку XIX веку, прычым да франка-прускае вайны больш другіх у гэтай галіне мела посьпех Францыя: па Танжэрскаму дагавору ад 10 верасьня 1849 году яна атрымала права найбольш спагадальнай дзяржавы ў Мароко. Апрача таго, найбольш спадручна для Францыі была ўстаноўлена граніца паміж Мароко і Алжырам, а таксама шэрофскі ўрад узяў

на сябе адказнасьць за напады на францускую тэрыторыю не жадаўшых паддаццa яму па існасьці бадзяжных пляменьняў. Гэты пункт быў асабліва карысны Францыі, бо ён даваў прычыну і для карных экспэдыцый у глыбіню Мароко і для заключэньня выгадных конвэнцый.

Калі Францыя была разбурана ў 1871 г., Англія і Гішпанія скарысталі гэты момант, каб хоць некалькі скараціць уплыў Францыі ў Мароко. Для гэтага ў Мадрыдзе ў 1881 г. склікана была конфэрэнцыя 13-ці дзяржаў, у тым ліку і Злучаных Штатаў Амэрыкі. Выпрацавалі цэлы шэраг пунктаў згоды адносна сваёй політыкі ў Мароко, у прыватнасьці і пункт аб аднаковым праве ўдзельнічаючых на конфэрэнцыі дзяржаў на найбольшую спагаднасьць у Мароко. Раней-жа гэтым правам монопольна карысталася адна толькі Францыя.

У пачатку XX веку Францыя робіць рашучую спробу поўнага заваяваньня Мароко, карыстаючыся тым, што ўвага Англіі адцягнута вайною з бурамі. Французы пачынаюць з окупацыі нават без абвяшчэньня вайны Туата, Іглі і Зусфана, а потым прадоўжваюць захапляць у Мароко краіну за краінаю, як быццам-бы нішчачы „банды“, што нападаюць на францускія ўладаньні. Разумеючы, што іншыя дзяржавы не дадуць ёй праглынуць ласага для многіх Мароко, Францыя адначасова ўступае на шлях сэпаратных згод з некаторымі з іх. Яна пачала з Італіі, у якой (паводле тайнае згоды 1901 г.) за прадастаўленьне ёй свабоды дзеяньняў ў Трыполі купіла сабе свабоду дзеяньняў у Мароко. Далей чарга была за Англіяй. І апошнюю Францыя пераканала: паводле тайнае згоды ад 8 красавіка 1904 г. за адмаўленьне ад усякіх намаганьняў на Эгіпэт Францыя купіла сабе свабоду дзеяньня ў Мароко. Цана за ангельскае неўмяшацельства атрымалася трохі большая за італьлянскую, але французы, прадбачачы колёніяльны грабеж Мароко, ахвотна згадзіліся і на гэта.

Што тычыцца Гішпаніі, з ёю Францыя проста падзяліла сфэры ўплыву. Вось тэкст гэтага артукулу франка-гішпанскае згоды: „Калі здарыцца немагчымым падтрымаць політычны статус Мароко, ці калі з прычыны слабасьці шэрыфскага ўраду і яго хронічнай няздольнасьці ахоўваць закон і парадак, ці па якой-небудзь іншай прычыне, якая ўстанаўляецца абедзьвюма старанамі, прыдзецца парушыць статус,—то Гішпаніі будзе дана поўная свабода дзейнічаньня на тэрыторыі, якая з гэтае пары складае сфэру яе ўплыву“.

Такім чынам, паміж чатырма зацікаўленымі дзяржавамі ў пачатку XX веку была дасягнута поўная ўзгодненасьць адносна Мароко. Праўда, аб вышэйпаданых дагаворах нічога ня ведалі народы Англіі, Францыі, Італіі, Гішпаніі. Але гэта з пункту погляду ўрадаў капіталістычных дзяржаў, зразумела, дробязь.

Тады, зусім нечакана для дзяржаў-загаворшчыц, у справу ўмяшалася Нямеччына. Яе адносная вага к гэтаму часу вырасла надзвычайна, паводле разьмераў гандлёвых зваротаў яна займала ў Мароко другое месца, і на

катэгорычную дылему—вайна з Францыяй ці конфэрэнцыя для вырашэньня мароканскага ўраду, Францыя адказала вымушанаю згодаю на конфэрэнцыю, бо ваяваць з Нямеччынай яна яшчэ ў той момант не падрыхтавалася. Конфэрэнцыя адбылася ў гішпанскім гарадку Алжэзірасе, бліз Гібральтару 16 студзеня 1906 г. Надзеі, якія ўскладаліся Нямеччынай на гэту конфэрэнцыю, аказаліся напраснымі: зноў былі прыняты дэкларацыйныя пастановы аб прынцыпе „адчыненых дзьвярэй“ і г. д., а гегемонія Францыі ў Мароко фактычна была захована. Каб закабаліць Мароко, Францыя стала трымацца выпрабаванага сродку ангельцаў у Эгіпце: імкнулася паставіць, і з посьпехам, мароканскі ўрад у становішча поўнай залежнасьці экономічнай і грашовай ад францускага капіталу. Як узорчык гэтае політыкі, прывядзем хоць-бы пазыку султанскаму ўраду 1904 г. у $2^1/_2$ міл. фунтаў, выпушчаную так лоўка, што султан атрымаў на рукі толькі 1 міл. 920 тыс. фунтаў. А ў забясьпечаньне гэтай пазыкі францускі капітал атрымаў уступкі ў яго рукі 60 проц. мытных прыбыткаў.

Наогул-жа доўг Мароко Францыі к 1910 году складаў вялізарную суму ў 6 міл. 520 тыс. фунтаў стэрлінгаў. Гэта значыла, што для забясьпечаньня доўгу амаль усе прыбыткі ўраду пападаюць у рукі францускага капіталу, значыць і тое, што для ўраду, каб хоць трохі выпутацца з цяжкага грашовага становішча, заставаўся адзін шлях—павялічыць „тэртыб“ (падатак на ворную зямлю, жывёлу і фруктовыя дрэвы) і бяз гэтага непамерны для вельмі бедных тубыльцаў. Гэту акалічнасьць нам трэба будзе мець на ўвазе, калі будзем гаварыць аб паўстанцкім руху ў Мароко супроць султана і францускіх окупантаў.

К 1910 году Францыя і Гішпанія пачынаюць зусім ігнараваць пастановы Алжэзіраскай конфэрэнцыі і зноў прымаюцца, як быццам-бы змагаючыся з „бандамі“, за анэксаваньне Мароко. У красавіку 1910 г. генэрал Муальє дашоў з сваім трыццацітысячным атрадам амаль што да Фэцу, Гішпанія-ж заняла раён Іфіі на Атлянтычным беразе паўднёвага Мароко і гарады Лараш і Аль-Ксар. Зноў захвалявалася Германія, бачачы, што падзел Мароко адбываецца без яе ўдзелу, зноў навісла над сьветам пагроза вайны. Крызіс быў ліквідаваны франка-прускім дагаворам ад 4 лістапада 1911 г. Паводле гэтага дагавору Францыя атрымлівала права паўнейшай свабоды дзеяньня ў Мароко, а ў замену гэтага Германія дамаглася наступных компэнсацый: 1) права экономічнай свабоды ў Мароко нароўні з Францыяй, 2) права эксплёатацыі руднікоў і бязмытнага вывазу жалезнае руды, 3) частка францускага Конго, плошчаю каля 250.000 кв. кілём. з насяленьнем да 1 міл. чалавек, адыходзіць да Германіі. У замену Германія аддае Францыі частку Верхняга Камеруну, так званы „Качая Дзюба“ (Утиный Клюв), плошчаю ў 1.200—1.300 кв. кілём. Так стаў фактам францускі протэкторат у Мароко.

Такім чынам, згоды эўропэйскіх дзяржаў на свой протэкторат у Мароко Францыя дамаглася. Пасьля таго, 30 сакавіка 1912 г. яна пад-

пісала дагавор з урадам султана, паводле якога апошні згаджаўся на ўстанаўленьне ў краіне такога рэжыму, „які будзе лічыць карысным увесьці на тэрыторыі Мароко францускі ўрад".

Заставалася дагаварыцца з Гішпаніяй. З ёю, праўда, ужо існавала сакрэтная згода 1904 году, але Францыя палічыла момант спрыяючым, каб сёе-тое ўварваць з гішпанскай „сфэры ўплыву". У выніку перагавораў 1912 году Гішпанія атрымала паўзьбярэжную паласу паўночнага Мароко, у 70 кіл. шырынёю,—усяго плошчаю ў 28 тыс. кв. кіл., і маленечкі кавалачак узьбярэжжа Антлянтычнага акіяну з гор. Іфіі. Рэштку-ж Мароко Францыя забрала сабе. Вэрсальскі дагавор аддае ў рукі францускага капіталу і ўсе германскія калёніі ў Афрыцы, што яшчэ больш узмацняе на „Чорным сухазем'і" становішча Францыі. Такая кароткая гісторыя франко-гішпанскага абаснаваньня ў Мароко.

Пяройдзем цяпер да нацыянальна-вызваленчага руху ў гэтай калёніі францускага (у пераважнасьці) капіталізму.

Трэба адзначыць, што султану фактычна падлягае толькі-толькі сёмая частка тэрыторыі Мароко. Рэшту тэрыторыі краіны французам прыходзілася заваёўваць самім у паасобных ваяўнічых тубыльных пляменьняў. Захоп зямель, парушэньне векавых звычаяў колектывістычнага жыцьцёвага ўкладу—усё гэта страшэнна абурала пляменьні Мароко процi францускіх захопнікаў, і вестка аб протэктарстве над Мароко Францыі стрэнута была ўсеагульным паўстаньнем 17 красавіка 1912 г.—усяго цераз дзесяць дзён пасьля агалашэньня протэкторату. Заміраць прышлося нават тыя часткі Мароко, на пакорлівасьць якіх французы разьлічалі ўпэўнена. Паўстаньне было задушана, і султан Мулей-Харыд быў заменены „благочестивым" Мулей-Юсэфам.

Асноўнае ў політыцы французаў у Мароко—гэта імкненьне землі бадзяжнікаў—біляд-ус-сіба—абярнуць у дзяржаўныя—біляд-уль-махзэн, і няма тых жорсткасьцяй, перад якімі-б французы спыніліся для зьдзяйсьненьня сваёй мэты. Асабліва актыўна гэта політыка стала праводзіцца пасьля імпэрыялістычнай вайны. Вось узяты наўдачу адрывак з часопісі „Z'Afrique francaise" за 1923 г., які распаўсюджваецца на паказаную тэму: „На 1923 год прызначана: у раёне Тадла па ўсім фронце скончыць окупацыю багатай даліны Умло-аррабіа і правесьці на левым беразе ракі дарогу для забясьпечаньня сувязі з раёнам Зайанэ. Грунтоўна падпарадкаваць падыходы да галоўнейшых шляхоў у Уасі-ль-абід, у раёнах Анугая і Ануфі. Падуладзіць або прагнаць у горы яшчэ непадуладныя пляменьні Дзіра і ўзмацніць „маральны" ціск на пляменьні ў Сярэднім Атласе[1])".

Вайсковыя опэрацыі ў 1924 г. перанесены былі на поўнач к межам „гішпанскай зоны", і ў выніку стварыўся цэлы фронт даўжынёю ў 400 кілёмэтраў ад Уэццана на захадзе і да рэчкі Мулупі на ўсходзе. Такое буй-

[1]) Цытавана па памянёнай ужо вышэй працы Кітайгародзкага і Пурэцкага, ст. 90.

нае разьвіненьне опэрацыі ў францускім Мароко тлумачыцца тым, што ўдатная барацьба рыфаў з гішпанцамі, якая цяглася шмат гадоў, надала захапленьне да барацьбы і шматлікім бадзяжным народам „францускай зоны“.

Прычынаю для вайны французаў з рыфамі было як-бы заняцьце апошнімі часткі даліны рэчкі Уэргі, што знаходзіцца на францускай зоне.

Але спачатку некалькі слоў аб племені рыфаў і іх правадыру Абд-эль-Керыме.

Рыфы засяляюць горную краіну Рыф, якая займае большую частку „гішпанскае зоны“. Усяго іх, па прыблізным падліку, поўмільёна чалавек. Сярод іншых бэрбэрскіх пляменьняў, рыфы выгадна адзначаюцца сваімі інтэлектуальнымі задаткамі і большаю ўспрыймальнасьцю да эўропэйскай культуры. З 1920 году рыфскія пляменьні аб'ядналіся ў самастойную Рыфскую рэспубліку і пад кіраўніцтвам свайго правадыра Абд-эль-Керыма мужна змагаюцца з гішпанцамі і французамі за сваю нацыянальную незалежнасьць. Паміж іншым—правадыр рыфаў, Маулей Мохамэд Абд-эль-Керым—эўропэйска-адукаваны чалавек, доўгі час жыў у Мэліле. Рыфы ўжо спрабавалі прынады панаваньня гішпанскіх колёнізатараў, ведаюць цану неабсяжных горных багацьцяў сваёй краіны, і затым на іх сьцягах напісана „Незалежнасьць або сьмерць“. Наколькі інтэнсыўна і ўпарта рыфы вядуць барацьбу за сваю незалежнасьць, можна бачыць з дададзенае ў аднэй гішпанскай часопісі („La correspondencia militas“) табліцы страт гішпанскіх войск за пэрыод з 1892 г. па 1922 г. Дадаем другую палову гэтае табліцы:

| Гады | Лік забітых | Гады | Лік забітых |
|---|---|---|---|
| 1908 | 17 | 1916 | 124 |
| 1909 | 561 | 1917 | 80 |
| 1910 | 206 | 1918 | 187 |
| 1911 | 185 | 1919 | 124 |
| 1912 | 312 | 1920 | 148 |
| 1913 | 49 | 1921 | 10.087 |
| 1914 | 237 | 1922 | 307 |
| 1915 | 212 | | |

Як запэўняе часопісь, лічбы гэтыя далёка няпоўныя. Апрача таго, яны не ахапляюць дзесяткаў тысяч параненых і хворых салдат.

Асабліва няўдатлівым для гішпанцаў быў 1921 год. У гэтым годзе поўнасьцю была зьнішчана пры Ануале 20-тысячная гішпанская армія, а флёта гішпанцаў уцякла ад рыфскіх узьбярэжных батарэй. Вось што піша адносна гэтага М. Паўловіч: „Паражэньне гішпанскага войска ў Мароко ў чэрвені 1921 году, якое каштавала жыцьця 10 тыс. салдат, выклікала падзеньне міністэрства Сенчэс Гера, з прычыны выяўленай віноўнасьці ўраду ў вайсковай катастрофе. Камандваўшы гішпанскімі войскамі Бэрэнгер, прыцягнуты ў сьнежні 1922 году судом да адказнасьці, заявіў, што

ў выпадку абвінавальнага прыгавору, ён выкрые ўсю гісторыю мароканскай авантуры і назаве натхніцеляў. Бэрэнгер меў на ўвазе самога гішпанскага караля, які асабіста аддаў загад нябожчыку генэралу Сільвэстра выступіць супроць мароканцаў“ [1]).

Гэтае паражэньне гішпанцаў узмацніла рэволюцыйны рух рыфаў і падняло сярод іх аўторытэт Абд-эль-Керыма. У вадным з інтэрвью Керым заяўляе: „Мы ведаем, што Гішпанія ня можа нас падуладзіць сабе. Мы верым у нашу справу і ў нашых людзей. Гішпанія яшчэ не пачала сур'ёзна зваротнага заваяваньня Рыфу. Цяпер мы гатовы пачаць сапраўдную вайну, бо гішпанцы павінны атакаваць нас у горнай мясцовасьці, дзе яны даведаюцца аб нашай абароне і сіле. Мы таксама здольны к самакіраваньню, як і эўропэйцы. Мы патрабуем нашых праў і незалежнасьці. Цяпер мы організуем маленькую рэспубліку. Мы адкрыем Рыф эўропэйцам і эўропэйскаму гандлю, але Гішпаніі мы ніколі не паддамося“ [2]).

Што Абд-эль-Керым ня мае агрэсыўных імкненьняў, відна з таго, што яшчэ ў 1922 г. ён зьвярнуўся да ўрадаў Англіі, Францыі, Амэрыкі, к папе і к ісламскай лізе з просьбаю дапамогі для заключэньня згоды з гішпанцамі. У гэтым звароце Керым прыводзіў і мірныя ўмовы, якія ён акрэсьліваў: 1) поўнаю эвакуацыяй гішпанцамі краіны Рыф, за выключэньнем крэпасьцяй Мелілы, Альхусемасу і Пеньён-дэ-Вэлеза; 2) абменам палоннымі і ўплатаю гішпанцамі контрыбуцыі ў 4 мільёны пэзэт, як выкупу за палонных салдат і афіцэраў-гішпанцаў. Другі раз мірныя перагаворы паміж гішпанцамі і рыфамі, зноў па ініцыятыве Керыма, і зноў бяз усякіх вынікаў, адбываліся вясною 1923 г. Ня гледзячы на вайсковыя паражэньні, гішпанскі міністар замежных спраў—дон Дзіего Саавэдра мае глупства пасляць рыфам ультыматыўную прапанову распачаць мірныя перагаворы пры ўмове, „калі аб незалежнасьці рыфаў ня будзе прамоўлена ні слова“. Рыфы, зразумела, адказалі катэгорычным адмаўленьнем.

Прыкладам у сярэдзіне 1924 году Гішпанія робіць астатнюю спробу нанесьці рашучы ўдар Абд-эль-Керыму, але справа канчаецца поўным разбурэньнем гішпанцаў, хоць на чале кампаніі стаіць сам гішпанскі дыктатар Прымо-дэ-Рывэра. Рыфская рэспубліка здавалася-б адваявала сабе незалежнасьць. Але тут, як быццам-бы паводле паказанай ужо вышэй прычыны, у барацьбу ўмяшалася Францыя.

Тут нельга моўчкі абыйсьці адну пікантную падрабязнасьць—падтрыманьне рыфаў Францыяй да 1925 г. Мэта была, як відаць,—выпхнуць зусім Гішпанію з Мароко. Доказаў францускай дапамогі рыфам шмат. Узяць хоць-бы выкрываньні комуністых у францускім парляманце, што ўстанавілі факт цеснай сувязі, якая існавала ў 1923 г. паміж Абд-эль-Керымам і францускім міністэрствам замежных спраў. Дэпутат-комуністы

[1]) М. Паўловіч. „Борьба за Азию и Африку“, стар. 210.
[2]) „Международная жизнь“, выд. НКЗС, 1922 г., № 11(129).

Бэртон у „Humanitè“ падцьвярджае сваё спатканьне ў Парыжы з братам Абд-эль-Керыма, які прабыў у сталіцы Францыі некалькі тыдняў. Даведзена таксама, што Францыя пераслала рыфам значны транспорт зброі.

Калі рыфы ў сярэдзіне 1924 г. разьбілі нашчэнт гішпанцаў, Францыя палічыла момант зручным для зьдзяйсьненьня сваіх захватніцкіх імкненьняў у гішпанскім Мароко. Пайсьці па выпрабаваным ужо ў шэрыфскім Мароко шляху подкупаў, грашовых інтрыг і кабалы ў рэспубліцы рыфаў аказалася, як відаць, немагчымым. І Францыя стала ў 1925 г. на шлях інтэрвэнцыі ў Рыфе. Прычын для нападу на былых саюзьнікаў хапае—іх мы ўжо паказвалі вышэй.

Плян ваенных дзеяньняў, выпрацаваны францускім камандваньнем, быў задуманы добра: загнаць рыфаў, якія высіліліся ад зацяжнае вайны з гішпанцамі, у горы і адрэзаць іх ад ураджайнай даліны ракі Уэргі, што зьяўляецца для рыфаў хлебнаю базай.

Але выявілася, што ў партызанскай барацьбе рыфаў грозная Францыя для іх не страшней маленькае Гішпаніі. Ужо ў красавіку пачынаецца контр-напад рыфаў, які меў на мэце перарэзаць чыгуначную магістраль Фэц—Уджда. Да рыфаў далучаюцца і другія пляменьні ўзьмежнае франка-гішпанскае зоны. Упартая і крывялітная вайна зацягваецца на цэлае лета, прычым з ліпня 1925 году французы, не спадзяючыся, як відаць, на адны толькі свае сілы, узгадняюць свае дзеяньні з дзеяньнямі гішпанцаў.

Весткі з фронту ідуць у францускія газэты кіслыя і пасьля аб'яднаньня французаў з гішпанцамі: б'ем рыфаў, але і страты маюцца „дасягаючыя жалобных разьмераў“, і ваеныя дзеяньні, відаць, будуць мець зацяжны характар. „У летапісах рэволюцыйнай барацьбы Ўсходу проці імпэрыялізму“,—піша Кітайгародзкі („Правда“ ад 11 чэрвеня 1925 г.),—„залатымі літарамі будзе выгравявана, як дваццаць тысяч заняпаўшых, але адважных рыфаў прымушаюць адыходзіць стотысячную францускую армію, узброеную па апошнім слове тэхнікі“.

Трэба кінуць на рыфскі фронт большыя сілы, абярнуць мароканскую авантуру ў сапраўдную вайну—трэба папулярызаваць для гэтага самую ідэю вайны з рыфамі. І французская грамадзкая думка пачынае пашырана апрацоўвацца ў гэтым напрамку прэсаю: рыфскія пляменьні напалі быццам на французаў першыя, ганьбуецца нацыянальны гонар Францыі і яе аўторытэт у колёніях.

Але тут, зусім нечакана для францускага буржуазнага парляманту, адбылося выступленьне комуністычнай яго фракцыі проці мароканскай авантуры. 9 чэрвеня 1925 году комуністычны дэпутат зачытвае ў палаце дэпутатаў ліст начальніка грамадзянскага габінэту маршала Ліотэ (францускі дыктатар у Мароко) да нябожа маршала ў Парыжы. З гэтага лісту яскрава выяўлялася, што дзеяньні французаў проці рыфаў былі задуманы даўно і паводле строга азначанага пляну. Стала быць, гутарка аб

тым, што французаў уцягнулі ў барацьбу міма іх волі—блеф. Вось невялічкі вынятак з гэтага лісту, дзе аўтар—Ватэн Пэрыльён дае парады нябожу Ліотэ—палітычнаму агенту свайго дзядзькі ў Парыжы, як апрацоўваць грамадзкую думку Францыі: „Займіся Ромье (маючы ўплыў журналісты „Figaro"), Бэльвілем (журналісты клерыкальнае прэсы) і Сімондам (з газэты „Echo de Paris"). Цяпер ня час гаварыць, цяпер час „маўчаць" і „трымацца". Іх натугі павінны быць накіраваны на тое, каб *абярнуць рыфскае пытаньне ў нацыянальнае*".

Ясная справа—комуністых зараз-жа, як у свой час Жорэса, ахрысьцілі здраднікамі Францыі, а ў парляманце кіруючыя колы паставілі пытаньне аб патрэбнасьці рашучых дзеяньняў проці рыфаў і крэдытаў на гэту справу.

Комуністыя прадоўжвалі сваю справу барацьбы з мароканскай авантурай. Заклік Дорыё ў францускай палаце дэпутатаў к салдатам братацца з рыфамі знашоў сабе жывы одгук у колёніяльнай арміі.

На рабочым конгрэсе, скліканым у Парыжы ўлетку 1925 г., таксама горача абмяркоўвалася рыфская вайна. Між іншым, зьезд сустрэў бурнымі воплескамі паведамленьне рабочага Шосена аб тым, што каманды вайсковых суднаў „Страсбург" і „Курбэ" адмовіліся бомбардыраваць рыфскае ўзьбярэжжа і вярнуліся ў Тулон.

Паўстанцкае бюро Выканкому Комінтэрну выпусьціла адозву да рабочых і сялян Францыі і Гішпаніі за подпісамі Семора, Караямы, Нік, Бэрці і Коларава з заклікам змагацца супроць мароканскай авантуры. Прыводзім вынятак з гэтае адозвы, якая асабліва яскрава характарызуе падаплёку мароканскай авантуры: „...Францыя чакала паражэньня Гішпаніі, каб за яе рахунак заўладаць тэрыторыяй Рыфа. Як у 1914 г., зноў кажуць аб „прэстыжы Францыі", закранутым рыфамі; зноў заяўляюць, што нападаючай стараной зьяўляюцца рыфы, а не „пацыфіцкая" Францыя. Англія і Італія чакаюць зручнага моманту, каб запатрабаваць сваю долю здабычы ў імя нацыянальнага прэстыжу. У 1925 годзе францускі імпэрыялізм, такім чынам, зноў распаляе ў Мароко пажар, які можа прывесьці і прывядзе к цяжкім міжнародным непаразуменьням. Гэта—імпэрыялістычная вайна, яна накіравана проці прыгнечанага народу. Гэта—барацьба проці незалежнасьці народаў, прыгнечаных францускімі, ангельскімі, італьлянскімі і г. п. імпэрыялістымі, і рыфы, абараняючыся, змагаюцца толькі за сваю незалежнасьць у імя права народаў вольна распараджацца сваім лёсам.

Дэмократычны левы блёк, што выдаваў сябе перад рабочымі і сялянамі за абаронцу агульнага міру, стварыў вайну ў Мароко з мэтаю задаваленьня колёнізатарскіх жаданьняў буйнае індустрыі і фінансавага капіталу... Як у 1914—1918 г.г., яны (маюцца на ўвазе „соцыялістыя" з францускага парляманту) стаяць за вайну да пераможнага канца.

Сьвяшчэнны саюз заключаны зноў. Рэнодэль і Жуо сьпеліся з Лушэрам і Брыянам, каб прагнаць рыфаў з тэрыторыі „францускага Мароко“.

З прычыны гэтых міжнародных непаразуменьняў (прыводзяцца супярэчнасьці інтарэсаў Францыі і Англіі, Францыі і Італіі) урад левага блёку запэўняе, што ён абмяжуецца толькі выгнаньнем Абд-эль-Керыма з протэктората і абаронаю граніц. У сапраўднасьці вайна будзе працягвацца ў форме блёкады з мэтаю зьнішчыць рыфаў голадам і, пакарыўшы іх, заўладаць іхняй тэрыторыяй... Таварышы рабочыя і сяляне! Ад вас і толькі ад вас саміх залежыць спыненьне гэтае бойні, якая зьяўляецца папярэдніцай другіх войнаў з ручаямі крыві, тысячамі трупаў і нячуванымі разбурэньнямі“...

Такім чынам, нечакана для францускага ўраду сталася, што разгрызьці рыфскі арэшак ня так ужо проста: ваенныя няўдачы, уплыў комуністых у краіне, што павялічыўся, у сувязі з іх популярнай сярод працоўных агітацыяй супроць мароканскай авантуры. Нарэшце, яшчэ адна акалічнасьць, якая значна дапамагае рыфам: гэта падвойная бухгальтэрыя „каварнага „Альбіёну“. Справа ў тым, што ў апошнія гады Англія, як відаць, прышла да перакананьня, што для яе лепш незалежная рыфская дзяржава, у стасунку да якое можна будзе трымацца эгіпэцкай або суданскае політыкі, чым Гібральтар у сфэры гішпанскага ўплыву. Вось чаму ангельскія капіталістыя пазычылі (наперад спадзяючыся на выгадныя концэсіі) Абд-эль-Керыму 300.000 фунтаў ст., вось чаму няма ў рыфаў недахвату ў баявых прыпасах у іх барацьбе з французамі.

У даны момант, калі пішуцца гэтыя радкі, вядуцца перамаўленьні аб замірэньні паміж Францыяй і рыфамі. Але station становчых вынікаў гэтыя перамаўленьні, здаецца, не дадуць, бо Францыя, якая нічаму за $1^1/_2$ гады з рыфамі не навучылася, высоўвае вар‘яцкае патрабаваньне выгнаньня рыфамі Абд-эль-Керыма з свае краіны.

Рыфскі вузел яшчэ не разьвязаны. Праўда, рыфы зараз страшэнна зьнясілены бясконцай вайной. Але і ў Францыі мала шансаў мобілізаваць цяпер значныя сілы для ліквідацыі рэспублікі Рыф пасьля таго, як самая ідэя гэтае вайны канчаткова зганена шырокаю комуністычнаю агітацыяй ў масах. Ясна адно—барацьба ў Мароко яшчэ ня скончана, а стала быць, гарыць касьцёр, іскры якога лёгка перанясуцца ў парахавы склеп, што завецца колёніяльнай Афрыкай.

## IV

У заключэньне—аб трэцяй францускай колёніі ў Паўночнай Афрыцы—Тунісе.

Калі Алжыр—краіна зусім анэксаваная, Туніс, падобна Мароко, яшчэ толькі ў стане протэктарату Францыі. Насяляюць яго, як і Алжыр—пераважна Тубыльцы. Тут процант чужынцаў, а тым больш „уласьнікаў

Тунісу—французаў, яшчэ меншы, як у Алжыры. Так, паводле даных 1921 г. ў Тунісе

| | |
|---|---|
| французаў . . . . . . . | 54.000 |
| італьлянцаў . . . . . . . | 109.000 |
| ангельцаў і жыхароў востр. Мальты . . | 13.520 |
| іншых эўропэйцаў . . . . . . | 4.712 |
| яўрэяў . . . . . . . . | 52.385 |
| мусульман . . . . . . . | 1.889.380 |
| Разам . . . . . . . | 2.013.940 |

Агульны лік чужынцаў у Тунісе, такім чынам, складае 10 процантаў усяго насяленьня, а лік французаў—толькі 3 проценты. На 44 тунісцы прыходзіцца адзін француз, і гэты стасунак захаваўся нязьменным да гэтага часу.

Становішча тубыльнага насяленьня Тунісу ніяк ня лепш становішча яго Алжырскіх брацеьнікаў. Тыя-ж нястрыманыя ўмовы існаваньня з прычыны грабежніцтва яго зямельнае ўласнасьці „протэкторамі", тая-ж выклікаючая абурэньне эксплёатацыя. Паводле слоў „Тап", „рабочы люд Тунісу жыве ў нястрыманых умовах. Заработная плата мізэрная і чуць хапае на здавальненьне жыцьцёвага мінімуму. Жыўленьне—беднае, памяшканьні—неперарыўны хлеў. Сухоты і іншыя пошасныя хваробы знаходзяць сабе тут сталае гняздо". А вось узорчык зямельнае палітыкі французаў. „Таварыства па распрацоўцы залежаў фосфату" захапіла ў насельнікаў Калаа-Джырда 1.125 гэктараў зямлі і заплаціла за іх 112 фр. 50 снт.— па 10 снт. за гэктар! Гэта ў той час, калі прыбыткі таварыства за адзін толькі год склалі 1.441.231 франк!

Зямельная плошча Тунісу—у 12 з лішкам мільёнаў гэктараў—разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| ворнае зямлі . . . . . . . . . | 1.300.000 |
| ніколі ня воранай . . . . . . | 1.600.000 |
| агароднае . . . . . . . . . | 47.000 |
| аліўнае . . . . . . . . . . | 300.000 |
| зямлі пад пальмамі . . . . . . | 10.000 |
| „ пад вінаградам . . . . . | 16.000 |
| грамадзкай, выдмаў, гарадзкое і г. д. | 3.000.000 |

Як відаць з гэтае табліцы, факт налічча вялізарнай плошчы ніколі ня воранай зямлі, зразумела, ня сьведчыць аб яе „красаваньні". Наогул, параўнаўча з Алжырам сельская гаспадарка Тунісу стаіць значна ніжэй. Як і ў Алжыры, у Тунісе назіраецца памяншэньне жывёлагадоўлі: за 15 год (з 1895 па 1910 год) аднае толькі рагатае жывёлы ўбавілася на 40 проц.

Затое ў лепшым, як у Алжыры, становішчы маецца ў Тунісе лясная прамысловасьць: лясы тут займаюць плошчу ў 880.000 гэктараў, з якіх толькі 70.000 прыватнаўласьніцкага лесу,—рэшта лесу ўся дзяржаўная.

Калі прыняць пад увагу, што з 1.300.000 гэктараў ворнае зямлі чужынцы ўладалі ўжо ў 1921 годзе 874.907 гэкт., нам стануць зразумелымі і экстэнсыўнасьць туніскага зямляўладаньня, і зьмяншэньне жывёлагадоўлі, і наогул пролетарызацыя туніскага мясцовага земляробскага насяленьня.

Дзеля паўнаты карціны—некалькі слоў аб аграрным ладзе ў Тунісе. Ён надта падобны на Алжырскі аграрны лад: тое самае панаваньне грамадзкага зямляўладаньня, якое гвалтам выціскаецца французамі, у выніку чаго ўласьнікамі паасобных надзелаў аказваюцца... французы; ужо знаёмыя нам па Алжыры „рапія“ і „комэз“. Толькі адным Туніс некалькі розьніцца ад Алжыру—гэта землямі „габус“. „Габус“—нярухомасьці, прыбыткі з якіх, згодна духоўніцы нябожчыкаў прававерных мусульман, ідуць на карысьць рэлігійных і дабрачынных устаноў. У Тунісе гэтыя землі „габус“ займаюць $^{2}/_{5}$ усёй тэрыторыі.

Хоць па закону „габус“ і адчуджаюцца, іх усё такі абменьваюць на іншую маемасьць. Так, напрыклад, француская адміністрацыя ў Тунісе памяняла 75 тыс. гэктараў зямлі „габус“ для мэт колёнізацыі на гарадзкія нярухомасьці (дамы і г. д.). Шляхам такога гвалтоўнага памену ўвесь зямельны фонд „габус“ паступова прыбіраецца к рукам францускімі окупантамі.

Апрацоўваючая прамысловасьць мізэрна: некалькі вапенных фабрык, два буйных прадпрыемствы „Таварыства мэханічных пабудоў“ з капіталам у 750 тыс. франкаў. Рэшта прадпрыемстваў—дробныя саматужныя і, паміж іншым, поўная адсутнасьць у краіне паравых і вадзяных млыноў, што стварае канечную патрэбу для размолу збожжа зьвяртацца заграніцу.

Затое паводле разьмераў сваёй здабываючай прамысловасьці Туніс пакідае Алжыр далёка за сабою. Ён займае другое месца ў сьвеце па вывазе фосфату—у 1922 г. яго экспортавана было звыш 2-х мільёнаў тон.

Аб прогрэсе здабываючай прамысловасьці Тунісу можна здагадвацца па наступных лічбах:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Здабыта | цынку ў | 1892 г. | 2.300 | тон. |
| „ | „ | 1913 „ | 29.000 | „ |
| „ | „ | 1922 „ | 8.000 | „ |
| „ | сьвінца | 1892 „ | 175 | „ |
| „ | „ | 1913 „ | 60.000 | „ |
| „ | „ | 1922 „ | 30.000 | „ |
| „ | жалеза | 1913 „ | 394.000 | „ |
| „ | „ | 1922 „ | 500.000 | „ |

Усяго здабываючая прамысловасьць Тунісу за пэрыод з 1892 г. па 1922 г. дала цынку, волава, жалеза і фосфату на суму ў 1 мільярд франкаў.

Туніс (зразумела, французаў, а не арабаў) вядзе пашыраны замежны гандаль. З якімі краінамі ён мае зносіны, відаць з наступнай табліцы:

| краіны | імпорт | экспорт |
|---|---|---|
| Францыя | 11.862.000 ф. ст. | 7.069.419 ф. ст. |
| Англія | 2.769.035 „ „ | 1.663.619 „ „ |
| Італія | 2.107.147 „ „ | 1.832.528 „ „ |
| Злуч. Штаты | 3.411.639 „ „ | 17.870 „ „ |
| Алжыр | 1.286.817 „ „ | 1.016.898 „ „ |
| Бэльгія | 405.498 „ „ | 383.060 „ „ |
| Трыполі | 427.182 „ „ | 257.773 „ „ |
| Румынія | 553.672 „ „ | — |
| Індыя | 348.299 „ „ | 14.179 „ „ |
| Гішпанія | 205.312 „ „ | 122.229 „ „ |

З гэтае табліцы відаць, што адносная доля ўдзелу Францыі ў гандлі Тунісу значна больш долі іншых краін, але ў стасунку да рэшты краін, узятых разам, доля Францыі складае 30 проц.

У вогуле, экономіка Тунісу характарызуецца вельмі значнаю перавагаю здабываючай прамысловасьці, якая вядзецца пры тым драпежніцкім спосабам, над апрацоўваючай; заняпадам сельскае гаспадаркі; нязначнаю доляю нацыянальных прыбыткаў, больш мізэрнаю, як у Алжыры.

Номінальна Тунісам кіруе „бэй", фактычна французскі вярхоўны камісар. З мэтаю паслабленьня вызваленчага руху, які пасьля вайны павялічыўся, французы стварылі ў Тунісе „Савет кандаў"—нотабляў, выбіраемых прывілееванымі клясамі. Потым, у 1922 г. ўтварылі і „Вялікую Тунiскую Прадстаўніцкую Нараду", якая складаецца з 2-х сэкцый—французскай і тубыльнай. У тубыльнай сэкцыі 18 дэпутатаў, французскай—26. Абраньне ўкоснае; 18 тубыльцаў—зразумела, стараньнямі французаў, народ адпаведна прафільтраваны. Функцыі гэтага „парляманту" выключна фінансавабюджэтныя.

Наўперад, як гаварыць аб нацыянальна-вызваленчым руху ў Тунісе, некалькі слоў адносна маючага тут месца франка-італьянскага супярэчаньня. Справа ў тым, што ў Тунісе італьянцаў значна больш, як французаў (125 тыс. італьянцаў, 84 тыс. французаў). Спрэчнымі паміж Францыяй і Італіяй тры пункты: 1) аб уладаньні Тунісам, 2) аб межах паміж французскім Тунісам і італьянскім Трыполі, 3) аб падданстве туніскіх італьянцаў. У сувязі з правядзеньнем П.-А.З.Ш. закону аб абмежаваньні іміграцыі ў Амэрыку, італьянцы атрымалі 3.911 месц (замест ранейшых 50.000.) пытаньне аб Тунісе набывае для Італіі асаблівую вастрату. Тут відавочна пахне порахам, і калі задумваешся над магчымасьцю войнаў паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі за падзел колёній, першым абрысоўваецца ў сьвядомасьці іменна італьянска-французскі конфлікт на грунце аўладаньня Тунісам.

Цяпер аб нацыянальна-рэволюцыйным і рабочым руху ў Тунісе. Яго экономічныя падставы мы досыць дасьледвалі і можам перайсьці да яго гісторыі.

Ня ў прыклад Алжыру, рух у Тунісе за нацыянальную незалежнасьць досыць выкрысталяваўся. На чале руху тут стаяць „младатунісцы“, якія організаваны ў партыю „Дэстур“ (Конституцыя). Гэта партыя, што выступала адзін час сумесна з комуністымі, уяўляе сабою гандлёвую мясцовую буржуазію, сялянства, інтэлігенцыю, частку рабочых. Увосень 1924 г. партыя „Дэстур“ паслала дэлегацыю к Эрыё з патрабаваньнем зраўнаць у політычных правох тунісцаў з французамі, надзяліць зямлёю сялян, увесьці агульнае выбарчае права, прымаць тубыльцаў на дзяржаўную службу ва ўсе ўстановы. Ад'езду дэлегацыі ў Парыж папярэднічалі масавыя выступленьні і забастоўкі солідарнасьці туніскага насяленьня з вышэй пададзенымі патрабаваньнямі партыі.

У вадказ на гэты масавы рух Эрыё абмежаваўся агульнымі туманнымі абяцанкамі і ўтварэньнем камісіі „для дасьледаваньня і вывучэньня туніскага пытаньня“.

Тады, 2 красавіка 1925 г. „Дэстур“ (компартыя была ўжо к таму часу разбурана) організуе нацыянальную забастоўку протэсту. Забастоўка ўдалася вельмі—калі ня лічыць яўрэйскае гандлёвае буржуазіі, якая орыентуецца на Францыю—баставалі пагалоўна ўсе колы мясцовага насяленьня, уключаючы і гандляроў-тубыльцаў. Баставалі, зразумела, і рабочыя шахтаў і майстэрань.

Яшчэ некалькі аб партыі „Дэстур“. Яна добра організавана, налічвае 200 тыс. членаў, якія плацяць узносы, але з прычыны рознакалібранасьці складаючых яе элемэнтаў зусім азначанай, вытрыманай лініі ў яе яшчэ няма. Яна нават ня зусім яшчэ адраклася ад монархічных тэндэнцый і 23 сакавіка 1925 г. накіравала да караля дэлегацыю ў складзе 50 чалавек прасіць яго аб сумеснай барацьбе з францускім імпэрыялізмам. Праўда, бэй нават ня прыняў дэлегацыі—вышэйшая туніская знаць прадалася французам канчаткова. Гэта было добрай прадметнай лекцыяй для „Дэстур“.

„Дэстур“ вельмі популярна ў краіне. Ізвозчыкі-тунісцы не павязуць араба-падарожніка, які ня мае ў кішэні сяброўскага білету „Дэстур“, „беспартыйны“ селянін падлягае бойкоту з боку ўсяго базару.

Шпарка пакрочыў наперад і рабочы рух у Тунісе. У экономічных забастоўках 1924 г. поруч з эўропэйцамі баставалі і 2½ тысячы арабаў, некалькі тысяч арабаў—сябры профсаюзаў. Тут выяўляла значную чыннасьць і компартыя, выдаваўшая ў Тунісе газэту „Avenir social“. Але з моманту разбурэньня комруху ў Тунісе там параўнаўча грунтоўна, пры заахвочваньні ўраду, абаснаваўся рэформізм.

Такім чынам, у сэнсе падрыхтаванасьці к барацьбе за нацыянальную незалежнасьць Туніс не адстае ад Алжыру і нават яго перавышае.

# ПАНШЧЫНА НА БЕЛАРУСІ

*(Да гісторыі забойства сялянамі прыгонnымі сваіх паноў у Меншчыне ў XIX ст.)*

**М. Мялешка**

Паншчына ў Беларусі цяжкім ярмом лажылася на прыгнечаную сялянскую масу. І чым больш паднявольнае сялянства пачынала разумець усю соцыяльную несправядлівасьць свайго нявольніцтва і протэставаць проці існуючага ладу, тым больш абшарнікамі ўжываліся самыя размаітыя і жудасныя меры, якія павінны былі наганяць жах на гэтых рабоў і рабіць іх пакорлівымі. Але прыгонны народ не пераставаў выказваць сваёй непакорлівасьці і, не зважаючы на сваю неорганізованасьць, бяспраўнасьць і цемнату, вёў змаганьне са сваімі прыгнятацелямі ўсімі магчымымі і даступнымі сродкамі.

Адным з сродкаў у барацьбе за сваё вызваленьне з няволі ўжывалася забойства сялянамі абшарнікаў, якія здараліся ў большасьці ў выніку лютых адносін абшарніка да сваіх паднявольных. Вядома, ні пабег прыгонных з двору, ні самагубства нявольнікаў, ні адмаўленьне служыць, ні прыгон не маглі так рашуча дзейнічаць на псыхолёгію абшарніка, як забойства. Жах перад падобнымі расправамі вельмі трывожыў паноў. Сярод сялянства хадзілі чуткі аб патрэбе парэзаць паноў у 1846 г.; па Горадзенскім павеце разьнесьліся чуткі аб недалёкай разьні паноў. У гэты-ж час адзін селянін з Беластоцкага пав. прасіў духоўніка высьвяціць нож, дадаўшы, „што прышоў час разьлічыцца з панамі за мінулае“. Як відаць, пад ўплывам Галіцыйскай разьні 1846 г. ў Польшчы і Беларусі думка аб забойстве паноў карысталася вялікай популярнасьцю[1]).

Расійскі ўрад падзяляў жах абшарнікаў і прымаў рашучыя меры ў барацьбе з забойствамі. Суровыя кары, якія накладаліся на забойцаў сваіх паноў, стрымлівалі многіх сялян ад ажыцьцяўленьня сваіх замераў пазбавіцца ад цяжкіх зьдзекаў, парашыўшы са сваім панам. Але забойствы адбываліся досыць часта. Так, па даным В. Сямеўскага з 1835 па 1854 ва ўсёй былой Расіі забіты 144 абшарнікі[2]). Хаця ў Беларусі паншчына адбывалася некалькі ў іншых формах, але прыгон быў не лягчэйшы, чымся ў Расіі. Выпадкі забойства абшарнікаў у Беларусі, трэба думаць, былі нярэдкімі.

---

[1]) Проф. И. Игнатович.—Борьба крестьян за освобождение. 1924 г., стар. 14.

[2]) В. И. Семевский.—Крестьянский вопрос, т. II, стар. 158.

Мы тут прыводзім некалькі ўстаноўленых па справах Менскай Палаты крымінальнага і грамадзянскага судоў выпадкаў забойства абшарнікаў па б. Менскай губэрні ў XIX ст.

Першым выпадкам забойства абшарнікаў сваімі сялянамі ў XIX ст. на Меншчыне мажлівы быў выпадак, калі ў 1806 г. быў забіты Алёша з Пінскага павету. Як відаць са сьледзтвеннага матэрыялу, Алёша ўстанавіў для сваіх прыгонных вельмі цяжкія ўмовы паншчыны. Апрача ўстаноўленага прыгону, Алёша забіраў у сялян усе патрэбныя для сябе рэчы. Апошняе галоўным чынам і паслужыла прычынай яго сьмерці. Алёша прышоў у вёску Прыбярэжную да селяніна Гарасімава і запрапанаваў сыном яго везьці ў двор сваю салому на страху дворнай адрыны. Усе просьбы сына зволіць іх ад гэтай дачы засталіся бяз панскай увагі. Пазьней, у гэты-ж самы дзень, Алёша спаткаўся на дарозе ў полі з сынам Гарасіма, Тамашом, якому яшчэ раз запрапанаваў везьці ў двор салому. Тамаш адмовіўся гэта выканаць. Тады Алёша пачаў біць Тамаша, але апошні ўдарыў пана палкай па галаве, а пасьля, паваліўшы Алёшу на зямлю, забіў яго да сьмерці. Як сьцямнела, Тамаш з братам Іванам, не бяз страху, зацягнулі пана ў балота, дзе і закапалі. Скора было знойдзена цела Алёшы і адшуканы вінаватыя, якіх і аддалі пад суд.

Справу гэту 8(21) чэрвеня 1806 г. разглядаў Галоўны суд Меншчыны. Вінаватых судзілі па 9 арт., II разьдзелу Літоўскага Статуту, па якому артыкулу вінаватыя падлягалі да кары сьмерцю, як здраднікі, але, як кара сьмерцю па гэтаму ўказам 1754 г. адмянялася, то суд вынес вось гэткі прыгавор, які тут, для характарыстыкі судовых пастаноў па гэтых справах, і прыводзім у аўтэнтычных вытрымках. „...Оных Ивана и Фому Герасимовых наказав по сто пятидесяти ударов кнутом, вырвав ноздри, поставя на лбу и щеках указные знаки, заклепя в кандалы, сослать вечно в каторжную работу в Нерчинск. А дабы вперbegin во крестьянах ужас и отвратить всякое покушение к подобным преступлениям, оное наказание исполнится должно при собрании из окольных селений крестьн, над Иваном Пинского повета с селений Бережных, а над Фомой Герасимом в поветовом городе Пинске, на публичной площади“.

Далей у прыгаворы тлумачыцца: „Так как из показаний оных преступников видно, что покушались они на убивство своего господина Олешу, яко бы потому, что он вместо исполняемой прежде с их дома панщины по четыре дня наложил оной по двенадцати дней в неделю, каковая чрезвычайная неумеренность, сколько противна законным установлением, столько легко действует к разорению крестьян, ожесточает их умы и доводить может до пагубных для самих владельцев последствий, каково произведено над покойным Олешею, а потому, дабы протчие помещики и владельцы быв о сем известны, воздержались от притеснения подведомых им крестьян и от излишних налогов и тяжких побоев, но в распоряжении с сельских издельев (?) поступали-б с умерен-

ностью, с кротостию и человеколюбием на словах"., то аб гэтым выпадку суд пастанавіў давясьці да ведама ўсіх абшарнікаў, апублікаваўшы аб гэтым здарэньні праз Менскае Губэрскае праўленьне.

Публікаваць аб такіх здарэньнях, хаця і для абшарнікаў, было ня зусім бясьпечна, што ў далейшым бралі пад увагу ўрадовыя ўстановы. Вестка аб такіх здарэньнях магла стаць вядомай ня толькі пану, але і прыгоннаму сялянству, сярод якога маглі знайсьціся людзі, гатовыя рашыцца на такі-ж самы ўчынак.

У часы вайны 1812 г. ўзмацнілася нездаволеньне сялян, а разам з гэтым і ўчасьціліся забойствы абшарнікаў. „Сярод крымінальных спраў Менскай губ,—кажа Е. Коц,—за верасень 1812 г. ў значнай большасьці зьяўляюцца справы „о возмущении крестьян против помещиков, о поджоге их имений и об убийстве своих панов" [1]). Тутака-ж прыводзіцца выпадак забойства абшарніка Гласкі з сям'ёй. Пры падходзе французаў сяляне аднэй вёскі са ўсім сваім скарбам схаваліся ў лесе. За імі пашоў і Гласка са сваёй сям'ёй. Зьмясьціўшыся разам са сваімі сялянамі, Гласка стаў ізноў адчуваць сябе панам і пачаў зьдзекавацца над сялянамі: абцяжарваў працай, марыў голадам і люта караў. Тады стары селянін Барасёнак сабраў у лесе сходку і запрапанаваў забіць абшарніка са ўсёй сям'ёй, прычым увесь „грэх прымаў на сваю душу", а для выкананьня забойства, замест сябе, даваў у дапамогу свайго адзінага сына. Сяляне перабілі ўсю сям'ю Гласкі ў ліку 12 чалавек, нябожчыкаў усіх прыцягнулі ў двор і спалілі на агні. Змоўшчыкі пасьля пашлі да начальства і заявілі, што ўсё гэта было зроблена французамі, але справа, аднак, была выкрыта [2]).

У 1819 годзе мы знаходзім замер цэлай грамады сялян забіць Палітанскага, паверанага абшарніка Бабруйскага павету Цэхановецкага. Як відаць, Палітанскі кіраваў дваром Цэхановецкага, і жыцьцё сялян пад яго апекай было ня лёгкае. Са справы нельга дакладна ўгледзець аб сапраўдным стане сялян Цэхановецкага і што іменна штурханула іх на замер забойства. Напад на Палітанскага адбыўся пры такім стане. Палітанскі, адшукаўшы двух сваіх беглых сялян і закаваўшы іх у ланцугі, вёз у двор, але наступіўшая ноч прымусіла яго заначаваць у Выгоцкай карчме. Праз нейкі час да гэтай карчмы сталі пад'яжджаць сялянскія падводы, лікам да пяці, некаторыя з іх былі запрэжаны паркай коняй. Спыніўшыся каля карчмы, сяляне, у ліку каля 20 чалавек, абступілі карчму і пачалі энэргічна дамагацца адчыніць ім дзьверы і пусьціць у карчму. Палітанскі ні завошта не хацеў адчыняць дзьверы, а думаючы, што сяляне сабраліся, каб вызваліць злоўленых беглых людзей, згаджаўся іх адпусьціць, высадзіўшы іх праз вакно, і яшчэ дакляраваў паставіць сялянам гарнец гарэлкі.

---

[1]) Е. Коц.—Крестьянские движения в России от Пугачовщины до 1905 г. Ленинград 1924 г., стар. 39.

[2]) Ibidem.

Але на гэтую пропозыцыю сяляне адмовілі Палітанскаму, што „нам іх ня трэба, а мы цябе хочам“. Адбіўшы сякерамі вароты, сяляне ўлезьлі ў стадолу, а адтуль выламалі дзьверы ў карчму і ўвашлі ў хату. У хаце адзін селянін зразу ўдарыў Палітанскага калом па галаве, ад чаго Палітанскі паваліўся на зямлю, далей гэты-ж селянін замахнуўся сякерай, каб засеч Палітанскага, але Палітанскі выстраліў і забіў гэтага селяніна. Другія сяляне зьбілі каламі Палітанскага, узялі закаваных бягуноў, забралі грошы, продукты, якія былі ў карчме, і паехалі невядома куды. Сьледзтвам выясьнена, што нападаўшыя былі сяляне з вёскі Новікі, якія і былі адданы пад суд.

У 1821 годзе быў забіты абшарнік Слуцкага павету двору Душава Адам Грыцкевіч трыма сваімі дваровымі хлапцамі: лёкаем, фурманом і швайцарам. Разам з другімі сялянамі цяжкія зьдзекі цярпелі і памянутыя хлопцы. Яны ня бачылі ніякага другога способу аблягчыць сваё жыцьцё, як толькі забіць свайго прыгнятацеля. Пагэтаму яны ўсе трое яшчэ з самай вясны згаварыліся забіць свайго пана і цьвёрда трымаліся свайго вырашэньня, пакуль 7 (21) ліпня не ажыцьцёвілі яго. У гэты дзень Грыцкевіч ехаў праз лес у Нісьневічы да сваёй суседкі пані Загорскай. Двое з хлапцоў перанялі яго ў лесе, сьпярша паранілі пікай у бок, а пасьля забілі і пахавалі ў лесе. Пасьля, калі гэта справа была выкрыта, яны сазналіся і тлумачылі свой учынак немагчымасьцю зносіць зьдзекі свайго пана.

У гэтым выпадку цікава для нас тое, што на барацьбу выступае моладзь. Моладзь скарэй адчувае ўсю дзікасьць панскіх зьдзекаў, усю ўнізіцельнасьць рабскай пакорлівасьці. Чулая юнацкая душа рэагуе на гэта і выказвае свой протэст, забіваючы свайго прыгнятацеля.

Гэтак сама маладымі дворнымі хлопцамі Сямашкай і Смольскім быў забіты ў 1833 г. абшарнік Барысаўскага павету двору Глівіна Пётра Сьвіда. Аднаго разу, калі Сьвіда вяртаўся з дарогі ў двор з Смольскім і Сямашкай і заснуў, праяжджаючы праз лес каля вёскі Бродні, адным з хлапцоў быў нанесен Сьвіду ўдар сякерай, ад чаго ён тутака-ж і памёр. Са справы відаць, што хлопцы даўно мелі замер забіць свайго пана, аб гэтым зналі другія дваровыя людзі, але ніхто ня лічыў патрэбным папярэдзіць пана.

Часта на судзе сяляне даводзілі аб сваім цяжкім жыцьці, аб несьцярпімых зьдзеках, якія і штурхалі іх на такое злачынства, як забойства сваіх паноў. У сваіх апавяданьнях ускрывалі самыя цёмныя бакі паншчыны. На судзе аб забойстве ў 1833 годзе сялянамі абшарніка Бабруйскага павету Фамы Ванькавіча, селянін Іван Стасёнак апавядаў: „Что помещик его Фома Ванькович всегда был крайне обременителен для крестьян, ибо повинности требовал неисчисленные, безо всякого ограничения и заставлял делать работы по ночам. Запомоги никогда никакой не давал, а делал налоги ибо вместо того, что прежних времён и именно

когда имение было во временном владении у Нолькенов, собиралось с крестьян по одной копе грибов, весом не более двух фунтов, по кварте мёду, по десяти яиц, по осьмине овса, по пяти гарнцев ячменя, по столько же ржи, по пяти фунтов хмеля, по одной курице и по 25 копеек серебром денег. Помещик Ванькович требовал грибов по 25 фунтов, по гарнцу мёду, по 40 яиц, по осьмине овса, по осьмине жита, по осьмине хмелю и по четверо кур, чем довел крестьян до крайнего разорения. Если кто из них по несостоятельности не успел на срок отдать вышеописанного збора, наказывал, не соразмерно вине, сам и посредством дворового войта Кузьмы Коленника, который, следуя примеру помещика, жестоко, во всяком случае, обращается с крестьянами".

„Сверх сего, тот же покойный помещик Ванькович, имел в привычке ездить с вечера всякой день на деревню, собирал для молитвы всех крестьян в один двор, но всегда по собрании сперва наказывал тех из них, коих за что либо считал виновными, в особенности за невыплату налогов, а потом уже продолжал молитву, до позднего времени, а нередко до полуночи, несмотря на то, что многие, возвращаясь с дворовых работ и при недостатке пищи, одни требуют отдохновения, а другие, по недостатку времени, желали бы ночью успеть что-либо сделать по хозяйству. Таковая молитва отбывалась от немалого времени в хате отца допрашиваемого Авласа, жительствующего вместе с младшим братом своим Северином. Таким образом, в числе прочих крестьян, соскучив и он жизнь свою, доходил до крайности в помышлениях как бы спастись от угнетения помещика".

Выхад быў знайдзен. Згаварыўшыся ўсёй вёскай, сяляне парашылі забіць свайго ўладара. Калі Ванькович ехаў пасьля маленьня з вёскі ў двор, некалькі сялян пераняли яго на дарозе і, сьцягнуўшы з павозкі, тут-жа задавілі і кінулі ў канаву са сьмецьцем. Сьледавацель па гэтай справе, ведаючы адносіны Ваньковіча да сваіх сялян, зьявіўся ў вёску, заарыштаваў усіх сялян і прымусіў сазнацца вінаватых.

Частыя забойствы абшарнікаў у б. Расіі, не зважаючы на цяжкую кару вінаватым, прымушаў царскі ўрад вышукваць прычыны гэтых забойстваў і прымаць крокі да недапушчэньня такіх учынкаў. Пасьля забойства ў Магілеўшчыне абшарніка Свадкоўскага ў 1841 г., Мікалай І ня мог ня прызнаць у такіх выпадках некаторую ступень вінаватасьці абшарнікаў у злачынстве імі ўладай, наданай абшарніку. Ён загадаў зрабіць суровы выгавар Магілеўскаму губарнатару, губэрскаму і паветовым маршалкам, а некаторых мясцовых чыноўнікаў аддаць крымінальнаму суду.

У 1842 г., у зьвязку з значным лікам забойстваў абшарнікаў, міністэрствам унутраных спраў 14 (27) чэрвеня 1842 г. быў выданы сакрэтны абежнік за № 377; гэтым абежнікам прапаноўвалася губарнатарам паставіць сабе за правіла, у выпадках забойства сялянамі сваіх паноў, неза-

лежна ад сьледзтва судовых і паліцэйскіх устаноў, па гэтых-жа справах рабіць сьледзтва губэрскаму маршалку, разам з жандарскім штаб-афіцэрам. Вынікі гэтага сьледзтва павінны былі праз грамадзянскага губарнатара накіроўвацца ў міністэрства ўнутраных спраў.

Судовыя і паліцэйскія ўстановы застанаўліваліся на формальным боку справы, вышукваючы вінаватых і ўстанаўляючы абставіны, пры якіх здарылася злачынства. Але гэта яшчэ не ўстанаўляла сапраўдных прычын, якія прымушалі сялян на забойствы абшарнікаў. Трэба іх было вызнаць другім шляхам, каб, дазнаўшыся праўдзівага стану, можна было адпаведнымі мерапрыемствамі захаваць дваранства ад такой расправы. Вядома, гэтыя мерапрыемствы ня мелі ніякай значнасьці. Урад Мікалая I, баючыся рэволюцыі, стараўся стрымліваць абшарнікаў ад „злоупотребления помещичьей властью“, а з другога боку, па яго-ж думцы сялянства павінна было застацца рабамі сваіх паноў. Стан сялянства не папраўляўся і барацьба ня спынялася.

У 1843 годзе 24 (7) чэрвеня быў забіты абшарнік Бабруйскага павету двору Парэчча Каспэр Клецкі. З перапіскі відаць, што сяляне адчувалі да пана Клецкага „непостижимую ненависть“ і згаварыўшыся разам забілі яго.

Ненавісны былі для сялян і панскія дзеці. У 1847 г. на паляваньні быў забіты сын абшарніка Слуцкага павету двору Замосьце Яраслаў Сьцянпноўскі селянінам Зайцам. Заяц гэта здарэньне тлумачыў выпадковасьцю; па другім заявам забойства было зроблена па нагаворы сялян.

У далейшым яшчэ спатыкаем некалькі спроб па Меншчыне да забойства абшарнікаў. Так, у 1854 г. сяляне меліся забіць управіцеля фальварка Мервіла Слуцкага павету пана Малыніча. Зьявіўшыся ноччу да яго ў спальню, некалькі сялян закруцілі яго ў коўдру і панесьлі за хату, каб там вальней было з ім парашыць. Калі Малыніч стаў крычаць, яму заткнулі прасьцірадлам рот і, сеўшы на грудзі, сталі яго давіць. Але на гам і крык прыбегла пані двору і другія асобы, якія і прымусілі сялян пакінуць Малыніча і самім уцячы. Аб тым, што ўрадовыя захады аб недапушчэньні абшарнікаў да незаконнага лютага абыходжаньня са сваімі сялянамі сьведчыць той факт, што прадпісаньнем Менскага губарнатара яшчэ ў 1853 г., па заявам сялян на лютыя зьдзекі Малыніча над імі, было загадана губэрскаму маршалку правесьці „скорое и непременное удаление Малынича из имения Мервил с тем, чтобы он впредь не был нигде допускаем к управлению населенными имениями“. Але Малыніч спакойна заставаўся і надалей зьдзекавацца над сялянамі, пакуль самі сяляне не парашылі збавіцца ад свайго тырана.

Быў гэтак сама замер у 1859 годзе забіць аканома Піліповіча двору Антонаўкі Бабруйскага павету. У час працы ў полі, калі сяляне адбывалі прыгон, да іх зьявіўся Піліповіч падганяць да працы. Селянін Васіль Лук'янаў напаў на Піліповіча і пачаў яго біць. Але адзін Лук'янаў

ня справіўся з Піліповічам, які вырваўся і ўцёк у двор. Другія сяляне, якія былі ў згаворы, не пасьпелі на дапамогу Лук'янаву. Пасьля гэтага шмат хто з сялян зьбег са сваіх сядзіб. Хто-ж застаўся, быў прыцягнут пад суд за непавіннасьць панскай уладзе і зговар да пабояў аканома.

Паўстаньні сялян, забойствы абшарнікаў і другія віды протэсту проці паншчыны ў значнай меры адбіваліся на дворнай гаспадарцы Беларусі. Вядома, усе гэтыя протэсты, у вагульна Расійскім маштабе, не маглі прымусіць царскі ўрад правесьці рэформу 1861 г. Урад лёгка спраўляўся з неорганізаванай, распыленай нездаволенай сялянскай масай. Але „призрак пугачевщины,—кажа В. Сямеўскі,—вечно стоял в глазах нашего дворянства и, как грозное memento mori, напоминал о необходимости покончить к крепостным правом в интересах самих помещиков“. Галіцыйскія падзеі 1846 г., эўропэйская рэволюцыя 1848 г., паўсямесная, хаця і выпадковая, расправа сялян з панамі ў Расіі прымушалі царскі ўрад сьпяшыць з рэформай.

Асабліва-ж у гісторыі забойства сялянамі сваіх паноў цікаўна тое, што самыя акты забойства спатыкалі ў прыгоннага люду Беларусі прыхільнасьць. Здавалася-б, на забойцаў павінны былі глядзець з жахам, як на найвялікшых праступнікаў, а паднявольны народ глядзеў на іх, як на сваіх збавіцеляў, спачуваў ім, і нават адносіў іх да сьвятых мучанікаў за праўду. Ва ўсіх прыведзеных выпадках мы не спатыкаем з боку сялян ніякай жаласьлівасьці да забітага свайго ці чужога пана. Між тым у народзе, яшчэ і да нашых дзён, мясцамі народ хавае памяць аб пакараных сьмерцю бунтарох і нават дзень іх кары сьвяткуе. Бліскучым прыкладам да гэтай думкі зьяўляецца паданьне, з праўдзівага здарэньня, якое запісана ў 1924 г. ў вёсцы Слаўні, Рагачоўскага павету, Магілеўскай губ. Вось што апавядае нам гэта паданьне:

„Сялянка Жукава з вёскі Слаўні, з двума сваімі малымі сынамі, Грыгорам і Тамашом, была пераведзена на працу ў дворныя людзі ў двор Еўсташына, бо не магла двору адбываць прыгон. Малыя дзеці яе расьлі каля паноў і навучыліся чытаць і пісаць. Калі хлопцы вырасьлі, пан Грыгора пакінуў за лёкая, а Тамаша паставіў за фурмана. Так яны і пражылі да сваіх сталых гадоў“.

„Паны гэтага маёнтку былі вельмі суровыя і не палюдзку абыходзіліся са сваімі сялянамі. Грыгор і Тамаш жылі і глядзелі, як паны катуюць сваіх сялян, і рашылі адпомсьціць за гэта паном. Яны думалі вызваліць сялян ад лютых паноў, маючы надзею, што заместа цяперашніх паноў над сялянамі стануць уладарамі другія, добрыя паны. Згаварыўшыся, аднаго разу Грыгор і Тамаш навастрылі вялікія нажы і зарэзалі імі сваіх паноў. Пасьля ўзялі коняй і паехалі ў двор Стайкі і Плесну і там парэзалі паноў. Праз тры месяцы іх злавілі і засудзілі—„правесьці тры разы праз строй“. Дзеля гэтага выклікалі дзьве роты салдат і сагналі сялян з усіх бліжэйшых вёсак бачыць кару. Вінаватым Грыгору

і Тамашу прывязалі рукі да стрэльбаў і так вялі іх між салдацкіх шарэнгаў, а кожны салдат павінен быў біць вінаватага прутам па голаму целу“.

„Грыгор быў моцны целам чалавек і ўжо праходзіў трэці раз праз шэрагі салдат. Пан, які быў пры гэтым, угледзеў, што Грыгор вытрымае, пагаварыў з афіцэрамі і сказаў салдатам: „Зьвера забіваюць, а вы ня можаце забіць чалавека. Парадзейце, рабяты, я стаўлю куфу (бочку) водкі і вала на закуску“. Салдаты пасьля гэтага кінуліся на Грыгора і забілі яго. Тамаш прашоў праз шэрагі салдат толькі паўтары разы і, зьнямогшы, паваліўся пад ударамі прутоў. Яго палажылі на воз і вязьлі між салдат, але паднялася навальніца, пашоў град, што пашкодзіла дакончыць кару над Тамашом. Кару адлажылі на другі дзень, але праз ноч Тамаш памёр. На заўтрае абодвух нябожчыкаў прывезьлі на месца кары, дзе кат палажыў ім кляймо на лоб і віскі, пасек іх на часткі, пасьля чаго і закапалі абодвых братоў у зямлю. Сяляне на могілках братоў тайком паставілі крыж і нават тайком сьвяткавалі дзень жалобы па загінуўшых бунтарох“ [1]).

У 1846 г., па заяве Серадоніна, праўдзіва, двое дворных людзей Магілеўскага абшарніка Л-скага забілі ў адзін дзень у трох дварох шэсьць і паранілі восем паноў. Мікалай I, дзеля сьледзтва гэтай справы, пасылаў свайго флігель-ад'ютанта. Грыгор і Тамаш рашыліся на забойства паноў перад вызначанай ім цялеснай карай. Абодва былі пісьменныя. Бунтавалі сялян, распаўсюджваючы чуткі аб вольных указах і інвэнтарох [2]).

Беларускае сялянства ў барацьбе з панамі прымала актыўны ўдзел. Прыведзеныя вышэй выпадкі расправы сялян са сваімі тыранам даюць яскравы штрых „непостижимой ненависти“ прыгнечанай масы да сваіх уладароў. У гэтай „непасьціжымай“ ненавіснасьці, пры клясавых супярэчнасьцях, пачыналася рэвалюцыйная барацьба працоўных Беларусі. У далейшым барацьба гэта станавілася больш асмысьленай, мэта барацьбы больш выразнай; сталі ўжывацца другія сродкі барацьбы, якія павялі працоўных Беларусі да поўнай перамогі і вызваленьня.

---

[1]) Бел. Дзярж. Музэй. Папка з апроснымі лістамі. 1924 г.

[2]) Середонин.—Исторический обзор деятельности комитета министров. Т. II, ч. I, стар. 357.

# ПОЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ І АБ'ЯДНАНЬНІ Ў СУЧАСНАЙ ПОЛЬШЧЫ *)

У. Каліноўскі

### Комуністычная партыя

Піонэрамі комунізму ў Польшчы былі сябры партыі „Пролетарыят", на чале якіх стаяў Людвік Варынскі. У 1883-84 г.г. гэтая партыя была зьніштожана царскай ахранкай і амаль што ўсе актыўныя сябры гэтае партыі былі заарыштаваны. Здрайцай і прадацелем партыі быў Пацяноўскі. Усіх арыштаваных па справе партыі „Пролетарыят" было больш за 200 чалавек. З гэтага ліку справы 29 чалавек былі перададзены ў вайсковы суд. У канцы 1885 году вайсковы суд судзіў у Варшаве гэтых 29 сяброў партыі. Згодна прыгавору суда чацьвёра з засуджаных: Куніцкі Станіслаў, Бардоўскі Пётра, Асоўскі Міхал і Пятрусінскі Ян былі пакараны сьмерцю 28 студзеня 1886 году, а ўсе астатнія, апрача прадацеля Пацяноўскага, былі засуджаны на вялікі тэрмін у катаргу. Варынскі-ж, якому патрэбна было прабыць 16 гадоў на катарзе ў Шлісэльбурскай турме, ня мог перанесьці цяжкіх умоў на катарзе і памёр у турме ў 1889 годзе. Разам з Варынскім быў таксама засуджаны на 16 гадоў катаргі Нэстар рэволюцыйнага пролетарскага руху ў Польшчы і адзін з старэйшых барацьбітоў і кіраўнікоў Польскай Комуністычнай партыі— Фэлікс Кон.

З самага пачатку сваёй дзейнасьці, прыблізна з 1878-79 г.г., партыя „Пролетарыят" рэзка адмежавалася ад групы, якая ўжо ў той час існавала і называла сябе соцыялістычнай, але працу сваю вяла ў вузка нацыянальных рамках. У процілегласьць гэтаму „соцыял-патрыётызму", партыя „Пролетарыят" у програме сваёй яскрава падкрэсьліла, што „вызваленьне працоўных з пад экономічнага, політычнага, соцыяльнага і моральнага прыгнечаньня ёсьць справа саміх працоўных". Пры гэтым у програме таксама зазначалася і на тое, што ўсе эксплёатаваныя, незалежна ад нацыянальнасьці, павінны аб'яднацца і выступіць усе разам солідарна на барацьбу супроць эксплёататараў і прыгнятацеляў рабочае клясы.

Пасьля таго, як у так званым Царстве Польскім у канцы 1885 году партыя „Пролетарыят" была разагнана, то сапраўдныя кіраўнікі рэво-

---

*) Гл. „Полымя" № 2 за 1926 год.

люцыйнага руху, альбо так званыя „левыя радыкалы“, павінны былі эміграваць. У Швайцарыі ў Цюрыху група гэтых польскіх марксыстых разам з прадстаўнікамі ад варшаўскіх рабочых організацый у 1893 годзе заснавала партыю „SDKP“ і L“ (Соцыял-Дэмократыя Каралеўства Польскага і Літвы). Галоўным кіраўнікам гэтай партыі была Роза Люксэмбург. Апрача Розы Люксэмбург, на чале гэтай, занова організаванай партыі, былі таксама вядомыя польскія рэволюцыянэры: Юльян Мархлеўскі, Адольф Варскі (Варшаўскі), Лявон Тышка і Браніслаў Весялоўскі.

„SDKP і L“ солідарызавалася з расійскай соцыял-дэмократычнай партыяй. Польскія соцыял-патрыёты абвінавачвалі за гэта „SDKP і L“ і даводзілі, што канчатковай мэтай рэволюцыйнага руху ў Польшчы павінна быць стварэньне назалежнай Польшчы, а гэта магчыма толькі пры дапамозе вайсковага нажыму на Расію з боку чужаземных дзяржаў, а не пры дапамозе пролетарскай рэволюцыі. З соцыял-патрыётамі немагчыма было дагаварыцца ні аб салідарнасьці пролетарыяту, без нацыянальнай розьніцы, ні аб супольнай барацьбе за агульнае вызваленьне працоўных. Вось дзеля чаго ў наступныя гады пасьля ўтварэньня „SDKP і L“ паміж польскімі соцыялістымі адбывалася барацьба. Аб гэтай барацьбе ўжо зазначалася ў кароткіх рысах, калі давалі характарыстыку партыі ППС.

Там зазначалася таксама і аб тым, што на VIII зьездзе ППС, які адбыўся ў Львове ў лютым месяцы 1906 г., адбыўся раскол у партыі ППС і вызначыліся два кірункі: правы і левы—„лявіца ППС“. Правы кірунак, альбо так званыя „старыя“, зьявіліся папярэднікамі сучаснай, ППС, шовіністых і прыхільнікаў імпэрыялістычнага імкненьня польскай буржуазіі пашырыць тэрыторыю Польшчы „ад мора да мора“.

У часе імпэрыялістычнай вайны ППС узяла курс на нацыяналістага Пілсудзкага і разам з ім адыходзіла ўсё ўправа ад тэй позыцыі, якую тэорытычна займала да пачатку гэтай вайны.

Комуністычная партыя ў Польшчы была організавана ў 1918 годзе, пасьля таго як у Расіі адбылася Кастрычнікавая рэволюцыя. Утварылася яна шляхам аб‘яднаньня „SDKP і L“ з лявіцай ППС. Аб‘яднаньне гэтае адбылося 16-га сьнежня 1919 году на зьезьдзе прадстаўнікоў ад вышэйазначаных дзьвёх аб‘яднаных партый.

У сакавіку 1919 году прадстаўнікі Польскай Комуністычнай партыі прымалі ўдзел у організацыйным зьезьдзе Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

У канцы красавіка 1920 году адбылася І-ая партыйная конфэрэнцыя Комуністычнай Партыі Польшчы. На гэтай конфэрэнцыі былі сьцьверджаны пастановы ЦК партыі аб тым, што Польская Комуністычная партыя ўваходзіць у III Комуністычны Інтэрнацыянал. Гэтую пастанову ЦК партыі прыняў у пэрыод часу паміж аб‘яднаным зьездам, які адбыўся 18 сьнежня 1918 году і І-ай партыйнай конфэрэнцыяй.

У першай палове лютага 1921 году адбылася ІІ-ая партыйная конфэрэнцыя. На гэтай конфэрэнцыі былі прыняты так званыя „21 пункт“,

якія былі пастаўлены ІІ-ім Конгрэсам ІІІ Комуністычнага Інтэрнацыяналу, як абавязковая ўмова на тое, каб увайсьці ў ІІІ Комуністычны Інтэрнацыянал.

З 1921 году Комуністычная партыя стала распаўсюджваць свой уплыў на вёску. Партыя пачала выдаваць спэцыяльна для сялянства дзьве легальныя газэты—у Варшаве „Orka" (Ворыва) і ў Кракове „Skiba" (Скіба). Гэтая магчымасьць Комуністычнай партыі Польшчы для выхаду з падпольля, хоць на кароткі час, зьявілася дзякуючы таму, што ў першым так званым Установачым Сойме Польшчы, які зьбіраўся ў 1919 годзе, была комуністычная фракцыя, у склад якой уваходзілі *Тамаш Домбаль і Станіслаў Ланцуцкі.* У гэтым-жа 1921 годзе да Комуністычнай партыі далучылася частка ППС, так званая „опозыцыя", а таксама ў склад Польскай Комуністычнай партыі, як сустаўная яе частка, увашла Комуністычная партыя Ўсходняй Галіцыі.

У канцы 1921 году супроць Польской КП аднавіўся з новай сілай поліцэйскі тэрор. Тамаш Домбаль быў адданы пад суд, які і засудзіў яго на шмат гадоў у катаржную турму. І толькі дзякуючы абмену політычных вязьняў паміж СССР і Польшчай, Тамаш Домбаль вырваўся з каменнага мяшка і гэтым самым захаваў сілы для сваёй рэволюцыйнай працы. Зараз Т. Домбаль зьяўляецца намесьнікам генэральнага сакратара Сялянскага Інтэрнацыяналу.

У пачатку 1922 году была ІІІ партыйная конфэрэнцыя КП Польшчы, а ў канцы 1923 году—ІІ партыйны зьезд. У сьнежні 1925 году адбылася IV партыйная конфэрэнцыя КП Польшчы. На гэтай конфэрэнцыі быў зьліквідаваны некаторы ўхіл, які назіраўся ў апошнія часы ў КП Польшчы. К таму часу, калі адбываліся выбары ў Сойм і Сэнат у 1922 г., КП Польшчы была ўжо загнана ў глыбокае падпольле, і таму ня выставіла свайго сьпісу кандыдатаў, а падтрымлівала сьпіс кандыдатаў „Саюзу Пролетарыяту Гарадоў і Вёсак". Сьпіс гэты праходзіў пад № 5, і з гэтае прычыны „Пёнтка" (Пяцёрка) зрабілася сымболем комунізму, таксама як „шаснастка"—нацыянальных меншасьцяй і „ўсемка" (васьмёрка)—крайняй рэакцыі.

Ня гледзячы на тое, што былі вельмі няспрыяючыя ўмовы для выбараў і самы моцны поліцэйскі тэрор, сьпіс № 5 атрымаў у Польшчы 132.492 галасы, і па гэтаму сьпісу ў Сойм увашло два дэпутаты—Станіслаў Ланцуцкі і *Сьцяпан Крулікоўскі*, якія ўтварылі ў Сойме комуністычную фракцыю.

У 1924 годзе з украінскай нацыянальнай фракцыі вышла 5 дэпутатаў, 4 з іх з'організавалі фракцыю Украінскай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай Партыі. Пасьля гэтая новая украінская фракцыя ўвашла ў комуністычную фракцыю.

Такім чынам у комуністычнай фракцыі Сойму стала 6 дэпутатаў.

Але ўсё-ж такі Ланцуцкага польская дэфэнзыва парашыла на доўгі час засадзіць у турму. Супроць яго была штучна створана сэрыя кры-

мінальна-палітычных спраў. Перад тым, як пачалі разглядаць у Львове першую судовую справу Ланцуцкага, пролетарыят СССР, а таксама некаторых рабочых цэнтраў Эўропы наладзіў цэлы шэраг мітынгаў і дэмонстрацый і гэтым выявіў сваё абурэньне супроць паліцэйскага тэрору, які польская буржуазія дапасоўвала да польскіх рабочых. На гэтых-жа мітынгах і дэмонстрацыях пролетарыят выказаў сваё спачуваньне ахвяры гэтага тэрору—Ланцуцкаму. Польскі-ж суд, які ў руках польскай буржуазіі зьяўляецца аднэй з прылад для барацьбы з пролетарыятам, пад уплывам гэтых протэстаў, а таксама прымаючы пад увагу агульную палітычную кон'юнктуру, апраўдаў Ланцуцкага. Праз некалькі месяцаў Ланцуцкага судзілі другі раз ужо ў Варшаве. На гэты раз польская буржуазія ігнаравала протэсты пролетарыяту, і суд прыгаварыў Ланцуцкага ў катаржную турму на такі тэрмін, які няскора дасьць Ланцуцкаму магчымасьць прымаць актыўны ўдзел у барацьбе польскага пролетарыяту за сваё вызваленьне і перамогу ідэі соцыялізму.

Супроць другога комуністычнага дэпутата—Крулікоўскага польская прэса падняла траўлю, і ён, каб пазбавіць фракцыю і партыю ад агідных інсынуацый, якія буржуазная прэса зьвязвала з яго імем, адмовіўся ў 1925 годзе ад соймавага мандату.

У пачатку 1926 году, замест Крулікоўскага, увашоў у Сойм *Адольф Варскі* (Варшаўскі).

Ланцуцкі таксама адмовіўся ад мандату з тэй прычыны, што, знаходзячыся ў турме, ён ня мог зьдзейсьніць свае дэпутацкія поўнамоцтвы; замест яго ўвашоў *Юры Сахацкі*.

Старшынёй соймавай комуністычнай фракцыі зьяўляецца А. Варскі.

Варскі радз. ў 1870 годзе ў Варшаве; яшчэ будучы вучнем у гімназіі, ён уваходзіў у марксыцкія гурткі. У 1893 г. пасьля таго, як яго выпусьцілі з вядомай Варшаўскай цытадэлі, у якой ён прасядзеў год, Варскі разам з Розай Люксэмбург, Мархлеўскім (Карскім), Весялоўскім і Тышкай Іогіхэсам эмігруюць, але і ў эміграцыі яны не перастаюць прымаць удзел у рэволюцыйным руху Польшчы.

У часе рэволюцыі 1905 году Варскі вярнуўся ў быўш. тады расійскую частку Польшчы; там яго зараз-жа заарыштавалі і адправілі ў ссылку. Зьбегшы з ссылкі, Варскі ізноў эмігруе.

У часе сусьветнай імпэрыялістычнай вайны Варскі займае інтэрнацыяналістычную позыцыю. У 1916 годзе Варскі варочаецца ў Польшчу, якая ў той час была занята немцамі; там яго заарыштавалі і пасадзілі на год у концэнтрацыйны лягер. У 1918 годзе Варскі прымае актыўны ўдзел у організаваньні Комуністычнай партыі Польшчы.

Пасьля арыштаў ён змушан быў ізноў эміграваць з Польшчы.

Ланцуцкі Станіслаў—родам з Галіцыі, з Перамышльскага павету, радз. ў 1882 годзе; яго профэсія—сьлесар. У Аўстрыі належаў да не-

негальнай ПОВ (Польскай Організацыі Вайсковай); за гэта яго доўгі час прасьледвалі, і ў 1918 годзе ён павінен быў зьбегчы ў Кіеў.

Ланцуцкі зьяўляецца нестамімым рэволюцыйным працаўніком, які ў сваёй асобе злучае рэволюцыйную загартаванасьць і энтузіязм з нязвычайнай мяккасьцю характару; ён карыстаецца вельмі вялікай популярнасьцю сярод польскага пролетарыяту. Усе гэтыя якасьці Ланцуцкага толькі прыблізілі да яго арышт і суд, які і засудзіў яго на доўгія гады ў турму.

Крулікоўскі Сьцяпан—родам з Варшавы; радз. ў 1881 годзе; профэсія яго—агароднік-самавучка. Сябра профэсыянальнага саюзу будаўнікоў. З 1901 году быў сябрам партыі ППС. У 1906 годзе ўвашоў у левае крыло ППС, у якім і працаваў да 1918 году, г. значыць да таго часу, калі гэтая частка ППС аб'ядналася з соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй Царства Польскага і Літвы, якія далі пачатак Польскай Комуністычнай партыі. З 1919 году Крулікоўскі сябра ЦК Комуністычнай Партыі Польшчы. Да 1918 году прымаў удзел у нелегальнай падпольнай працы ў Польшчы пад клічкай „Агароднік", а з 1918 году—пад клічкай „Кіпрыян". Адзінаццаць разоў адбываў турэмную кару па адміністрацыйных загадах расійскай улады і адзін раз яго судзіў расійскі вайсковы суд. Усяго ў расійскіх турмах прабыў 8 год. У 1915 годзе быў сасланы на пасяленьне ў Сібір.

Калі ён вярнуўся ў Польшчу, то ў канцы 1918 году быў пасаджаны ў турму, дзе і прасядзеў да палавіны 1919 году. Восеньню 1921 году быў пасаджаны ізноў у турму таму, што абвінавачваўся ў вядомым „Сьветацюрскім" процэсе, і сядзеў у турме да сьнежня месяца 1922-га году, г. значыць да часу ўступленьня яго ў Сойм.

Аб 4-х украінцах, якія ўвашлі ў комуністычную фракцыю, можна сказаць наступнае:

Скрыпа Іосіф—родам з Холмшчыны; радзіўся ў 1894 г.; скончыў настаўніцкую сэмінарыю і пэдагогічныя курсы ў гор. Баку. Супрацоўнічаў у украінскіх газэтах і прымаў удзел у украінскім руху; у 1919 годзе сядзеў каля году за політычныя справы ў турме.

Пашчук Андрэй—селянін.

Прыступа Цімох—родам з Галіцыі; радз. ў 1895 г.; яго профэсія—агроном; скончыў гімназію і агрономічныя курсы ў гор. Кіеве; вядомы як грамадзянскі дзеяч і коопэратар.

Вайцюк Якаў—родам з Холмшчыны; радз. ў 1894 годзе; яго профэсія—журналісты.

Сахацкі, які ўвашоў у Сойм замест Ланцуцкага,—па профэсіі народны настаўнік. З партыі НПР Сахацкі перашоў да ППС і нейкі час працаваў на пасадзе генэральнага сакратара гэтай партыі.

У 1920 годзе Сахацкі, які ў той час быў на чале левага крыла ППС, або так званай „опозыцыі“, адходзіць са сваёй групай ад ППС і пераходзіць у Комуністычную партыю.

Пакуль Сахацкі не атрымаў дэпутацкага мандату, ён працаваў у комуністычнай соймавай фракцыі на пасадзе тэхнічнага сакратара фракцыі.

У сучасны момант у КП Польшчы ўваходзяць, як сустаўныя яе аўтономныя організацыі, КПЗБ (Комуністычная Партыя Заходняй Беларусі) і КПЗУ (Комуністычная Партыя Заходняй Украіны — Галіцыі і Валыні).

Ня гледзячы на тое, што дзейнасьць Комуністычнай партыі сярод працоўных мас Польшчы адбываецца ў падпольлі, уплыў яе на рабочых і сялян расьце бязупынна. Хлусьлівасьць і шовінізм цяперашняй ППС стане асабліва яскравай, калі мы паглядзім на тое цяжкое становішча, у якім знаходзяцца нацыянальныя меншасьці ў Польшчы. Зараз ня толькі па гарадох, сярод рабочых, але і ў вёсках комунізм пашыраецца з такой шпаркасьцю, якая прымушае ўрадавыя колы ставіць пытаньне аб „зьніштажэньні комунізму ў Польшчы ў такім абхваце, у якім здольна зрабіць гэта толькі польская рэспубліка“.

Легальнай прэсы КП Польшчы ня мае. Але ўсё-ж такі, апрача аднадзёнак і лятучак, у 1925 годзе нелегальна выходзілі наступныя выданьні: у Варшаве „Czerwony Sztandar“ (Чырвоны Сьцяг)—орган ЦК партыі, „Głos Komunistyczny“ (Комуністычны Голас)—бюлетэнь ЦК, „Gromada“ (Грамада)—газэта для сялянства, „Kolejarz-Komunista“ (Чыгуначнік-Комуністы), „Żołnierz-Robotnik“ (Жаўнер-Працаўнік), „Więzień Polityczny“ (Палітычны Вязьня)—орган МОПР‘у.

Апрача гэтых варшаўскіх газэт і часопісяй, КП выдавала ў Сілезіі тыднёвік „Prawda“ (Праўда) і ў Вільні—газэту „Do walki“ (У бойку).

Комуністычныя партыі Заходняй Беларусі і Украіны таксама выдаюць свае нелегальныя газэты на беларускай і украінскай мове.

### Нацыянальныя меншасьці ў Сойме

Выбарны закон 1922 году знарок быў складзены так, каб большая партыя мела магчымасьць правесьці ў Сойм і больш прадстаўнікоў. Польскія правыя партыі разьлічалі, што нацыянальныя меншасьці не правядуць ні аднаго дэпутата, за выключэньнем яўрэяў, якія і ў папярэднім Сойме мелі каля дзесяці сваіх прадстаўнікоў. Гэтая думка грунтавалася на тым, што нацыянальныя меншасьці, з аднаго боку, падзелены нацыянальна, а з другога—сярод партый гэтых нацыянальнасьцяй існуюць рознагалосьсі. Але ўсё-ж такі дзеяньне выклікае процілеглае дзеяньне. Нацыянальныя меншасьці Польшчы аб‘ядналіся ў адзін блёк. Аб‘яднаньне гэтае было зусім натуральнае, але разам з гэтым зусім нечаканае для польскае буржуазіі. Праўда, і сярод нацыянальных меншасьцяй былі некаторыя рознагалосьсі, але аб іх мы скажам пасьля.

На выбарах блёк нацыянальных меншасьцяй дасягнуў поўнай перамогі. Калі ўзяць пад увагу ўсю труднасьць перадвыбарнай барацьбы і тое, што супроць нацыянальных меншасьцяй ішлі фронтам усе польскія буржуазныя і здрадніцкія партыі, то вынікі выбараў былі вельмі добрыя. Але за гэта нацыянальныя меншасьці выклікалі да сябе з боку польскае буржуазіі агульную нянавісьць.

Кандыдаты блёку нацыянальных меншасьцяй ішлі пад сьпісам № 16; і вось цяпер слова „шаснастка" стала ў Польшчы агульным словам, трошкі менш „абразьлівым", чымся „бальшавік".

У блёк нацыянальных меншасьцяй увашлі такія народнасьці: беларусы, украінцы, яўрэі і немцы.

Усе, узятыя разам, нацыянальныя меншасьці ў сучасны момант маюць у Сойме 88 дэпутатаў[1]), а ў Сэнаце—26 сэнатараў. Нацыянальны склад дэпутатаў наступны: 35 яўрэйскіх дэпутатаў, 20—украінскіх з Валыні, 4—здрадніцкай украінскай партыі, дэпутаты Галіцыі ці т. зв. „хліборобы" з вуніяцкім ксяндзом Ількавым на чале, 17 нямецкіх, 11 беларускіх і 1 расійскі.

### Беларуская Сялянска-Рабочая Грамада

Фракцыя Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады організавалася ў 1925 годзе з тых дэпутатаў, якія вышлі з нацыянальнай беларускай фракцыі, што знаходзілася ў Сойме. З гэтае апошняй фракцыі вышлі найбольш радыкальныя дэпутаты: Б. Тарашкевіч, П. Валошын, П. Мятла, С. Рак-Міхайлоўскі. З усіх фракцый нацыянальных меншасьцяй програма гэтае фракцыі, пасьля лёзунгаў Комуністычнай партыі, самая левая. Лёзунгі і програма Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады зьяўляюцца асабліва популярнымі сярод насельніцтва, а ўплыў на жыхарства дужа моцны. Старшыня фракцыі—Тарашкевіч Браніслаў, радзіўся ў 1890 г. ў Віленскай губ. Профэсія яго—настаўнік; скончыў гісторыка-філёлёгічны факультэт у Ленінградзе. Вядомы сваёй грамадзянскай і навуковай дзейнасьцю, лічыцца адным з выдатных беларускіх політычных дзеячоў.

Сябра фракцыі—Валошын Павал—родам з Сакольскага павету; сын селяніна. Увашоў у Сойм у сьнежні 1923 году на месца дэпутата Ў. Каліноўскага[2]), які быў высланы за межы Польшчы.

Для ўрадавых колаў Валошын зьяўляецца фігурай ня менш одыознай, чымся яго папярэднік. Вельмі энэргічнай абаронай інтарэсаў працоўных Заходняй Беларусі Валошын здабыў сярод іх агульную пашану.

Мятла Пётра[3]) радзіўся ў 1891 годзе; сын селяніна Вялейскага павету; яго профэсія—настаўнік. У сялянскім асяродзішчы імя Мятлы, як

---

[1]) Спачатку было 89, але дэпутат з фракцыі „хліборобаў"—Залуцкі перашоў у польскую „правіцу".

[2]) Аўтара гэтага артыкулу. *(Уваіа рэдакцыі).*

[3]) Быў у ліку парлямантараў, якія ў студзені 1926 г. прыяжджалі ў СССР.

чалавека і як прадстаўніка беларускага сялянства, вядомы з найлепшага боку.

Рак-Міхайлоўскі Сымон радзіўся ў 1885 г.; сын селяніна вёскі Максімаўцы Вялейскага павету. Яго профэсія—настаўнік; скончыў пэдагогічны інстытут у Фэодосіі. Вядомы як выдатны беларускі грамадзянскі дзеяч.

Сабалеўскі Георгі, родам з быўш. Менскай губ.; яго профэсія—каморнік. Увашоў ён у Сойм у пачатку 1926 году на месца Кахановіча, які адмовіўся ад мандату. Да часу ўступленьня ў Сойм Сабалеўскі сядзеў каля году ў турме; абвінавачвалі яго за тое, што ён прымаў удзел у партызанцкім руху беларускага насельніцтва. Абвінавачваньне гэтае ня мела ніякай падставы, але ўсё-ж такі Сабалеўскі сядзеў-бы ў турме і да сучаснага моманту, калі-б палітычныя абставіны не зложыліся так, што прымусілі польскі ўрад выпусьціць Сабалеўскага з турмы і даць яму магчымасьць выконваць свае дэпутацкія поўнамоцтвы. Справа ў тым, што мандат Сабалеўскі атрымаў зараз-жа пасьля свайго арышту, але ўсё-ж такі хоць ён і зьяўляўся дэпутатам Сойму, яго яшчэ каля году трымалі незаконна ў турме.

Сялянска-Рабочая Грамада мае ў Вільні свой афіцыёз-газэту, якая, з прычыны бязупынных конфіскацый, змушана бывае часта мяняць назву. Соймавая фракцыя БСР Грамады выдае свой бюлетэнь.

### Беларуская фракцыя (нацыянальная)

Частка беларускай нацыянальнай фракцыі, што засталася пасьля выхаду чатырох дэпутатаў у Сялянска-Рабочую Грамаду, складаецца фактычна з чатырох дэпутатаў і трох сэнатараў [1]). Палітыка гэтае фракцыі даволі радыкальная, але бяз кропак над „і“. Можна з пэўнасьцю сказаць, што ў далейшым гэтая фракцыя павінна будзе пайсьці альбо ўправа альбо ўлева, бо гэтага будуць вымагаць як палітычныя, таксама і тактычныя меркаваньні.

Усёй беларускай фракцыі, г. значыць яшчэ да яе падзелу, шмат шкоды нарабілі шовіністычныя і чорнасоценныя ўрадавыя колы Польшчы. Вясной 1923 году быў засуджаны на 6 год у катаржную турму дэпутат Сойму беларус—Баран Сяргей. Мотывы, па якіх абвінавачвалі Барана, былі вельмі недарэчныя але ўсё-ж такі дэфэнзыва палічыла патрэбным пазбавіцца ад Барана, як ад організатара і агітатара сярод беларуск. сялянства, і Барана надоўга засудзілі ў турму. Апрача Барана, якога абвінавачвалі ў організацыі паўстаньня, за гэтую-ж самую справу, якая вядома пад назвай „Беларускі процэс 45“, быў засуджаны і другі дэпутат беларус—

---

1) Замест Якавюка, які ўцёк у Літву, каб не адбываць прысуджанай яму катаргі, да гэтага часу ў Сойм не ўвашоў новы дэпутат, а Баран Сяргей, які адбывае кару ў Горадзенскім астрозе, захоўвае за сабою мандат і на яго месца таксама няма кандыдата. З гэтае прычыны агульны лік беларускіх дэпутатаў у Сойме зьменшыўся з 11 да 9.

Якавюк Сымон. Апошні пазбавіўся ад арышту таму, што нелегальна перашоў на літоўскую тэрыторыю. У пачатку гэтага-ж 1923 году вышэйшы суд, грунтуючыся на відавочна хлусьлівых довадах, якія давала мясцовая ўлада, прызнаў аўтара гэтага артыкулу чужаземцам, а таму і пазбавіў яго мандату, пакараў турмой і выселіў за межы Польшчы.

Як бачым, з 11 беларускіх дэпутатаў над трыма ўжо адбыўся акт політычнай помсты.

Старшынёй беларускай нацыянальнай фракцыі ў сучасны момант зьяўляецца Ярэміч Фабіян, які лічыцца выдатным беларускім грамадзянскім і політычным дзеячом. Яго профэсія—электратэхнік, родам з Гарадзенскай губ.

Апрача 4 дэпутатаў у Сойме, беларуская фракцыя мае ў сваім складзе трох сэнатараў.

Калі ад беларускай нацыянальнай фракцыі аддзяліліся дэпутаты, якія ўтварылі Сялянска-Рабочую Грамаду, то ў беларускай нацыянальнай фракцыі, апрача Ярэміча, засталіся наступныя дэпутаты: Станкевіч Адам, ксёндз, сын сяляніна Ашмянскага павету быўш. Віленскай губ.; радзіўся ў 1891 г., скончыў Ленінградзкую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію. Кс. Станкевіч кіруе „Беларускай хрысьціянскай дэмократыяй“; і сярод каталікоў-беларусоў, якія яшчэ ня вызваліліся з-пад уплыву касьцёлу, зьяўляецца адным з выдатных політычных і грамадзянскіх дзеячоў. Прымаючы пад увагу ўзрост рэволюцыйнага руху сярод заходніх беларусаў, а таксама і тое, што значэньне і ўплыў рэлігіі і духавенства на сялянскія масы ўвесь час зьніжаецца, кс. Станкевіч сіліцца падтрымаць свой уплыў хоць над часткай беларускага насельніцтва і для гэтага ён высоўвае, як сродак да аб'яднаньня, рымска-каталіцкую рэлігію. У красавіку месяцы ў адным з апошніх нумароў газэты Станкевіча „Bielaruskaja Krynica“—аўтар перадавіцы сіліцца ўпэўніць чытачоў, што „беларускае пытаньне ў Польшчы небезнадзейна і яно вырашыцца так, як патрэбна“. Пачатак добрага вырашэньня гэтага пытаньня газэта кс. Станкевіча бачыць у тым, што ў Заходняй Беларусі існуюць ксяндзы-беларусы, пад кіраўніцтвам якіх, па думцы аўтара артыкулу, і патрэбна каталіком-беларусам весьці політычную барацьбу(?). Ксёндз А. Станкевіч можа, а магчыма і прымушан, весьці політычную працу абавязкова ў гэткім вузка-клерыкальным напрамку. А рэальнасьць лёзунгаў беларускіх хрысьціянскіх дэмократаў і пераконаньні іх, нават можа і для шмат якіх кіраўнікоў гэтае партыі,—гэта ўжо другараднае пытаньне; але, як кажуць, палажэньне і абставіны абавязваюць.

Аўсянік Антон, родам з Вялейскага павету; радз. ў 1888 годзе. У часе існаваньня Сойму склікаnьня 1922 г. Аўсянік амаль што зусім ня прымаў актыўнага ўдзелу ў політычнай працы беларускай фракцыі.

Згодна апошніх газэтных вестак, Аўсянік прымушан быў выйсьці з фракцыі таму, што ў адным з віленскіх рэсторанаў, на падставе аса-

бістых узаемаадносін, адбыўся скандал. Ходзяць чуткі, якія зьмяшчаюцца і ў беларускай прэсе, аб тым, што Аўсянік мае намер увайсьці ў партыю т. зв. „казённых беларусаў“—доктара ў двукосьсі Паўлюкевіча. Калі-ж Аўсянік і пяройдзе ў партыю, якая знаходзіцца на ўтрыманьні дэфэнзывы, то гэты пераход ня толькі вызначыць яго асобу на будучыну, але і дасьць магчымасьць высьветліць яго паводзіны ў мінулым.

Рагуля Васіль родам з Навагрудзкага павету, сын селяніна, радзіўся ў 1879 годзе; яго профэсія—настаўнік, скончыў настаўніцкі інстытут. Нейкі час, пасьля Тарашкевіча, Рагуля быў у Сойме старшынёй нацыянальнай беларускай фракцыі да таго часу, пакуль ад яе не аддзялілася „Беларуская Сялянска-Рабочая Грамада“. У сучасны момант Рагуля разам з Ярэмічам зьяўляецца адным з кіраўнікоў занова організаванай беларускай партыі—„Сялянскі Саюз“, аб якім будзе зазначана ніжэй. Замест дэпутата Якавюка, які зьбег у Літву, павінен быў увайсьці ў Сойм наступны беларускі кандыдат, але наўрад ці адбудзецца гэтае ўступленьне. Справа ў тым, што кандыдаты сьпісу № 16 па акрузе Якавюка ў Бельску, якія ў сьпісу стаяць перад кандыдатамі-беларусамі, павінны адмовіцца ад мандату на карысьць беларускага дэпутата, бо на гэта была зроблена ўмова пры стварэньні блёку нацменшасьцяй, але ў гэтых кандыдатаў ёсьць моцнае жаданьне самім быць дэпутатамі Сойму, і гэтае жаданьне перашкаджае ім выканаць грамадзянскі абавязак.

З сэнатараў у беларускай нацыянальнай фракцыі засталіся ўсе тры, якія ў час выбараў прашлі ў Сэнат.

Назарэўскі Аляксей—б. пачтова-тэлеграфны служачы; радз. ў 1881 г. За час, які Назарэўскі прабыў у Сэнаце, уся яго актыўнасьць у беларускай політычнай працы набліжаецца да нуля. У вапошнія часы, магчыма ў зьвязку з надыходзячымі новымі выбарамі, у польскіх газэтах сталі зьяўляцца справаздачы аб удзеле „сэнатара Назарэўскага“ ў розных, як кажуць, „приличествующих случаю торжествах“.

Ня гэтак даўно, у час адчыненьня ў Баранавічах нейкага помніку альбо будынку, Назарэўскі палічыў патрэбным выступіць з прамовай, якая па форме нічым не адрозьніваецца ад прамоў любога *вернападданага* сябра дзяржаўнага савету „старога добрага часу“. Такое-ж самае вернападданічнае выступленьне Назарэўскі зрабіў і на эпархіяльным зьезьдзе Палескай эпархіі, які склікаўся ў канцы 1925 году.

Багдановіч Вечаслаў, скончыў кіеўскую духоўную акадэмію; радз. ў 1878 годзе; профэсія яго—настаўнік. Усю сваю энэргію сэнатар Багдановіч траціць на барацьбу з полёнізацыяй, з акаталічваньнем праваслаўнай царквы ў Польшчы і з тым парадкам, які зараз існуе ў праваслаўнай царкве. Калі прыняць пад увагу тое, што політычная барацьба ва ўмовах нашага часу мае клясавы характар і што клясы, якія варожа адносяцца да пролетарыяту і рэволюцыйнага руху, усялякую рэлігію імкнуцца выкарыстаць як сродак да барацьбы з пролетарыятам, то актыў-

насьць і энэргія Багдановіча, як прадстаўніка і „ізбраньніка“ беларускага насельніцтва ў Польшчы, павінны-б былі мець зусім іншае дапасаваньне. Патрэбна зазначыць, што „царкоўныя“ справы зьяўляюцца для яго стыхіяй і самамэтай. За сваю чэснасьць Багдановіч, як чалавек, набыў пашану сярод тых, хто яго знае.

Уласаў Аляксандар—зямляўласьнік, родам з Менскай губ.; радз. ў 1874 годзе. У дарэвалюцыйны час быў у Вільні за выдаўца аднэй з першых беларускіх часопісяй „Наша Ніва“. У сучасны момант Уласаў, як палітычны працаўнік, знаходзіцца ў нейкай палітычнай прострацыі.

У канцы 1925 году два дэпутаты беларускай нацыянальнай фракцыі Ярэміч і Рагуля заснавалі новую беларускую партыю пад назвай „Беларускі Сялянскі Саюз“. Гэтая партыя зьяўляецца чымсьці сярэднім паміж „Беларускай Сялянска-Рабочай Грамадой“ і так званай „Часовай Беларускай Радай“, якую арганізаваў Паўлюкевіч на тыя грошы, што дае яму дэфэнзыва.

Ярэміч і Рагуля выдаюць у Вільні сваю газэту „Сялянская Ніва“. У гэтай газэце „Сялянскі Саюз“ альбо, праўдзівей, яго „стварыцелі“ імкнуцца давесьці сялянству, што паміж інтарэсамі селяніна ад плуга і інтарэсамі рабочага ад варштату існуюць непрымірымыя розналосьсі. Значэньне і роля рабочага ў соцыяльнай рэволюцыі вядомы. Без дапамогі і кіраўніцтва рабочай клясы, сялянства ў Польшчы ня можа перамагчы памешчыкаў і атрымаць зямлю бяз выкупу. З гэтага пункту гледжаньня, палітычная ідэолёгія „Сялянскага Саюзу“ вельмі на руку польскай буржуазіі. Для сьвядомай часткі насельніцтва Заходняй Беларусі памылкі ў паводзінах і програме „Сялянскага Саюзу“—бясспрэчны; справа толькі ў тым, наколькі заснавацелі „Сялянскага Саюзу“ самі памыліліся і наколькі яны сьвядома сказілі ісьціну.

Хоць рэшта сяброў беларускай нацыянальнай фракцыі афіцыяльна і не ўваходзяць у „Беларускі Сялянскі Саюз“, але, як відаць, адносяцца да яго вельмі прыхільна, довадам чаго зьяўляюцца артыкулы ў ксяндзоўскай газэце „Крыніца“.

На зьезьдзе „Сялянскага Саюзу“, які ня так даўно адбыўся, Рагулю абралі за старшыню „Саюзу“.

## Украінская фракцыя

Украінская соймавая фракцыя ў пачатку працы Сойму была адзіная, але з цягам часу падзялілася на некалькі груп. Папершае, чатыры дэпутаты з фракцыі перашлі ў комуністычную фракцыю Сойму, а тры дэпутаты выступілі і не далучыліся ні да якой фракцыйнай групоўкі, па розных палітычных прычынах і прычынах асабістага характару. Такім чынам, украінская фракцыя мае 13 дэпутатаў замест 20.

Украінская нацыянальная фракцыя аб'ядноўвае: а) аўтономістых-фэдэралістых, б) прадстаўнікоў украінскай конфэдэрацыі нацыянальнай працы і в) прадстаўнікоў украінскага соцыялістычнага аб'яднаньня „Сялянскі Саюз“.

Аўтономістыя-фэдэралістыя, як відаць з назвы, нічога не жадаюць, апрача тэрыторыяльнай аўтономіі. Другая група—украінская конфэдэрацыя—стаіць за „самастойную“ Украіну. Найбольш радыкальнай групай ва украінскай фракцыі ў яе цяперашнім складзе зьяўляецца група „Сялянскага Саюзу“.

Як ужо зазначалася вышэй, украінская фракцыя мае 13 дэпутатаў у Сойме і 6 сэнатараў у Сэнаце. Старшынёй фракцыі зьяўляецца сэнатар Чаркаўскі—беспартыйны, а яго першым намесьнікам—дэпутат Сойму Хруцкі, профэсія якога настаўнік.

## Хлеба робы

Апрача украінцаў, якія прашлі ў Сойм па сьпісе блёку нацыянальных меншасьцяй з Валыні і Холмшчыны, у Сойме маецца група украінцаў з Галіцыі, так зван. „хлеваробаў“. Аб гэтых украінцах патрэбна зазначыць, што яны ўвашлі ў Сойм наперакор волі народу. Справа ў тым, што украінцы-галічане лічаць, што яны маюць права мець шырокую аўтономію і свой Галіцыйскі Сойм, згодна з міжнароднымі дагаворамі і абяцанкамі так званых „вялікіх дзяржаў“. У самай-жа рэчы, польскі ўрад ні аб якой аўтономіі Галіцыі і думаць ня хоча. Украінцы-галічане пастанавілі протэставаць супроць прыгнечаньняў і абману з боку Польшчы. Гэты протэст выявіўся ў бойкоце апошніх выбараў у Сойм. Бойкот правялі вельмі дружна. Каб уражаньне ад бойкоту было ня вельмі яскравае, польскі ўрад знашоў 5 „паслухмяных“ украінцаў, назваў іх„ хлебаробамі“ і правёў у Сойм. Уся фракцыя гэтых украінцаў-„хлебаробаў“ складалася з 5-ці чалавек, але нядаўна з гэтае фракцыі вышаў адзін дэпутат—Залуцкі, які далучыўся да польскай правіцы і цяпер „хлебаробы“ маюць толькі 4-х дэпутатаў.

На чале гэтае партыі стаіць вуніяцкі ксёндз Ількоў Мікалай, родам з Галіцыі. Аж да апошняга часу служыў ён верай і праўдай тым, хто яго паслаў, г. значыць польскім панам. І толькі ня вельмі даўно ён разам з сваёй фракцыяй перашоў у опозыцыю, праўда, ня зусім вострую, але опозыцыю; гэта здарылася з ім, мабыць, таму, што яго мучыла сумленьне і што ў гісторыю вызваленчага руху ў Галіцыі ён не хацеў адыйсьці ў якасьці здрадніка, нават бяз жадных агаворак.

## Яўрэйская фракцыя

Яўрэйская фракцыя налічвае ў Сойме 34 дэпутаты. У Сойме яўрэйская фракцыя мае назву „Koło Żydowskie w Sejmie Rzeczypospolitej Polskiej“ (Яўрэйскае кола ў Сойме Рэчы Паспалітай Польскай). З клясавага пункту погляду ўвесь склад яўрэйскай соймавай фракцыі выключна буржуазны.

Дэпутаты яўрэйскай фракцыі падзяляюцца на 4 групы: 1) „Klub posłów Żydowskiej Rady Narodowej“ (Клюб сяброў яўрэйскага нацыянальнага Савету). У гэтай сіёніцкай групе ёсьць 13 чалавек. Найбольш выдатныя з іх:

Фарбштэйн Гешаль—купец, родам з Варшавы; атрымаў сярэднюю комэрцыйную асьвету; выдатны сіёніцкі дзеяч.

Грунбаум Ісак—яго профэсія адвокат, родам з Варшавы (радз. ў 1889 г.), сіёністы. Чалавек надзвычайна энэргічны, разумны, здольны і вельмі добры прамоўца. Палякі лічаць, што ён меў галоўную ролю ў стварэньні блёку нацыянальных меншасьцяй.

Наступная група ў яўрэйскай фракцыі мае назву „Związek posłów Wschodniej Małopolski" (Саюз сяброў Усходняй Малапольшчы—Галіцыі). Налічвае гэтая група 15 чалавек. Пра яе агулам патрэбна сказаць некалькі слоў. Калі ў 1922 годзе перад выбарамі ў Сойм і Сэнат арганізаваўся блёк нацыянальных меншасьцяй, то ўсе нацыянальныя меншасьці на тэрыторыі Польшчы пастанавілі выступаць на выбарах солідарна, толькі пад сьцягам блёку. З тэй прычыны, што украінскае насельніцтва Галіцыі бойкотавала выбары, усе мандаты, якія даваліся для гэтае краіны, павінны былі атрымаць палякі і яўрэі.

Яўрэі Галіцыі палічылі, што для іх больш выгадна выставіць на выбарах свой асобны сьпіс. Гэта яны і зрабілі, і асобна ад блёку правялі 15 дэпутатаў. У Сойме гэтыя дэпутаты трымаюць сябе таксама, да некаторай ступені, асобна. Лідэрамі гэтай групы зьяўляюцца:

Рэйх Лявон (старшыня групы) радз. ў 1879 годзе ў Галіцыі; яго профэсія—адвокат, атрымаў юрыдычную асьвету ў Львове і вышэйшую экономічную ў Парыжы.

Размарын Генрых радз. ў 1882 годзе ў Галіцыі; мае юрыдычную асьвету; віцэ-старшыня партыі сіёністых.

Трэцяй групай у яўрэйскай фракцыі зьяўляецца: Klub Posłów Organizacji Żydów Ortodoksów „Szłojmej Emunej Izrael" (Клюб сяброў яўрэйскай організацыі „Шлоймэй Эмунэй Ізраэль"). У гэтай групе ёсьць 5 чалавек; лідэрам гэтай групы можна назваць Кіршбрауна Эліаша. Ён радзіўся ў Варшаве (у 1882 г.); яго профэсія—купец; вельмі заможны, атрымаў сярэднюю комэрцыйную асьвету; рэакцыянэр.

Асобна ад яўрэйскай фракцыі ў Сойме знаходзіцца адзіны афіцыяльны яўрэйскі дэмократ—Прылуцкі Ноах. Яго партыя мае назву: „Żydowskie Stronnictwo Ludowe" (Яўрэйская народная партыя). Прылуцкі, як прадстаўнік ад гэтай партыі, не задаволіўся тэй колькасьцю месц, якую яму даваў блёк нацменшасьцяй, і таму ня зышоўся з гэтым блёкам. На выбарах Прылуцкі выступаў самастойна і прашоў толькі сам. Яго профэсія—адвокат; родам з г. Бярдзічава (радз. ў 1882 г.); вядомы як публіцысты па яўрэйскім пытаньні.

У Сойме яўрэйская фракцыя ня мае свайго друкаванага органу таму, што ў Польшчы наогул яўрэйская прэса распаўсюджана даволі шырака.

У Польшчы яўрэйскіх газэт і часопісяй выдаецца 53 на яўрэйскай мове і 4—на польскай.

## Нямецкая фракцыя

У Сойме нямецкая фракцыя аб'яднае 17 дэпутатаў і 5 сэнатараў. Партыйны склад дэпутатаў фракцыі даволі рознастайны, сюды ўваходзіць шмат партый, якія маюць сваю назву і сваіх прадстаўнікоў у фракцыі.

У складзе нямецкай фракцыі знаходзяцца прадстаўнікі наступных палітычных партый: а) „Нямецкае аб'яднаньне для абароны праў нацыянальных меншасьцяй". У Польшчы гэтая партыя вядома яшчэ як „Дэйчштумсбунд" (Нямецкае аб'яднаньне); яна зьяўляецца організацыяй даволі моцнай. Палітычная ідэолёгія яе мае вельмі шовіністычны і рэакцыйны характар. б) Другой групай у нямецкай фракцыі зьяўляецца „Нямецкая партыя". Тэорытычна гэтая партыя нязначна розьніцца ад „Дэйчштумсбунда"; яна можа толькі трошкі дэмократычней за „Дэйчштумсбунд", але ідэолёгіяй нічым ад яе не адрозьніваецца і зьяўляецца таксама правай шовіністычнай партыяй. в) За гэтай партыяй ідзе „Нямецкі нацыянальны саюз". Ідэолёгія гэтай партыі ў агуле таксама нічым не адрозьніваецца ад ідэолёгіі дзьвюх вышэйадзначаных партый, але для розьніцы яна некалькі вар'іруе сваю програму. г) Чацьвертай групай у нямецкай фракцыі зьяўляюцца прадстаўнікі „Каталіцкай нацыянальнай партыі". Як відаць з самай назвы, гэтая партыя, акрамя нацыянальнага ўхілу, мае таксама вялікі рэлігійны ўхіл. д) Пятая група—гэта прадстаўнікі „Нямецкай партыі працы ў Польшчы". Па існасьці гэтая партыя—буржуазная, якая імкнецца выяўляць і як-бы абараняць інтарэсы працоўных. Апошняй партыяй, якая мае сваіх прадстаўнікоў у нямецкай фракцыі, зьяўляецца. е) „Нямецкая Соцыял-Дэмократычная Партыя". Гэта партыя ўваходзіць у так званы Гамбурскі Інтэрнацыянал і па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад ППС. Ужо адзін той факт, што прадстаўнікі гэтай партыі супрацоўнічаюць з прадстаўнікамі ультра-правых нямецкіх напрамкаў, яскрава сьведчыць аб якасьці соцыялізму гэтай групы.

Старшынёй усёй нямецкай фракцыі ў Сойме зьяўляецца Науман Яўгені, буйны памешчык; служыў у нямецкай арміі за афіцэра (за капітана); мае юрыдычную асьвету.

Нямецкая фракцыя, так як і яўрэўская, свайго друкаванага органу ня мае, а наогул на нямецкай мове ў Польшчы выдаецца 37 газэт і часопісяй.

## Расійская фракцыя

Ад расійскага насельніцтва ў Польскім Сойме знаходзіцца адзін прадстаўнік—дэпутат Сярэбранікаў Мікалай і адзін сэнатар—Касьпяровіч Мацьвей. У зьвязку з агульнай палітычнай сытуацыяй у краі, у сучасны момант адбываюцца гарачыя спрэчкі адносна таго, ці існуе ў Польшчы хоць колькі-небудзь значная група вялікарусаў, выключаючы, бязумоўна, эміграцыю. Бясспрэчна тое, што частка так званай інтэлігенцыі і чыноўніцтва, якая паходзіць з „усходніх крэсаў", у мінулым добра ўспрыняла

расійскую культуру і зрусыфікавалася. Гэтая частка насельніцтва і лічыць сябе „рускімі“. Але патрэбна згадзіцца і з тым, што, з прычыны ўважлівай фільтроўкі грамадзян у часе прыняцьця ў польскае падданства, у Польшчы на крэсах карэннае насельніцтва, апрача нязначнай колькасьці палякоў і выходцаў вялікарусаў, этнографічна ў масе—беларусы і украінцы.

## Дзікія

У Сойме існуюць так званыя „дзікія“ дэпутаты—гэта тыя, што не належаць ні да якой фракцыі. У сучасны момант польскія „дзікія“ дэпутаты ўвашлі ў склад розных фракцый, і „дзікімі“ зьяўляюцца толькі тры украінцы. З гэтых апошніх вызначаецца Васынчук Антон [1]). Пасьля выбараў у Сойм у 1922 г. ён адзін час быў старшынёй украінскай фракцыі, але хутка вышаў з гэтай фракцыі, таму што, як яму здавалася, вострая опозыцыя карысьці ня дасьць, і прызнаў толькі „плятонічную барацьбу“, або поўзгодніцтва.

Прэса польская лічыць Васынчука Антона вельмі „пшыхільным“ да польскай „панствовасьці“ (дзяржаўнасьці).

Канчаючы кароткі агляд гэтых політычных партый і груповак, якія маюць сваіх прадстаўнікоў у Сойме, патрэбна яшчэ раз, як і ў пачатку гэтага артыкулу, зазначыць, што партый і фракцый вельмі шмат, гэта папершае, а падругое—амаль што ўсе фракцыі, за выключэньнем комуністычнай фракцыі і некаторых груповак нацыянальных меншасьцяй—выключна буржуазныя. Такім чынам, у Сойме інтарэсы рабочых і бяднейшага сялянства выразна пастаўлены супроць інтарэсаў буйнай прамысловай і зямельнай буржуазіі, якая мае пераважную колькасьць мандатаў.

Трэцім, вельмі прыкметным фактарам, зьяўляецца драбленьне так званых сялянскіх фракцый. Гэтыя фракцыі, якія рэпрэзэнтуюць у Сойме вядомыя партыі, бясконца расколваюцца, дзякуючы таму, што з іх выходзяць і асобныя дэпутаты, і групы. Уласна кажучы, сярод польскіх так званых сялянскіх партый ніводнай і няма сапраўднай сялянскай партыі, але бясспрэчны той факт, што тыя партыі, якія маюць у Сойме і Сэнаце сваіх прадстаўнікоў, правялі сваіх дэпутатаў галасамі сялянства, абмануўшы гэтае сялянства абяцанкамі, сваімі програмамі і г. д.

Політычны ўзровень рабочых і сялян Польшчы, з прычыны цэлага шэрагу об'ектыўных умоў, далёка ня той, які быў 1922 годзе. Селяніна цяпер не спакусіш аднымі толькі салодкімі абяцанкамі агітатараў. У польскай вёсцы бядняцкае і серадняцкае сялянства пазнае сябе клясава. У вёсках Заходняй Беларусі і Украіны да гэтага яшчэ далучаецца і нацыянальнае пытаньне. Вось чаму зараз польскія партыі вядуць сьпешную перагрупоўку. Таксама і сялянскія соймавыя фракцыі адчуваюць,

---

[1]) Ва украінскай фракцыі ёсьць яшчэ брат Васынчука Антона—Павал Васынчук, які разам з двума другімі дэпутатамі быў пад судом. але якіх апэляцыйны суд апраўдаў.

што ў сучасны момант яны выяўляюць ў Сойме толькі нязначную частку таго сялянства, якое ў часе выбараў галасавала за іх. Правадыры фракцый разумеюць гэта і таму імкнуцца стварыць у Сойме такія фракцыі, якія-б сваёй праграмай хоць-бы трохі падыходзілі і адбівалі сучасныя настроі сялянства. У Сойме зараз адбываецца так званае паддабрываньне пад выбаршчыка.

У гэтых адносінах вельмі цікавы распад „Вызваленьня". Гэтая фракцыя мела ў Сойме 59 дэпутатаў, а зараз мае толькі 24; рэшта альбо далучыліся да другіх фракцый, альбо стварылі новыя фракцыі.

Зварочвае на сябе ўвагу тое, што новыя „сялянскія" групоўкі імкнуцца ўцягнуць у сфэру сваёй дзейнасьці фракцыі нацыянальных меншасьцяй. Ян Домбскі, які нядаўна выступіў з фракцыі „Вызваленьне", у сваёй дэклярацыі выказвае жаданьне аб тым, каб стварыць сапраўдную сялянскую дэмократычную фракцыю і заклікае да аб'яднаньня польскія сялянскія фракцыі, а асабліва заклікае прадстаўнікоў сялянскіх нацыянальных меншасьцяй.

У вапошні момант польская прэса апавясьціла, што Домбскі Ян з групаю дэпутатаў адышоў ад „Вызваленьня", аб'яднаўся з фракцыяй Брыля „Сялянскі Саюз" пад агульнаю назваю „Klub parlamentarny stronnictwa chłopskiego" (Парляманцкі клюб сялянскай партыі). Гэта новая фракцыя, альбо клюб, мае 28 дэпутатаў. Старшынёю фракцыі абраны Домбскі Ян, а віцэ-старшынёю—Брыль.

Назіраючы за ўсімі патугамі „дэмократызуючых" польскіх колаў, прыходзіцца вельмі скэптычна аднесьціся да ўсіх іх замераў таму, што ўсе замеры і прадугадваньні адносна сялянства робяцца бяз удзелу самога сялянства. Апошняе-ж слова рабочых і сялян Польшчы будзе мець пераважнае значэньне для падзей. Сяляне і рабочыя гэтае слова скажуць, але толькі наўрад ці яно будзе адпавядаць тым словам, якія зараз гавораць за рабочых і сялян у Сойме і Сэнаце, чужыя для народу, так званыя „прадстаўнікі народу".

---

Для таго, каб даць магчымасьць чытачу азнаёміцца з тым, што выяўляе сабою польскі Сойм і Сэнат згодна польскай констытуцыі, якія функцыі гэтых законадаўчых установ і як адбываюцца выбары прадстаўнікоў у гэтыя ўстановы, мы зробім некалькі вытрымак з польскай констытуцыі і з закону аб выбарах.

У констытуцыі аб Сойме і Сэнаце гаворыцца наступнае:

Арт. 11). Сойм складаецца з дэпутатаў, абраных агульным, тайным, простым, роўным і пропорцыянальным галасаваньнем на пяць год, лічачы з дня адчыненьня Сойму.

Арт. 12). Правам на выбар карыстаецца кожны польскі грамадзянін бяз розьніцы полу, калі ён к дню апавяшчэньня выбараў мае 21 год, не абмяжован ў грамадзянскіх правох і жыве ў выбарнай акрузе ня менш дня да публікацыі аб выбарах у дзеньніку законаў. Права галасаваньня

можа быць зьдзейсьнена толькі асабіста. Вайсковыя, якія знаходзяцца на „действительной“ вайсковай службе, ня маюць права прымаць удзел у галасаваньні.

Арт. 13). У Сойм можа быць абраны кожны грамадзянін, які мае 25 год, карыстаецца правамі выбару і незалежна ад таго, дзе знаходзіцца яго месца прабываньня, а таксама могуць быць абраны і вайсковыя, якія знаходзяцца на „действительной“ вайсковай службе.

Арт. 14). Ня могуць карыстацца выбарным правам і быць абранымі тыя грамадзяне, якія засуджаны за злачынныя дзеяньні, калі за гэтыя дзеяньні закон аб выбарах пазбавіць іх часова, ці назаўсёды актыўнага і пасыўнага выбарнага права.

Арт. 15). Чыноўнікі, якія знаходзяцца на дзяржаўнай службе ў адміністрацыйных, фінансавых і судовых ведамствах, ня могуць быць абраны ў тых акругах, дзе яны выконваюць свае абавязкі. Гэтае палажэньне не датычыцца да чыноўнікаў, якія знаходзяцца на службе ў цэнтральных установах.

Арт. 19). Сойм правярае праўдзівасьць не апротэставаных выбараў. Пытаньне аб праўдзівасьці апротэставаных выбараў разьвязвае Вышэйшы Суд.

Арт. 20). Дэпутаты зьяўляюцца прадстаўнікамі ўсяго народу і ня могуць быць абмяжованы ніякімі інструкцыямі ад выбаршчыкаў.

Маршал, у прысутнасьці палаты, прыводзіць паслоў да прысягі па такой формуле:

„Як дэпутат Сойму Польскага, урачыста клянуся, што буду добрасумленна працаваць па крайнім маім разуменьні і сумленьні выключна на карысьць Польскае дзяржавы, як адзінай цэлай“.

Арт. 26). Сойм можа распусьціць сябе сам па сваёй пастанове, прынятай большасьцю $^2/_3$ (дзьвёх трацей) галасоў, пры прысутнасьці паловы законнага ліку дэпутатаў. Прэзыдэнт Рэспублікі можа распусьціць Сойм са згоды $^3/_5$ (трох пятых) законнага ліку сяброў Сойму.

Адначасова ў абодвух выпадках, на падставе самога закону, распускаецца і Сэнат. Выбары павінны адбыцца ў працягу 90 дзён, лічачы з дня роспуску; тэрмін выбараў павінен быць установлен альбо пастановаю Сойму, альбо проклямацыяй прэзыдэнта аб роспуску Сойму.

Арт. 32). Для таго, каб пастановы мелі сілу, патрэбна прысутнасьць ня менш трэцяй часткі агульнае колькасьці дэпутатаў. Соймавыя пастановы робяцца простай большасьцю галасоў, паколькі другія артыкулы Конституцыі ня маюць правіл, якія-б супярэчылі гэтаму.

Арт. 35) Кожны проэкт закону, зацьверджаны Соймам, перадаецца на разгляд Сэнату. Калі ў працягу 30-і дзён, лічачы з таго дня, калі Сэнату даставілі проект, Сэнатам гэты закон ня будзе апротэставаны, то Прэзыдэнт Рэспублікі робіць загад, каб закон быў распублікаваны. Калі Сэнат зробіць прапанову, то Прэзыдэнт Рэспублікі можа выдаць загад аб

распублікаваньні закону і раней трыццацідзеннага тэрміну. Калі Сэнат зробіць пастанову зьмяніць альбо зусім адхіліць пастанову, якая была прынята Соймам, то ён павінен у працягу вышэйазначанага 30-дзеннага тэрміну паведаміць аб гэтым Сойм, а ў працягу наступных 30 дзён павінен зьвярнуць яго Сойму і з тымі папраўкамі, якія ён прапаноўвае.

Калі Сойм прыме папраўкі простай большасьцю галасоў, альбо адхіліць іх большасьцю 11/20 (адзінаццаць дваццатых) ад усяго ліку, якія галасуюць, то Прэзыдэнт Рэспублікі выдае загад аб распублікаваньні закону ў тэй рэдакцыі, якую новай пастановай зацьвердзіў Сойм.

Арт. 36). Сэнат складаецца з сяброў, якія выбраны ўсеагульным тайным, простым, роўным і пропорцыянальным галасаваньнем у паасобных ваяводзтвах. Кожнае ваяводзтва складае адну выбарную акругу, пры гэтым лік мандатаў у Сэнат павінен складаць 1/4 (адну чацьвертую) частку ад тэй колькасьці соймавых мандатаў, якая даецца пропорцыянальна ліку жыхароў. Выбарным правам у Сэнат карыстаецца кожны выбаршчык у Сойм, які ў дзень апавяшчэньня выбараў мае 30 год і да часу выбараў жыў у выбарнай акрузе ня менш году; ад права на выбары не пазбаўляюцца колёністыя, якія сваё ранейшае месца пакінулі, дзякуючы аграрнай рэформе; таксама не пазбаўляюцца выбарнага права рабочыя, якія зьмянілі месца сталага прабываньня, дзякуючы зьмене месца працы, таксама і дзяржаўныя чыноўнікі, якіх перавялі па службе. Кожны грамадзянін, які мае права выбіраць у Сэнат, можа абірацца ў Сэнат, не выключаючы і вайсковых, якія знаходзяцца „на действительной службе“ і калі яны к дню апавяшчэньня выбараў маюць 40 год. Сэсія Сэнату пачынаецца і канчаецца аднačасова з сэсіяй Сойму. Ніхто ня можа быць аднačасова абраны і ў Сэнат, і ў Сойм.

Першы так званы Ўстаноўчы Сойм, напярэдадні свайго роспуску ў 1922 прыняў закон аб выбарах. Згодна з гэтым законам аб выбарах, у польскім Сойме павінна быць 444 дэпутаты, а ў Сэнаце 111. З гэтых 444 дэпутатаў 372 дэпутаты выбіраюцца па акругах, а 72—па так званым дзяржаўным сьпісе.

Для выбараў у Сойм уся тэрыторыя Польшчы падзяляецца на 64 акругі. Пры выбарах у Сэнат выбарнай акругай зьяўляецца ваяводзтва, а ваяводзтваў у Польшчы 16.

Кожная выбарная акруга падзяляецца на паветы, а паветы—на абводы; у кожным абводзе павінна быць ня больш як 3.000 чалавек.

К тэрміну, як прадугледжана ў законе аб выбарах, у акруговыя выбарныя камісіі прысылаюцца сьпісы кандыдатаў, прычым гэтыя сьпісы павінны мець ня менш як 50 подпісаў выбаршчыкаў. Камісія зазначае гэтыя сьпісы парадкавым нумарам. Такім чынам, насельніцтва галасуе не за кожную асобу, а за гэты парадкавы нумар сьпісу кандыдатаў. Вось, напрыклад, у часе апошніх выбараў пястаўцы першыя падалі свой

сьпіс і таму на выбарах яны ішлі пад № 1; ППС мелі другі нумар, вызваленцы—трэці і г. д. Блёк нацыянальных меншасьцяй меў шаснаццаты нумар.

Калі якая-небудзь партыя хацела атрымаць мандаты па дзяржаўным сьпісе, то яна павінна была падаць у Цэнтральную Выбарную Камісію ў Варшаву сьпіс сваіх кандыдатаў, на гэтым сьпісе павінны падпісацца ня менш як 500 выбаршчыкаў. Той парадкавы нумар, які Цэнтральная Выбарная Камісія ставіла на гэты пададзены сьпіс, аўтаматычна рабіўся нумарам партыі па ўсіх акругах, незалежна ад таго, калі партыя падавала сьпіс кандыдатаў у акругу. Атрымліваць мандаты з дзяржаўнага сьпісу маюць права толькі тыя партыі, якія правялі сваіх прадстаўнікоў у Сойм ня менш як ад шасьці акруг. Дэпутацкія мандаты па дзяржаўным сьпісе разьмяркоўваюцца паміж партыямі пропорцыянальна тэй колькасьці дэпутатаў, якую правяла тая ці іншая партыя па ўсіх акругах Польшчы. Каб лепш было зразумела, як адбываліся выбары кандыдатаў па акругах, возьмем для прыкладу акругу № 60 у горадзе Пінску ў Палескім ваяводзтве. У гэтую акругу ўваходзяць паветы Пінскі, Лунінецкі і Сарненскі. Згодна закону аб выбарах, на гэтую акругу прыпадае пяць дэпутатаў. У часе выбараў у 1922 годзе, за ўсё сьпісы ў акрузе было пададзена 124.335 галасоў. Гэтыя галасы разьмяркоўваліся такім парадкам:

| | |
|---|---|
| ППС . . . . . | 52.981 |
| Блёк нацменшасьцяй . . | 30.974 |
| Вызваленцы . . . . | 26.925 |

Наступная партыя атрымала 4.553 галасы, а рэшта яшчэ менш, і затым яны ўсе не маглі разьлічаць, што атрымаюць хоць-бы адзін мандат.

Для таго каб вызначыць—колькі мандатаў з 5 па гэтай акрузе належыць тэй ці іншай партыі альбо сьпісу, а таксама якія мандаты па парадку, робяць такім чынам: усю колькасьць галасоў, якую атрымала партыя або сьпіс, дзеляць паступова на 1, 2, 3 і г. д. Пяць самых большых лічбаў, якія атрымаюцца ад такога дзяленьня, і будуць адпавядаць колькасьці і вызначаць парадак мандатаў. Вытлумачым гэта на прыкладзе:

| ППС | Блёк нацменшасьцяй | Вызваленцы |
|---|---|---|
| 1) [1] 52.981:1=52 981 | 2) 30.974:1=30.974 | 3) 26.925:1=26.925 |
| 4) 52.981:2=26.490+аст. | 30.974:2=15.487 | 26.925:2=13.462+аст. |
| 5) 52.981:3=17.660+аст. | 30.974:3=10.324+аст. | 26.925:3=8.975 |

З вышэйазначанай табліцы, мы бачым, што тры мандаты—1-ы, 4-ы і 5-ы па парадку атрымала ППС, адзін мандат, другі па парадку,

[1]) Гэтыя лічбы паказваюць парадак пяці найбольшых лічбаў і мандатаў, якія атрымалі асобныя сьпісы.

атрымаў блёк нацменшасьцяй і адзін мандат, трэці па парадку, атрымалі вызваленцы. Дэпутацкія мандаты, атрыманыя на сьпіс, разьмяркоўваюцца паміж кандыдатамі ў парадку чарговага нумару, пачынаючы ад першага кандыдата. Калі-ж кандыдат адмаўляецца ад свайго мандату ці то па асабістых меркаваньнях, ці то па меркаваньнях партыі, то ён павінен паведаміць аб гэтым афіцыяльна, тады мандат пераходзіць да наступнага па чарзе кандыдата. Каб атрымаць адзін мандат, патрэбна было падчас выбараў у 1922 г. мець прыблізна ня менш 12.000 галасоў, а ў некаторых акругах і значна больш.

З вышэйпаданага прыкладу відаць, якая вялікая колькасьць галасоў прападае дарэмна. Усе астачы, а таксама галасы менш нормы, якія патрабуецца на адзін мандат, зусім не залічваюцца і не бяруцца пад увагу. Магчыма, што якая-небудзь партыя ні ў аднэй акрузе не набярэ тэй колькасьці галасоў, якая патрэбна, каб атрымаць адзін мандат. У выніку ўсяго гэтага дзесяткі, а мо' і сотні тысяч грамадзян ня могуць мець свайго прадстаўніка ў Сойме. На апошніх выбарах у Сойм такі выпадак здарыўся з комуністычнай партыяй, якая правяла толькі двох сваіх дэпутатаў.

Мандаты дзяржаўнага сьпісу разьмяркоўваюцца паміж партыямі амаль што таксама, як разьмяркоўваюцца мандаты і паміж партыямі па акругах. У гэтым выпадку, замест колькасьці галасоў, бярэцца колькасьць мандатаў, якую атрымала партыя альбо сьпіс ва ўсёй Польшчы. Бязумоўна, маюць права на атрыманьне мандатаў з дзяржаўнага сьпісу толькі тыя партыі, якія заявілі, што яны жадаюць прымаць удзел у разьмеркаваньні мандатаў дзяржаўнага сьпісу і толькі пры тэй умове, калі яны атрымалі мандаты ня менш, як у шасьці акругах.

Усю колькасьць мандатаў кожнае партыі, якую яна атрымала па акругах усяе Польшчы, дзеляць паступова на 1, 2, 3 і г. д.

Дзяржаўны сьпіс мае 72 мандаты, і таму 72 большых лічбы, якія атрымаюцца ад такога дзяленьня, і будуць адпавядаць гэтым 72 мандатам.

*(Канец будзе).*

# ПАМЯЦІ ФРАНКО

## П. Бузук

28 траўня гэтага году споўнілася 10 год ад дня сьмерці волата украінскае літаратуры—Івана Франко.

Сын селяніна—каваля Франко, звычайна, ня мог не зрабіцца песьняром уціснутых станаў.

У маладыя гады на яго вялікі ўплыў зрабіў вядомы украінскі пісьменьнік і публіцысты Драгоманаў. Але канчатковаму выпрацаваньню соцыялістычнага сьветапогляду Франко дапамог яго арышт. З турмы ён вышаў зусім перакананым соцыялістым. У 1890 г. сумесна з Паўлікам ён заснаваў радыкальную партыю з соцыялістычным напрамкам. Як політычны дзеяч, Франко вядзе барацьбу з мяшчанскімі коламі галіцкае інтэлігенцыі. Кінутыя „патэнтованым“ патрыотам дакоры (Nie kocham Rusinów) выклікалі проці яго цэлую буру; тады ён, каб вытлумачыць свае дакоры, напісаў свой вядомы верш „Сідоглавому“:

Ти, брате, любиш Русь,
Як хліб і кусень сала,—
Я-ж гавкаю раз-в-раз,
Щоби вона не спала...
Я-ж не люблю її
З надмірноі любови!

Давялося яму перажыць вялікія няпрыемнасьці і ад польскага грамадзтва. За шчырую праўду аб Міцкевічу, якога ён на падставе „Конрада Валенрода“ назваў сьпеваком здрады, палякі абвясьцілі Франку бойкот, лаячы яго „падлюкаю“ і „сабакаю“. Толькі ў апошнія гады свайго жыцьця Франко крыху адышоў ад публіцыстычнае і політычнае дзейнасьці.

Шмат зрабіў Франко для навукі, галоўным чынам, у галіне гісторыі літаратуры і этнографіі. Аднак, заняць профэсарскую катэдру яму не ўдалося, бо, дзякуючы таму, што Франко тройчы сядзеў у вастрозе, яго не захацеў зацьвердзіць Галіцкі намесьнік.

Нарэшце, вялікую славу Франко здабыў як пісьменьнік. Але і ў самай пісьменьніцкай творчасьці ён выявіў дзіўную рознастайнасьць. Як бэлетрыста, Франко піша дзіцячыя апавяданьні (Мій злочин, Малий Мирон, Грицева шкільна наука і інш.), у якіх па большасьці ўспамінае сваё на-

вучаньне ў схолястычных школах Галіцыі, рысуе жыцьцё сялянства, працаўнікоў і інтэлігенцыі; як-жа поэта, у сваіх цудоўных поэмах (Мойсей і інш.) парадкуе аб лёсе свайго народу, паказвае яму новыя шляхі; у сваіх рэволюцыйных вершах (Каменярі, Вічний революціонер) заклікае да барацьбы са старым сьветам; нарэшце, ён, рэволюцыйны дзеяч і вучоны, паказаў сваю здольнасьць выліваць на паперы мукі непадзеленага каханьня (Зів'яле листя). Спынімся дакладней на яго бэлетрыстыцы і поэзіі.

Мы ўжо гаварылі аб тым, што Франко быў пераконаным соцыялістым. У 1878 г. ён піша катахізм соцыялізму, выкладае політэкономію ў працоўных гуртках, і вось у сувязі з гэтым у сваіх бэлетрыстычных творах Франко імкнецца даць ілюстрацыю да паасобных тэзісаў соцыялістычнае тэорыі. Ён рысуе цяжкое жыцьцё працаўнікоў у шахтах (Бориславські оповідання). Гэтыя людзі, як кажа Франко, чым больш здабываюць з зямлі багацьця, тым больш яны бяднеюць. Апавяданьні „Вівчар" і „Добрий заробок" зьяўляюцца ўдалаю ілюстрацыяю процэсу пролетарызацыі вёскі.

Не пакінуў бяз увагі Франко і стан капіталістых. У сваёй аповесьці „Boa constrictor" (вужака ўдаў) ён даў вельмі яскравы вобраз галіцкае буржуазіі ў васобе галоўнага героя Германа Гольдкрэмэра. Як значная часьціна прадстаўнікоў гэтага стану, ён ужо не арыстократ, а вышаў з беднае сям'і. З назвы відаць, якая характэрная прымета гэтага стану. Прадстаўнікі яго імкнуцца пажэрці ня толькі сілу і кроў працаўнікоў, яны імкнуцца пажэрці яшчэ і іншых конкурэнтаў-капіталістых у сваёй хцівасьці, у сваім жаданьні пабольшыць свае капіталы. А гэта ўсё для таго, каб мець магчымасьць панаваць над людзьмі. Як адзін з герояў Золя дзеля хворасьці вантробаў павінен быў, маючы шмат мільёнаў, карміцца толькі малаком, так і Герман Гольдкрэмэр бессансоўна павялічае свае капіталы, бо ва ўласным жыцьці ён ня меў шчасьця: у яго хворая жонка і дэгэнэрат сын.

Галоўным героем зьвязана з „Boa constrictor" другая аповесьць Франко „Борислав сміється". Але апрача Германа Гольдкрэмэра, мы тут бачым яшчэ другога капіталістага—Гамэршляга. Абодва марацць аб шлюбе сваіх дзяцей. Нам пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі часта даводзілася чуць ад Леніна, што ў гэт. званых „свабодных" буржуазных краінах з парлямантарызмам улада па сутнасьці знаходзіцца ў руках тых, у каго і грошы. Гэта яскрава падкрэсьлівае і Франко. „Пасьля шлюбу нашых дзяцей, кажа Гамэршляг Гольдкрэмэру ў памянёнай аповесьці, усе пойдуць за намі. Ня толькі гандлёвыя і прамысловыя, але і політычныя справы акругі ў нашых руках. Усе выбары ідуць так, як мы хочам".

Да вялікіх аповесьцяй належыць яшчэ спроба гістарычнае аповесьці „Захар Беркут" (быццам з жыцьця Карпацкае Русі XIII стагодзьдзя). Тут, праўда, ня вытрыманы гістарычны колёрыт, але твор цікавы другім: вобразам першабытнага комунізму, які аўтар тут дае.

І ў гэтых усіх і ў іншых бэлетрыстычных творах, у якіх апісваецца цемната і бяспраўе галіцкага сялянства (Лесишина челядь, Сам собі винен, Слимак і шмат інш.), Франко зьяўляецца тыповым натуралістым. Магчыма, што некаторы ўплыў зрабіў на яго Золя. Не дарма ён у вадным з артыкулаў так прыязьнена пісаў аб тэорыі экспэрымэнтальнага роману гэтага геніяльнага прадстаўніка францускага натуралізму. У Франко часамі ў сужэце ня хопіць патрэбнага драматызму, але затое таксама, як і Золя, ён умее добра апісваць натоўп і быт.

Сьпеваком тэй самай барацьбы зьяўляецца Франко і ў поэзіі. Яшчэ ў вельмі ўдалым сваім раньнім вершы „Каменярі" Франко заяўляе, што ён звычайны муляр на шляху поступу. На адным з сваіх юбілеяў ён сказаў, што ўсё сваё жыцьцё быў толькі пекарам, які пячэ хлеб для штодзеннага ўжываньня. Ясна, што і ў вершах ён застаецца соцыялістым. Як соцыялісты, ён рашуча выступае проці цара. У сымболістычным вершы „Беркут" зьвяртаецца ён з такім словам да гэтага драпежнага птаха: „Ненавижу тебе за теє, що ти цар". Любіць Франко і свой народ з яго моваю і ў адным з вершаў (Антошкові П.) абараняе яе правы.

Діялект чи самостійна мова,—
Найпустіше в світі се питання.
Мілійонам треба свого слова,
І гріхом усяке тут хитання...
Хай та мова вбога в славнім роді,
Хай московська, польська, чеська краща,—
Поки служить матеоі в пригоді,
То вона культурі не пропаща...
Діялект,—а ми його надишем
Міццю духа і огнем любови
І нестертий слід його запишем
Самостійно між культурні мови.

Мы ўжо гаварылі аб асабістай лірыцы Франко. Скажам дакладней аб яго чатырох вялікіх поэмах. Яго „Іван Вишенський" стаіць ў сувязі з навуковымі дасьледваньнямі. Іван Вишенський—вобраз любові да роднага краю. Ён не схацеў адразу вярнуцца на Украіну, калі яго прасілі пасланцы адтуль, але, як толькі яны ад'ехалі ад Афонскае гары, Вышэнскі жыва ўспомніў сваю радзіму, кінуўся ў мора і зьнік.

Прыблізна гады два назад на Украіне была надрукавана 3-я маладомая поэма Франко „Смерть Каіна", у якой адбіваецца ўплыў Байрона. Цікавыя тут дзьве галоўныя думкі. Першая, гэта протэст проці таго, што бог аддзяліў веду ад жыцьця, другая—замілаваньне да брата, якое адчуў Каін, калі ён падышоў да паселішча сваіх патомкаў. І калі гэтыя патомкі, не пазнаўшы свайго роданачальніка, забілі яго, яны на яго твары пабачылі шчасьлівы выраз замілаваньня. Гэта замілаваньне да

брата чырвонаю ніткаю праходзіць праз усю дзейнасьць „галіцкага Шэўчэнка“. У вадным месцы ён гаворыць:

Одно лиш нам лишилося—
Те, чого ніяка сила,
Ніяка нам пригода взять не може,—
Се чиста розкіш братньоі любови.

Але вянцом усяе творчасьці Франко зьяўляецца яго поэма „Мойсей“; гэта вялізарны сымболь лёсу украінскага народу. Апроч гэтага, у творы знаходзім шмат суб‘ектыўнага, лірычнага. Майсей—гэта сам Франко, які вядзе барацьбу з мяшчанскімі коламі інтэлігенцыі, таксама як і Майсей змагаецца са сваім народам, для якога—

М‘ясо стад іх і масло, і сир,—от найвищая ласка.

І хаця Майсей шмат зрабіў для свайго народу, бо ён гэта вывеў яго з Эгіпту, хоць ён меў права спадзявацца, што народ пойдзе ў будучыну з яго „духа печаттю“, але ўсё такі не яму выпала шчасьце ўвесьці свой працоўны народ у „обетованную землю“: гэта зрабіў ужо прадстаўнік малодшага пакаленьня—Егошуя (Ісус Навін),—сам-жа Майсей памёр перад уваходам у вабяцаны край. І ня ведаў нябожчык, што яму давядзецца аказацца пракам больш, чымся ён сам думаў. Таксама, як яго Майсей памёр перад уваходам у „заповідний край“, так і Франко памёр напярэдадні (у 1916 г.) вялікае Кастрычнікавае рэволюцыі 1917 г., якая ўвяла яго народ у „обетованную землю“ шчасьця і свабоды.

Даючы агульную ацэнку пісьменьніцкай дзейнасьці Франко, мы павінны зазначыць, што строгі крытык знойдзе ў Франко некаторыя хібы як у композыцыі бэлетрыстычных твораў, так і ў вершах, напр., прозаічныя выразы,—пэўна, у выніку таго, што Франко быў вучоным і політычным дзеячом,—незаўсёды вытрыманы рытм, значная колькасьць дыялектызмаў у ранейшых творах. Але гэтыя хібы некаторых аповесьцяй і вершаў—нязначныя дэталі ў параўнаньні з тэю вялікаю спадчынаю, якую пакінуў нам Франко. Яго трэба ацэньваць толькі ў сувязі з яго асобаю, з вялікаю грамадзянска-політычнаю каштоўнасьцю яго твораў.

Кожда пісня моя
Мого віку день
Протерпів іі,
Не зложив лишень.

Кожда стрічка іі—
Мого мізку часть,
Думи—нерви мої,
Звуки—серця страсть.

Франко трэба ацэньваць, як гармонічна разьвінутую асобу, як „цілого чоловіка“, бо ён сам заўсёды імкнуўся да гэтае гармонічнасьці. Каб утварыць рай, радзіць ён утварыць—

Гармонію чуття і волі,
Думок і дум, бажання і знання.

У гэтым жаданьні ўтварыць рай на зямлі, у гэтым прыкладзе гармонічнага чалавека, які паказаў нам няўмірушчы пісьменьнік сваім жыцьцём—яго вялікая заслуга. Ён меў таму права спадзявацца, што надыдзе дзень, калі „*в новім*, великім людськім храмі хтось добрим словом і мене згадае“.

# СЁНЬНЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ФРАНЦЫІ *)

**П. Леанідовіч**

У нашым папярэднім нарысе мы выказвалі здагадку, што ў бягучым годзе ў „несьмяротныя“ будзе, як відаць, абраны г-н Бэро.

Прашло паўтара месяца. Акадэмічны крызыс вырашыўся. Абраны— Поль Валеры.

Бэро—агалелы спэкулянт, насычаны да канца ідэолёгіяй, кіруючай у Францыі, клікі біржавікоў. Ён, зразумела, рэспубліканец у тым пляне, у якім гэтае разуменьне разглядаецца Думэргам і Брыянам. Ён, зразумела, і ня кепскі стылісты. Яго фэльетоны пісаны ў тэй манеры прыемнай віхрастасьці, якая падчас зыходзіць за некі асаблівы „свой твар“ мастака.

Бэро—палітычны, пісьменьнік ня pur Sang, а з тэндэнцыяй на некае настаўніцтва. Накіроўваць псыхіку сучасьнікаў хочацца Бэро. Кіраваць настроямі сучаснага чытача павінен, па думцы Бэро, пісьменьнік. Зразумела, гэта ўдаецца Бэро ў тым стопні, у якім палаце дэпутатаў выгадна цяпер лічыць Бэро (нядаўнага бульварнага рэпартэра, поўфэльетоніста-га)—пісьменьнікам [1]).

Цяпер аб Полі Валеры.

Толькі што абраны акадэмік, паводле сваіх пераконаньняў—роялісты (монархісты). Ён даволі часта дорыць цэнтральнаму органу францускіх монархістых („Action francais“) свае новэлы. У мастацтве Поль Валеры лічыцца нэо-клясыкам. Такім чынам—усё ясна. Міністэрству прыгожых мастацтваў Францыі сур‘ёзна і надоўга ўсьміхаецца проклямаваць афіцыяльнае мастацтва сваёй краіны ў тых, што прыеліся большасьці чытаючай публікі, формах культурнай (нэо-клясыцызм) і політычнай (роялізм П. Валеры) рэакцыі.

Поль Валеры набыў сабе славу як безнатхненны, халодны стылісты. І... толькі.

Тыя невялікія тыражы, якімі разыходзяцца яго кніжкі, зьяўляюцца найлепшымі паказальнікамі магутнасьці яго аудыторыі, яе велічыні і г. д. Поль Валеры вышаў з плашчу Марсэля Пруста[2]), аднаго з выдатнейшых імпрэсыяністых нашага веку. М. Пруст амаль што ўсю другую палову

*) Гл. „Полымя“ № 3.

[1]) Чаму гэта так—гл. „Полымя“ № 3. 1926 г.

[2]) Нядаўна памёр

свайго жыцьця правёў у пасьцелі. Першую палову ён правёў бурна, насычаючы яе ўражаньнямі ад сваіх экстровагантных дурасьцяй сноба і эстэта індывідуалістага. Мы ведаем з М. Пруста яго вялізарнейшую эпопею „В погоне за потерянным временем“. Сюды занесены эпізоды жыцьця аўтара. Мастацтва, з якім паданы гэтыя эпізоды, ставіць Пруста ў першую шарэнгу чыстых стылістых канца прошлага і пачатку цяперашняга веку. А. В. Луначарскі так адклікаецца аб М. Прусьце:

„У значнай большасьці, масы тыпаў, палажэньняў, узораў, сказаў—пападаюцца рэчы тонкія, адчутыя, найпрыгожыя. Але проста немагчыма паміріцца з духам снобізму і лёкайскага нізкапаклонства перад арыстократыяй, якім перад усім набіты ўвесь роман“.

Гэты бяздумны стылізм, інфэрнальнае эстэцтва адбілі выабражэньне не аднаго „з маладых“ Францыі. У пачатку гэта тлумачылася вельмі проста. Кваліфікаванае гарадзкое мяшчанства было здаволена палітычнаю пагодаю сёнешняга дня ў Францыі. Лепшым прадстаўніком гэтага мяшчанства заставалася траціць лішкі нязвычайнасьці свае натуры на творы бяссэнсавыя, што ў тысячны раз вар‘іруюць адны і тыя самыя проблемы ў розных формах, маючы гэтым на мэце рознастайнасьць знадворных эфэктаў ад мастацкага слова. Першымі „прустляндцамі“ былі—Клодэль, П. Валеры, Конто, Сандрар, Жыроду, Поль Моран, Аполінэр і інш.

Віхравыя падзеі, скалануўшыя да аснаваньня сьвет, не маглі не зачапіць гэтага, што застаялася, балота. Пачалося расслаеньне ўсяе групы. Кнодэль найлепшае спасеньне душы, спакушаемай д‘ябалам соцыялізму, бачыў у клірыцы. Вострае з белым колерам каталіцтва ўцягло гэты слабы дух, і ён стаў спачатку ў новэлах, а потым і на сцэне містэрыяльна вяшчаць „аб вечнай благасьці тварца“[1]). Моран увесь аддаўся апісаньню колёніяльнага быту, пад углом апраўдваньня дзеяньняў свайго ўраду ў гэтых колёніях. Некаторыя, як Аполінэр,—памёрлі. Поль Валеры пашоў назад ад эры соцыялізму, якая насоўваецца. У веку Бурбонаў ён бачыў апошнія праменьні заходзячага дабрабыту сваёй радзімы. Але ніхто, ніхто з „прустляндцаў“ ня рушыўся і не адмовіўся ад свайго арыстократычнага „dolce far niente“. Бяскрылым, адцягненым квіэтызмам былі адзначаны яны ў кіпучым літаратурным жыцьці Францыі. Апошні з „прустляндцаў“— П. Валеры абраны цяпер акадэмікам. Урад расьпісаўся ў сваім жаданьні мецьць літаратуру на ланцужку сваіх ханжаўскіх прывычак, мяшчанскага густу ірэакцыйных палітыка-грамадзкіх інтарэсаў. Данае палажэньне абавязвае ўсе іншыя літаратурныя групоўкі завастрыць сваю барацьбу за ўплыў. Аднак, акідаючы мысьленым вокам фронт гэтых безьлічных груповак, мы можам спыніць свой погляд з надзеяй і прыемнасьцю толькі на групе „Clarte“ („Яснасьць“). Апрача таго, мы маем шэраг мастакоў-адзіночак, арганізацыйна не аформленых у якую-небудзь групу, але якія шмат дапамагаюць сваімі творамі—кожны паасобку—таму, каб падблізіць літаратуру к запатрабаваньням усё больш шырокіх мас чытачоў. Гэтыя пісь-

[1]) „Благавешчаньне“ і інш.

меньнікі не для азначанага кола, не для вузкага, замкнёнага колца. Іх пяро—для ўсіх. І ўсе і ўсё—служыць для іх пяра. Мы падрабязна спынімся на найбольш цікавых фігурах гэтае пляяды—у канцы нашага агляду, а пакуль ахарактарызуем некалькі, што стаяць на чале ў літаратуры сягонешняй Францыі, груп.

Думаючы, што чытачу стала ўжо прыкра слухаць аб „прустляндцах“, мы проста пяройдзем к—

Унанімістым.

У перакладзе гэта азначае—аднадушнікі. Унанімістыя і група, і школа. Пад сьцягам унанімізму зышліся ня толькі закончаныя мастакі, што застылі ў сваім мастацтве, але й пытальна прапрацоўваючыя сваё мастацтва ўдасканацелі яго, вечныя палядыны прогрэсу. Правадыр і настаўнік гэтае групы і школы Ромэн[1]). Унанімістыя, у вадзнаку ад іншых груп, яднаюць у сваіх шэрагах толькі прозаікаў. З рэшты буйных прадстаўнікоў гэтае групы можна назваць Жуэ, Вільдрака, Ж. Дюгамель, Марціна. Група гэта склалася задоўга да вайны, але была слаба выяўлена. Сваю блізасьць да соцыялізму (зразумела, умоўную блізасьць) гэта група падкрэсьліла з першымі грымотамі гармат 1914 г. Унанімістыя ў большасьці сваёй—інтэлігенты пацыфістыя. І гэта яны, пераконаныя ня толькі ў тым, што „пушкі страляюць па ідэях“, але і ў тым, што ёсьць „ідэі, якія страляюць па пушках“, выпускаюць у fendant Р. Рольляну заклік за заклікам к чалавецтву аб спыненьні братазабойнай вайны. Напрасна. Калі прашоў публіцыстычны ўгар у гэтае групы, яе паасобныя члены прадоўжвалі весьці сваю грамадзянскую місію, аформляючы пераконаньні ня ў форму артыкулаў, заклікаў, а ў плястычныя мастацкія вобразы мас і паасобных герояў. Справядлівасьць патрабуе адзначыць, што гэтыя творы унанімістых усё-ткі ня мелі рыс прыкрай нарочнасьці, пераконваючай сухасьці і схэматызму. Палажэньні былі жыцьцёвы, характары вылеплены поўнакроўна, колізіі назначаліся проста і яскрава. Задушаная нашай рэволюцыяй у самым разгары свайго піраваньня,—гэта агідная вайна накіравала унанімістых для ўступленьня ў частковы блёк з групай „Clarte“, кіруемай нашым таварышам, славутым Анры Барбюсам, што набыў сабе славу сваім шэдэўрам „En fen“ („У вагні“). Здавалася, што унанімістыя пойдуць поруч з кляртыстымі, што тут наступіць у інтэлігенцкага пацыфізму некае перараджэньне духоўнае тканкі, і ён распусьціцца ў шырокіх прасторах соцыялістычнага інтэрнацыяналу, што вядзе сьвет да кардынальнай ломкі соцыянальных перагародак у імя стварэньня бясклясавага грамадзтва працоўных. У Расіі выбухнула рэволюцыя. У першыя старонкі яе гістарычнага днеўніка ўпісана кроў. І гэта запужала інтэлігенцкіх чыстаплюяў. Яны ў грамадзянскай вайне ўбачылі працяг „братазабойства“ (!?) і адвярнуліся ад „Clarte“, якая яскрава

[1]) Нядаўна ў Саюзе з значным посьпехам прашла яго кніга: „Белое вино набережной Ла Вильет“.

і проста ўзяла кірунак на Комуністычны Інтэрнацыянал. Унанімістыя пашлі ў шалупіну інтэлігенцкага космолітызму і яго процістаўляць ідэі пролетарскага Інтэрнацыяналу.

Кароткачасовы блёк з „Clarte“ не прашоў дарма для унанімістых. Апошнія да гэтага часу прадоўжваюць надзвычайна ўдумліва і патаварыску адносіцца да нашага Саюзу. Наш Саюз мае ў асобе унанімістых—друзей, а рабочая кляса Францыі, у барацьбе з капіталам—у васобе унанімістых мае, бязумоўна, сумленных падарожнікаў.

У цяперашні час група унанімістых у Францыі зьяўляецца амаль што не адзінай групай, члены якое ня здрадзілі сваім пераконаньням, не распаліся і не капітулявалі перад тымі нягодамі, якімі іх пастараўся абкружыць урад гэтае „свабоднае“ краіны. Унанімістыя—гэта бадай што адзіная група, якая на працягу 15-гадовага існаваньня прадоўжвае чэрпаць сваё натхненьне ў гушчы нізавых мас і проектаваць яго на соцыяльныя мотывы. Пацьвярджэньне гэтага нашага палажэньня можна знайсьці ў кнігах унанімістых, перакладзеных на расійскую мову. Досыць яснае ўяўленьне аб гэтай групе можна атрымаць, прачытаўшы: Ж. Ромэна—„Белое вино набережной Ла Вильет“, „Возрожденный городок“, „Люсьен“ или Ж. Дюамеля: „Кирасир Кювельд“, „Дама в зеленом“, „Встреча“ і інш.

Самае блізкае будучае павінна на наш погляд давесьці унанімістым што іх шлях, шлях эволюцыйнага мэтоду, мэтоду самацёку—у перабудоўцы грамадзтва, ёсьць шлях памылковы, шлях лжывы. Самыя апошнія творы гэтае пляяды, паміж іншым, даюць повад думаць, што з паважанымі „старыкамі“, як іх абзываюць кляртыстыя, ня зусім усё добра. Гэтыя творы прасякнуты духам пэсымістычнага настрою. Як відаць, Ж. Ромэн і інш. стаяць у тупіку, куды іх завяла жаласьлівая даверчывасьць інтэлігента к харошым словам. Выхад для іх можа быць знойдзен, калі яны ўспомняць свой задор і пафос 1914 г. і кінуць яго зараз на барацьбу з капіталам. Луначарскі праў, калі ён, дзелячыся сваімі нядаўнымі ўражаньнямі ад замежных стрэч, сказаў, што унанімістым сваім правадыром трэба ўзяць ня Р. Рольляна, а Леніна.

Цяпер, на наш погляд, патрэбна ахарактарызаваць, што дзейнічае рэзка супроцьлегла, групу, маладых левых мастакоў, галоўным чынам, а таксама і мастакаў памазка, разца і гуку ў Францыі.

Гутарка пойдзе аб знаёмых, пэўна, ужо чытачу—„Дада“, дадаістых, цяпер популярных пад імем сюрэалістых.

У перакладзе гэта значыць надземнікі, ці што?

Дык вось. Сюрэалізм ёсьць працяг Дада. Дада ўзьнікла год 10 таму назад. Гэта група, пачала сябе праяўляць усёадмаўляючымі маніфэстамі. Гэта ня значыць, што дадаістыя ўсё адмаўлялі. Яны прызнавалі існаваньне мастацтва, навукі, політыкі, але адмаўлялі патрэбнасьць занятку падобнымі рэчамі. У анархізьме дадаістых перапляліся і талстоўскае

адмаўленьне тэатру, і нігілізм Ніцшэ, і пантэістычнасьць Шопэнгаўэра, і шмат іншага. Група пачала з біцьця шкла на фасадах усіх паважаных мастацкіх гурткоў Францыі. Зразумела, гэта ў пераносным сэнсе гэтага слова. Падобна расійскаму футурызму, калі абляцелі краскі скандальнага посьпеху дадаістых, калі ахаладзеў да іх інтарэс эпатырованага буржуа,— яны падвялі пад гэтакую расшрубована інтэлігенцкую ідэолёгію зыбкі базіс. Перайменаваліся ў сюрэалістых, узялі орыентацыю на спасеньне эўропэйскай культуры. Тут трэба дадаць, што гэтым самым ім стала патрэбным аб'явіць савецкі лад пагражаючым гэтай культуры, хоць-бы толькі дзеля таго, што ён трымае раўненьне на Ўсход (гэта, зразумела, няверна. Комунізм у сваім пасуваньні па земнай кулі будзе і павінен абапірацца на пролетарыят Захаду).

Самы таленавіты сюрэалісты—Арагон праклінае культуру Францыі, кажа, што красаваньне яе—у будучым, а дзеля гэтага зараз трэба яе зьмясьці з твару зямлі. Арагон і яго пасьлядоўцы галадаюць, друкуюцца на свае сродкі, начуюць за грамадзкія дэбошы ў вучастках, але позыцый не здаюць. Ёсьць левае крыло сюрэалістых, якое патроху адмяжоўваецца ад цэнтру і правага крыла. Гэтае левае крыло запэўняе, што „селі за Леніна і Маркса", што з анархізмам у іх цяпер нічога агульнага няма і што эманацыя іх „творчай" (?) ідэолёгіі йшла па шляху: дадаізм—сюрэалізм—комунізм. Ці так гэта, пакажа будучына, а пакуль што мы ў гэтай групе бачым неаформленае бунтарства рэволюцыйна настроенай моладзі, якая лье ваду на млын групы „Clarte" хоць-бы ўжо тым, што прымушае неспакойна спаць мяшчанства, дзякуючы бясспрэчнай таленавітасьці сваіх прадстаўнікоў—элекрыфіцыруе мышленьне сучасьнікаў і накіроўвае яго ад адцягненых шляхоў к інтуітыўнаму ўразуменьню праўды жыцьця.

Аб рэшце груп—у наступным нумары.

*(Працяг будзе).*

# КНІГАПІС

**М. Чубатий. Державно - правне становище українських земель литовскої держави під кінець XIV** в. *Записки Наукового Товариства ім. Шевченка у Львові. т. CXXXIV—CXXXV. с. с. 19—65.*

Эпоха літоўска-беларуска-украінскае дзяржавы XIV—XVI ст. ст. у навуцы гісторыі дзяржаўнага права досыць высьветлена. Аднак, амаль ня ўсе вучоныя, якія пісалі пра лад „Вялікага Княства Літоўскага"—так звалася гэта дзяржава—падыходзілі (пачынаючы з проф. Леантовіча) з ацэнкаю яе, як органічнае часткі гісторыі агульна-рускага права. Вось гэтак характарызаваў гэтую эпоху і значэньне яе адзін з найталентавітых прадстаўнікоў навукі гісторыі „заходня-рускага" права акад. І. Маліноўскі. „Гісторыя літоўска-рускага права,—пісаўён,—складае органічную частку гісторыі расійскага права наогул. Да агульнага курсу гісторыі расійскага права пасьля старажытнага расійскага права маюць увайсьці — з аднаго боку, усходня-рускае альбо маскоўскае права, з другога боку—заходня-рускае ці літоўска - рускае права. Гэтае палажэньне цяпер можна лічыць за бясспрэчную ісьціну" [1]). Мы, наадварот, думалі-б, што гэтае палажэньне зусім не-бясспрэчная ісьціна. Дзяржаўна-праўныя інстытуты ўсходня-славянскіх нацыянальнасьцяй яшчэ ў папярэднюю эпоху мелі некаторыя адзнакі. І ў літоўска-беларуска - украінскай дзяржаве XIV-XV в. в. формы ўстрою асобных зямель былі розныя. Менавіта розны лад быў у землях розных нацыянальнасьцяй, якія былі на неаднолькавых ступенях гістарычнага разьвіцьця, мелі неаднолькавыя і экономічныя варункі. Спробы дасьледзіць адзнакі ў розных землях Вялікага Княства Літоўскага не рабіла навука гісторыі заходня-рускага права. Аднак, гэтыя асобныя землі (беларускія і украінскія), як відаць, XIV-XV в. в. мелі дзяржаўны характар. Яны мелі сваіх князёў, іх рады баярскія, мясцовыя краявыя соймы. З праўнага боку беларускія і украінскія землі былі, відавочна, у васальнай залежнасьці ад вялікіх князёў літоўскіх.

Пры такім палажэньні навукі гісторыі беларускага права, каторай бяссуменна належыць слаўная будучына, але каторая дагэтуль разьвівалася толькі як заходня-рускае права,—вялікага значэньня набываюць дасьледваньні, прысьвечаныя праўным нормам беларускіх зямель (і толькі іх). На жаль, такіх дасьледваньняў яшчэ няма. З другога боку, навука гісторыі украінскага права ў асобе аўтара рэцэнзуемай працы—львоўскага вучонага *М. Чубатага*—стала на бяссуменна правільны шлях асобнага дасьледваньня праўнага ладу украінскіх зямель В. Кн. Літоўскага. Няможна ня прызнаць правільнасьці такога мэтоду.

На жаль, цікавая праца М. Чубатага не закончаная. Ён яшчэ кажа толькі пра цэнтральныя органы ўлады—супольныя і для Літвы, і для Беларусі, і для Украіны. Найболей кажа аўтар пра юрыдычны стан вялікіх

[1]) І. Маліноўскі—„Речь перед диспутом" „Изв. Томск. Ун-та", кн. XXIV. с.

князёў літоўскіх. Ён паказвае, што ўлада ў вялікага князя была няроўная: большая ў Літве, меншая ў астатняй тэрыторыі дзяржавы. М. Чубаты дакладна разьбірае пытаньне пра парадак насьледваньня вялікакняскага трону і прыходзіць да правільнага выніку, што вялікага князя прызначаў яго папярэднік: гэтае прызначэньне падала не на найстаршага, але на найздатнейшага з сыноў альбо родных вялікага князя. Гэты вялікі князь па М. Чубатым меў такую компэтэнцыю: вырашаў спрэчкі паміж мясцовымі князямі, прызначаў князёў на парожнія ўдзелы, абараняў дзяржаву, на вайсковыя патрэбы зьбіраў падатак—сярэбшчыну, рэпрэзэнтаваў вялікае княства заграніцай (але наймацнейшыя з князёў-васалаў таксама маглі весьці знадворныя зносіны)...

Такі зьмест работы М. Чубатага. Трэба з інтарэсам чакаць яе канчатку, дзе, магчыма, аўтар, падкрэсьліваючы асобныя праўныя формы ладу украінскіх зямель, гэтым самым дасьць магчымасьць прасачыць і адзнакі праўных норм зямель беларускіх.

Нельга, аднак, пагадзіцца з некаторымі поглядамі аўтара. Так ён піша, што „... Вялікае Княства (Літоўскае) хоць ні этнографічна ня было чыста украінскай дзяржавай, ні нават не ахапіла цэлай украінскай тэрыторыі—з пагляду праўнае культуры было яно бясспрэчным насьледнікам украінскага праўнага жыцьця з эпохі Рускае Праўды ў далёка большай меры, чымся дзяржава маскоўская“ (с. 21). „І ня толькі веру і кніжную культуру насьледвала літоўска-руская дзяржава ад Кіеўскае ды заходня-украінскае, але таксама і дзяржаўны парадак з асноўнымі прынцыпамі стара-украінскага права, каторыя нашлі сабе добры грунт дзеля далейшага разьвіцьця“ (с. 23). Але адкуль ведае аўтар, што якраз украінскае права і украінскі дзяржаўны лад насьледвала Вялікае Княства Літоўскае? Аўтар зусім забывае пра культуру (і права) беларускую, бо, скажам, беларуская мова была дзяржаўнаю моваю Вялікага Княства. Справа ў тым, што і беларускія землі мелі сваю дзяржаўную організацыю да злучэньня з Літвою, на якую яны заўсёды моцна ўплывалі. Гэтага ня трэба было забываць.

З другога боку, аўтар—не марксысты. Гэта яскрава выяўляецца ў яго дасьледваньні. Праўны лад пэўнае краіны за пэўную эпоху ня ёсьць нешта самастойнае, ні ад чаго незалежнае. Яго ўтварылі такія ці іншыя экономічныя прычыны, яго скарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах пануючыя клясы. Вышэйшая ўлада дзяржаўная ня можа ня быць агентам клясавых інтарэсаў. Побач з монархам фэўдальных дзяржаў заўсёды стаяць і аўторытэтныя і ўплывовыя органы пануючага стану баронаў-фэўдалаў—сэнаты, рады і г. д. Так было і ў Вял. Кн. Літоўскім, дзе самае ўплывовае становішча займала Рада В. Княства, якая складалася з членаў клясы фэўдальных магнатаў і князёў; яна рабіла моцны ўплыў і на вял. князя.

Усяго гэтага няма ў працы М. Чубатага, і гэта бяссумненна зьмяншае яе значэньне і цікавасьць.

**Л. Акіншэвіч**.

**Міхась Зарэцкі. Голы зьвер**. *(Аповесьць. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1926 г.*

„— Ха-ха-ха!.. Ха-ха-ха!

Сьмешна Яроцкаму. Ну ня стрымаць проста. Сьмех шалёнай вужакай абвівае нутро і цісьнецца-цісьнецца вон, каб рассыпацца ў рогат гульлівы.

Ну, ня стрымаць. Аж дрыжыць усё цела, калоціцца.

— Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

І радасна, добра“.

Гэтак энэргічна, як, казаў-бы я, энэргічна і унісон з нашай эпохай пачынаецца новая аповесьць Міхася Зарэцкага.

Зарэцкага ня можна ня чытаць, яго творамі ня можна не захапляцца. Калі трапляецца ў рукі новы зборнічак твораў бадзёрага пісьменьніка, яго прачытваеш ад дошкі да дошкі.

Бо гэтыя творы ёсьць самае жыцьцё,—і жыцьцё дадзенае ў рытме нашай эпохі—эпохі вялікага змаганьня, крыніц формаў і зьместу жыцьця.

У такія эпохі адчыняецца шырокі прастор для выяўленьня голай, зьвярынай натуры, адчыняецца шырокі прастор для выяўленьня супярэчнасьцяй жыцьця.

Зарэцкі непараўнаны майстар у пастаноўцы супярэчнасьцяй.

Аповесьць будуецца на супярэчнасьці пар двох тыпаў, якія разьмяркоўваюцца ў хіязьме:

Яроцкі—Лідачка.

Ніна—Шчупак.

Яроцкі—голы зьвер, растратчык, бэстыя ў выглядзе адказнага працаўніка, Лідачка—самка, мяшчанка, Шчупак—тыповы „чынуша", Ніна—студэнтка-дзяўчына новага пакаленьня.

Паміж гэтымі процілеглымі тыпамі застанаўліваецца процінатуральная сувязь.

Лідачка—у абніме Яроцкага-зьвера.

Ніна—нявеста Шчупака.

Гэтая супярэчнасьць надае асаблівай цікавасьці аповесьці.

Тут няма шаблёну, няма „казёншчыны".

Аповесьць Зарэцкага лішні раз падкрэсьлівае, што нашая літаратура ўвашла на шлях стварэньня сапраўдна-мастацкай прозы, і што ў Зарэцкім мы маем літаратурную велічыню першаступянёвага значэньня.

Стыль аўтара магутны й выразны на ўсім працягу аповесьці. Ён зусім адпавядае зьместу.

Можна было-б пажадаць аднаго, каб аўтар не абмяжоўваўся кароткімі апавяданьнямі й аповесьцямі, а даўбы твор больш значнага выгляду.

Аповесьць даводзіць, што ён на гэтае здольны.

**Мікола Крывіч.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* *Янка Купала* здаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву для друку трэці том сваіх твораў. У гэты том уашлі драматычныя творы поэты.

* *Зьмітрок Бядуля* вярнуўся з Каўказу, дзе ён прабыў тры месяцы часу на спачынку. У час спачынку пісьменьнік займаўся пісаньнем твораў.

* *Міхась Чарот* падпісаў умову з Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі на другое выданьне свае кніжкі збору апавяданьняў „Веснаход". Першым выданьнем „Веснаход" разышоўся цалкам і зараз на кніжку ўсё яшчэ маюцца запатрабаваньні.

### Тэатр і музыка

* Маскоўская беларуская драматычная студыя перабралася ў Віцебск і прыступіла да падгатоўкі к адчыненьню сэзону.

* Дырэктарам Беларускага Дзяржаўнага Тэатру назначаны Язэп Дыла.

* У рэпэртуар Беларускага Дзяржаўнага Тэатру на 1925-26 год між іншымі п'есамі ўведзена п'еса Янкі Купалы „Тутэйшыя". П'есу будзе ставіць рэжысэр Папоў.

* П'еса Рамановіча „Вір", ужо падрыхтаваная да пастаноўкі, перанесена на наступны сэзон.

### У Інбелкульце

* Прэзыдыум Інбелкульту вызначыў навуковыя камандыроўкі заграніцу: Некрашэвічу—у Польшчу і Чэха-Славакію і доцэнту Белар. Сельска-Гаспад. Акадэміі Кісьлякову—у Нямеччыну.

* Вайсковая камісія прыняла 385 тэрмінаў, якія датычацца вайсковай справы, апрацаваных т. т. Бараноўскім і Байковым, а таксама зьмест „Вайсковае прысягі" на беларускай мове.

* Інбелкультам камандыраваны ў РСФСР і ў УССР д-р Трамповіч з мэтаю азнаёміцца са станам вытворчых прыродных сіл.

* Навуковая Рада Інбелкульту выбрала навуковым сакратаром Інбелкульту А. Цьвікевіча.

### Выдавецтва

* Складзены плян выданьняў мастацкае літаратуры на 1926-27 вытворчы год Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Плян займае 170 аркушоў, з якіх 120 адведзена прозе і 50 вершам. Знарок выдзеленая камісія падзяліла гэты лік аркушоў пароўну між старэйшымі пісьменьнікамі і маладнякоўцамі.

* У вапошні час вышлі з друку ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве, паміж іншымі, гэткія кніжкі пісьменьнікаў: „Ціхія песьні"—апавяданьні Максіма Зарэцкага, „Голы зьвер"—аповесьць М. Зарэцкага, „Біблія"—вершы Крапівы і інш.

* Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам вядуцца перамаўленьні з некаторымі нямецкімі выдавецтвамі аб выданьні на нямецкай мове зборнікаў беларускага прыгожага пісьменства.

* У БДВ здадзены ў друк зборнік апавяданьняў Кузьмы Чорнага.

* У выдавецтве „Маладняка" вышлі з друку „Антыгона" ў перакладзе Дрэйзіна і зборнічак І. Барашкі.

## За рубяжом

* Пасьля доўгае хваробы шостага траўня гэтага году памёр у Вільні беларускі поэта К. Стэповіч (Казімер Сваяк).

* У Празе Чэскай пачала выдавацца часопісь на беларускай мове „Замежная Беларусь“. Рэдагуе газэту быўшы старшыня быўшай рады Беларускае Народнае Рэспублікі Крычэўскі.

* У нядзелю, 9 траўня, у памяшканьні клюбу „Улей“ у Рызе адбылася беларуская вечарына, наладжаная беларускім культурна-асьветным таварыствам „Руль“.

* У Вільні вышаў з друку пераклад на беларускую мову поэмы Лермантава „Дэмон“. Пераклад зрабіў Макар Краўцоў.

* У Заходняй Беларусі працуе вандроўны беларускі тэатр пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча. Тэатр нядаўна закончыў аб‘езд Баранавіцкага і Нясьвіскага паветаў. Ставілася п‘еса Ф. Аляхновіча „Пан Міністар“.

* У Празе (Чэха-Славакія) заложылася „беларускае культурнае таварыства Доктара Францішка Скарыны ў Празе“.

* Т-ва „Беларуская хата“ ў Латвіі пастанавіла адсьвяткаваць пяцігадовы юбілей беларускае школы ў Латвіі, які прыпадае на восень 26 бягучага году. Таксама яно пастанавіла адсьвяткаваць 400-гадовы юбілей беларускага друку і 25-гадовы юбілей поэтыцкае працы Янкі Купалы.

* Да пяцігадовага юбілею беларускае школы ў Латвіі беларускае культурнае таварыства „Беларуская Хата“ мае выдаць кніжку, прысьвечаную гэтаму юбілею. З гэтаю мэтаю рэдакцыя рыскае беларускае газэты „Голас Беларуса“ зьвярнулася да беларускіх настаўнікаў, артыстых, пісьменьнікаў, мастакоў і фотографаў у Латвіі, каб яны прысылалі ў рэдакцыю матэрыял да зборніку.

* У сакавіку месяцы гэтага году ў Чыкаго (Амэрыка) у концэртнай салі Вестсайд-Аўдыторыі адбылася вялікая беларуская вечарына-канцэрт, наладжаная беларускім нацыянальным хаўрсам у Амэрыцы на карысьць беларускіх школ у Заходняй Беларусі. Вечарына прашла вельмі добра, сабраўшы тысячную грамаду беларусаў з розных губэрань, і дала значны матэрыяльны посьпех.

* „Таварыствам Беларусаў Выбаршчыкаў“ у Латвіі выдадзена кніжка „Беларускі процэс у Латвіі“.

* У Дзьвінскай Беларускай гімназіі стараньнямі настаўнікаў і вучняў выдадзены зборнік № 1 „Школьная праца“. Зборнік надрукаваны на сьцяклёграфе ў ліку 150 экз., разьмерам 24 старонкі.

## З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Профэсар Кіеўскага Мастацкага Інстытуту скульптор Кратко скончыў працу над постацьцю каваля, якая ёсьць часткаю композыцыі на тэму „Рабочы будуе сваю дзяржаву". Да композыцыі яшчэ будзе дароблена постаць селяніна і постаць Ул. Іл. Леніна.

* Наркамасьветы Укр. Сав. Соц. Рэспублікі зацьвердзіў статут аб упраўленьні опэрнымі тэатрамі. Праўленьне складаецца з пяці асоб, прадстаўнікоў літаратурна-грамадзкіх і музычна-грамадзкіх організацый. Дырэктарам, распарадчыкам і наступнікам старшыні праўленьня назначаны Лапіцкі, былы дырэктар опэрнага тэатру ў Ленінградзе „Музыкальная Драма". Ён-жа будзе дырэктарам Харкаўскае опэры. Над рэпэртуарам для украінскіх опэр—спэцыяльная камісія з літаратараў, профэсароў і композытараў. Камісія распрацоўвае тэмы опэрных лібрэтто і матэрыялаў гістарычных літаратурных твораў украінскіх клясыкаў ды сучасных пісьменьнікаў, з народных казаньняў і песень. Распачалі працу над опэрамі: „Мазэпа", „Кармелюк", „Лісава песьня", „Маруся Богуслаўка", „Багдан Хмельніцкі" і інш. Перакладаюць опэры лепшыя літаратурныя сілы. Радактарам перакладу назначаны Мікола Вараны, які пераклаў опэры „Кармэн" і „Садко". Да гэтага часу пераложана на украінскую мову 19 опэр. На наступны год для кіеўскае опэры вызначаны гэткі рэпэртуар: „Тарас Бульба", „Запарожац за Дунаем", „Пророк"—Мэйербэрга, „Мэйстэрзінгеры"—Вагнэра, „Аіда", „Кавалер роз", „Кароль забаўляецца", „Орлячы бунт". Апроч гэтага, будзе зроблена некалькі балетных пастановак, як „Сьмерць", „Красавіца, што сьпіць" і інш.

* Артысты М. Садоўскі, прыехаўшы ў Харкаў, мае ў наступным сэзоне організаваць украінскі народны тэатр.

* 18 траўня ў тэатры Дзяржаўнае Драмы ў Кіеве ўкраінская капэля „Думка" разам з украінскімі выпаўняла і беларускія народныя песьні.

* З 3 па 7 кветня ў Харкаве адбыўся Зьезд Усеукраінскае Суполкі сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг". На зьезд прыбыло да 100 чал. Першую прамову выказаў старшыня „Плуга" С. Піліпенка на тэму „Плуг на літаратурным фронце", у якой высьветліў ролю „Плуга", як літаратурнай організацыі. Цікавейшымі прамовамі былі прамова В. Корака „Творчыя шляхі рэволюцыйнай літаратуры" і Д. Загулы „Сучасная крытыка і яе заданьні". У дыскусіях выступіла да 40 чал. Паміж іншым, зьезд вырашыў пытаньне аб організацыі выдаўніцтва „Плуг". У час зьезду адбылася чарговая літаратурная вечарына і вышаў чарговы нумар (другі) альманаху „Плуг".

*Рэдакцыйная колегія.* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 4